# Бяроза на мяжы

## Аповесць



# 1

Насунуўшы на вочы хустку, завязаную паўзверх белай рэзанкі, беражок якой ледзь-ледзь віднеўся-выступаў на лбе, Надзя ўзяла ў рукі стары, з аблупленымі бакамі чамадан, выйшла з вагона, развіталася з правадніцай і пакіравала ўслед за ўсімі да тунеля, адчыніла шкляныя, з тугімі спружынамі, дзверы, пачала саступаць па сходках уніз, у доўгі праход. Хоць на дварэ стаяла зіма, тут, у сярэдзіне тунеля, было сыра, пахла зямлёю. Па абодва бакі прахода, паўз сцены, стаялі-сядзелі людзі.

Сабралася ісці да выхада, ды спахапілася, успомніла, што не ведае, як і на чым можна дабрацца да Валодзі: першы ж раз у Мінску. Якраз у тунель спускаўся высокі, у доўгім аўчынным кажусе міліцыянер, і Надзя перастрэла яго, папыталася, дзе знаходзіцца вуліца, на якой жыве яе сын. Міліцыянер уважліва паглядзеў на яе, задумаўся, а потым растлумачыў ёй, як і на чым можна даехаць. Сказаў — і тут жа заспяшаўся, знік у людскім натоўпе, які віраваў у тунелі.

Узяла чамадан і пачала падымацца па прыступках. Насустрач ішлі па аднаму і купкамі людзі, спяшаліся, ледзь не збівалі яе з ног і ўсё адцяснялі да сцяны.

З цяжкасцю выбралася і адразу ж перайшла, як і тлумачыў ёй міліцыянер, на другі бок вуліцы. Але патрэбнага тралейбуса доўга не магла знайсці: хоць і развіднівала, але яшчэ было прыцемна, да таго ж разгулялася мяцеліца, сыпануў снег. Ад снегападу, ветру, здавалася, усё навокал зрушыла з месца і пусцілася ў віхурны танец...

Пастаяла трохі на адным месцы, пачакала, калі сунімецца мяцеліца, паўглядалася, убачыла, што да прыпынку паціху пад'язджае з асветленымі вокнамі тралейбус. Борздзенька падбегла да яго, увайшла, прыстроілася на заднім сядзенні, спытала ў жанчыны, што сядзела з ёй побач, дзе ёй лепш выйсці. Жанчына, немаладая, просценька апранутая, растлумачыла, як называецца патрэбны ёй прыпынак, а прыпынкі, нагадала суседка, аб'яўляе вадзіцель, так што трэба ўважліва слухаць і хваляваца няма чаго: усё будзе добра.

Яна так і зрабіла: прыслухоўвалася да глухога гола-

су ў дынаміку, а каб лепш чуваць было, ссунула з аднаго вуха хустку. Слухала і не адрывала позірку ад акна, пазірала, як на вуліцах віруе ўжо нямала людзей, хто хуткім крокам, а хто і подбегам кіруецца да прыпынкаў, стараецца ўлезці ў транспарт.

Сынаў дом знайшла хутка, дарма, што ён знаходзіўся і подалека ад прыпынку. Паднялася на трэці паверх, хацела пастукаць, як заведзена ў іх у сяле, у дзверы, але зразумела — трэба націснуць на чорны кружочак. Званок зазвінеў як не над самым вухам, моцна і гучна.

Па другі бок дзвярэй пачуліся крокі, мужчынскі голас папытаўся:

— Хто тут?

Адразу пазнала: Валодзя. І нясмела адказала:

— Я, сынок.

Валодзя адчыніў, яна, не рашаючыся якую хвіліну пераступіць цераз парог, разглядвала сына. Убачыла, што Валодзя адпусціў бараду, хацела штосьці сказаць яму, ды пакуль змаўчала.

— Ну і даеш ты, маці, як снег на галаву! — здзівіўся Валодзя і пачаў яе прыспешваць: — Праходзь, праходзь хутчэй, а то стаім во, а дзверы адчыненыя.

Нясмела, бокам, міма Валодзі, пераступіла парог, паставіла на падлогу чамадан, абнялася-пацалавалася з сынам, папытала:

— А дзе ж усе твае? Спяць, мабыць, яшчэ?

— Не, папрачыналіся ўжо. Мне з Ірай на работу зранку, дачцэ ў сад — разлежвацца няма калі, гэта не ў сяле, там зімою спі хоць да паўдня, не спознішся...

Яна ўважліва слухала тое, што казаў ёй Валодзя, узіралася ў яго твар, вочы, здаецца, не верыла, што яе старэйшы сын — вось ён, перад ёю. Яна так маўкліва пазірала на сына, убачыла, як ён змяніўся, пасталеў, і голас у яго быццам крышачку пагрубеў, але яна, здаецца, бачыла яго такім, якім ён быў, калі жыў дома, там, у Каласках... Яе і не яе, здавалася, быў перад ёю сын. Не толькі знешнія перамены ўбачыла яна ў ім — у яго голасе, вясёлых, вугальнага бляску вачах адчуваліся строгасць, кемлівасць і... халаднаватасць. Сэрцам сваім Надзя ўбачыла: за той час, калі яны не бачыліся, сын як бы аддаліўся ад яе...

— Прабач, маці, але ў мяне зараз часу ні-ні,— сказаў Валодзя.

Сын пайшоў у большы пакой, уключыў настольную лямпу, і адтуль, з другога пакоя ў прыхожую, дзе была Надзя, далятаў яго голас:

— Мне з Ірай блізка на работу, то мы да сямі спім. І ў яслі Іне, цераз дарогу ад дома. Яна ў мяне ўжо вялікая вырасла, паўтара года на днях адсвяткавалі.

Ціха і асцярожна ступіла ў пакой, дзе быў сын. Увайшла, зноў глянула на яго, не стрымалася:

— Авой, божачкі вы мае, то ўжо і ты з барадой? І што ето за такая мода ў вас, маладых? Вазьмі і сёння ж пастрыжыса — паспееш яшчэ састарыцца.

Валодзя сядзеў на раскладзенай пасцелі-тахце, закурыў, расплыўся ў самазадаволенай усмешцы.

— Раней вусы насіў, дык і то я гідавала глядзець на іх, зрэзала б, здаецца, нажніцамі, а цяпер хоць вочы закрывай: дзед, стары дзед, дай усё тут, раней часу, сыне, пастарэць захацеў,— сарамаціла яна Валодзю.

Разгаварыцца не паспелі. З меншага пакоя-спальні паказалася Іра — нявестка, якая трымала за руку Іну — яе, значыць, Надзіну, унучку. Іра не паспела яшчэ прычасацца, мела сонны выгляд. Нявестка хацела падысці да яе, але зрабіла толькі адзін крок, спынілася, сказала «добрага ранку» і разгублена, бы птушка, міргала вачыма, не ведала, мабыць, што ёй у гэтую хвіліну рабіць. І толькі Інка весела шчабятала, бы тая ранішняя ластаўка. Яна аніколечкі не здзівілася, што ў іх у хаце незнаёмая бабулька, паводзіла сябе смела і незалежна. Яна вырвалася ад мамы, падышла да Надзі, пачала ёй расказваць-хваліцца, як учора бацька купіў і прынёс ёй вя-я-ялі-і-ікую, вялі-і-ікую ляльку і яна назвала яе Вікай. Гаварыць Інка яшчэ добра не ўмела, але Надзя зразумела ўсё, аб чым ёй хацела расказаць унучка. Яна ўзяла дзяўчынку на рукі, гарнула яе да сябе, гладзіла па галоўцы, прыгаворвала: «Ах ты, мая кветачка, бач, якая вялікая ўжо, і лапатаць навучылася... Ах, унучка мая дарагая, ненаглядная...»

Надзя кінулася ў калідорчык-прыхожую, раскрыла чамадан, пачала даставаць хатнія гасцінцы.

— Вось маселка свайго прывязла, сальца, кабанчыка ж закалолі на том тыдні, грыбочкі тут, сама восенню саліла-варыла, яблычкі...

— Нічога нам, маці, не трэба, у нас усяго хапае: добра, што сама прыехала,— водзячы электрычнай

брытвай па твары, казаў, стоячы ля люстра ў большым пакоі, Валодзя.

Надзя не пачула, аб чым гаворыць сын, утаропілася ў яго доўгім позіркам, зразумела, што сын ні то сварыцца на яе, ні то ўшчувае, але яна яго словам асаблівага значэння не надала.

Сын хутка пагаліўся і пачаў апранацца. Надзя глядзела на яго і думала, што яму да твару новы шэра-зялёны касцюм, сіняя сарочка, гальштук. І барада яму ідзе, лепш прыглeдзеўшыся, рашыла Надзя. Толькі яна не падавала выгляду, што ёй усё на ім падабаецца. Яна пазірала на яго і думала: «Як ён падобны на Ладымера — такі ж высокі, русявы, але характар...»

— Ты, Валодзька, як на гулі сабраўса,— сказала Надзя.

— У мяне лабараторыя, у якой трыццаць чалавек. Што скажуць мае падначаленыя, калі я буду прыходзіць на работу бы задрыпанец які?

Зараз, зразумела Надзя, Валодзю не да яе: на работу ж трэба бегчы, за сем ужо мінула, а ён а палове дзевятай гадзіны павінен з'явіцца ў сваёй, як сам сказаў, лабараторыі.

Валодзя замітусіўся, забегаў, пачаў прыспешваць жонку, каб тая не бавілася, бо пара. Ён як бы і забыў пра яе, пра маці, якая ўсё не зводзіла з яго вачэй, і яе сэрца раптам сціснулася, закалола, і балела да таго часу, пакуль сын не стукнуў дзвярыма і не пачаў спускацца па лесвіцы.

Сэрца хутка адпусціла, і, каб не сядзець без работы, яна пачала насіць на кухню слоікі з грыбамі, дамашнім маслам, тварагом, топленым тлушчам. Толькі ніхто і не дакрануўся да яе слоікаў. Іра збіралася сама і збірала дачку, наспех закіпяціла чайнік, зрабіла бутэрброды з сыру, на хаду выпіла каву, апранулася і сказала ёй, Надзі:

— Вы даруйце, што пакідаем вас адну, няма калі і пагаварыць — у нас заўсёды так: усюды бежкі...

Кватэра апусцела, і Надзя засталася адна. Зачыніла дзверы, замкнулася, як наказала Іра, стала аглядваць двухпакаёвую сынаву кватэру. Хадзіла з аднаго кутка ў другі, з пакоя ў пакой, вярталася ў калідорчык-прыхожую з шафай для адзення, ступала на кухню, вялікую і прасторную. Успомніла, як Валодзя сёння перш-наперш

і пахваліўся ёй пра сваю радасць, пра тое, як атрымаў кватэру. «Разумееш, маці, выклікаюць мяне ў заўком і кажуць, што чарга на хату падышла. Не паверыў адразу, а калі выпісалі ордэр, тут жа пабег глядзець. Убачыў — побач жа лесапарк, возера, цішыня — курорт, а не мікрараён».

І праўда. Надзя сама бачыць: выйдзі на балкон — і недалёка ад дома хваёвы лес. Цяпер, зімой, вунь толькі развіднела, а хто-ніхто ўжо на лыжах гойсае, а ўлетку і за горад не трэба ехаць — лес і вада побач, рассцілай на траве дзяругу, адпачывай, дыхай, колькі ўлезе. Гараджане, думае, гледзячы на лес і замёрзлае возера, Надзя, любяць падстаўляць свае бокі сонцу. Гэта ў іх у сяле не прывыклі да таго занятку, смяюцца з тых, што рынуліся з вёскі, жывуць у горадзе, а на лета імчаць да бацькоў ды смаляцца на сонцы дзе ля вады. У сяле ўлетку ўсе на рабоце запарваюцца, ім не да таго, каб бавіць час дарма, валяючыся на беразе возера ці рэчкі.

Тупаючы па сынавай кватэры, Надзя думае, што вось яшчэ нядаўна сын атрымаў кватэру, але абставіць паспеў. Добра, раскошна абставілі, заўважае Надзя. Вунь якая люстра вісіць пад столлю, шафа з трыма дзверцамі, кніжная паліца на ўсю сцяну іграе-паблісквае новенькім лакам. У ніжняй частцы паліцы — розны дарагі, як здаецца ёй, посуд: сподкі, шкляначкі, вазы... І тэлевізар, мабыць, дабрэнны прыдбалі, бо цяпер шмат хто і ў сяле калі купляе, то лепшай маркі. Дома ў яе, праўда, старэнькі, «Нёман», які псуецца, і ёй даводзіцца зваць майстра. Заплаціла тэлемайстру яна, мабыць, столькі, што і на новы хапіла б, але прывыкла да «Нёмана», хопіць ёй і «Нёмана», хай вунь дзеці раскашуюць, то яны ж маладыя, а маладыя цяпер усе так жывуць — са смакам ды разгонам.

У зале, у спальні на сценах вісяць дываны — вялікія, на ўсю сцяну. На дыванах розныя ўзоры, па беражках — стракатыя палосы, адзін жа з дываноў нагадвае ёй нейкую, бачаную невядома дзе, карціну: на ім віднеецца возера, па возеры, у чаўне, плыве чалавек, за возерам — лес, які наскрозь пранізаны-асветлены ранішнімі сонечнымі праменнямі.

Ссутуленая, спахмурнелая, яна села ў большым пакоі ў крэсла, доўга сядзела нерухома, пазірала ў акно, за якім былі аснежанае возера і лесапарк. Хвоі, заўважыла

зараз Надзя, стаяць адна ад адной подалека, гукаюць, як сказалі б у іх сяле, адна адну. Возера ж белае, вялікае, мабыць, але аб гэтым цяпер сказаць цяжка, бо берагі прысыпаны снегам. На возеры, відаць з акна, багата дзяцей, якія коўзаюцца на каньках.

Рэзка зазвінеў званок, і ёй паказалася, што звоняць у сынаву кватэру. Падхапілася, кінулася да дзвярэй, расчыніла, ды ля дзвярэй не ўбачыла ні душы, мабыць, прыходзілі да суседзяў, яна дарма толькі замітусілася.

За сцяною, у суседзяў, чуліся галасы, смех. Услед за галасамі за той жа сцяною забрахаў сабака. Брахаў і гыркаў ён доўга, як у садзе ці на двары, бы да яго хацелі наблізіцца незнаёмыя людзі, а ён іх стараўся не падпускаць да сябе. «Ось табе і гарадскія, культурныя людзі,— падумала,— у нас у вёсцы, калі пройдзе дождж, то гразі, праўда, хапае, тады ў хату нанясуць чортведама колькі бруду, але каб сабаку хто трымаў у хаце — не, да такога яшчэ ніхто не дажыўса ў Каласках».

Стомленая дарогай, бяссоннай ноччу, перажываннямі, яна зноў паднялася з крэсла, стала хадзіць па кватэры з кутка ў куток, не ведала, куды сябе дзець, што рабіць. Спынялася ля кніжнай паліцы, цесна застаўленай, бы спрасаванай, кніжкамі, пазірала на рознакаляровыя вокладкі, не разумела, навошта столькі багата чытва сыну, то ж каб адно толькі перагартаць усе гэтыя тамы, то, мусіць, і года мала, а каб прачытаць...

З нейкім новым і не зусім яшчэ ясным для сябе хваляваннем абводзіла позіркам усё, што бачыла ў сынавай кватэры, а ў свядомасці ўвесь час нараджаліся думкі, якія то радавалі, то трывожылі яе. Ёй быццам станавілася ясна, што нічога яна цяпер не вырашыць. А мо і вырашыць? Многае залежыць ад таго, як будзе паводзіць сябе Іра, Валодзева жонка, што яна скажа.

З большага пакоя заглядвала ў спальню, затрымлівалася ў прыхожай, прыслухоўвалася да крокаў на лесвіцы. Невысокая, худая, з завостранымі плячыма, маленькімі, што слязяцца, вачыма, яна сама сабе здавалася нейкай зданню, якая заблудзіла ў чужых пакоях.

Думкі пра Валодзю выводзілі яе з раўнавагі, прымушалі гулка і трывожна біцца сэрца. Яна прыслухоўвалася да яго няроўных удараў, думала: «А ці заўсёды мож-

на верыць свайму сэрцу? Ці заўсёды яно — строгі і правільны суддзя?»

Выцвілыя яе вочы павільгатнелі, бы пакрыліся расой. Чаму, думаючы ўвесь час пра сына, пра Валодзю, яна быццам нешта недагаворвае? Чаму, калі раніцай пераступіла парог яго кватэры, не сказала яму ў твар: «Хіба ты не вінаваты, што ў Ленкі выйшла такая доля? Сапраўды, хто вінаваты, што дзяўчына плача, што жыве і не ведае, на якім свеце жыве?»

Яна спахмурнела, падумала са страхам: «Божа мой! Няўжо ён праўда нічога не ведае? Не можа быць. Чаго ж столькі дадому не прыязджаў? Баяўся, мабыць, паказвацца людзям на вочы, ведаў...»

Але думаць і разважаць далей яна не стала, пастаралася трохі супакоіцца, каб не даць разбалецца сэрцу. Яна сябе добра ведае: затрывожыцца трохі — і сэрца адразу закалоціцца, не дае паварушыцца, не дае жыць...

Толькі ў рабоце яна можа забыцца, пазбавіцца ад клопату-перажыванняў. І таму яна стала шукаць сабе які занятак. Пайшла на кухню, узяла венік, папырскала на яго вадой, стала падмятаць падлогу.

Робячы зараз розную дробную работу ў сынавай кватэры, Надзя міжволі стала думаць пра тое, як жыла яна, калі гадавала дзяцей. І пачала разумець: не, не так яна жыла, як жывуць цяпер яе дзеці. Меркавала: «Радавацца б, што вось Валодзя ў людзі выбіўся, вялікім чалавекам стаў». І тут жа спахаплялася: «Вучоны, разумны, а робіць як! У каго толькі ўдаўся? У нас радня ўся дабрачая. Мо ў Ладымера? Знешне ён выліты Ладымер, а душа? Ладымер дабрэй быў, мякчэй, чалавечнасць меў...»

Увесь час Надзя разважае сама з сабой, нешта ўзважвае, прыкідвае, гадае, гоніць прэч нядобрыя думкі, але яны ўсё адно чапляюцца, бы тыя ваўчкі-дзікуны да адзежы, і яна проста не ведае, як пазбавіцца ад іх. «І на якое ліха прыперласа я сюды? — меркавала.— Што добрага выйдзе з майго прыезду? Ну, ось сабяруса з духам, раскажу ўсё Валодзю, а як ён прыме мае словы? Мо пазелянее ад злосці, закрычыць, што, маўляў, няхай не лезе не ў свае справы, а сядзіць дома на печы. Але ж яна маці і маўчаць не будзе...»

## 2

Лютаўскія дні кароткія. Тут быў дзень, не паспеў сюд-туд крутнуцца, а ўжо і вечар на носе. Як адна хвіліна праляцеў гэты дзень. І толькі-толькі на горад апусціўся вечар, шэры змрок стаў засціць святло, што слаба прабівалася праз вокны, у дзверы пазванілі, пачуліся галасы, і Надзя ўзрадавалася: з работы вярнуліся сын з нявесткай, і ўнуччын галасок чуваць. Яна бордзенька ім адчыніла, і Валодзя пацікавіўся:

— Не засумавала тут, маці, без нас?

Бы не сваімі, а чужымі вачыма і з нейкай незразумелай абыякавасцю паглядзела на сына. Раней ёй так падабалася яго густая чупрына, што звісала на лоб, а строгія вочы здаваліся асабліва светлымі, амаль празрыстымі. А цяпер, здаецца ёй, у сынавых вачах бы з'явіўся нядобры, халодны бляск, якога яна баялася і думала: «Ці ж мой гэта сын?» Тут жа гоніць ад сябе сумныя думкі, уздыхае, гаворыць:

— Ой, і не кажы, сынку, колькі таго дня сёння, а я бы што згубіла: хаджу з пакоя ў пакой і шукаю тую прапажу.

— Нічога, маці, заўтра субота, цяпер будзем усе дома.

Пакуль яна гаварыла з Валодзем, Іра гатавала вячэру. З кухні ў залу даносіліся апетытныя пахі, чуваць было, як нешта шыпела на патэльні: смажылася, парылася, варылася розная ежа, і Надзя толькі зараз адчула, што галодная, раз-пораз каўтала сліну. Валодзя прынёс з калідора стол-кнігу і паставіў-расклаў яго ў большым пакоі. Надзя паспрабавала запярэчыць:

— Рабіць, сыне, табе няма чаго, і на кухні памесціліса б, я б на табурэце прымасцілася ў куточку, а то во прыдумаў сабе работу.

— Ты, маці, першы раз у мяне, то адзначым і твой прыезд і наша наваселле, а то яшчэ вуглы парассыхаюцца ў маіх харомах.

Сказаў, глянуў спадылба на Надзю, стрымана ўсміхнуўся. Надзя нічога не стала яму болей гаварыць, рашыла: рабі як табе хочацца. Сын ставіць стол, увесь час размаўляе з ёю. Але яна не слухае яго, думае пра сваё, і сынаў голас здаецца ёй далёкім, глухім. Сеўшы ў зале на раскладной канапе, яна звесіла свае спрацаваныя

рукі, пазірае на сына і быццам чакае дзіва. Ну, няхай хоць адзін раз у яе жыцці адбудзецца цуд, няхай спраўдзіць той цуд яе сын... І тут жа ў душы смяецца з сябе... Што ёй трэба? Каб усё было добра, стала так, як ёй хочацца? Але хутчэй бы, хутчэй усё станавілася на сваё месца, і пара ёй перастаць мардавацца, а то гэтыя думкі да дабра не давядуць...

Тонкі шкляны посуд звініць-спявае ў Валодзевых руках, калі ён перш пералівае гарэлку з бутэлькі у графінчык з мудрагелістымі кветкамі-ўзорамі, а пасля разлівае з гэтага самага графінчыка ў чаркі на высокіх ножках.

Пазірала Надзя на ўсё, што было на стале, і дзівілася: добра жыве яе сын! Стол як не ўвагнуўся ад усяеўсякае закусі. Іра хутка паспела стушыць з яблыкамі качку, парэзала яе на кавалкі і паставіла на стол у глыбокай місцы. Побач жа ў талерцы ляжалі прыпраўленыя зялёнай цыбулькай ачышчаныя селядцы, у глыбокім сподку іскрылася чорная ікра... Усё тут было, чаго толькі магла б пажадаць яна. І свежыя гуркі, і лімоны кружочкамі, прыпудраныя зверху цукарам-пяском, рыба...

Пазіраючы на стол, яна не магла стрымацца, каб не выказаць здзіўлення:

— Ты, сыне, мо каго яшчэ з гасцей сёння чакаеш, столькі ўсяго нагатавалі?!

Валодзя якраз закончыў наліваць чаркі, прымасціўся за сталом, запрасіў Надзю падняць наліты з беражкамі кілішак.

Валодзя паглядзеў перш на жонку, затым на маці:

— За твой прыезд, матуля... каб усё было добра...

Сын у адно імгненне выліў гарэлку ў рот, пачаў закусваць, а Надзя доўга трымала чарку ў руках, пазірала то на сына, то на нявестку, здавалася, хацела ў іх аб чымсьці спытацца, а пра тое, што ў руках поўная чарка, як бы і забылася.

За сынавым сталом ёй раптам зрабілася нядобра: і свята быццам — першы раз у сына, на наваселле, можна сказаць, трапіла. Але ў чарку, здавалася ёй, як хто плюнуў...

Яна яшчэ мо якую хвіліну сядзела моўчкі, спахмурнелая, трымала ў руках кілішак... Ды падумала, што не варта вось так адразу псаваць усім настрой, і для выгля-

ду ўзяла трохі гарэлкі ў губы, а недапіты кілішак паставіла на стол.

— Еш, еш, маці, увесь жа дзень галодная сядзела,— прыспешваў яе Валодзя.— Бяры во бульбу з качкай, ікру бяры.

— Не зважай на мяне, сынок, сам еш, жонка твая хай не сядзіць так.

Але ўсё ж узяла ў рукі відэлец, брала то з адной, то з другой талеркі.

На яе твар набягалі цені, але толькі зрэдку — яна ў гэтыя хвіліны папраўдзе радавалася за сына, што вось паехаў ён ад яе з дому і добра зажыў. І, відаць, цэніць сваю сям'ю. І бываюць, канечне, у яго шчаслівыя хвіліны: калі ранкамі прачынаецца Інка, дачка, пачынае як тая ластаўка шчабятаць, лашчыцца да яго, расказваць пра свой начны сон.

Услед за гэтымі думкамі, не абмовіўшыся ні з нявесткай, ні з сынам хоць бы адным словам, яна як бы ўсёй душой прыхінулася да Лены. Ёй стала крыўдна і балюча, што гэтая нічым не вінаватая перад ёй жанчына цяпер такая адзінокая... У думках яна адразу пераносіцца туды, у Каласкі, дзе ўлетку як ні над усім сялом стаіць пах спелага жыта, дзе ад спеваў жаваранка над жытнёвым полем радасна і добра на сэрцы. Там, у Каласках, па-суседству з ёй, жыве Лена... Цяпер і Лена, і родная хата з усімі клопатамі і горам засталіся за спіной, усё як быццам аддалілася, адплыло, а перад вачыма стаіць толькі ён, Валодзя, які, заўважыла, вельмі разгубіўся, калі ўбачыў яе сёння ў сваіх дзвярах.

Каб не выдаць сваёй заклапочанасці, наколвае на відэлец селядзец і адчувае, што пачалі дрыжаць рукі. Гэта, мабыць, ад таго, што першы раз прыехала да старэйшага сына, ад здзіўлення-радасці за Валодзю, за яго сям'ю. Жыве ж ён, відно, з жонкай дай божа: добра апранаюцца, не абы-што ядуць... Так, як жыве яе сын, не кожны з каласкоўцаў можа пахваліцца. Ды яно і вядома: у большасці сем'яў не менш траіх дзяцей, а ў некаторых і болей. Дзе тут разгонішся, калі ў хаце стольkі едакоў. Усім і ў рот пакладзі, і абуй-адзень кожнага. Ды не абы-як. Цяпер дзеці лепш за бацькоў апранаюцца-абуваюцца. А ў Валодзі ж усяго адно пакуль дзіцяпры ім, ды і зарабляе ён добрую капейку...

Валодзя наліваў сабе ў каторы раз, запрашаў маці

з Ірай падтрымаць яго, але яны толькі чокаліся з ім і тут жа ставілі свае чаркі, не прыгубіўшы нават.

Але чым болей сын выпіваў, здавалася Надзі, то не п'янеў, а цверазеў ды станавіўся незвычайна гаваркі, вочы яго паблісквалі агеньчыкамі-іскрынкамі, лоб пакрываўся кроплямі поту, які ён змахваў насоўкай, што даставаў з кішэні халата. Ён шмат еў, і таму, мабыць, гарэлка не вельмі разбірала яго.

Увесь вечар Валодзя дапытваўся ў яе, як там, у сяле, што новага, якія перамены.

Яна прыслухоўвалася да яго голасу, старалася зразумець: шчыра гэта ён, праўда — яго хвалюе тое ўсё, аб чым хоча пачуць ад яе? Па тым, як распытваў ён, сумнення няма: усё гэта хвалюе, непакоіць яго. А мо ён думае, што, расказваючы пра адно, яна як бы знарок спомніць і пра Ленку?..

Захвалявалася, нялёгка здужала гэтае хваляванне, сказала:

— Узяў бы, мой сыне, сабраўса калі дай сам прыехоў, паглядзеў бы на ўсё сваімі вачыма, хіба пра ўсё раскажаш? То ж з'ехоў з дому, дак саўсім дарогу забуўса да мяне, да маці сваёй.

— Табе, маці, проста казаць, а паспрабуй вырвіся адсюль, калі вечна то адно, то другое: ад работы няма калі і дыхнуць, а прыйдзе той адпачынак раз у год, дык і не ведаеш, як лепш распарадзіцца ім. Дай колькі ў мяне было тых адпачынкаў?

Сын гаворыць, хвалюецца, стараецца, каб яна не заўважыла ў ім таго хвалявання, і, застаючыся знешне як быццам бы спакойным, распытвае то пра адно, то пра другое.

Разумеючы, што ад Валодзевых роспытаў ёй сёння не пазбавіцца, пачала думаць, з чаго ж пачаць. Ды не, думаць асабліва не трэба, расказваць хапае пра што. Так яно быццам і ціха ідзе жыццё ў сяле, а калі добра прыгледзецца, то можна зразумець: павольным і ціхім жыццём у іхнім сяле не назавеш.

Болей за ўсё ўсхвалявала Надзю тое, што няма больш, не стала Астровак. Калі яна так і сказала «няма», то Валодзя нават не ўседзеў на месцы, устаў, нервова захадзіў па пакоі:

— Як гэта — няма?

— Сабярэсса, сынок, калі, прыедзеш, сам убачыш:

замест Астровак цяпер голае месцейка, а ты ж, знацца, не забыў: там кляны такія таўшчэзныя стаялі, а граб з букам толькі і раслі ў Астроўках.

Яна расказвала, як іх калгас далучылі нядаўна да суседняга, бо, сказалі каласкоўцам прадстаўнікі з раёна, невялікі калгас не апраўдвае сябе, а ўзбуйніцца — і ўсё па-новаму пойдзе.

— Яно і папраўдзе па-новаму пайшло ўсё: таго старшыну, які ў нас буў, некуды перамясцілі, а нам прыслалі другога. Ён прыткі такі, вельмі хуткі ды гарачы, ніколі ў канторы не заседжваецца: то на поле, то на хверму і ўсюды бежкі ды пешкі. Толькі людзям той старшына ў вочы баіцца глянуць: не ўмее ён ці не хоча, але шмат з таго, што ён робіць, не трэба, здаецца, нікому.

Падумаўшы, Надзя кажа:

— Етым летам гаварыла я з ім. Чэргу я ў той дзень пагнала, на пожні пасвіла кароў і ўбачыла: па полі імчыць легкавік з брызентавай кабінай. Я не ведала, хто едзе, і кінуласа насустрач пераняць і накрычаць на шохвера, каб скаціну не паразганяў...

Яна ссутулілася, падперла рукамі падбародак, усё расказвае і жыва ўяўляе тое, аб чым расказвае. Ёй здаецца, што яна быццам зноў на тым полі, дзе ходзяць каровы і выбіраюць з колкай пожні кароткую палявую траву. І вось паяўляецца «газік». Пранізліва вішчыць тармазамі машына, з-пад калёс узнімаецца белае воблака пылу. Надзя крычыць:

— Хіба дарогі мала, што цябе па полі чэрці носяць?

І тут яна пазнае, што з машыны выйшаў новы старшыня калгаса: высокі, чырванатвары, з колкімі зыркімі вачыма, загарэлым, суровым тварам.

— Вы мне штосьці хочаце сказаць? — пытаецца ў яе.

Надзя праводзіць рукой па потным твары, апіраецца на тонкі бярозавы кій, якім паганяе кароў.

— Скажыце вы мне, што ж гэта зрабілі з Астроўкамі? — Надзя задыхаецца, голас у яе рвецца, бы гнілы повад.

На вочы старшыні апускаюцца негустыя бровы, ён хоча ёй нешта сказаць, але замаўкае, быццам яму закрылі рот. На яго твары і шыі выступаюць чырвоныя плямы, і ён кажа:

— Ганіце адсюль сваю чараду, трактар хутка прыйдзе, араць пачне.

— То куды ж, скажы, старшыно, дзецца мне з таваром? Раней у Астроўках травы хапала, а цяпер там пні, галлё, лаўжы.

Старшыня ёй не адказвае, гучна стукае дзверцамі машыны, запускае рухавік і зрываецца з месца. Услед за ім падымаецца воблака пылу...

Слухаў яе Валодзя моўчкі. Ён перастаў піць і есці, выключыў тэлевізар. Надзя ж, закрануўшы балючую гаворку, запальвалася ўсё больш і больш.

— То ж які лес буў у Астроўках! Дай шчэ які лес! Увесь спляжылі, на Украіну папрадалі, пад палі расчышчаюць Астроўкі.

Не сцерпеў, каб змоўчаць Валодзя, перабіў яе:

— Хм-м, Астроўкі пад палі? А колькі па лясах, палянках закідана-забыта старых селішчаў? Сотні гектараў пустуе, зарастае хмызам.

Яна ўжо і не рада была, што пачала гаворку пра лес. Валодзя вельмі расхваляваўся:

— Не магу дайсці сваім авечым розумам: хто дазваляе рабіць такое, дзе ж народны кантроль, куды глядзяць кантралёры? Чаму людзі маўчаць? Высякаць такі лес, збываць яго за рублі — гэта ж разбой сярод белага дня, безгаспадарчасць.

— Твая праўда, сынку, але што мы могом зрабіць? Пісалі, куды толькі маглі. І ў той народны кантроль пісалі, каб кантралёры прыехалі ды сваімі вачыма на ўсё паглядзелі.

— І выйшла што з вашае пісаніны?

— Прыязджалі адусюль: з раёна, з Гомля. Ды прыязджалі летам, калі і стары і малы не заседжваецца ў хаце, бяжыць то ў лес па чарніцы, то на сенажаць. Дак і праўяральшчыкі пайшлі да таго, на каго жаліліса — да старшыны. А ён хіба паказаў ім, што нарабіў з Астроўкамі? Павёў у Вілкі, там, праўда, лес пакуль цэлы, але дабяруцца хутко і да Вілак. Спомні, колькі лесу було кругом Каласкоў? А цяпер? Свіцяцца наскрозь нашы лясы, а то што ж: дзень і ноч трулююць і трулююць, прадаюць ад самае вайны лес. Паперкі ж састаўляць наўчыліса: маўляў, меліярацыю правялі. Так што і самому госпаду богу пад нашаго старшыну не падкапацца — усё ў яго складно-ладно...

Хвілін колькі маўчаць, і Валодзя гаворыць:

— Да маёй галавы не даходзіць: быццам у нас усё

робіцца, каб ахоўваць прыроду — і пастаноў колькі ёсць, і розныя кантролі дзейнічаюць, а глядзі ты!

— Чалавек ты мой, сыне, і праўда...

Надзя расказвае зноў. Непадалёк ад сяла рос дуб таўшчэзны-таўшчэзны, мо тысячу гадоў яму. Нікому той дуб не замінаў, нікога не чапаў, бо стаяў на ўзлеску. Зрэзалі, і бярэзнік, што рос каля дуба, высеклі, і дуб, і бярозкі тыя цяпер ляжаць на зямлі без патрэбы, гніюць адно. А маглі ж расці ды расці бярозкі. Але хіба хто з гэтых неразумных спытаў у людзей, калі намерыўся спляжыць лясок? Стукнула некаму ў галаву — плакаў лес, у якім і грыб рос, зямля жолудам укрывалася і ў якім можна было венік нарэзаць, скаціну папасвіць.

Паціху, памалу, і неўзабаве яна ўжо апавядала сыну пра тое, як жывуць Сяргей з Любай — Валодзевы брат і сястра.

— Сяргеева ж Валя нарадзіла сына. Каб жэ ты паглядзеў, як Сярожка радаваўса — ён жэ так хацеў сыночка, а бог усё не даваў — адна за адною дзве дзевачкі радзіліса, і вось на табе — сын. З радасці Сяргей і назваў яго імем дзеда — Ладымерам, Валодзікам, знацца.

Апошнія яе словы выклікалі ў Валодзі ўсмешку.

— У Сяргея развязаўся мех не на смех: падумаць толькі — бацька траіх дзяцей!

Засмяяўся, але смех яго быў кароткім, Валодзя, мабыць, адчуў нейкую душэўную віну за гэтыя, паспешліва сказаныя, словы. І, як бы змякчаючы тую віну, ён ціха кашлянуў у кулак:

— Перадайце бацькам майго маленькага пляменніка Ладзімера ад усёй маёй сям'і віншаванні, а сам прыеду — гасцінцаў цэлы воз прывязу.

Потым Валодзя спытаў у яе:

— А ў Любы што? Мо і да яе трэ ў адведзіны збірацца?

— Гаруе наша Любка, ох, як гаруе, яе ж Грышка не прасыхае ад гарэлкі: прыйдзе з работы, а ад яго ўжэ як ад таго бражніка — здалёку патыхае, а Любка ж не ўмее сцерпець, то ў слёзы, то за латуны дай бежкі да мяне з дзецьмі.

Люба — самая меншая ў Надзі. Як толькі яна нарадзілася, Надзя ўбачыла, што дачка ўдалася ў яе: такі ж маленькі, як у яе, кірпаты нос, вялікія вочы, высокі лоб.

Адразу ж тады, як радзіла дачку, прычапілася да яе думка: дзіця ўсё, да самай маленькай кроплі, забрала ў яе, у сваёй маці, толькі яе долю не забрала б, не хацела, не жадала Надзя, каб яе доля дачцэ выпала. А вось жа як на тое: і доля ў яе, у Любы, як і ў яе, у Надзі, нялёгкая.

Мо ад таго, што доля, як думае Надзя, не ўдалася ў дачкі, а мо як самую меншую, але любіць яна Любку больш за сыноў. Яна заўсёды разумела і разумее яе як жанчына жанчыну з паў: ова, лавіла і ловіць яе кожны ўздых, які дачка часам стараецца ўтаіць ад яе, сваёй маці. І кожны той доччын уздых адзываецца ў Надзіных грудзях балючым уколам: хіба лёгка ёй, маці, пазіраць, як яе дзіця пакутуе? І кожны раз, думаючы пра Сяргея і Валодзю, Надзя параўноўвала іхняе жыццё з жыццём сваёй дачкі. І мо прыхільнасць і любоў да дачкі часам рабілі яе строгім суддзёй у адносінах да сыноў? Але хіба яна спакойна спіць ноччу, калі сасніць які паганы сон пра каго з сыноў? Не, у яе сэрцы, сэрцы маці, добры куточак адведзены і сынам. Вунь Валодзя зрабіў такое, што яго, здаецца, і павесіць мала, ды ён яе сын... Але Любка — яе асаблівы боль і неспакой...

## 3

Усяго тры дні мінула, як прагналі немцаў-акупантаў з вёскі. Фронт пакаціўся ў бок Мазыра, і адтуль даносіліся глухія выбухі, а вечарамі ў тым баку разгаралася ярка-чырвонае зарыва, што патухала толькі пад раніцу, калі пачынала днець.

Ад Каласкоў амаль нічога не засталося: вёска спалена, разбурана ўшчэнт. Зімою сорак трэцяга карнікі спалілі Каласкі, калі блакіравалі лясы, у якіх былі партызаны. Ацалела адна Лявонава хата, таго Лявона, што ля вузкакалейкі жыў.

У Лявонавай хаце, як толькі паварочаліся каласкоўцы з лесу, размясцілі дзяцей. А дарослыя на сваіх селішчах-папялішчах пачалі капаць-будаваць зямлянкі, ставілі там жалезныя бочкі з трубамі, і тыя бочкі доўга служылі людзям, замянялі печкі і давалі нейкі сугрэў.

У адну з такіх зямлянак перабралася з лесу, дзе хавалася амаль усю вайну, і Надзя з двума сваімі хлопцамі: Сяргеем і Валодзем. Ладымер, Надзін муж, паста-

віў у зямлянцы бочку з трубой, зрабіў і павесіў на завесы дзверы. Як толькі іх вызвалілі, Ладымера мабілізавалі. Праўда, у яго было колькі дзён да адпраўкі ў часць, каб тое-сёе зрабіць дома, памагчы Надзі, якая тады даходжвала апошнія дні: чакала трэцяе дзіця.

Тыя дні прамільгнулі як сон. І Надзя і Ладымер жылі прадчуваннем хуткага расстання. Днём Ладымер рэзаў і сек дровы, а ледзь наступаў вечар — вяртаўся ў цёмную, сырую, як пограб, зямлянку, туліўся да яе, да Надзі, ціха, каб не разбудзіць Валодзю з Сяргеем, якія ўжо спалі, гаварыў:

— Ну і вясна цяпер! Снег толькі ў цяньках яшчэ не параставаў, а так яго нідзе няма, калі б на добры час, то плуг з бараной пара б рыхтаваць... Але вайна шчэ... Ды сеяць усё адно трэ... Толькі етая пасяўная без мяне пройдзе... А калі пачнеце жаць і малаціць, то я мо паспею... Як жэ вы, жанкі, куды без нас, без мужчын? Без нас вы нікуды.

Ладымер не глядзіць ёй у вочы, а глядзіць усё перад сабой, як бы незнарок бярэ яе руку ў сваю і быццам баіцца гэтай блізкасці з ёю.

— Ох, нядобра ў мяне, Ладымер, на душы, каб ты толькі ведаў, як нядобра...

— Ты паляжы, дай сабе спачын, і чаго табе перажываць — вайна ж цяпер не ў нашым сяле.

Яна як бы і не чуе яго слоў, кажа:

— Вазьмі Сярожку з маіх рук... Табе заўтра ісці, а ў мяне яшчэ нічога не пашыта для цябе, не гатовая я шчэ цябе выправіць.

— Дык не на пажар, паспееш...

— Калі б не на пажар...

Яна ўздрыгнула — ён гэта адчуў, таму што трымаў яе за пальцы.

— Пра што ето ты?

Ладымер адчувае, што гаварыць сёння цяжка, ён баіцца слоў, бо, здаецца, усе яны страшныя. І ён маўчыць, набліжаецца тварам да Надзі. Валасы ў Надзі распушчаны, яны пахнуць вясеннім ветрам. Ён схаваў у іх свой твар, потым дакрануўся вуснамі да яе шчакі.

— Мы заўсёды будзем...— прашаптала Надзя, развяла перад сабой рукі, абняла Ладымера моцна, быццам даказвала яму сілу сваёй пяшчоты і кахання. Затым адштурхнула, зноў паглядзела як бы міма яго:

— Не знаю, што рабіцьму адна без цябе.

— Надзё...

— Мы будзем разам, будзем,— яна як ні дрыжыць, і ён спужаўся: ёй жа нельга хваляваца — яшчэ пачнуцца дачасныя роды.

— Надзя, я думаю, я ўвесь час думаю...

Ён гаворыць ціха, пазірае на яе добрымі вачыма. Зараз яму не хочацца заводзіць з ёй доўгую размову — адно пералжыванне ад гаворкі, ды тысяча «чаму». У галаве багата думак, але словамі іх не выкажаш, бо словы сёння ўсе цяжкія...

— Не маўчы,— Надзя дакранулася да яго пляча.

Сціснуўшы зубы, Ладымер павярнуўся, устаў і падышоў да маленькага акенца, унурыўся позіркам некуды ўдалячынь, у поле, што за вёскай, якое блішчала чорнымі лужынамі веснавой вады, і было вельмі цяжка ад таго яго чужога, балючага позірку...

Назаўтра раніцай Ладымер узяў у рукі хатуль, завязаны зверху вузлом, перакінуў цераз плячо, прыгарнуў Надзю моцна да сябе, потым падышоў да Сяргея і Валодзі, пагладзіў абодвух па галаве, пацалаваў і, ружавеючы ад нейкага ўнутранага ціску, хаваючы трывогу, прагаварыў:

— Глядзіце ў мяне тут, маці слухайце, не разбасячвайцеся вельмі, а то калі што — мамка напіша, вярнуся, папругі не пашкадую.

Ён працягнуў сваю шырокую даланю Валодзьку, і той нясмела падаў руку.

— Ты, сынок, як на лес гледзячы расцеш, вунь пяцярня якая, бы ў мужчыны, сякерай ці касой махаць такой рукою... Покуль не вярнуся, то і перадаю табе ўсю мужчынскую ўладу...

Ладымер гаворыць, не выпускае сынавай рукі, а той усё ніжэй і ніжэй апускае галаву, хавае вочы, а Ладымеру хочацца яшчэ ў іх зазірнуць.

— Пройдзе час, і калі я не вярнуся, то вучыцеся тут, не лянуйцеся, макатрамі добра варыце — навука, яна любіць, каб чалавек мазгамі варушыў... А навучыцеся, не загінеце, людзьмі станеце, маці радавацьмецца,— ён гаварыў так, каб запомнілася, каб запала сынам у душу...

— Ну то і аставацца вам шчасліва, мне час,— зноў аб'явіў Ладымер, напаследак глянуў на Надзю, абвёў

вачыма зямлянку, яшчэ раз абняў хлопцаў, пацалаваў яе, Надзю, у мокрыя вочы.

З вачэй у яе пырснулі слёзы. Яна стараецца суняць іх, але саўладаць з сабой не ўдаецца. Яна слаба бачыць Ладымера, не разбірае і не чуе, аб чым ён гаворыць, адно толькі заўважае, як ён раскрывае губы:

— Ну што ты, Надзё, адразу ў слёзы...

Ладымер зняў з вешалкі ля дзвярэй зімовую шапку і, сілячыся не павярнуцца, перамагаючы жаласнасць, як ні выскоквае на двор.

Крокі яго аддаляліся, нарэшце сціхлі зусім. Яна знясілена ўпала на ложак, на якім не было ні людскай падушкі, ні коўдры, а замест іх адны старыя латуны.

І раптам, прачыніўшы дзверы, на двор выбег Сяргей, заўсхліпваў:

— Татка! Та-а-атунька-а-а...

Усярэдзіне ў Надзі схаладнела, яна ўся сціснулася, ціха паклікала свайго меншага:

— Ну што ты, сынок, што ты, хіба ж можна так...

Яна адчула, як боль працяў яе ў паясніцы, прайшоў понізу, аддаўся ў галаву. Яна перапужалася, паклікала да сябе Валодзю, ледзь вымавіла:

— Збегай, сынок, пакліч цётку Палажку.

Сын знік за дзвярыма, а Надзя прылегла на ложак, зняла з галавы белую касынку, якую завязвала, каб не рассыпаліся валасы, і тая касынка сутаргава захадзіла ў яе руках — яна паднесла яе да вачэй і не адымала, пакуль не адчыніліся дзверы.

Калі ўбачыла Палажку, вяла паднялася, выцерла ражком касынкі твар і вочы, пакорна склала рукі на жываце. У гэтыя хвіліны Надзя напружвала свядомасць і волю, каб не страціць адчування таго, што робіцца з ёю.

— Хлопцы, а ну марш на вуліцу, а як замерзнеце, то ідзіце да мяне ў зямлянку, я там напаліла, цёпла будзе,— распарадзілася Палажка і пачала наліваць вадой чыгуны, ставіць на печку-бочку, якую не тушыла Надзя з раніцы.

Ад вострых схватак Надзя знясілела, да крыві пакусала губы. Палажка ўлучыла момант і збегала ў прыфрантавы шпіталь, які атабарыўся непадалёк ад вёскі ў брызентавых палатках. Там яна хутка знайшла ўрача-мужчыну — невысокага, у акулярах, з чорнымі вусікамі

маладога хлопца ў форме лейтэнанта медыцынскай службы.

Калі Надзя ўбачыла ўрача ў сваёй зямлянцы, то замахала абедзвюма рукамі:

— Хто вас сюды пазваў? Хіба ж мужчыне можна?

Урач злосна бліснуў акулярамі, спакойна сказаў:

— Я медык і ведаю, што мне рабіць, а вам раю зараз меней гаварыць.

Палажка памагла ўрачу скінуць шынель, паліла яму цёплай вадой на рукі, і ён наблізіўся да ложка, на якім курчылася Надзя... Нарэшце пачуўся плач. Толькі слабы, ціхі. Надзі здалося, быццам то не дзіця заплакала, а мыш піскнула. Аслабелым голасам папыталася:

— Хто?

Урач з Палажкай рэзаў на лаёнкі даматканае палатно, глянуў у яе бок:

— Дзяўчынка, але слабая, а ў вас у зямлянцы паветра сырое і холадна.

Сказаў, змоўк, паглядзеў у маленькае акенца-шыбіну.

— Нешта трэба прыдумаць, тут дзіцяці заставацца нельга.

Гаварыў і не паказваў сваіх вачэй, як бы хаваўся ад яе позіркаў, стаяў з дзіцем, спавітым Палажкай у лаёнкі, трымаў яго на руках і, мабыць, думаў, што ж яму параіць-прыдумаць.

Кіўнуў Палажцы, аддаў дзяўчынку ёй. Надзя заўважыла, як Палажка, узяўшы з доктаравых рук дзіця, перамянілася ў твары. Яна доўга глядзіць на Палажку і ловіць яе позірк — нясмелы, трывожны, разгублены.

— Чаго вы хаваеце ад мяне вочы, скажыце, што з дзіцём?

Урач наблізіўся да яе.

— Ва ўсім вінавата вайна, у арганізме ў вас не хапае вітамінаў, і мо таму ў дзіцяці экзэма.

Як паднесла ёй Палажка дзевачку, і яна зірнула і пачула ціхі галасок, то тут жа і захадзілі яе плечы — яна зайшлася ў нястрымным плачы.

— Ах, до-о-о-онька ма-а-я-я бедна-а-а-я-я, а лепш бы я ця-я-ябе не ра-а-аджала-а...

На тварыку яна не ўбачыла скуры. Замест яе была ружова-карычневая скарынка, якая, мабыць, гарэла агнём.

Урач апрануўся і падаўся да выхада, ля самых дзвярэй затрымаўся:

— Вам лепш перайсці ў тую ацалелую хату, што ля вузкакалейкі, там напалена, цёпла, суха, а ў зямлянцы сыра, дзіцяці гэта можа пашкодзіць.

Надзя знямогла церла вочы, усхліпвала, перарывістым голасам папыталася:

— Скажыце, доктар, дзевачка будзе жыць?

Урач задумаўся, ён моршчыць высокі малады лоб, пальцамі дужых рук нервова пакручвае адзін і той жа бліскучы гузік на кіцелі, і Надзя разумее, што яму маніць не хочацца, а на выдумкі, на няпраўду ён не здатны.

Зачырванеўшыся ад напружанасці, урач перавёў позірк на Палажку:

— Схадзіце ў тую хату, пагаварыце з кім там трэба і перавядзіце маці з дзіцём туды.

Сказаў, глянуўшы на Надзю:

— Перастаньце хныкаць бы маленькая ваша, перахвалюецеся — згіне ў грудзях малако, а без грудзей дзіцяці ў такую нішчымніцу, як цяпер, не выжыць...

Дзякуй добрым людзям — прынялі, пацясніліся. Хлопцаў узялася, пакуль трохі паправіцца яна з дзіцём, дагледзець Палажка. Памесцілі Надзю на печы. Там паставілі ночвы для дзіцяці, якія заслалі такімі-сякімі анучамі, а побач з ночвамі паслалі латуны, што замянілі ёй, Надзі, пасцель.

Дзіця не змаўкала ні на хвіліну — скура-скарыначка гарэла, даймала дзяўчынку, не давала ёй спакою. Надзя рук не чула — не выпускала дзіця са сваіх абдымкаў, насіла яго па хаце, гушкала, бясконца спявала, нешта гаварыла, гаварыла, ды ўсё гэта, здавалася, рабіла не столькі для дзіцяці, колькі для сябе. Хацела супакоіцца, перапыніць цяжкія думкі-трызненні, што цэлай плоймай дзень і ноч лезлі ў галаву...

Прыходзіў той жа самы маладзенькі ўрач-лейтэнант, распранаўся, доўга мыў рукі, пытаўся ў Надзі, як яе здароўе, на што яна толькі цяжка ўздыхала, і ўрач супакойваў яе, казаў добрыя словы.

Памыўшы і выцершы рукі, урач браў у яе з рук дзіця, клаў яго на чый-небудзь свабодны ложак, распавіваў, змазваў цельца дзяўчынкі нейкай масляніста-жоўтай маззю, забінтоўваў і спавіваў зноў, папярэджваў:

— Глядзіце ж, не давайце, каб дзіця выслабляла рукі і драпала сябе, а то занясе ў кроў інфекцыю, тады ўсе мае старанні ды вашы могуць аказацца дарэмнымі...

Тыя тры тыдні, такія доўгія і невыносныя, калі дзіця знаходзілася на мяжы смерці і жыцця, Надзя хадзіла бы па краі бездані. Жанкі, што месціліся побач з ёю ў Лявонавай хаце, са шкадобай і жалем пазіралі на яе, круцілі галовамі:

— Трэ було ўсю вайну перажыць, каб такога ліха даждацца!

— Паглядзеце, людцы, з кожным днём угасае баба, жывая ў магілу кладзецца.

— Хай бы ўжэ бог ратаваў яе, а немаўля забіраў, усё адно яму не жыць на етом свеці...

На дваццаты, здаецца, дзень упершыню пасля родаў спакойным сном заснула яе дзіця. Мо каля сутак праспала. А калі прачнулася, зайшоў доктар, той самы маладзенькі лейтэнант, распавіў немаўля, і вочы яго павесялелі, у іх заззялі жывыя агеньчыкі.

— Танцуйце, Надзея Пятроўна, будзе ваша дзяўчынка жыць.

Урач пазіраў, як твар у Надзі святлее, робіцца жывым і шчаслівым.

— Назавіце яе Любай — раз перамагла яна такую хваробу, значыць, люба-дарага ёй жыццё.

Усхваляваная і пачырванелая ад радасці, Надзя толькі і вымавіла:

— Не ведаю, як і дзякуваць вам, дохтарко... Назаву доньку Любай...

Вайна скончылася наступнай вясной, калі дрэвы сталі апранацца ў зялёнае ўбранне. Толькі не скончыліся яе перажыванні, не перасталі ліцца яе слёзы. У тыя дні, калі ўсе радаваліся міру, спакою і цішыні, калі сталі пагаворваць аб зямлі, што пара было араць і сеяць, ёй прыйшло, як гаварылі ў іх у Каласках, казённае пісьмо.

Яна спрабуе чытаць тое пісьмо, а друкаваныя літары круцяцца, адскакваюць ад вачэй: «...за...гі...нуў»

Хочацца заплакаць, але голас прапаў, і слёз не стала. Вакол усё зелянела, дрэвы толькі-толькі распусціліся, а ёй здавалася, быццам у паветры стаіць і не асядае дарожны пыл, шарэе трава на замурожаным двары, попельна-шэрым і чорным стала лісце на яблынях у садзе: усё шэрае, шэрае...

Ногі самі нясуць яе праз разору па сотках у хваёвы лес, які пачынаецца за соткамі. «Я вярнуся,— сказаў ёй Ладымер, калі ішоў на фронт.— Я ж усю вайну адпартызаніў, з акружэння выбраўся, я ў сарочцы нарадзіўся». І вось гэтае страшнае пісьмо...

У лесе яна прабыла як ні ўвесь дзень. Тут яе ніхто не бачыў, і яна выплакала астатнія слёзы, якія яшчэ заставаліся ў ёй да сённяшняга дня. Плакала і ў плачы ўсё звала-клікала Ладымера, бы ён і папраўдзе мог пачуць яе...

Калі трохі апрытомнела, кінулася бягом дадому: дзеці ж галодныя і Любка яшчэ такая маленькая...

Пакалыхвала ў ночвах Любку, пазірала то на Валодзю, то на Сяргея, якія абступілі яе, церабілі за падол: «Сказаць ці не сказаць зараз ім пра тэе, што напісана ў пісьме? Малыя, нічога не паймуць...»

Доўга сядзела на ложку ў зямлянцы, куды вярнулася з дачкой пасля таго, як дзевачцы палепшала, пакалыхвала ночвы, адчувала, як у грудзях стала цесна і млосна, хацелася ўвесь час плакаць, але пабаялася: Любка ж спіць, ды і Валодзя з Сяргеем бы тыя зверaняты ўтаропіліся ў яе сваімі вочкамі і ловяць кожны яе ўздых, чуюць сваімі маленькімі сэрцамі нядобрае...

Вясна ж увабралася ў сілу, работы прорва, а ёй нічога не ішло ў галаву, усё валілася з рук: перад вачыма, за што б ні ўзялася, быў ліст з чорнымі, як глухая асенняя ноч, словамі...

У тыя дні ўсё страціла для яе жывы сэнс, усё як бы аддалялася ад яе, стала непатрэбным. У зямлянцы яна не магла быць доўга — рабілася горача, млосна, не хапала паветра, і яна выходзіла на двор, кіравалася ў невялікую павець, у закутак, дзе былі развешаны на ўбітых у сцяну цвіках лучковыя пілы, нажоўкі — Ладымераў інструмент, што зберагла ад вайны, ад пажараў, бо, думала, вернецца муж і дзе ты ўсё гэта дастанеш, а мужчына ж без таго інструменту як без рук...

Без увагі абводзіла позіркам інструмент, гарод з маладзенькімі, што ледзь адскочылі ад зямлі, зялёнымі былінкамі травы, стомленая ўнутранай душэўнай пакутай, не знаходзячы сабе месца, брыла на вуліцу, да людзей...

Упраглася ў сямейны воз з маўклівым адчаем, ведала: ніхто не паможа ёй везці, цягнуць гэты нялёгкі воз.

Блізкай радні, на каго можна было б паспадзявацца, не засталося: вайна каго забрала, а каго параскідала па ўсім белым свеце.

Разжылася трохі на бульбу, ускапала заступам агарод і колькі загончыкаў пасадзіла.

Бегала і на калгасную работу. Аднаногі дзядзька Сіла, што за старшыню тады быў, паабяцаў ёй дамок паставіць. Ды і працадзень які-ніякі выходзіў, а на працадзень калгас восенню даваў жыта, бульбу. Пакіне Любку на Валодзю, накажа, каб сусла даў, калі дзіця прачнецца і заплача, а сама за кашэль — і на Смаляровa поле, дзе збіраліся як ні ўсе калгасаўцы, адны жанкі ды інваліды-мужыкі. Лён там сеялі. У плуг запрагалі кароў, якіх з дзесятак далі калгасу, імі і аралі, а семя ўручную рассыпалі...

К восені перабралася ў хату: невялічкую чатырохсценку з сасновых кругляшоў, накрытую дранкай. Хатаю яе, праўда, і назваць было цяжка, ды ўсё ж не зямлянка: печ паставілі, у якой можна было і зварыць-стушыць бульбу, і цяпла ад печы на хату ішло болей чым ад тае бочкі, што за год папрагарала багата ў якіх месцах і чадзіла, дымела. Ды і святла ў хаце болей, чым у тым падзямеллі-склепе, дзе расплодзіліся пацукі і не давалі спакою...

Потым ужо, праз некалькі гадоў, калі Любка пачала тупацець па глінабітнай падлозе, задумала Надзя лепшую будыніну паставіць, бо будаваць ужо было каму, хлопцаў нарасло, ды і з арміі ж адпусцілі, хто-ніхто з аднавяскоўцаў-салдат вярнуліся ў сваё сяло.

Адам-сусед, які жывым-цэлым вярнуўся з фронту, бярвенняў з лесу ёй навазіў, вокны паўстаўляў, падлогу паслаў. Усярэдзіне незаконччанай хаты ён паставіў варштат, прынёс фуганкі-гэблікі, і паляцелі з-пад яго рук стружкі. Надзя як магла ўлагоджвала Адама:

— Пастарайся ўжэ, Адаме, добрэ рабі, векаваць жэ мне ў етой хаці.

Адам, каржакаваты, негаваркі, стрэліць у яе бок маленькімі калючымі вачыма, прабубніць пад нос:

— На твой век хопіць і дзецям яшчэ астанецца.

Не надта які цесля быў Адам, але ўсё рабіў у Надзінай хаце з душою, бы сабе рабіў: надзейна, трывала. І час ад часу казаў ёй:

— З тваім жэ Ладзімерам добрэ мы жылі, коней пе-

рад вайною пасвілі разам, шкода мне яго дзеток, хай яны ў новай хаці растуць-гадуюцца вялікія.

Калі Адам усё парабіў і Надзя прапанавала грошы, ён ледзь не раззлаваўся ад яе рублёў:

— Рукі хай адсохнуць у мяне, калі ад тваіх сірат капейку вазьму, вунь лепей купі ім якую апратку ці на ногі што, дай на сабе паглядзі — гумавікі твае даўно кашы просяць, а восень жа на носе, без гумовікаў і кроку не ступіш...

— Ой, Адамко, галубок ты мой,— выцерла беражком хусткі павільгатнелыя вочы Надзя,— век не забуду тваю дабрату.— Толькі раз грошэй не ўзяў, то вазьмі Ладзімероў струмент — без дзела ён вісіць-прападае, а струмент паглядзі які, Ладзімер за ім у раён ездзіў...

Адам аббег вачыма нажоўкі, свярдзёлак, пілы, засвяціўся ўвесь, сабраў інструмент і хоча нешта сказаць, ды не спяшаецца, марудзіць. Перш чым загаварыць, пацягнуўся рукой у кішэню за тытунём. Адарваў ад складзенай гармонікам газеты квадратны кавалачак, насыпаў самасаду, наслініў газету, скруціў тоўстую самакрутку, закурыў, зажмурыў ад дыму вочы.

— Ты, Надзё, не саромся — трэба што, кажы, я не за гарамі, час найду...

Забраў Адам прыладдзе, пайшоў дадому, и Надзя стала любавацца домам, тым, як зрабіў яго сусед, колішні Ладымераў таварыш. Не, прычапіцца ні да чаго яна не магла: пастараўся Адам, да старое, пабудаванае калгасам хаткі, прыстроіў трохсценку, і цяпер дом пабольшаў, стаў вышэйшым — Адам зрабіў тры вянкі ў старым дамку, паўстаўляў новыя вокны. Пазірала яна на свой дом, думала: «Хата ў мяне цяпер добрая, але ж адна я з трыма галадранцамі...»

Цяпер яна часам і не верыць, што адна іх паставіла на ногі, дужымі-здаровымі выгадавала. Круцілася, праўда, як вавёрка: ад рання і да позняга. Устане яшчэ на золку, папораецца, наварыць на ўвесь дзень дзецям есці, выставіць гаршкі на прыпечак, каб не астылі, накажа Валодзю:

— Абед даставай і кармі Сяргея з Любкай, бо я сёння на Вялікае балота бягу, адтуль не змагу падскочыць, каб тут вас дагледзець.

З граблямі, з хусткай, перавязанай цераз плячо, у якую маецца навязаць трохі цяляці сена, калі вяр-

тацьмецца назад, выскоквае на вуліцу. Прабяжыць, прабяжыць трохі па вуліцы, нешта ўспомніць, вернецца, пастукае ў шыбку, пакліча Валодзю:

— Глядзі ж, сынок, каб парася варотцы не адчыніла, а то куры разбягуцца, ды паглядвай тут на квактуху з куранятамі, а то каршакі, ліха на іх няма, так і кружацца над панадворкамі, у дзядзькі ж Адама ўчорэ проста з-пад самаго носа ўхапіў куранятко і панёс.

— Добрэ, мамачко, буду назіраць, не пушчу коршака на наш двор,— адказвае ёй Валодзя, і Надзя зноў выпраўляецца на вуліцу.

Блізкі свет той сенакос — аж за Астроўкамі, у Гаях. Пакуль дойдзе туды, ног не чуе — аж гудуць ад доўгай дарогі. Гляне на балота, бачыць: некаторыя жанкі паспелі ўжо скласці па дзве-тры копы. Пачынае і яна варушыць сухія рады, зграбаць, складваць іх у копы.

Грабе, а душа не на месцы: як там дзеці дома? Ці не ўтварылі чаго? Было ўжо: вярнулася раз з работы надвечар, адчыніла куфар, палезла ў прыскрынак, каб узяць грошай і збегаць у магазін купіць газы. Госпадзі, што яе вочы той раз убачылі?! Дзесяткі і пяцёркі перарваныя папалам, а то і на кавалачкі... Паглядзела на хлопцаў, а яны зашыліся на печы ў куточак, сядзяць ціха-ціха, не шумнуць нават, чуюць сваю віну і чакаюць, што яна пачне сварыцца на іх. Але сварыцца яна не стала, закрыла вочы рукамі, загаласіла на ўсю хату: «Ох, до-о-оля-я ма-а-я-я няшчасна-а-я-я...» Не, не па грашах яна плакала. Ладымера яна тады ўспомніла, падумала, што калі б ён быў жывы, то ўсё інакш у яе і яе дзяцей склалася б...

Увесь дзень смаліць сонца. Схавацца б пад кусцік, перадыхнуць, але дзе там, сена і так перасыхае. Грабе і грабе без перадыху, носіць бярэмамі і складвае ў копы. Колькі коп сёння ўжо зрабіла? Азірнулася назад, паспрабавала палічыць, ды хіба іх палічыш — копы то за лазою, то адна за адною, каб убачыць усе, трэба кідаць граблі і вяртацца на пакошу, а часу няма, вунь колькі радоў сухіх, і сёння трэба ўправіцца іх паграбці, а то дождж ліне і рады пачарнеюць, а сена ж тут як чай...

За пазуху нацерусілася-налезла сеннай пацярухі, і вельмі рэзала цела, не давала спакойна рабіць. Ды і піць хочацца даўно, у роце перасохла. На якую хвіліну

кідае на рад граблі, а сама подбегам кіруецца да копанкі, на дне якой боўтаецца рыжая вада. Тут жа ўпобачкі з копанкай наткнута на арэхавую палку трубкачарпачок, зробленая некім з бяросты. Бярэ той чарпачок, прысядае на калені, нагінаецца, каб дастаць вады, размахвае па паверхні вады чарпаком, разганяе ў бакі смецце, што насыпалася ў копанку, потым зачэрпвае, вада разліваецца, цурчыць з канца самаробнай трубачкі, але нешта ўсё ж на дне астаецца, і Надзя п'е вялікімі глыткамі. Чэрпае і другі, і трэці раз, пакуль не натольвае смагу. Вада, праўда, нясмачная, пахне ілам, балотным торфам, мышамі, але ўсё ж гэта вада, яна вяртае сілу, ад яе становіцца лягчэй усяму целу...

Копанка на краі балота, за зараснікамі лазы і старой вярбы, ад яе не відаць ні таго, як жанкі грабуць і носяць насілкамі копы, ні таго, як ладзяць мужыкі адзёнкі і кідаюць сена ў стагі. Напіўшыся, Надзя азіраецца вакол сябе: не, быццам ніхто да копанкі не ідзе. Яна хуценька расшпільвае кофту, лье ваду за пазуху, дзе сенная пацяруха так нарэзала цела, што далей трываць нельга. І тут жа чуе: нехта прастуе сюды, каб напіцца. Вось ужо з-за лазы і паказаўся Яшка Юневіч, з іхняга сяла ён, жыве ў канцы Каласкоў, каля бярозы. Высокі, танклявы, у роце ў яго блішчаць, калі ён гаворыць або смяецца, устаўныя жалезныя зубы. Чорны Яшкаў чуб віецца-звісае на лоб, а вочкі заўсёды масляніста жмурацца. Ён малады, ласы да жанчын, хаця і ў самога жонка добрая, здаровая, але прывык ён валачыцца па ўдовах, з-за гэтага, чула Надзя, ледзь не выперла яго з хаты Таня Лексіна, жонка яго, да якой ён прыняўся ў прымы. Але, кажуць, гарбатага магіла выправіць...

Да яе, да Надзі, Яшка даўно дарогу шукае. То прапаноўвае за дровамі з'ездзіць, то набіваецца сена накасіць і перавезці. Дасюль яна абыходзілася без Яшкавай дапамогі, не хацела, каб пра яе плявузгалі абы-што.

Сёння Яшка, мабыць, стагуе сена, робіць адзёнкі. На ім майка, што на грудзях пацямнела ад поту, на нагах кірзачы з загорнутымі ўніз халявамі.

Ён усё бліжэй і бліжэй, заўважыў яе, шумліва крыкнуў:

— Дзень добры, Надзея Пятроўна! Дай ж на цябе, не на людзях будзь сказана, нагляджуся, налюбуюся, са-

лодкая ты мая... Ну і Надзя, ну і жанчына, не баба — агонь...

Яна не слухае яго, адвярнулася і спяшаецца зашпіліць кофту. А Яшку бы ўкусіла дурная муха, ён у адно імгненне апынуўся каля яе, абняў, цяжка задыхаў:

— Ну, чаго ты ўвесь час бяжыш ад мяне, хіба я бязрукі, бязногі ці хворы?

Колькі ў яе хапіла сілы, адпіхнула яго, адскочыла ўбок, схапіла, што трапілася пад рукі, палку, замахнулася.

— Толькі паспрабуй шчэ раз рукі распусціць, жарабец пракляты, апераджу апоўзінай, дай так апераджу, што твая мазгаўня расколецца!

Сэрца ад хвалявання разрывалася на часткі. «А што,— падумала,— калі хто цікуе за намі, убачыць з гэтым бугаём ды падумае чортведае якую несусвеціцу? Не, трэба бегчы».

Бокам, бокам, не выпускаючы палку з рук, пайшла далей ад копанкі. Яшка следам. Ён усё бліжэй і бліжэй да яе, яна тады запынілася, пачакала, калі ён падыдзе. Вось ён ужо працягнуў рукі, каб абхапіць яе, вочкі яго блішчаць, а сам ён, здаецца, нічога не разбірае, адно бачыць перад сабой яе, Надзю. Закрыўшы вочы, замахнулася апоўзінай — і трэсь Яшку па галаве. Той як і ні стаяў, паваліўся снопам і ляжыць на зямлі, не варухнецца.

— Не прыкідвайся дурнем, не качайся, уставай,— кідаючы палку, прамовіла Надзя, пайшла да балота, пакіравалася да сухіх радоў сена.

Яшка цяжка падымаецца з зямлі, трымаецца адной рукою за галаву. Надзя азіраецца на яго, не можа стрымацца, душыцца смехам, бо ўбачыла, што на лбе ў Яшкі ўскочыў гузак.

— Мыталіца ты, Надзё, дурная, для каго ты сябе беражэш? — са злосцю вымаўляе Яшка.— Прападзеш адна без мужыка.

— Ах ты бугай валачашчы, прывык валачыцца, ото бабы дурныя, што падпускаюць да сябе, то раней ты мне не пападаўся, я б цябе хутко адвучыла.

— Глядзі ты на яе, шчэ яна і ставіць сябе, прыкідваецца!

Услед за гэтымі словамі Яшка закаціўся нервовым смехам, і над балотам панеслася: «Ха-ха-ха!»

Яшкаў смех гоніць яе ад копанкі, яна бяжыць, не чуючы пад сабой ног...

Злая, пакрыўджаная, падыходзіць да сухіх радоў, бярэ ў рукі граблі, праклінае Яшку: «Каб табе анямець, каб цябе ногі не насілі...»

Дадому вяртаецца не адна — з жанкамі, не хоча зноў з вока на вока сустракацца з Яшкам...

Пераступіла парог і ўбачыла, што хлопцы, згледзеўшы яе, за комінам пахаваліся, вочак сваіх з яе не спускаюць, бы тыя сычы зыркаюць, паварушыцца баяцца. Надзя пацягнула носам, пачула: паленым пахне. Кінулася да вешалкі, пазнала: у квяцістай цярновай хустцы згарэла ўся сярэдзіна, абсмалены бераджкі.

— Ох ты, горачка маё, і калі ж вы, мае дзеткі, паразумнееце,— голас у Надзі ціхі, вочы сталі мокрымі.— Усё вам гульні ды забаўкі, ох дурныя вы, ну дурныя.

Цяжкаю хадою падышла да ложка, упала, бы падкошаная.

— І колькі ж мне яшчэ мучыцца?..

Плечы яе ходырам ходзяць, Валодзька першы саскоквае з печы, абдымае яе за шыю:

— Мамачко, то Сярожка запаліў, я выбег паглядзець на куранят і ці не здратавала двор парася, вярнуўся, чую, гарыць, разгледзеўся — аж хустка, бачу, дыміцца, добра, што хоць я нядоўга быў на двары...

Сын памаўчаў, адчуў, як яна перастала плакаць, слухае яго. І яшчэ дадаў:

— Болей я ніколі Сяргея аднаго ў хаце не пакіну, буду сам выходзіць на двор — і яго з сабою брацьму.

Сцішылася, маўкліва глядзіць на сына. Яе рукі, што ляжалі на каленях і церабілі вылінялую сукенку, ледзь уздрыгнулі: у гэтую хвіліну сэрца яе сціснулася, забалела, бо ўбачыла, што Валодзя сам вось-вось расплачацца.

— Ну, добра, мае дзеткі, добра, я ўжо не плачу, толькі болей так не рабіце.

Не паспела азірнуцца, як Валодзя школу скончыў, на кінамеханіка паехаў у горад вучыцца. Выпраўляла яго на вучобу, радавалася: «Вырас як! Здаецца, шапкай да столі дастае. Толькі худы і тонкі. Ды то не бяда, абы здароўе»

Праводзіла яна свайго старэйшага за парог, а сэрца

так і зайшлося: «Каб жа добранька ўсё было, а то возьме ды затаварышуе там з шалапутамі якімі».

Услед за Валодзем і да Сяргея чарга дайшла ехаць вучыцца. Той у Нароўлю падаўся, шафёрам-механізатарам закарцела яму стаць. За меншага сына ў яе душа не трымцела, Сяргей у яе ўдаўся: разважлівы, удумлівы, а калі возьмецца за што, то работа гарыць у яго руках. Ды і вучоба Сяргеева знаходзілася пад бокам — да Нароўлі язды на аўтобусе не болей за дзве гадзіны, і калі выпадзе свабодная часіна, то і самой адскочыць можна...

Адвучыліся хлопцы, на работу пайшлі, а там і Любка пачала іх даганяць. Надзя глядзела на сваю меншую з незатоенай радасцю: стройныя ногі, чарнявая, вочы-вугельчыкі гарачь-усміхаюцца, пышныя грудзі, поўныя плечы. Глядзела на дачку і не верыла, што некалі ледзь адхаяла яе, адхадзіла, з такой цяжкасцю на ногі паставіла...

Любка ў вучылішча будаўнікоў падала дакументы, у Гомель на два гады з'ехала. Калі Надзя праводзіла яе да шляху на аўтобус перад першым вераснем, перад пачаткам вучобы, то прасіла-наказвала, каб дачка асцерагалася: едзе ж у незнаёмы горад, да незнаёмых людзей. Казала адно, а вусны міжволі шапталі: «Добрая б доля табе, донька мая, выпала...»

Потым пісьмы ад дзяцей прыходзілі ёй. Першы напісаў ёй Валодзя. Яна чытала: «У мяне ўсё добра...» Ад гэтых слоў спакайнела, святлела душой...

## 4

Іра ўжо ўкладвае дачку спаць, а яна ўсё сядзіць з Валодзем, варушыць памалу сваю памяць, цярэбіць-перабірае пражытае.

У гэты вечар яна гаварыла доўга, прыслухоўваючыся да таго свайго голасу, Надзя верыла: менавіта ўсё так і было, яна нічога не забыла і не пераблытала. І ўсё ж ёю авалодвала пачуццё неспакою, і яна, паглядваючы на спахмурнелага сына, думала: нешта ўсё ж ён адчувае, бо ўжо зусім позна, пара ісці спаць, а Валодзя не ідзе, і гэта болей за ўсё прымушала трывожыцца.

Потым увайшла Іра, пачала прыбіраць са стала. Надзя паднялася з крэсла, у якое бы ўрасла за вечар, ха-

цела памагчы нявестцы. Але Іра не дае ёй ні за што брацца:

— Сядзіце, хіба вам дома бегатні мала?

Жонку падтрымлівае Валодзя:

— Табе, маці, і ў гасцях не цярпіцца без клопату, пасядзі вунь, дай рукам аддыхнуць трохі, пагамані са мной.

Валодзя не сядзіць, памагае жонцы прыбіраць і зносіць са стала на кухню посуд, складвае стол-кнігу і нясе ў калідор, вяртаецца зноў у пакой.

— Дык гаворыш, маці, дастаецца нашай Любцы? — працягвае ён пачатую размову.

— Усё з-за Грышкі,— падтрымала яна гаворку,— а на яго калі як нойдзе: іншы раз яго хоць бяры ды за пазуху кладзі, такі ён дабрачы, паслухмяны, сам не знае, што б такое зрабіць, каб улагодзіць Любцы.

— Наробіць шкоды, бы той паганы кот, а пасля лашчыцца,— перабіў яе Валодзя, і Надзя ўбачыла, як хутка перамяніўся выраз сынавага твару. Ён стаў гаварыць неяк высакамерна, падкрэслена строга, у яго голасе — ноткі дакору.— Чула маё сэрца, што нічога ладнага не выйдзе ў Любкі з тым цыганом. Хіба не казаў я некалі, каб і на парог не пускалі? Казаў, толькі на мае словы начхаць хацелі, ніхто да мяне не прыслухаўся — ні ты, ні Любка, а цяпер, бач, пагана вам...

Сын нешта ўсё гаварыў і гаварыў, але яна бы і не чула яго слоў. Яна пазірала на яго, заўважала, як ён энергічна варушыць губамі, але раптам ёй бачыўся той, ранейшы Валодзя. Ён, на колькі гадоў маладзейшы, стаіць у яе вачах: апрануты па-вясковаму, у кірзавых ботах, з сумкай цераз правае плячо, у якой насіў білеты і грошы...

Той парой Валодзя адслужыў армію, закончыў у Гродна вучылішча, стаў працаваць кінамеханікам на перасоўцы.

У адзін з чарговых заездаў у сваю вёску Валодзя застаў дома Любку. Не адну. З жаніхом, які нечага з першага погляду не спадабаўся Валодзю: невысокі, вузкаплечы, чорнавалосы, бы цыган. І гаварыць добра па-руску не ўмее: «Мой дэвушка, мой сэстронка...» То пасля ўжо, трохі пажыўшы на Палессі, Грышка пачаў перайначваць сваю мову, па-людску, зразумела стаў гаварыць.

З Поўначы, куды паехала працаваць пасля заканчэння вучылішча, прывязла Любка свайго ненагляднага. Год з лішнім прарабіла — і сустрэла там сваё шчасце, прыджгала дадому напаказ усім. «Варта было,— думаў Валодзя, пазіраючы на швагра,— перціся за трыдзевяць зямель, каб напаткаць гэтага дапатопнага выкапня і павесіцца яму на шыю?»

Надзя, калі прыйшоў Валодзя дадому, паліла ў печы: варыла, пякла, смажыла. Валодзя, гледзячы, як увіхаецца маці, пажартаваў:

— Ці не вяселле задумалі спраўляць?

Злосна глянуўшы на сына, Надзя цыкнула:

— Не распускай язычок, а то чалавек учуе!

Ён як угадаў: вяселле не вяселле, а вечар нейкі збіраліся гуляць, не аддаваць жа дачку так, рашыла Надзя, без ніякай урачыстасці, бы з-пад печы.

— Лепш вунь памог бы мне, дроў дзе сушэйшых навыбіраў ды нанасіў у хату, і людзей збегаў бы запрасіў, а то мне хоць разарвіся,— зазлавала Надзя, і Валодзя сканфузіўся, зразумеў, што цяпер не да жартаў. Праўда, ён усё адно засмяяўся:

— Хіба Любка не знойдзе сабе лепшага хлопца, ты ж паглядзі, мамо, я б такога і ў хату не пусціў, а ты радніцца давай.

Маці наблізілася да яго, шапнула:

— Перадумваць позно ўжэ, сынок, Любка чараватая.

— А мо твая Любка сумысля падстроіла ўсё гэта, мо сумысля сказанула табе пра тое, што чараватая?

— Такім, сыне, не жартуюць, ды я і сама добрэ ўсё бачу...

Валодзя толькі падумаў: недарма кажуць, што не сунь носа не ў сваё проса. Калі яшчэ вучылішча не скончыла Любка, сватаўся да яе нейкі лейтэнант. То было гадоў чатыры назад. Летам, калі ў Любкі былі канікулы, ён прыязджаў да іх. Чалавек як чалавек. Мабыць, падумалася тады Валодзю, сур'ёзны. Ён, лейтэнант, усё хацеў з ім, з Валодзем, загаварыць, ды толькі Валодзя пазбягаў шчырай гаворкі, казаў:

— Зялёная яшчэ Любка, на губах мамчына малако не абсохла, а ўжо давай замуж, не, ранавата ёй яшчэ.

— Ваша сястра добры чалавек, а што маладая — не бяда, пастарэць паспее.

Валодзя тады сам толькі-толькі паступіў завочна ву-

чыцца ў Мінск у політэхнічны інстытут. Яму вельмі хацелася, каб і Любка ў навуку падавалася. Святая і наіўная душа, ён, Валодзя! У Любкі ж свая галава, і ёй самой відаць, што лепей рабіць: вучыцца ці замуж выходзіць. Ну, чаго ён дабіўся, што ўлез туды, куды яго не прасілі? Нічагусенькі добрага не выйшла з таго, што ён перашкодзіў сястры выйсці замуж за лейтэнанта.

Вось аб чым думаў Валодзя ў той вечар, калі суседзі, блізкія сядзелі ў іхняй хаце за святочнымі сталамі, пілі, крычалі Любцы і яе мужу Грышку «горка». Валодзя таксама піў, паглядаў на швагра, злаваў: «Мабыць, гэты курттаты цыганчук і ёсць Любчын лёс. І трэба ж: такі хлопец той лейтэнанцік, а вось прамаргала, з-за мяне, праўда, прамаргала...»

Для Надзі той дзень і вечар прайшоў у бясконцай бегатні, неразбярысе. Радавалася, што ўсе дзеці сабраліся разам. Радавалася гасцям, музыцы, несціханай гамонцы людзей, што сядзелі за сталамі, застаўленымі рознымі стравамі, закускамі, напіткамі. Да яе госці раз-пораз звярталіся з пытаннямі-размовамі, ад якіх яна трошачкі хвалявалася. Гаварыла з людзьмі, крадком пазірала на дачку, бачыла, як паружавелі ў Любкі шчокі, як нешта ціхенька яна шэпча на вуха Грышку, а той толькі робіць выгляд, што слухае, а сам, злыднюга, вачэй з налітай чаркі не спускае...

Затым устаў Адам, сусед, той самы, што трохаленку ёй зрабіў, падняў на тры вянцы ўверх старую яе хатку і парабіў-паслаў у абедзвюх хатах падлогі, паўстаўляў вокны і дзверы. Адам сядзеў наўпроці Надзі, поблізу ад Любкі. У руках ён трымаў скрыпку і смык: іграць на скрыпцы добра ўмее Адам, не на адным вяселлі плакала яго скрыпка.

— Хай людзі прабачаюць,— абвёў позіркам Адам усіх, хто сядзеў за сталамі, мелькам глянуў на Надзю,— але я хачу сыграць для нашай маладой, для беднай сіраціны адну песню.

Адам выйшаў з-за стала, спыніўся пасярод залы на вольным месцы, прыклаў скрыпку да шчакі, узмахнуў смыком. І такое зацягнуў, такая тужлівая мелодыя выходзіла з-пад Адамавага смыка, што ў Надзі аж сэрца забалела-закалола, і яна не стрымалася, завільгатнелі яе вочы. Не адна яна не стрымалася. Усе жанкі смаркаліся ў насоўкі. Услед за імі заплакала і Любка. А Грышка

паспеў ужо насмактацца, пазіраў, як Любка выцірае вочы, і трос сваім чорным чубам.

Скончыў Адам іграць, сеў на сваё месца, выцер узмакрэлы лоб. І тут, убачыла Надзя, устаў Алесь Карась — малады, высокі, рыжаваты, які сядзеў ля самага Адама.

— Давай, цётко Надзё, каравай нясі, пачнём дзяліць, а то ўжэ другія пеўні прагарланілі, хутка і трэція закукарэкаюць, разбягацца нам пара.

Унесла каравай з калідора ў хату яна з Валодзем. Жанкі, што былі на вечары, уставілі ў каравай тры васковыя свечкі, запалілі іх, Валодзя падняў каравай высока над галавой, і як толькі ступіў у хату, жанкі пачалі апяваць каравай, а скончылі яны свае спевы, Надзя наблізілася да Карася:

— Бацькі няма ў нас, Алесько, а сыны мае шчэ малалеткі, дак бяры ўжэ ты дзялі каравай.

Карась пасур'ёзнеў, устаў, узяў са стала нож, разрэзаў круглы каравай на кавалкі, абвёў позіркам людзей, што сядзелі за сталамі. У гэтую хвіліну ўсе маўчалі і паглядвалі на яго, чакалі, каго першага пакліча ён.

— Дай божэ не маўчаць, а добрэ пачаць: дзе тут маці, браты Валодзя і Сяргей? Адзавіцеся, падыдзіце да маладых на дар божы...

Тады, як справілі вяселле, Любка са сваім Грышкам зноў махнулі на Поўнач. Праз паўгода ці што ў іх там дзевачка нарадзілася. Надзя прасіла-наказвала ў пісьмах напісаць ёй, на каго ўнучка падобная, на каго яна болей удае: на Любку ці на Грышку? У адказ Любка крэмзанула ўсяго некалькі слоў: «Прывязу — пабачыце».

Ды перш чым прывезці Надзі ды паказаць унучку, Любка сама ледзь не ўслед за сваім пісьмом прымчала. Не паспела і на парог ступіць, бухнулася перад Надзяй на калені, склала, бы святая, рукі на грудзях крыжам і ўзмалілася: «Выручайце, мамо, Грышку пасадзіць могуць, машыну разбіў».

У першую хвіліну Надзя анічагусенькі не зразумела, стаіць бы ўкопаная з вілачнікам ля печы і бачыць адно: твар у Любкі спалатнеў за двое сутак, што правяла яна ў дарозе, вачэй, мусіць, і на хвіліну не заплюшчыла. Стаіць дачка на каленях перад ёю ні жывая ні мёртвая, ад хвалявання калоціцца.

— Эх, доча мая, доча! — Надзя ўзяла дачку за руку,

прымусіла яе падняцца і падвяла да канапы, пасадзіла, загадала расказаць аб усім толкам.

— Як так разбіў? — пасля кароткага здранцвення працверазела Надзя.— Нажэрса, мамуць, слуп яму дарогу перабег, ці што?

— Каб жа так, а то не,— пачала выгароджваць Грышку Любка,— то ж Поўнач, там скрозь то скалы, то балоты, а тут снег пайшоў, слізка, вось і панесла яго...

— Пайгралі на край свету за доўгім рублём, ды ўсё адно да маці бяжыце, а ў мяне хіба грошы валяюцца, скуль узяцца ў мяне тым грашам?

Злосць злосцю, а Любка ж, спахапілася Надзя, мусіць галодная, як ваўчыца, за ўсю дарогу мо і шклянкі чаю не выпіла. Борздзенька выставіла з печы чыгункі, наліла ў міску бульбянога супу, засмажанага салам і цыбулькай, падала Любцы. Ды хіба ёй зараз да яды: за Грышку перажывае. Дзе ўзяць паўтары тысячы рублёў? І ў Надзі такіх грошай і са свечкаю не знайсці.

— Праўду казаў Валодзя,— гаварыла, пазіраючы на дачку, Надзя,— не прынясе шчасця табе твой цыганчук.

— Мамо, люблю я яго, і не кажыце нічого паганаго аб ім, не хочаце памагчы — не памагайце, самі як-небудзь выкруцімся.

Слухала Надзя дачку са шкадаваннем: «Матыліца ты дурная, Любка, памагці я памагу, у позыкі залезу, але памагу, було б табе добрэ, а мне... Мая жытка ў гарынядолі прайшла...»

Пабегла перш да Адама, затым да Палажкі — суседзяў сваіх, якія не раз выручалі яе. Тыя ёй і на гэты раз не адмовілі, пазычылі паўтары тысячы рублёў. Яна адразу вярнулася дахаты, аддала грошы Любцы, тая схавала іх у сумачку, абняла яе, пацалавала: «Дзякуй табе, мамачко».

Калі Любка сабралася ад'язджаць, Надзя наказала:

— Няма чаго вам бадзяцца з дзіцём па Поўначы, прыязджайце да мяне, места ўсім хопіць.

Праводзіла Любку да шляху, вярнулася дадому, хадзіла па хаце з кутка ў куток: «Мамуць жэ, нецвярозы буў, калі машыну ў абрыў пусціў, але добрэ, што сам хоць паспеў выскачыць, а то ж Любцы адной як выгадаваць дзіця? Ды і што за гадоўля без бацькі?»

Таго ж лета прыехала Любка са сваім сямейством.

З яе прыездам у хаце стала цесна. З Сяргеем жа ні

мала ні багата — пяць душ. Ды і Валодзя часценька наведваўся, начаваў дома. Надзя стала спаць на прыпечку — пасцелі ўсе пазаймалі дзеці. І хоць меней прасторы было ў яе хаце, але на душы паспакайнела: дзеці навідавоку, перажываць і думаць трэба меней.

Пажылі трохі разам — Надзя зразумела: не, не гаспадар яе зяць. Прывык, мабыць, да вечных блуканняў па свету, нудзіцца заўсёды, не сядзіцца яму дома, у кампаніі вечна яго цягне. А ў мужчынскай кампаніі ведама якія справы. Вернецца Грышка дадому, падоўгу шукае клямку, а знойдзе, то ў дзвярах блытаецца, пакуль пераступіць парог і распранецца. Надзя разумее: гаварыць яму зараз што-небудзь няма ніякага сэнсу, але ўсё адно не можа ўцерпець, каб не сказаць:

— Ты ж бульдазерыстам у «Сельгастэхніцы» робіш, грошы тама добрыя табе плоцяць, а што, давядзі ты мне, купіў-прыдбаў для сям'і?

Адчувае: не вельмі хочацца слухаць зяцю яе словы. Ды слухае, маўчыць, бы сыч, надзьмуўся, сядзіць на канапе і круціцца на месцы, бы на жар трапіў. Затым, не варухнуўшы нават губамі, каб сказаць хоць адно слова для сваёй абароны, падымаецца, ідзе на двор, у павець. Хутка Надзі становіцца чутно: «гуп ды гуп» даносіцца з паветкі — гэта Грышка ўзяўся секчы дровы. Праз нейкі час яна выходзіць і дзівіцца: як ні цэлы воз за гадзіну ўходаў-пакалоў. І ўголас радуецца:

— Даўно б так, а то занятак сабе знайшоў: у лаўку за паўлітраю бегаць, а пра дзіця ды пра жонку яму і неўгадно, хай як хочуць, так і кідаюцца без бацькавай помачы.

Ад злосці ды ад работы, бачыць Надзя, вочы ў Грышкі наліліся крывёю. Але ён не паднімае галаву, не разгінаецца, не пазірае ў яе бок: сякера ў яго руках толькі мільгае.

Паназірала яна трохі за Грышкаваю работай і вярнулася ў хату.

— Сёння, мабыць, мядзведзь у лесе лапы склаў,— выпускаючы, каб гуляла па хаце, з рук Таньку, прамовіла Любка,— мой Грышка першы раз удома за сякеру ўзяўся.

— Ты ж яму баісся і слова сказаць, то ён і распусціўся ў цябе, а я вось сказала, то неўзлюбіў, але і не стаў сядзець і кумпаніі не пайшоў шукаць.

Надзя блізарука жмурыцца, пасля не вытрымлівае, гаворыць:

— Бачу, як нудзіцца Грышка, цесно яму ў цешчы, хоча мець свой куток, дзе б сам быў гаспадаром. То я поперак не станаўлюса вам: укупляйце вунека ў старого Хамы, ён сабе новую харому збудаваў, а стары дамок продае і просіць небагацька, вазьміце, таго дамка і вам, і вашым дзецям хопіць.

Любка спахмурнела, вяла ўсміхаецца:

— За якія ж трасцы купляць? Тое, што зарабляю я ды Грышка, на жыццё ідзе: ні свайго парасяці, ні каровы мы пакуль не маем, а на тваю шыю садзіцца, мамо, не хачу.

Замаўчала Любка, а Надзя разумее, што робіцца ў гэты час на душы ў дачкі: тое, аб чым яна толькі сказала ёй, не выходзіць у Любкі, напэўна ж, з галавы. Канечне, ёй з Грышкам не так і пагана ў яе, але свая хата гэта свая, ніхто не ўпікнуў бы яе, што вісіць на шыі ў старой маці, ды і Грышку таварышы перасталі б дражніць прымаком, маўляў, прымачы хлеб сабачы...

Пазірае Любка ў акно, не варушыцца, а ў вачах сум і слёзы: думкі пра свой куточак здаюцца ёй пакуль нерэальнымі. Каб жа тады Грышка машыну не разбіў.

— Ось што,— не дала Надзя Любцы лішне нервавацца,— вас ждаць ніхто не стане: як прачуюць украінцы, то дамок у Хамы з рукамі і нагамі схопяць, і за цану не пастаяць — хата ж гатовая, разбяры ды складзі толькі і засяляйса.

У канцы сяла паставіў зяць свой дом. Праз усё лета не вылазілі адтуль усе: зяць, Любка, яна, Надзя.

Стараліся, каб да зімы перабрацца змаглі. Той час Надзя проста пазнаць не магла зяця: другім чалавекам стаў. Яна прачнецца рана-раненька, а Грышкі ўжо няма дома: пабег мох драць, заўтра ж столь уцяпляць сабіраецца, а без моху як ты ўцяпліш тую столь?

І кампаніі свае забыў Грышка, на гарэлку і не гляне. Надзя не нарадуецца: «Няўжэ насаўсім перастаў нюхаць тую злыбяду?»

І калі ўлазіны спраўлялі, Грышка ўсё яшчэ трымаўся. Прыгубіць толькі шклянку, а піць не п'е. Частуе гасцей, што сабраліся ў яго хаце, хваліцца:

— Я з Хамовай нары такі дом збудаваў — ніхто і не здагадаецца нават, што гэта ранейшае жытло старога

Хамы. Цяпер позна, а неразімуем, то па вясне сцены знадворку белай цэглай абкладу, афіцыят зашклю каляровым шклом, паравое ацяпленне ва ўсе пакоі...

Любка той парою ў нітку выцягвалася: даўгі ж віселі на ёй, і не малыя даўгі, і як найхутчэй хацелася ж аддаць іх, расплаціцца з людзьмі. Днявала і начавала яна на ферме. Захварэе хто з даярак — падмяняла. А як кінуліся грыбы ў рост, то кожнага ранку кашэль за плечы — і ў лес з Грышкам. Праз які час ледзьве нясуць грыбы: у краёчкі кашалёў паўстаўлялі палачкі-ражны і наклалі грыбоў з гарою.

— Жыць бы ім цяпера,— скардзілася Надзя Валодзю, які ўжо і слухаў яе не вельмі ўважліва: час быў позні, і ён раз-пораз пазяхаў, паглядваў на гадзіннік, што стаяў на кніжнай паліцы,— дык не ж, сарваўся Грышка. Як прыйшла зіма, работы стала меней, вось ён і зноў узяўся за ранейшае, зноў бегае да таварышаў.

Сказала, мелькам зірнула на гадзіннік, на тое, што Валодзевы вочы ўжо закрываюцца, спахапілася:

— Кладзіся, давай, сынок, а то я задурыла табе галаву, Іра з Інай, мамуць, даўно спяць.

Падняўшыся з крэсла і пакіраваўшыся да дзвярэй, у спальню, Валодзя яшчэ прамовіў:

— Кідала б Любка свайго цыгана, замучыць ён яе, хіба мала хто з жанчын гадуе дзяцей без мужа?

— Лёгка нам раіць, сынку, я табе не сказала: Любка ж вось-вось зноў родзіць, і думаеш, ёй адной проста будзе паставіць на ногі двое дзетак?

Адказваць Валодзя не стаў, бо гаворка гэтая была без канца, і ён, паказаўшы Надзі, дзе ёй паслала Іра, скрыпнуў дзвярыма і знік за імі.

Яна таксама распранулася, выключыла святло, легла на канапу.

## 5

Прахапілася ад нейкіх стукаў-грукаў. Хтосьці спускаўся з вышэйшага паверха ўніз, пераскокваў, мабыць, праз некалькі прыступак, і лесвіца, падалося Надзі, аж стагнала, здавалася, не чалавек там ідзе, а нейкі асілак, што правярае ўдарам бота, ці надзейна трымаецца лесвіца.

Яна быццам умылася: сон адышоў і не браў яе. Уста-

ла, зрабіла колькі крокаў да кніжнай паліцы, глянула на квадратны, у драўляным корпусе з белымі рымскімі лічбамі, гадзіннік: без чвэрткі сем.

Пачула, што не спіцца не толькі ёй адной: не спалася, мабыць, і Валодзю з Ірай, бо са спальні да яе ў залу даносіўся ціхі, прыглушаны, але можна было разабраць асобныя словы, шэпт.

— Ты бачыш, што маці твая задуменая, заклапочаная,— пачула Надзя голас нявесткі.

Зацятае маўчанне — і сонны Валодзеў голас:

— Табе заўсёды нешта здаецца.

— Які ты сын сваёй маці? — упікае мужа Іра.— Прадзяры добра вочы, пабач — у тваёй мамачкі душа не на месцы. Ды ну цябе, які толк гаварыць, вы, мужчыны, толькі сябе ўмееце разумець.

Сцены ў пакоях, мабыць, тонкія, бо Надзя нават чуе, як Іра цяжка ўздыхнула, а Валодзя ў адказ ні слова. «Маўчыш, сыне, а не трэба б маўчаць, паслухай жонку, ох, каб ты ведаў і знаў, якую святую праўду зараз яна табе сказала».

Са спальні да яе яшчэ доўга даносіліся словы-шаптанні, але яна іх больш не магла разабраць, бо ў суседніх кватэрах пападымаліся людзі, па той бок сцен чулася гамонка, пакрыкванні, дзіцячы плач, нязлоснае гырканне сабакі-пакаёўкі. Ды і не ўслухоўвалася яна асабліва ў тое, аб чым там спрачаліся яе сын з нявесткай. Не да таго ёй было зараз, не да таго...

У памяці ўсплыло тое, аб чым размаўляла з Любкай перад сваім ад'ездам сюды, у Мінск да Валодзі. Любка ж і ўзбіла яе на гэтую паездку.

— Едзь, мамо, сэрца ж у Валодзі не камень, павінен уразумець, дзіця ж не павінна сіяцінаю гадавацца, калі бацька жывы...

«І ў каго ты ўдаўся, мой сыне? У Ладымера? Не, той бы так не зрабіў. Той мухі ніколі не пакрыўдзіў, а то ж чалавек жывы...»

Пад сэрцам запякло ад такіх думак, і яна ўстала, апранулася, пайшла ў ванную спаласнуць твар.

Умывалася і меркавала: «Людзі ж па сяле балабоняць, языкі ім не завяжаш. Хоць на вуліцу не паказвайся, сорамна глянуць каму ў вочы. А мо і дарма яна сарамаціцца перад людзьмі, мо пра тое Валодзя нічога не ведае і не знае? Ці зрабіць выгляд, быццам ёй усё ад-

но? Жыць сабе спакойна, як і жыла. Тады як быць з сумленнем?»

Уявіла Валодзю ў хвіліну, калі яна гаворыць яму аб усім. Цікава, што ён скажа ёй, ці павернецца ў яго язык, каб апраўдвацца, выгароджваць сябе? Упікнуць яе ён не ўпікне, не мае на тое права: яна напакутавалася, пакуль адна, без Ладымера, падняла ўсіх траіх на ногі, вучыла, памагала, як магла, і цяпер, як можа, памагае. Робіць магчымае і немагчымае часам, каб толькі ім, яе дзецям, жылося добра і спакойна. Хіба ёй мала дастаецца ад таго, што ў Любкі жыццё склалася не так, як трэба? Дзе яна не бывае, што не робіць — думае пра яе, дачку, і так хочацца, каб у яе сямейнае жыццё пайшло на лад...

З Любкай і Сяргеем у яе ўсё проста. З імі яна і пагаварыць умее, і цыкнуць на іх, калі што, не пабаіцца, і падказаць, дзе бачыць у гэтай сваёй падказцы патрэбу, не саромеецца. Любка без яе загінула б з гэтым сваім валацугам: ні крыкнуць на яго, ні патрабаваць ад яго, каб канчаў выкідваць свае п'яныя конікі, дачка не ўмее. Надзя і Грышку ў косці ўсыпле, дасць добрага прачуханца, і Любку прабярэ:

— Мужыка трэба ў кулаку дзяржаць, а ты знаеш адно: маўчаць, язык як прысох у цябе да нёба, а тут трэ не маўчаць, трэ ўладу яму сваю паказаць, а то ён у цябе саўсім ад рук адаб'ецца.

На Сяргея яна таксама, калі тое трэба, і крыкнуць можа, і смаркачом зялёным назаве, насварыцца, што на жончыны плечы ўзваліў усе дамашнія клопаты, а сам парой забаўляецца немаведама дзе, цёмначы з работы дадому вяртаецца...

Старэйшага сына яна любіць, але накрычаць на яго проста так у яе язык пакуль не паварочваецца. Валодзя ў яе з характарам. Калі што не па ім — увачавідкі пазелянее, закіпіць... А цяпер ён вунь ужо і начальнік, ды і даўно з'ехаў з дому. Надзя бачыць, што старэйшы сын пасур'ёзнеў, стаў незразумелым для яе, і яна, калі размаўляе з ім, баіцца, каб не сказаць часам чаго не след. Таму мо яна ніяк і не асмеліцца загаварыць вось так адразу пра тое, з-за чаго і выправілася ў лютаўскую завею з дому да яго, у Мінск. Таму яна ў Валодзевай хаце і паводзіць сябе цішэй вады, ніжэй травы... Але... і не маўчаць жа ўвесь час...

Яна ўжо ўмылася, пайшла на кухню, глянула ў акно, за якім пасвятлела і выразней абазначыліся прадметы, дамы, людзі, бо зімовы дзень трохі падоўжаў і смялей выцясняў перадрашнія прыцемкі.

Села на белы нізенькі табурэт перад акном, падперла рукой падбародак...

## 6

Каласкі, вёску, дзе жыве Надзя, нельга ўявіць сабе без гэтай бярозы, што расце на ўскрайку сяла, на самай мяжы шырокага поля і ляснойзатравелай палянкі. Бяроза высокая, прамая, галлістая.

Аблюбавалі было гэтую бярозу дзеці-падлеткі. Яны ўзялі надрэзалі адну галіну, на тоўстым суку прыладзілі арэлі-гуталку. Днявалі і начавалі на гуталцы ўсе, хто вырас, падрастаў. Жанок і мужчын, што падыходзілі другі раз сюды, да бярозы, у халодны пот кідала: здаецца, аж пад неба сігалі двое дзецюкоў на гуталцы, як толькі сэрца вытрымлівае такую хуткасць і вышыню?

Аднаго разу з гуталкі сарваўся Міколка Падневічаў, нагу, руку зламаў, сам увесь у сіняках, як і ўцалеў — невядома. У той жа дзень прыйшоў стары Падневіч да бярозы з пілой і сякерай, хацеў спілаваць, паваліць паваламі яе. Людзі не далі яму зрабіць гэтай чорнай работы: «Хіба дрэва ў чым вінаватае? Лезе твой смаркач усюды, вось і дайграўся, каравуль яго, пакажы папругу, каб не забываў, а то яшчэ і вязы скруціць сабе. А прыйдзе вясна, то кваску бярозавага хоць напіцца можна, нідзе ж болей так блізка бяроз няма».

Спілаваў Падневіч толькі сук, на якім трымалася гуталка, на трэскі пасек арэлі і кулаком памахаў хлопцам: «Паспрабуйце мне шчэ хоць раз прыстроіць на бярозе свае чортавы арэлі, не бачыць вам дрэва — ноччу прыйду і павалю!»

Не, дарма дзядзька Падневіч проціў бярозы настроіўся! Пад бярозай улетку так добра хавацца ад спякоты, ад ліўневых дажджоў, сабрацца гуртам, пагаварыць пра сенакос, уборку, дажынкі, а вясною напіцца халодна-салодкага бярозавіку...

А моладзь заўсёды ўвечары, калі пачынае цямнець, збіраецца пад бярозай, нехта абавязкова прыйдзе з гармонікам, нехта з бубнам — і пачынаюцца танцы на тра-

ве. Пасля танцаў спявалі свае, пачутыя ад старэйшых, каласкоўскія песні, дурэлі, крычалі, бы дзеці.

Неяк наведаўся сюды, да бярозы, у адзін з летніх вечароў, і Валодзя. Пачуў, як там парыпвалі на гармоніку, і не вытрываў, захацелася яму глянуць, што там за вячоркі ў яго равеснікаў.

— Дзевачкі, гляньце, хто да нас ідзе! — бы сарока, затараторыла Лена, яго суседка.

— Не пускайце яго ў наш гурт,— жартаўліва запратэставалі дзяўчаты,— у кіно без білета і не шкні, не пусціць.

— Перастаньце, сакатухі, зубы лупіць, чалавек жа на рабоце, і што было б, каб ён усіх знаёмых бясплатна пускаў, яму ж кожны ў вёсцы знаёмы,— уступіліся за Валодзю хлопцы.

Ён разумеў, што дзяўчаты кпяць з яго: ён не паяўляецца там, дзе збіраюцца яны. Ні на вяселлях, ні на провадах у армію яго ніколі не бачылі. Не-не ды хтонебудзь калі і раней жартаваў з яго:

— Ты, браце, ці не ў баптысты запісаўся?

— Вам толькі пагулянкі сняцца.

— Сушы, сушы мазгі, на табе і так адна скура ды косці, сухі, як таран.

Той парою ён і праўда выглядваў, бы трысцінка: вучоба ў інстытуце, работа, вечныя бадзянні па чужых сёлах, не заўсёды ўдавалася добра паесці, уволю выспацца.

— Што худы — не бяда,— жартаваў Валодзя,— на жывой касці мяса нарасце.

Той раз ад бярозы ён пайшоў не адзін, з Ленай. Вёска патанула ўжо ў начной цемры, спала, маўчала. Толькі на другім краі сяла сумна скуголіў сабака.

З Ленай Валодзя некалі бегаў разам у школу. Ён, праўда, на два класы наперадзе яе ішоў. Яна ў тыя гады была невысокая, худзенькая, з доўгімі косамі, што падалі на плечы, твар бледны, у рыжых крапінках-вяснянках — бы птушынае яйка. А вочы ў Ленкі і тады былі як спелыя-пераспелыя вішні: чорныя, з яркім бляскам.

Гадавалася Лена ў сваёй бабулі. Маці яе пуцявым абходчыкам рабіла, і што там здарылася, Валодзя не ведае, але яна трапіла пад колы цягніка, і ёй адрэзала абедзве нагі. Пакуль давезлі яе да бальніцы, то яна стра-

ціла багата крыві і выратаваць яе дактары не змаглі.

Ленцы тады тры гадочкі мінулася, хіба яна помніць маці? А пра бацьку не ведала не толькі яна, Ленка, не ведала і бабуля. Завербавалася некалі яе маці на Поўнач, на мастапоездзе рабіла, прарабіла ўсяго нейкіх два гады і вярнулася. Ды не адна: з дзіцём на руках.

Валодзя помніць: у маленькай хатцы, на шырокім дубовым стале, ляжыць Марыля, Ленчына маці, і твар у яе воскова-жоўты. Там, дзе павінны быць ногі, нейкая пустата, прыкрытая адбеленым у жлукце палатном, што пасабіралася ў складкі. У хатцы пахне паленым воскам: гарыць свечка, якую нечага ўторкнулі мёртвай Марылі ў рукі, што складзены крыж-накрыж на грудзях.

Перад Марыляй з сумна-журботнымі, поўнымі слёз вачыма, схілілася яе маці, Ленчына бабуля. Бабуля трымае на руках Ленку, ціха і доўга плача, прыгаворвае: «Б-о-ожачк-і-і ма-е-е, на каго ж ты, Ма-а-ары-ылечко-о дзетка сваё-ё-ё па-а-акі-і-іну-у-ула-а, а чаго ж так ра-а-но-о закры-ы-ылі-іса твае во-очы-ы-ы...»

У хатку ўваходзіць дзядзька Адам, іхні сусед. Зіма, але Адам з непакрытай галавой, ён разгублены, з сякерай у руках. «І для чаго ён узяў сякеру?» — думае Валодзя, які затаіўся з Сяргеем у парозе, пазірае, як уваходзяць у хату жанкі з падвязанымі трохі ніжэй падбародка хусткамі, спешна хрысцяць свой лоб, шэпчуць незразумелыя малітвы.

Услед за дзядзькам Адамам у хатку ўносяць дамавіну. Яна пахне свежымі стружкамі, смалой-жывіцай. Паставілі дамавіну на падлогу ля стала, на якім ляжыць Марыля. Адам падыходзіць да дамавіны, становіцца на калені. Жанкі падаюць яму салому, сувой палатна. Адам усцілае дно дамавіны саломай, што пахне ветрам, марозам, хлявом. Яшчэ, здаецца Валодзю, тая салома пахне леташняй пожняй. Зверху саломы Адам сцеле палатно, абівае тым палатном сценкі дамавіны. Абівае і вечка...

У акно відаць: пад'язджае нехта на санях. Марылю жанкі асцярожна здымаюць са стала, кладуць у дамавіну, мужчыны падымаюць дамавіну на рукі, кіруюцца да дзвярэй, але доўга не могуць выбрацца з прахода, цесна з дамавінай у дзвярах...

Жанкі так загаласілі, што ў Валодзі ад іх прычытанняў-божканняў аж у грудзях цесна стала, дых заняло. Валодзя бачыць, што і маці яго тут. У сваім сукон-

ным паўсаку, залапленым на локцях, у шытых валёнках з бліскучымі галёшамі, яна стаіць сярод жанок, і па абедзвюх шчоках у яе бягуць слёзы.

Возчык нокае, сані кранаюцца. У санях, збоку дамавіны, сядзіць Ленчына бабуля. Яна ўжо не прыгаворвае, але вочы яе не высыхаюць. Ленка ў бабулі на руках. Дзіця апранулі ў некалькі адзежын, зверху на ёй, Ленцы, маленькая чорная ватоўка, на галаве — вялікая канаплянка, што закрывае лоб, спускаецца да самых вачэй. Дзяўчынка вытрашчыла свае чорныя вочкі, сядзіць спакойна, яна не разумее, чаму гэта сёння дарослыя, бы тыя дзеці, румзаюць і румзаюць. Пужае яе толькі адно: мамка нечага ўсё ляжыць і ляжыць, не ўстае і не гаворыць з ёю...

Даўно тое мінулася, і яму, Валодзю, проста не верыцца, што гэта стройная, прыгожая дзяўчына, з якой ён ідзе ад бярозы — тое самае худзенькае дзіцё з доўгімі заплеценымі косамі на плячах. «Сарока-белабока, Сарока-белабока, навучы мяне лятаць далёка»,— не раз хапаў Валодзя яе за косы, калі яны хадзілі ў школу. Аднойчы дзяўчынка заплакала, калі ён тузануў яе, бы за лейцы, за косы. Яго паставілі перад усім класам, і дырэктар школы, невысокі хударлявы мужчына з асіплым голасам, спытаў у яго: «Ты чаму яе крыўдзіш, яна ж круглая сірата?» Ён маўчаў. «Чаму крыўдзіш дзяўчынку?» — паўтарыў грозна дырэктар, але ён толькі надзьмуўся, пазіраў спадылба на клас і па-ранейшаму маўчаў. «Мне сорам за цябе, Голік, сядай,— прамовіў дырэктар,— твой бацька — герой Айчыннай вайны, вось каб ён жывы быў, ён не пашкадаваў бы для цябе сваёй салдацкай папругі, ён бы табе паказаў...»

Пасля дзевятага класа ён паехаў вучыцца ў Гродна, у вучылішча кінамеханікаў, і калі восенню выкладчык літаратуры не ўбачыў яго за партай, з палёгкай уздыхнуў: «Вось і добра, а то ў яго адны хвасты па майму прадмету, толькі клас назад цягнуў». Мова і літаратура сапраўды цяжка даваліся Валодзю, а па матэматыцы, хіміі, фізіцы яго хвалілі. Але не з-за таго ён кінуў школу, што з літаратурай у яго не ладзілася: ён адчуваў і разумеў — маці адной цяжка іх карміць-адзяваць. Ён вучыўся ў вучылішчы, а на канікулы прыязджаў дадому і рабіў усю дамашнюю работу: касіў-вазіў сена, рэзаў дровы, сеяў соткі... Яго ніякая работа не страшыла. Ён

рос і сам здзіўляўся, як хутка сталеў — моцныя ногі ў кірзавых ботах, далоні ў цвёрдых мазалях, вочы насупленыя, па-мужчынску строгія...

Усё гэта прамільгнула ў Валодзевай галаве за кароткія хвіліны, за час, калі ўсе дзяўчаты і хлопцы знарок адсталі, пакінулі іх удваіх, і ён ішоў з Ленкай ад самае бярозы паволі.

Неўпрыкмет яны ўвайшлі ў сяло, уладкаваліся-прыселі на бярвеннях, скочаных пад плотам у дзядзькі Адама. Хоць і лета, але холадна на дварэ, з агародаў патыхае вільгаццю. Чутно, як за вёскай, каля сажалкі, не сціхаюць жабы, у калгасным садзе расхадзіўся, спрабуе свае лады-каленцы салавей.

Ад холаду Ленку кідае ў дрыжыкі. «Бр-р, кроў у жылах стыне,— смяецца яна,— пастарэла, мабыць, я, летам замярзаю».

Валодзю становіцца няёмка: «Расселся, дзяўчыне даў замерзнуць». Упохапкі здымае з сябе пінжак, накідвае яго на плечы Ленцы. Яна ўпарціцца: «Ды што ты, я пажартавала, ды і ці не пара нам па хатах расходзіцца?»

— Выспацца паспеем, першыя ж пеўні толькі адкукарэкалі, а да другіх разбяжымся,— адказвае ёй Валодзя.

Пахне кветкамі, мятай. Валодзя круціць галавой, бачыць: пад вокнамі ў дзядзькі Адама бялее мальва. Ён устае, крадзецца да плота. Ленка шэпча яму: «Сядзі, вунь у Адама ж сабака, бы тыгр, калі не дай божа адвязаны, парве». Ён толькі ківае галавою: «Мяне ў Каласках усе сабакі ведаюць». І пералазіць цераз плот. Тут жа з двара падаў голас сабака, Валодзя ні жывы ні мёртвы: а раптам прачнецца Адам, выпрэцца з таўкачом і не паглядзіць, што ён сусед, а так апярэжа, што і не ўстанеш... Становіцца страшна, але ён не траціць надзеі паманіць сабаку, уціхамірыць яго, прылашчыць, і ён паціхеньку падае голас: «Тарзан, Тарзан, ціха ты, сваіх не пазнаў?» Сабака поначы і праўда не пазнае яго, злуе, аж заходзіцца, гырчыць бясконца, будзіць сваім брэхам усю вёску.

Забыўшыся на кветкі, якія былі так блізка ўжо, Валодзя сігае назад да Ленкі, хапае яе за руку, і яны бягуць далей ад бяды. Добра яшчэ, што хоць вароты зачынены і сабака на прывязі, не можа пагнацца за імі, ■ то мог бы і пакусаць. Здаецца, і Адам прачнуўся, паказаў-

ся на двары, бо чуцён яго злы голас: «Каму й та не спіцца?» І пужае незаўважанага злодзея: «Вазьмі яго, Тарзан, вазьмі!»

Яны адбеглі за вузкакалейку, схаваліся, хоць іх ніхто і не даганяў, за калгасную сушню. Задыхаліся, Валодзя смяецца і перарывістым голасам кажа:

— Ведаў бы Адам, хто лазіў да яго ў агарод, век не стаў са мною здароўкацца.

— Казала ж табе — не лезь, дык не!

Ленка прысланілася спіною да сцяны сушні, пазірае на яго і заліваецца ціхім смехам: «Ось дык кветачкі!»

Валодзя раптам прытуліў Лену да сябе, пачаў цалаваць і з кожным пацалункам п'янеў усё болей... Ён быццам толькі цяпер убачыў і адчуў, якая яна прыгожая, пяшчотная, трапяткая...

Праводзіў Лену дадому, калі стала развідняць. Яна зачыніла за сабой веснічкі, узбегла на парог, скрыпнула дзвярыма, павярнулася тварам да яго, засаромелася, памахала рукой, прамовіла, каб ён пачуў: «Да заўтра!» Ён усміхнуўся, падумаў: «Якое там да заўтра? Да вечара!»

Ішоў дадому, дзівіўся сам з сябе: «Вось табе і на! Дзень у дзень, лічы, сустракаў яе на вуліцы, у клубе, ля калодзежа, а праглядзеў, як не заўважыў, якая яна... прыгожая». Падумаў так і паглядзеў у канец сяла, убачыў, як барвовае зарыва ўпала на вяршаліну бярозы: над вёскай займаўся дзень.

## 7

Надзя заўважыла: зачасціў нешта сын у сваю вёску з кінаперасоўкай. Раней у два тыдні раз з'яўляўся ў Каласкі, а цяпер прыедзе, затрымаецца на столькі, на колькі можна, і так ужо яму не хочацца пераязджаць у другое сяло.

Ад яе, ад маці, Валодзя стараўся ўтаіць прычыну частых затрымак у Каласках. Смешны ён, шыла ў мяху не схаваеш.

— Глядзі ж, сыне, не крыўдзі Ленку, яна і так сірацінка сірацінкаю гадаваласа, нічога добрага не бачыла, калі расла і пакуль на ногі паднялаcа,— загаворвала з сынам Надзя.

Не хацелася Валодзю гаварыць з маці пра гэта. Ён не любіў, што яна лезе туды, куды яе не просяць.

— Не маленькі я, маці, што ты мяне вучыш, сам якнебудзь разбяруся.

Яна бы і не заўважыла яго сярдзітага голасу:

— Ленка дзеўчына дай божа, і работы ніякай не баіцца, і тварам удаласа: даждацца б такой нявесткі.

— Вунь куды ты, мамо, хіліш! — узрываецца Валодзя.— Скуль ты ўзяла, што я сабраўся жаніцца? А мо Лена за мяне і не пойдзе? Я ж не свабодны, у мяне інстытут яшчэ не закончаны.

— Бач но ты на яго! — абурылася Надзя.— Дак табе надумаласо ў забаўкі пагуляць! А дзеўка мо сур'ёзна думае? Чаго б, падумай, яна стала з табой валаводзіцца?

Ад гэтага сынавага прызнання Надзі стала проста нядобра. Дзіцятка, яе Валодзька, гэтая шчымліва-родная істота, яе сыночак, у якім, калі гадавала, бачыла сэнс сваёй горкай долі, здольны так вось рабіць? Суровымі вачыма паглядзела на сына, адчула нейкую ўнутраную духату, душэўную сціслaсць. Яна знямела стаяла з ёмкай каля печы, у якой палалі-патрэсквалі дровы, чакала, калі адхлыне ад сэрца гэты пякучы боль. І як толькі трошкі адпусціла, паставіла ёмку ў качарэжнік, падышла да канапы, што стаіць ля сцяны наўпроці печы, бяссільна апусцілася, пакруціла галавой:

— Мой ты Валодзік, хібе ж так можна рабіць? Ленка ж адна, на ўсём етом белом свеці адна, а ты...

Паглядзелі адно на аднаго, і Надзя заўважыла, што ім абаім стала не па сабе.

— Чалавек ты мой! — уздыхае Надзя, нервова распраўляючы рукамі складкі чорнай спадніцы на каленях. Прыжмуранымі вачыма пазірае на сына — ці не смяецца ён з яе старэчых думак? Ці разумее, чаму яна перажывае за яго?

Устае, выходзіць на двор, кіруецца на вуліцу. Без усялякай увагі абвяла-абмерала позіркам соткі, гарод, у якім цвіў жоўтым цветам агурочнік, чырвонымі жылкамі свяцілася бураковае бацвінне, лапушылася доўгім зялёна-шырокім лістам бручка.

Расчыніла веснічкі, выбралася на вулічны ветрык, прысела на нізкую, з адной дошкі, лавачку, што прыстаўлена спінкай да плота. Села, утаропілася вачыма ў зямлю, сырую і вільготную ад нядаўняга дажджу, зарослую сабачым рамонкам, і цяжка маўчала.

Праўда, на вуліцы Надзя паступова пазбаўлялася ад

крыўды, што нагарнулася на яе ад нядаўняга сынавага прызнання. Сабралася была тут жа пайсці да Лены, пераказаць-перапрасіць яе, каб тая болей не сустракалася з яе сынам. Ды разважыла, што Ленка не зразумее яе, закрыўдуе. Рашыла, што возьме з сына слова, каб перастаў прыязджаць у сваю вёску, каб забыў Ленку...

Яна дамаглася свайго: Валодзя пакляўся, што і нагі яго не будзе ў Каласках, паедзе з кінаперасоўкай на далёкія сёлы...

І праўда. Месяцы з два ён не паказваўся. І гэта ўсхвалявала, затрывожыла Ленку. Яна не-не ды і забяжыць да Надзі, прыдумае што-небудзь, каб заглянуць да яе ў хату: то пласцінкі пакруціць-паслухае, то солі ці газы пазычыць. Паслухаўшы музыку ці ўзяўшы, што ёй трэба, выходзіць, затрымаецца ў парозе, бы між іншым, спытае:

— Нечага вашага Валодзі не відно, ці не з'ехаў ён насаўсім куды?

Пазірае яна на Ленку, маўчыць, бы рот ёй завязаў хто, думае: «Не дзеўка — вішанька стройная. Вось балбес Валодзька, такую дзеўку ўпускаць...»

Вымушана маніць:

— У іх жа, у етых кінаўшчыкоў, сёл па раёні хапае, пакуль усе аб'едзе...

У вачах у Ленкі, бы раса, выбліснулі слёзы. Не дапаслухаўшы Надзю, яна выбягае. Схіліўшы набок галаву, Надзя глядзіць, як дзяўчына пратупацела пад вокнамі, і перад яе, перад Надзінымі, вачыма, як бы сцелецца дрогкі, халодны туман...

Тым жа летам Валодзя разлічыўся на рабоце, бо быў на апошнім курсе інстытута, збіраўся паехаць у Мінск, дзе яму трэба было вытрымаць дзяржаўныя экзамены, абараніць дыплом.

Перад самым ад'ездам заскочыў дадому, каб сабраць чамадан, тое-сёе прачытаць, успомніць, яшчэ раз глянуць-перагартаць, удакладніць дыпломны праект.

Ён сумысля не выходзіў з хаты, баяўся сустрэць Ленку. Думаў: вось выйдзе, убачыць яе і аб чым загаварыць, як вытлумачыць тое, што два месяцы дома не стыкаўся? Ды растлумачыць яно яшчэ і можна, але ж, ведаў: убачыць Ленку, тады яму не да дыплома будзе, палезе ў галаву рознае...

Клаў у чамадан падручнікі, канспекты, чарцяжы, а ў вачах стаяла яна, Ленка. І ён зразумеў, што нікуды не

паедзе, пакуль не пабачыць яе, не пагаворыць з ёю. Са злосцю стукнуў вечкам чамадана, засунуў яго пад ложак, захадзіў па хаце.

Каб убачылі вясковыя, што ён не дзе-небудзь зараз, а дома, выйшаў на двор, узяўся за дровы. Надзя давай яго сунімаць:

— Адпачні, сыне, ці ж Сяргей не пасячэ?

Толькі буркнуў сабе пад нос:

— І ў мяне рукі не адваляцца.

Сказаў, і нават не разагнуўся, не перапыніў работы, каб паглядзець на Надзю. Угоніць сякеру ў цялеш, схопіцца за тапарышча, гляне мелькам у бок Ленчынай хаты, ці не выйдзе яна: не, мабыць, увесь дзень недзе на рабоце, бо ля дома і не паказваецца...

Дачакаўся вечара, і як толькі сцямнела, і ў клубе высветліліся вокны, апрануўся, пакіраваўся туды. Маладзенькі кінамеханік, невысокі, глухаваты, з сумкай на плячы, прадаваў білеты. Валодзя яго трохі ведаў: кінамеханіка звалі Колем, сам ён з Вуглоў, у раённым кінапракаце працуе трэці месяц. «Механік, хлопча, з цябе яшчэ зялёны»,— думаў пра калегу Валодзя.

Падышоў, павітаўся з Колем, спытаў, ці павячэраў той дзе. Коля недачуў, пра што ў яго спыталі, і бухнуў: «Крутыя горкі». Валодзя схапіўся за жывот, зарагатаў: «Пень ты глухі, Колька, не пра фільм жа я ў цябе пытаю, а пра тое, ці не іграюць твае кішкі марш, ці не галодны ты. Калі галодны, то давай пасля сеанса да мяне, маці пакорміць».

Хацеў Валодзя пагаварыць з Колем яшчэ, але тут убачыў, як да клуба ішлі дзяўчаты. І сярод іх яна — у белых бліскучых туфлях на высокім абцасе, белай, вышытай на рукавах, па беражках і знізу сукенцы з шырокім поясам пасярэдзіне. Сукенка цесна аблягала яе выточаны стан. Валодзя, як згледзеў яе, ледзь стрымаў сябе, каб не падбегчы адразу да яе і не загаварыць. У нерашучасці ён стаяў каля Колі, пазіраў на дзяўчат і не ведаў, як яму быць: зараз падысці да іх ці пасля.

Пакуль ён вагаўся, перамагаў сваё хваляванне, дзяўчына ў белай сукенцы, то і была Ленка, заўважыла яго, падышла, засакатала сваім тоненькім галаском, укалола:

— Згінуў ты недзе, Вовік, хоць бы адрас пакінуў, дзе цябе шукаць, куды пісьмы слаць.

Хутчэй адчуў, а не ўбачыў, як ад яе слоў зачырванеўся, і толькі змог выціснуць з сябе:

— Работа, вучоба, заматаўся, закруціўся, забыўся, на якім свеце жыву.

Асмялеўшы трохі, ціхенька прамовіў:

— Не пазнаў цябе, багатай будзеш.

— Багацце — не шчасце...

Яна недагаворвае, раптоўна замаўкае, і ён разумее — крыўдзіцца Ленка на яго...

Асцярожна кранае Лену за плячо:

— Давай пасля кіно пагаворым.

Яна паціснула плячыма.

— Думаеш, я сляпая, нічога не бачу? Не перажывай, я не крыўдую, табе відней, з кім хочаш, з тым і сустракайся, я на шыю нікому не вешаюся і табе, Вовік, упоперак дарогі не стаю.

Сабралася ісці ў клуб, але ён затрымаў яе за локаць.

— Зразумей: я ж вучуся, працую, дома раз у год бываю.

— Не лячы зубы, не трэба.

Павярнулася і пайшла, не стала слухаць, даючы яму зразумець, што хопіць яму гуляць з ёю ў хованкі, хопіць вадзіць яе за нос. І, зразумеўшы гэта, ён адчувае, як па спіне ў яго прабягае халадок.

Ленка, адышоўшы ад яго, купіла білет і хутка знікла за дзвярыма. Ён стаяў на адным месцы, хацеў скрануцца, але адчуў, што ногі не ідуць, ён раззлаваўся сам на сябе: «Так табе і трэба, заслужыў...»

Не ведаў, што яму зараз рабіць: ісці дадому ці пачакаць, пакуль закончыцца фільм. Мо пасля Ленка трохі астыне і яму ўдасца пагаварыць з ёю?

У клуб не пайшоў, нервова праходжваўся каля дзвярэй, дзе кінамеханік заканчваў прадаваць білеты.

Заглух раптам рухавічок, пагасла лямпачка, якая вісела на вушаку каля ўваходных дзвярэй.

— Валодзь, га, Валодзь, выручы, браце, напарнік мой недзе затрымліваецца, а мне аднаму тут не ўправіцца, сыду з дзвярэй — дзяцей наплыве повен клуб,— пачуў Валодзя Колеў голас.

— Добра, стой тут, пайду паспрабую тую тваю каракаціцу ажывіць,— сказаў Валодзя і пакіраваўся па другі бок клуба.

Ля яго тут жа сабраліся мужчыны. Шафёры давалі

яму парады, казалі, што трэба зрабіць, каб хутчэй запусціць рухавічок. Валодзя злаваў:

— Не блытайцеся пад нагамі, тут і так поначы не разабрацца, што да чаго! Ды і машынцы гэтай даўно б стаяць у музеі, яна ледзь дыхае, а ад яе хочуць яшчэ нейкага толку.

Шафёры з ім не згаджаліся:

— У добрых руках етая каракаціца, як ты кажаш, шчэ столькі можа служыць, што і нас паражыве...

Яму свяцілі кішэнным ліхтарыкам, і ён выкруціў, ачысціў ад нагару запальную свечку, адрэгуляваў зазоры ў магнето, уставіў у адтуліну завадную ручку, крутнуў — і рухавічок затросся, бы ў ліхаманцы, запыхкаў выхлапной трубой, і на вушаку дзвярэй затрымцела-загарэлася чырвоным дрыготкім агнём лямпачка.

Вярнуўся да Колі, той уступіў яму дарогу, запрасіў, каб ён праходзіў у клуб і садзіўся дзе на свабоднае месца. Але Валодзя як прырос да дзвярэй, сказаў:

— Давай пускай першую частку, я пастаю на дзвярах.

Пазіраў не на экран, а на Лену. Яе вышытая сукенка бялела ў сярэдніх радах, збоку: «Няўжо ні разу не азірнецца, не гляне ў яго бок?» Не, яна быццам і забылася на яго існаванне. Але глыбока-глыбока ў сэрцы загараецца надзея: а раптам?

Пасля сеанса яна пайшла дадому з дзяўчатамі-суседкамі. Ён адразу, каб не згубіць яе з вачэй, прыклеіўся да гэтай дзявочай кампаніі.

Калі наблізіліся да Ленчынай хаты, яна развіталася з усімі, пайшла да свайго двара. Дзяўчаты, з якімі была Ленка ў кіно, хутка разбегліся па хатах, і Валодзя застаўся сам-насам з ёю. Ленка, праўда, адразу кінулася да веснічак, хацела зачыніць іх, але ён спрытна падставіў нагу, з размаху дзверцы балюча выцялі па костачцы, але ён бы не пачуў таго болю, нават не скрывіўся.

— Ну, чаго ты кіпяцішся, прабач мне, вінаваты я, але я вельмі хачу, каб ты выслухала мяне, на днях я еду ў Мінск.

Як і ў той, у першы раз, яны пайшлі да бярозы, Валодзя зняў з сябе пінжак, услаў ім зямлю, і яны, прыхінуўшыся адно да аднаго, сядзелі і шапталіся. Валодзя бясконца абдымаў Ленку, гарнуў да сябе, пазіраў ёй

у вочы і бачыў, што яна задумлівая і як бы хоча спытаць у яго аб чымсьці ды саромеецца...

Упершыню ў той вечар злавіў сябе на думцы, што пачаў пра Ленку думаць сур'ёзна. І як гэта здарылася так, што ён і не заўважыў нават, калі яна ўвайшла ў яго жыццё?

Думаючы пра яе, ён пытаўся ў сябе: ці мае ён права кружыць дзяўчыне галаву? Маці праўду кажа: ён ходзіць на спатканні мо так сабе, а Ленка — дзяўчына сур'ёзная...

І тут ён, здаецца, пачынаў разумець сябе: ён проста дрэнна ведае дзяўчат. Ды і не дзіўна. З кім з іх раней ён па-сапраўднаму сустракаўся? Яго равеснікі пачыналі жаніцца, а тыя, што не жаніліся, хваліліся, калі збіраліся ў сваёй мужчынскай кампаніі, поспехамі ў жанчын. Яму было агідна слухаць тыя размовы, а балабона, які выхваляўся, што нарваўся на дзеўку і сарваў кветачку, Валодзя называў дурнем, пустазвонам, не верыў, што такі чалавек можа пакахаць...

Ленка стала першым яго сур'ёзным захапленнем, яго каханнем. Праўда, яму думалася, што каханне — пачуццё асаблівае, узнёслае, а ў яго з Ленкай быццам усё проста. Толькі ён не мог вытлумачыць, чаму гэтая простая дзяўчына завалодала яго думкамі, чаму, калі ён глядзіць на яе, у яго пачынае кружыцца галава, а сам ён нібы хмялее, траціць здольнасць цвяроза думаць і разважаць...

А іншы раз яго ахоплівала дзіўнае пачуццё — ён быццам пазіраў сам на сябе збоку і пытаўся: ці так ён паводзіць сябе з ёй, ці не крыўдзіць яе? Адзіноцтва, у якое замкнуўся перад сваім ад'ездам у Мінск, усё часцей і часцей прыводзіла яго да гэтых разважанняў. І тады яму пачынала здавацца, што ён не ўмее валодаць сабой, сваімі пачуццямі. І яшчэ ён злавіў сябе на адным: Ленка неяк непрыкметна навучылася адгадваць тое, што робіцца ў яго на душы, кіруе яго настроем так, як ёй захочацца. Але хіба можна было злаваць на яе: яна ж, бачыў тое, добрая, душой і сэрцам хінецца да яго. А маніць яна проста не ўмее. І ўсё, што б ні рабіла, што б ні казала яму, выходзіць у яе проста і натуральна, шчыра. А ён? Ці разабраўся як след ён у сваёй душы?..

Прыйшоўшы раніцай дадому, ён уяўляў яе такой, якой бачыў там, каля бярозы. І яе голас, і твар, і вочы,

рукі, якімі яна злёгку ўзмахвала, калі размаўляла з ім. А калі закрываў вочы, бачыў яе, як жывую, спрабаваў «загаварыць» з ёю. Часам яму гэта ўдавалася. У вушах звінеў яе голас:

— Разумееш, Вовік, самае страшнае ў чалавеку абыякавасць.

— У чый агарод ты каменьчыкі пускаеш?

Яму ўяўляецца, як яна прыжмурвае вочы, страляе кароткім позіркам у яго бок.

— Ды не... Я проста так... Задумалася,— кажа Ленка,— мабыць, ты ведаеш: усё сяло гаворыць, што мы з табой... Дзяўчаты ўжо не раз падколвалі мяне, пыталі, а я прыкідваюся дурніцай і маўчу... Табе, мабыць, прасцей, ты ўсё-такі мужчына...

— Гм-м... Цяпер быццам усё разумею,— са злосцю адказвае ён.— Толькі калі слухаць, што дзе гавораць... Мы самі за сябе вырашаем, і нам лепш знаць...

Ён бачыць: ёй спадабалася, што яна прымусіла яго задумацца. Яна гаворыць яшчэ аб чымсьці. І калі гаворыць, то стульвае губы трубачкай, робіць кароткі ўдых, загадкава і хітра пазірае на яго, бы пераконваецца, ці ўважліва ён слухае яе. З кароткім прамым носам, густымі, што сыходзяцца ля пераносся, чорнымі бровамі, вялікімі вачыма, яе твар раптам асвятляе ўсмешка, ад якой Ленка харашэе, робіцца яшчэ больш прывабнай. Пазіраючы на яе, ён невядома чаму трывожыцца, хвалюецца...

Ён усё стаіць каля свае хаты, думае пра Ленку, і нечага растрывожыўся, адчуў, як яму стала цесна і душна ў гэты сонечны летні ранак. Яму ўсё ўяўлялася зараз, як ён гаварыў з ёю ўсю ноч там, ля бярозы. Уяўлялася, як ён прыхінуўся тварам да яе пляча, маўчаў, баючыся першага свайго слова і руху. Світала ўжо, і вакол стаяла цішыня, якую парушыў нечакана дзяцел, што звонка, ці не на бярозе, якая на ўскрайку сяла, тэлеграфаваў птушынаму свету аб пачатку дня.

Як бы здрыгануўшыся ад дзятлавага стуку, яна паглядзела на яго і загаварыла. У яе голасе чуўся несхаваны сум.

— Ты не жартуеш, Валодзя? Не памыляешся, што я табе патрэбна?

— Ну што ты, Лянок,— ён упершыню назваў яе так і сам нікольк не здзівіўся таму, як гэта выйшла ў яго

шчыра і натуральна,— не даймай мяне, ведала б ты, як не хочацца зараз мне ехаць у Мінск, але ж трэба.

— Едзь, толькі адразу пасля экзаменаў з'яўляйся, не прыедзеш — я зразумею гэта па-свойму...

— Каб толькі хутчэй, Лянок, здаць экзамены, абараніць дыплом — птушкаю сюды, і...

Ён радаваўся, вельмі радаваўся, што яна зноў стала з ім сустракацца, стала, як раней, пяшчотнай, гатовай дзеля яго, Валодзі, на ўсё. І ён зразумеў у той ранак, калі вярнуўся з Ленкай ад бярозы, што гэтая дзяўчына ўзрушыла, кранула яго сэрца. Ёсць у ёй нешта, што прываблівае яго.

## 8

Маці яго прыспешвала:

— Пара ехаць, сыне, пакуль заедзеш, знойдзеш, дзе кватараваць, то і экзаменам тваім пара настане.

Яму няёмка станавілася ад гэтых слоў: то патрабаваў, каб хутчэй збірала ў дарогу, то раптам бы зусім перадумаў ехаць.

Адгаворваўся:

— Дома ўсё-такі спакайней, трохі яшчэ тое-сёе прагледжу, канспекты, кніжкі пагартаю.

Надзя круціла галавою, парывалася яму нешта сказаць, але стрымлівалася. Яна ўсё ведала і разумела, што не кніжкі з канспектамі ўзялі яго, бы на прывязь, да даму́кі і не пускаюць у дарогу: Ленку зноў успомніў, стаў бегаць за ёю і невядома куды знікаў з ёю на ўсю ноч. Хацела яшчэ раз перасцерагчы яго, сказаць, калі ў яго гэтае захапленне часовае, то лепш не затлумляў бы дзеўцы галаву, хутчэй бы выпраўляўся ў Мінск. Ды кожны раз, як толькі маці хацела загаварыць з ім, Валодзя не даваў ёй і рот раскрыць:

— Не ведаю, мамо, ці яшчэ калі-небудзь у мяне будзе так хораша на душы...

Яго словы радавалі яе: «Вунь як ён загаварыў, а што ж, такая дзеўка!..» І ў думках яна тады благаслаўляла сына...

Радаваўся тады і сам Валодзя. Знешнія праявы той сынавай радасці рабілі яе шчаслівай, і Надзя, здавалася, была аж на сёмым небе: лепшай за Ленку нявесткі яна і не хацела б. З замілаваннем паглядала на дзяўчы-

ну, калі тая выпадкова сустракалася дзе на вуліцы, ля калодзежа ці ў магазіне. «Божа мой! Няўжо гэта яна, тая самая Ленка? А якая была, калі загінула яе маці? Маленькае, спалоханае дзіцятка... І ані-ані не разумела. Як жа яна змянілася, вырасла, стала прыгажуняю!»

За апошні год, праўда, Ленка трохі схуднела, але ўсё адно мела прыгожую паставу. Надзі больш за ўсё падабаліся ў Ленцы ўнутраныя перамены: яе душэўная шчодрасць, пяшчота, дабрыня, увішнасць, стрыманасць, строгасць. «Каб жэ толькі ўсё добрэ кончыласо,— думаючы пра яе і Валодзю, загадвала Надзя,— а то з'едзе сын — і тады паляціць усё кумельгам... Не дай божа...»

Адклаўшы паездку на які тыдзень, Валодзя паспеў з Ленкай пагнаць яшчэ і чэргу — так у іх на Палессі называюць дзень, калі выпадзе пасвіць уласную жывёлу. Маці не вельмі пускала яго, гаварыла, што і сама адпасвіць, цяпер жа не восень, дажджу няма, прайсціся ёй за статкам няцяжка, а ён няхай, маўляў, лепш вунь чытае свае кніжкі. Але адгаварыць яго яна не змагла, бо чэрга выпала разам з суседкай: з Ленкай...

Той дзень выдаўся пагодлівы. Ды інакш, здаецца, яно і не магло быць: стаяла ж сярэдзіна лета. Парыла з самага ранку.

— Давай, мо пагонім у Гаі? — прапанаваў Ленцы Валодзя.— Там і пашы хапае, і сабе скупнуцца можна: Чарцень у тым месцы глыбокі, ніколі не перасыхае.

— Нічога лепшага ты не прыдумаў? — адрэзала яму Ленка.— Там жа, у Гаях, кругом адна шкода: з аднаго боку поле, з другога сенакосы, толькі пакінь статак без нагляду — бяды не абярэшся, вартаўнікі наробяць крыку.

— Не перажывай, патравы я не дапушчу, а скупнуцца ў такую пагоду не грэх, так што вярніся, вазьмі купальнік.

— Сораму ў цябе, Вовік, няма, станеш ліськаць голым задам, а калі хто ўбачыць?

Ён аж прысеў ад рогату:

— Мы ж, Ленка, не стараверы з табою, ды і хто ў Гаях можа зранку паявіцца? Адны касары, то ім не да таго, каб лялекі лавіць, ім касіць трэ, а коскамі махаць — не языком брахаць.

Няблізка Гаі ад сяла, і пастухі мала калі даходзяць туды са статкамі, але пашы там хапае. Адной дзятла-

вінай пазарасталі ўсе куточкі-закуткі, сцежкі-дарожкі, старыя селішчы, працерабы і палянкі. Зранку дзятлавіна росная, вільготная, пахне мёдам. Каровы скубуць яе не адрываючыся. Дарма Ленка баялася, што без нагляду статак разбяжыцца, у шкоду ўлезе. Чаго яму лезці, калі кругом такая густая дзятлавіна?

Валодзя распранаецца, Лена бачыць яго моцныя, мускулістыя ногі, шырокія, з лёгкім загарам, плечы. Ён складвае вопратку, з берага рэчкі, якая побач з выпасамі, ідзе да вады. Яна смяецца:

— Глядзі, каб гэтае купанне бокам табе не вылезла, холадна, прастынуць можна.

Ён, нібы не чуючы яе слоў, разбягаецца, плюхаецца ў ваду, дае глыбока нырца, аж пырскі ў бакі паляцелі. Затым вынырвае, і Лена заўважае, як плынь зносіць яго, і ён, намацаўшы нагамі пясчанае дно, становіцца, прысядае, зноў хаваецца пад ваду з галавой, а потым не з'яўляецца на паверхні доўга-доўга... Яна аж захвалявалася...

Нарэшце вынырвае з шумам, плёскатам, кіруецца насустрач плыні. Плыве хутка, спрытна, роўна і спакойна рассякае блакітную роўнядзь Чарценя. Яму, здаецца Ленцы з берага, становіцца спакойна, добра, ён забываецца, мабыць, пра ўсё на свеце, нічога не заўважае вакол сябе, апроч імклівай плыні ракі. А рукі яго, бы вёслы, усё мільгаюць і мільгаюць, свецяцца-серабрацца іскрынкамі вады, робяць узмах за ўзмахам, імкнуцца ўсё наперад і наперад, быццам там, за паваротам ракі, нешта невядомае, ніколі нябачанае, дзіўнае і неверагоднае. Ён адплыў так далёка, што Ленка спужалася, закрычала:

— Ва-а-ало-о-одзя-я-я...

Ён перастае грабці рукамі, азіраецца па баках, заўважае, што трохі захапіўся, даплыў ледзь не да самага павароту ракі, вунь і Ленка апынулася далёка ад яго. Зараз яна махае яму рукой, кліча:

— Выплывай, а то схопіш якую балячку!

Вылез з вады і адчуў, як па целе пабеглі дрыжыкі: сонца ўзышло невысока, яго праменні коса датыкаліся да дрэў, да зямлі і пакуль яшчэ добра не грэлі.

Чуў, як Ленка гойсала па гушчарэчы, весела пакрыквала, выганяла статак на палянку. Слухаў яе галасок, пачаў прытупваць нагамі на месцы, але ўсё адно сагрэц-

ца не ўдавалася. Пабег у блізкі ад рэчкі хваёвы лес, назбіраў сухой ігліцы, ламачча, панасіў да берага, скінуў усё ў адну кучу, дастаў з кішэні нагавіц запалкі. Агонь пачаў разгарацца, затрэскала ад жару галлё. Ён абсох ля агню, адчуў, як цела стала наліваццa млявай санлівасцю, якую тут жа адагнаў ад сябе, ускочыў на ногі, паклікаў Ленку. Яна не адзывалася. Ён падаў голас яшчэ і яшчэ. У адказ — маўчанне.

Не апрануўшыся, а наткнуўшы адны чаравікі, каб не калола ў ногі, пабег да статка. Каровы, сабраныя ў адзін гурт, пасвіліся. Ленкі ля статка ён не ўбачыў.

Пабег упрыскок да рэчкі. Сонца тым часам паднялося, яго яшчэ не гарачыя праменні ўпалі на ваду, і ад таго ўся рэчка блішчала, свяцілася, і мо таму быў добра прыкметны яе вечны, бесперапынны рух.

Каля самага берага, сярод плывун-травы з глыбокімі падводнымі карэннямі, ён убачыў лілею — белую-белую, з жоўтым кружочкам-песцікам пасярэдзіне. Імклівае цячэнне як бы спрабавала сарваць лілею, але кветка добра ўрасла, і рачная стыхія не магла перамагчы яе неадольнае жаданне жыць і красавацца.

Валодзя наблізіўся да берага, ступіў у ваду, дакрануўся рукою да кветкі, і яна быццам уздрыгнула.

Асцярожна, каб не выцягнуць з коранем, сашчыкнуў лілею каля самага верху, патрымаў на далоні, адчуваючы, як на сэрцы зрабілася хораша і цёпла. Усміхнуўся, ціха сказаў «плыві» — апусціў кветку на ваду, і яе тут жа падхапіла плынню, закружыла, панесла ўперад. Ён доўга пазіраў у той бок, куды плыла лілея, і яму здавалася, што рачная вада пасвятлела, прыхінуўшыся сваімі струменямі да жывых, ярка-белых пялёсткаў.

Калі лілея знікла з вачэй, ён як бы ачомаўся, пачаў азірацца і ўбачыў у лазняку Ленчыну адзежу. Сама Ленка ўжо ўваходзіла ў ваду. Скруціла жмутам валасы, закалола іх шпількай на макаўцы.

Ленка апускае пальцы ў халодную ваду, робіць наперад некалькі крокаў і, адпіхнуўшыся нагамі ад пясчанага дна, плыве. Перш плыла на жываце, потым — на спіне. Галава была закінута, і Ленка глядзела ў чыстае ранішняе неба. «Сумысля адышла далёка ад статка, сюды, за паваротку і лазняк, каб я не ўбачыў»,— падумаў Валодзя. І стаў саромецца, што падглядае. Але пры-

мусіць сябе нѐназіраць за ёю, вярнуцца да агню ці да статка не мог.

Яна ўбачыла: ён сочыць за ёю. Але ўсё адно доўга не вылазіла з вады. І толькі калі адчула, мабыць, што пачала замярзаць, перакруцілася, падплыла да мелі, стала на ногі, пакіравалася спакойна і паважна да берага. Яна быццам і не бачыла яго, ішла, высока падымала ногі, выкручвала валасы.

Стаіўшы дыханне, ён лавіў кожны яе рух, кожны ўздых і жэст, вочы яго бачылі ўсе радзімыя знакі на яе шыі, руках.

Яна падыходзіць да лазовых кустоў, ля якіх яе сукенка. Трохі не дайшоўшы да адзежы, Ленка спынілася, падставіла твар сонцу. Валодзя бачыў, як буйныя кроплі вады коцяцца ў яе па лбе, па шчоках. Яна змахвае тыя кроплі рукамі. Рукі ў яе таксама яшчэ не абсохлі, мокрыя.

— Прыпарваць пачало, днём і ў цяні ад спёкі не ўратуешся,— кажа яна, па-ранейшаму трымаючы твар на сонцы.

Ён не зводзіць з яе вачэй і заўважае, што Ленка трохі стамілася. Але гэтая яе ўтома лёгкая, ласкавая.

На яе целе зіхацяць кропелькі вады. Сонца, што паднялося ўжо высакавата, быццам выпівае іх, сушыць яе блакітны купальнік. Ленка азіраецца — узяць бы зараз і скінуць з сябе купальнік, высахнуць і пазагараць як след, раніцай проста такі бронзавы загар кладзецца на цела. Але ж побач Валодзя...

«Сарока-белабока, навучы мяне лятаць далёка!» — думае Валодзя, пазіраючы на Ленку. І ўсё быццам не верыць, што ён некалі цягаў гэтую дзяўчынку за косы, дражніў «сарокай-белабокай».

Яна ўсё бліжэй і бліжэй падыходзіла да сваёй сукенкі. Валодзя выразна бачыць, як яна пасля купання задыхалася, як ад частага дыхання высока ўзнімаюцца грудзі.

— Пара табе, Вовік, да статка вярнуцца, пагубляем кароў — тады што рабіцьмем? — зноў прамовіла Ленка.

Ён асмеліўся, наблізіўся да яе, абняў за мокрыя плечы, і яны пайшлі разам, падняліся ад берага, вылізанага і прычэсанага рачнымі хвалямі, да травы і лазняку, на якім вісела Ленчына сукенка. За спіной, ля ракі, чуўся

прыглушаны ўсплёск хваляў, моцна пахла рыбай, травой, сырой лазою, лісцем ракіты.

Ленка паглядзела назад, на раку, сказала: «Хочаш, каб пакрыўдзілася?»

У гэтыя хвіліны Валодзя абвострана чуў і бачыў, што рабілася ў рацэ і ля ракі, і ўсё гэта распадалася быццам на нейкія асобныя, не звязаныя адзін з адным, існуючыя як бы зусім асобна і ў іншым свеце, часткі. І яму даводзілася напружваць свядомасць, каб убачыць ва ўсім гэтым нейкую лагічную сувязь. Ён нават не зразумеў, чаму яна сказала, што можа пакрыўдзіцца. Яна нават паўтарыла свае словы: «Вось ей-богу...» Ён рассмяяўся: «Ты ж не верыш у бога».

Мабыць, і Ленка ў гэтыя хвіліны страціла пачуццё часу і рэальнасці, і яны, пабраўшыся за рукі, вярнуліся назад да ракі, сталі праходжвацца паўз бераг. Нізка над вадой насіліся стракозы, на невялікіх хвалях узмывалі вадзяныя павукі.

— Ой, які халодны пясок! — ціха ўсклікнула яна і нагнулася, зачарпнула даланёй жменьку цяжкага, набрынялага вадой белага жвіру.

Ад яе воклічу Валодзя нечага агляну ўся назад, убачыў на пяску свае і яе сляды, на якія накочваліся і адкочваліся ціхія хвалі. Затым ён павярнуўся тварам да Ленкі і ўбачыў, як яна лёгка і грацыёзна прысела, спаласнула ў вадзе руку. Выпрасталася, паглядзела смяшлівымі вачыма на яго і... пабегла, пабегла ўсцяж берага.

Нейкае імгненне ён стаяў бы ўкопаны. Ён бачыў, як мільгалі яе ногі, любаваўся ёю.

Яна адбеглася трохі наводдаль ад яго, а ён усё стаяў і бачыў перад сабой адбіткі яе ног на пяску...

Дагнаў яе, абняў, сілаю прыцягнуў да сябе, узяў на рукі, пачуў пах яе цела, непрасохлых пасля купання валасоў...

Ён апусціў яе на траву, расу на якой паспела высушыць сонца, стаў перад ёю на калені і цалаваў, цалаваў твар, вочы, вусны, шыю, валасы... Адчуваў, як гарачэе сам, як гарачэе яна... Рукі яго паспешліва гладзілі яе спіну, плечы, дакраналіся грудзей... Яна адказвала на яго пацалункі, нервова дрыжала, і яе гарачае дыханне паліла яго агнём... Яна адвярнулася ад яго, ціха, але горача прашаптала: «Не трэба, Валодзя, не трэба... Ну што ты, супакойся...» Але супраціўленне яе было сла-

бым, нерашучым, і Валодзя, ужо амаль нічога не ўсведамляючы, горача дыхаў ёй у твар, гаварыў у адказ нейкія словы...

Ленка села, паглядзела на яго вінаватым, сарамлівым позіркам, апусціла галаву. Паветра звініць ад паўдзённай спёкі, блізкае жытнёвае поле пахне свежым хлебам.

Ён узяў яе за руку і адчуў цеплыню яе пальцаў у сваіх далонях. Яму здавалася, быццам яна разумее ўсё, угадвае тое, што ўсе яго думкі і развагі аб ёй вельмі сур'ёзныя і харошыя...

— Пара статак дамоў гнаць, абед наступае,— пасля доўгага маўчання ціха прамовіла Ленка, і яны ўсталі.

Калі яны падняліся з зямлі, яму раптам стала не па сабе, ён хаваў ад яе вочы, разгубіўся. Яго разгубленасць перадалася ёй.

— Ну вось,— толькі і сказала яна, адвярнулася, схавала ад яго свае вочы, і ён не зразумеў, аб чым яна збіралася загаварыць.

Падышоў да яе, абняў, пацалаваў:

— Ленка, мілая мая, дарагая... Вось трэба заўтра ехаць, а я нават баюся думаць пра тое — так не хочацца, што ты і не паверыш...

— Едзь, Валодзя,— зірнула яму ў вочы,— раз трэба — едзь і не думай... Што можа здарыцца за той месяц, пакуль здавацьмеш экзамены?

Затым яны сабралі статак, які разбрыўся па маладым алешніку, дзе стаяў цень і дзе не так нападала машкарэча, пералічылі і, налічыўшы трыццаць пяць галоў, пагналі кароў да рэчкі, каб напаіць. Валодзя на колькі хвілін як бы забыў пра тое, што адбылося ў яго з Ленкай. Ён пазіраў, як каровы пазалазілі па самае чэрава ў ваду, пілі і, напіўшыся, стаялі, жавалі жуйку, не спяшаліся выходзіць на бераг, з іхніх губ зрываліся і падалі ў ваду цёплыя пухіры пены, якія падхоплівала плынню.

Ленка стаяла непадалёк ад яго. Яна маўчала. І кругом было ціха-ціха. Чутно нават, як некаторыя каровы яшчэ п'юць, смокчуць з ракі.

Адна карова непрыкметна вылезла з вады, пайшла да блізкага адсюль жытнёвага поля.

— Назад, Рабка, назад! — закрычаў Валодзя, схапіў палку, што трапіла пад руку, пусціўся наўздагон карове.

Пачуўшы яго голас і пабачыўшы ў яго руках кій, карова трушком заварочвала да статка.

Каровы пачалі вылазіць на бераг, пайшлі прагалкам, затым асіннікам — памалу дахаты, на абедзеннае даенне.

Гналі статак моўчкі. Пра ранішняе купанне, пра тое, што адбылося між імі, ні ён, ні яна не загаварылі. Валодзя паспакайнеў, сказаў:

— Заўтра трэба раней устаць, каб паспець у Мазыр на мінскі аўтобус.

— Я праводжу цябе,— адказала яна, паглядзела на яго сур'ёзнымі вачыма і дадала:

— Мабыць, я сёння згарэла, плечы баляць...

У яе позірку, які, здаецца, перадаваў увесь яе настрой, Валодзя ўлавіў трывогу і хваляванне. Але яе трывога і хваляванне, падалося яму, былі нядоўгімі. Праз якую хвіліну ён зноў убачыў ранейшую Ленку: задумліва-стрыманую, пяшчотную, з вясёла-ўсмешлівымі вачыма.

Пакуль гналі статак, амаль маўчалі. Думалі. Ён думаў пра сваё, а яна — пра сваё. А ўвогуле абое думалі аб адным і тым жа. Ленка крадком пазірала на Валодзю, бы прымервалася гэтым позіркам да яго, бы хацела дазнацца, ці надзейны ён, ці можна на яго спадзявацца, ці не баламут ён...

Ён перахопліваў яе позіркі, здагадваўся, здаецца, аб чым яна думае. І сам трошачкі хваляваўся, бо толькі зараз да яго пачынаў даходзіць сапраўдны сэнс яшчэ поўнасцю не ўсвядомленых, а можа, і не да канца абдуманых адносін да гэтай простай дзяўчыны.

Узіраўся ў яе вочы, хацеў угадаць, аб чым яна думае. Ды Ленка апусціла долу вочы, ні разу не зірнула на яго — яна як бы саромелася яго, і ён, адчуваючы няёмкасць свайго становішча, рашуча падышоў да яе, узяў пад руку і доўга не выпускаў яе руку.

— Ты не маўчы...— сказаў ён і заўважыў, як яна здзіўлена слухае яго, здзіўлена сочыць за ўсім, што ён робіць.

У душы ў яго было адчуванне, што ён правінаваціўся перад ёю, і цяпер ад гэтай віны не пазбавіцца ніякімі словамі...

— Ты даруй,— сказаў ён і прыхінуўся да яе.

Яна быццам не адхілялася, але і не паказвала, што

яго пяшчотныя адносіны да яе прыемныя ёй, і Валодзя, асабліва добра адчуваючы ўсё пасля таго, што адбылося ў іх каля ракі, уздыхнуў, адышоў ад яе, задумаўся, і такі, задуменны, заняты сваімі думкамі, крочыў папераду яе.

## 9

Назаўтра ён выправіўся ў Мінск. Да шляху ад самай вёскі яго праводзіла Лена. Яго проста такі пужаў позірк яе вачэй: халодны, пакутлівы, жорсткі. Вочы яе, заўсёды жывыя, радасныя, сёння быццам засціла сухім, едкім дымам, ад якога нагортваюцца пякучыя слёзы.

— Ну, што ты сабе ў галаву дурное бярэш? — спрабаваў ён ажывіць яе, адарваць ад невясёлых думак.— Здам экзамены і вярнуся, а там відно стане, дзе працаваць, жыць.

Ён бачыў: Ленцы хацелася гаварыць з ім, але на душы ў яе, мабыць, рабілася нядобрае, і каб не паказацца няшчырай, яна маўчала. Яе не пакідала нейкая глухая трывога, ад якой станавілася ёй адзінока. Яна, праўда, была раз памкнулася загаварыць, ды язык бы адзеравянеў у яе, і яна не магла знайсці патрэбных слоў. Валодзя нерваваўся, гледзячы на яе, думаў, што б сказаць, каб яна супакоілася, перастала хвалявацца, паверыла, што ён адносіцца да яе шчыра, сур'ёзна. Як мог, суцяшаў:

— Не паспееш азірнуцца, а я ўжо і вярнуся.

А ў Ленкі не было жадання нават ісці, ёй хацелася ўпасці тварам у траву, ляжаць так доўга-доўга, пакуль ён не знікне з вачэй. І ёй самой было незразумела, чаму раптам яе апанаваў такі настрой. Яна перастала адчуваць патрэбу ў яго словах, у яго падтрымцы, парадах. Ён быццам перашкаджаў ёй разабрацца ва ўсім, што яе хвалявала, перашкаджаў пабыць адной...

Пазіраючы на Ленку, Валодзя думаў, аднаўляў у памяці ўчарашні ранак, зноў яму ўяўлялася Ленка пасярэдзіне ракі, яе блакітны купальнік, сляды яе ног на беразе ракі, каля самай вады...

Яму не цярпелася падысці да Ленкі, абняць яе, пацалаваць і гаварыць-гаварыць добрыя словы. Ён памкнуўся быў зрабіць гэтак, але як спатыкнуўся аб яе

колкі і строгі позірк, адчуў — у грудзях у яго ад гэтага позірку сціснулася, закалола.

І ён не мог не заўважыць, што з Ленкай нешта адбылося, яе твар, да гэтага жывы, мілы, пяшчотны, зрабіўся непрыгожым і нерухомым.

— Ну, што ты, Лена? Хіба я табе паганае што-небудзь сказаў? Я ж з дарагой душой да цябе, а ты...

Ён гаварыў, а твар яе заставаўся замкнуты і чужы. І тут у яго паявілася крыўда: «Яна не разумее ці не хоча разумець мяне?»

Але потым Ленка правяла рукой па твары, як бы зняла гэтым рухам нервовае напружанне:

— Даруй, Валодзя... Знала, што ты паедзеш, а не думала, што так цяжка будзе.

Яна паглядзела на яго доўгім позіркам, мабыць, хацела сказаць яшчэ нешта, ды адно глыбока ўздыхнула:

— Толькі ты не перажывай... Гэта так, пройдзе...

Неба ў іх над галавой чыстае-чыстае, ні воблачка. Сонца смаліць ад самага ранку, паветра нагрэлася да таго, што і дыхнуць, здаецца, няможна. Толькі тут, у лесе, у цяні дрэў на сцежцы, па якой яны дабіраліся пехатой да шляху, было свежа, гуляў слабы ветрык. Там жа, дзе сцежка выбягала на чыстае, ішла-вілася па палянцы, адразу станавілася душна, млосна, і Валодзя з Ленай спяшаліся хутчэй пераадолець адкрытае месца, каб апынуцца пад навіссю галля.

Ля самага шляху, да якога яны дабіраліся добрую гадзіну, невялікае лясное азярцо, парослае па берагах густымі чаротамі. Там, мабыць, нямала водзіцца дзікіх качак, бо адтуль даносяцца ўсплёскі, прыглушаныя ўскрыкі качара, які, мабыць, заўважыў людзей, папярэджвае чараду аб небяспецы.

Над возерам, над вадою і ў вышыні кружаць чайкі. Некаторыя з іх праляцяць трохі над возерам, пакружаць над вадой, раптам перастануць узмахваць крыламі, выпростваюць ногі, апускаюцца, здаецца, на лёгкія азёрныя хвалі-кругі, што разбіваюцца аб бераг. Ды не. Гэта толькі здаецца. Чайка адно зачэпіць нагамі ваду, намочыць іх ледзь-ледзь і ўзмывае крута ўверх.

Валодзя паглядзеў, як чайка паляцела да другога берага возера, перавёў позірк на Ленку. Ён нават не адважваўся з ёй загаварыць у гэтыя хвіліны: яе пакутлівы выгляд настройваў на невясёлыя думкі, і ён палічыў за

лепшае маўчаць. І цяпер ужо ні ў ім самім, ні ў ёй ён не знаходзіў таго спакою і ўпэўненасці, якія так патрэбны былі ім абодвум у апошнія хвіліны іх расстання. І яны абое знямела маўчалі. Слухалі, як там, на возеры, плёскаліся, шапталіся ў чаротах хвалі, дыхалі вільготным ветрам, што нёс сюды, да самага шляху, вострыя пахі кветак, траў. Да гэтага водару далучалася дыханне недалёкіх ад возера лугоў, ды, часам, перамогшы ўсе астатнія пахі, даносілася перагрэтая горыч асін.

Удалечыні, на шляху, паказаўся аўтобус. Спачатку пачуўся толькі аддалены гул рухавіка, які ўсё нарастаў, нарастаў...

Калі аўтобус параўняўся з імі і спыніўся, Валодзя ўзяў яе за плечы:

— Ты не сумуй, Ленка, я павінен ехаць...

Ён не адважваўся ўвайсці ў расчыненыя дзверы аўтобуса, не прыхінуўшыся на развітанне да яе. Але ён саромеўся абдымаць яе на вачах у людзей, што назіралі за імі з акна аўтобуса. Яна зразумела яго, падышла сама, лёгенька абняла і хутка пацалавала, перарывістым голасам шапнула:

— Шчасліва табе!.. Шчаслівай дарогі!

А ў яго бы язык адзеравянеў, і ён адно паспешліва прагаварыў:

— Чакай мяне, я хутка вярнуся.

Калі зачыніліся за ім дзверы, ён усё пазіраў праз шкло на яе і адчуў, як заныла ў яго сэрца: «Якія ў яе сёння сумныя вочы... і настрой які... Хутчэй бы... Хутчэй бы абараніць дыплом — і я зноў буду з ёю...»

Аўтобус паступова аддаляўся, а яна адзінока стаяла на шляху, не могучы скрануцца з месца. У вушах у яе ўсё звінелі яго словы: «Вярнуся, вярнуся...»

Ішла назад бы невідушчая, спатыкалася. Ішла, здавалася, увесь дзень. І нічагусенькі не помніла. У вачах усё стаяў аўтобус, у які сеў Валодзя, і яго, Валодзевы, сумныя-сумныя вочы...

Ён вярнуўся праз месяц. Ішоў ад шляху да вёскі і прыкідваў, як зойдзе да Ленкі, скажа, што ў яго ўсё добра. І нават цудоўна: яму прапанавалі работу ў Мінску на вялікім заводзе. Угадваў, што яна разгубіцца, спытае: «А як жа?..» Няхай яна не хвалюецца, ён усё-ўсё абдумаў...

Перад вёскай ён спыніўся, пашукаў вачыма Ленчыну

хату. Убачыў, зарадаваўся: ад хаты па вуліцы пайшла хуткім крокам дзяўчына. Ленка? Ён глядзіць ёй услед. Але дзяўчына хутка знікае за паваротам вуліцы, і Валодзя, спахапіўшыся, скорым крокам кіруецца ў сяло. «Сарока-белабока, навучы мяне лятаць далёка»,— само сабой згадалася тое, як некалі дражніў Ленку...

— З тыдзень, як яе няма ў сяле,— адказала яму маці, калі ён увайшоў у хату.

— Як няма, я ж во бачыў яе,— не верыцца яму.

— То мо калгасная паштарка разносіла пошту, знешне яна з Ленкай бутто і пахожая, а ты ж яшчэ і вуньдзека ўподалечкі буў, не разгледзеў...

Ён чакаў яе пяць дзён. Хадзіў як па іголках, нерваваўся, а яна ўсё не вярталася. Паехала на нейкі абласны семінар заатэхнікаў і затрымлівалася. Даўжэй чакаць ён не мог — у яго накіраванне на завод, і спазняцца нельга было...

Ішоў з вёскі на шлях да аўтобуса і не верыў, што не пабачыў яе, круціў адно галавою ды прыгаворваў: «Эх, сарока-белабока... Як жа гэта так? Як назло ўсё...»

Ленка вярнулася з вобласці дні праз тры пасля яго ад'езду. Скамянела, калі дазналася, што Валодзя быў і паехаў, губы яе шапталі: «Кожны ж за сябе...»

## 10

Са спальні ў кухню даносяцца гучныя галасы: Валодзя і Іра забаўляліся з дачкой. Надзя па-ранейшаму ўсё сядзіць у кухні перад акном на табурэце, краем вуха прыслухоўваецца да таго, аб чым размаўляюць дзеці. І ўглядаецца за акно, дзівіцца на тое, як людзі ні свет ні зара выносяць на двор вялізныя дываны, рассцілаюць іх на аснежаным цаліку, і там, дзе толькі свяціўся цнатліва-чыстай беллю снег, бы ажываў сярод зімы луг, які ўвачавідкі пакрываўся загадкавымі, ніколі не бачанымі кветкамі.

«Не спіцца ж людзям,— падумала Надзя,— вечарам бухаюць-выбіваюць етыя дываны на жалезнай крыжавіне... І ось толькі вывіднела — зноў чарга, зноў баханне пад акном».

Убачыла, як снег, нядаўна белы і чысты, хутка чарнеў, бы хто абсыпаў яго сажай: на дыванах, якія павыносілі з пакояў на двор, пылу хапала. Здаецца, ужо нідзе

ніводнай чыстай латкі снегу на двары, а людзі ўсё плывуць і плывуць з дыванамі на плячах, шукаюць месца, дзе б яшчэ ніхто не пахадзіў, здымаюць з плячэй цяжкія ношкі-скруткі, раскочваюць іх на снезе.

Згадала пра дзяцей, і затрывожылася, быццам зноў апынулася там, у Каласках...

Як з'ехаў некалі летам у Мінск Валодзя, то і не паказаўся больш дома. І пісаць асабліва не пісаў. Прыходзілі, праўда, зрэдку ад яго лісты, у якіх ён прасіў яе, Надзю, не хваляваца, бо вырвацца з работы, каб падскочыць дахаты і расказаць пра ўсё, пакуль не ўдаецца. Лісты яго, канечне, трохі супакойвалі Надзю, а то ж месца сабе не знаходзіла, гублялася ў здагадках, як ён там уладкаваўся, дзе жыве, харчуецца...

Хвалявала яе тым часам і іншае: Ленка.

Надзі пераказвала Палажка, што людзі кажуць, быццам бацька Ленчынага дзіцяці — яе Валодзя. Але калі так, то чаму Ленка маўчыць? Чаму яна не йдзе да яе, не едзе да Валодзі, не адказвае на яго лісты. Вечарамі, калі вёска ўжо засынала, калі сон пачынаў адольваць стомленае за дзень бегатнёй і клопатамі цела, Надзя часта думала пра тое, што сказала ёй Палажка пра Ленку. І як толькі яна, Надзя, пачуе, што скрыпнуць позна вечарам веснічкі, ёй увесь час чамусьці думалася пра Ленку, думалася, што гэта яна, нарэшце асмелілася выбрацца да яе, каб пагаварыць, каб даверыць ёй, Надзі, сваё гора.

Ды не, ніхто не стукаў у дзверы, не прасіўся да яе ў хату. З пачуццём няяснай тугі і трывогі распраналася, клалася спаць. Лежачы ў пасцелі, яна доўга не магла закрыць вочы, заснуць, уздыхала і ціхім голасам шаптала, бы супакойвала сама сябе:

— Ох ты, горачка маё, вось табе і кроўныя свае дзеткі, усё ім гульня ды пацеха...

Добра, што яна яшчэ пакуль на нагах, сама памалу з усім спраўляецца. А тут вось людзі гавораць рознае пра Ленку. Тыя гаворкі непакояць яе, трывожаць. Ды урэшце, справа не ў гаворках. Калі тое ўсё праўда, то хіба добра, што пры жывым бацьку дзіця сіратой гадуецца?

Але пакуль яна сама не пагаварыла з Ленкай, не ўпэўнілася ў тым, што ёй казалі, не ведала: верыць ці не верыць усяму чутаму. Ці мала што могуць малоць языкамі? Ды ўсё адно Надзя адчула, што не пазбегчы ёй

дарогі ў Мінск, той дарогі з чамаданам у руцэ, пра якую яна пакуль і не старалася асабліва думаць, але вострае пачуццё аб якой заўсёды прыходзіла да яе ў час, калі яна клалася ўвечары спаць і пачынала згадваць пра свайго старэйшага сына...

Толькі на другое лета, калі Ленчын сын пачынаў вучыцца хадзіць, перавальваўся на двары з ножкі на ножку і часта падаў, Надзя асмелілася загаварыць з Ленкай. Яна зразумела, што з яе боку ўсё гэта мо і няправільна, мо дзівакавата паводзіць яна сябе: раз Ленка маўчыць, то чаго яна лезе ёй у душу? І ці мае яна на тое права? Мо Ленка прыдбала дзіця і ад каго іншага? Як бы там сабе ні было, Надзя, аднойчы згледзеўшы на двары Ленку з сынам, якога тая вяла за ручку, наблізілася да іх, павіталася, пачала размаўляць. Калі ж убачыла, як Ленчын твар спахмурнеў, ёй стала проста сумна ад таго, што гэтая маладая жанчына, некалі блізкая і заўсёды гаваркая з ёю, так вось наглуха закрываецца ад яе, не хоча пагаварыць з ёй шчыра, адкрыта. І тады Надзя пачала ўголас злаваць:

— Ведамо ж, Ленко, то твой клопат, як дзіця гадаваць, але мне хацеласо б уведаць: людзі языкамі мянцяць, бутто бацько дзіцяці мой Валодзя.

Ленцы, мабыць, і папраўдзе такая гаворка не па душы. Яна апускае долу галаву, твар яе цямнее, бровы ад напружанасці сыходзяцца да пераносіцы:

— Хоць бы і так, то што з таго?

— Дурная ты, Ленко, ох якая дурная! Чаму ж зразу, як вупісаласа з радзілкі, не зайшла да мяне? Ці ж я не маці Валодзі? Ды я ўсё кінула-рынула б і памчала да яго, я б там добра прабрала яго, нідзе не дзеўса б...

— Не,— перабіла яе Ленка,— раз так усё выйшла, то цяпер, мабыць, нічога не пераробіш.

— Ты ж хоць пісала яму пра сына?

— Не пісала і пісаць не збіраюся, выгадую і адна.

Надзя пакруціла галавою.

— Ох, дзеці, вы мае дзеці...

З невясёлымі думкамі пакіравалася ад Ленкі дахаты. На паўдарозе яе спыніў Ленчын голас:

— Пачакайце!

Яна павярнулася, убачыла, што Ленка спяшаецца да яе. Падышла, ціхенька папрасіла:

— Не пішыце, цётко, Валодзю пра сына, пра Віцю... Так, здаецца мне, будзе лепей...

На гэта Надзя не сказала ёй ні слова. Толькі пільна-пільна прыглядзелася да Віці — Ленчынага сына. Цяпер ёй гаварыць і расказваць не трэба было, сваімі вачыма ўбачыла: да чаго ж хлопчык падобны на Валодзю!..

## 11

Вясна ўвабралася ў сілу. Кругом усё ажыло, пачало зелянець, расці, пускаць парасткі.

Цэлымі днямі свяціла сонца. Яно сагравала зямлю, лес, палянкі, радавала людзей сваім шчодрым, заўсёды чаканым цяплом.

Людзі адсяваліся. Заўчора і Надзя з зяцем і Любкай ды суседзямі пасадзіла на сваіх сотках бульбу. Сотак у яе небагата, пятнаццаць, і за паўдня яны ўправіліся.

Па-вясенняму апранутая, у гумовіках, камізэльцы на воўне, якую скідае з сябе толькі летам, сёння Надзя хадзіла ўздоўж загонаў, папраўляла рыдлёўкай разоры, прыплесквала, раўняла іх, каб у час дажджу вада не стаяла на загонах і ў разоры, а магла сцякаць у канец сотак у канаву. Месцамі ж не прыаралі гной, зверху ляжаў дзе клубень, і Надзя дарабляла зараз гэта ўсё рукамі.

Парадкавала загоны, думала: «Дараблю соткі, збяру чамадан — і да Валодзі адскочу, трэ ж пагаварыць з ім...»

Паправіўшы загоны, разоры, завярнула ў сад, убачыла, што тут плугам пад дрэвамі зямлю і не зачапілі, не ўзаралі: пабаяліся крануць карані дрэў.

Пайшла ў сцёбку, набрала ў лазовы кош бульбы, насіла вілкамі са свінушніка гною, пачала капаць пад дрэвамі. Пракапае рад, натрусіць гною, накідае клубняў — і зноў капае...

Да абеду справілася з дакопкамі. Уваткнула ў зямлю вілкі, прысланіла да плота рыдлёўку, узялася рукамі за штыкетнік, пазірала вакол сябе, радавалася: «У добры час засеялася сёлета, зямліца высахнуць не паспела, і прагрэласа добра, цяпера картоплі пойдуць у рост...»

Выглянула на вуліцу і згледзела, як з другога канца сяла подбежкі ідзе Любка. Паліто наросхрыст, без хусткі на галаве, ні з кім не загаворыць, а толькі ківае

галавою, калі здаровaецца, і ўсё не зводзіць вачэй з Надзінай хаты, узіраецца, ці дома яна, Надзя. У Надзі сэрца так і ёкнула: «Грышка зноў, мамуць, коніка выкінуў».

Выйшла з гарода, адчыніла ў хату дзверы, знайшла ў сенцах карэц, спаласнула рукі, выцерла іх рушніком, што вісеў тут жа ў сенях на цвіку ля акенца.

Ляснула клямка веснічак, хуткія крокі — і на парозе Любка. Бледная, перапалоханая, слова вымавіць не можа, толькі рукамі размахвае.

— Перастань пяцярнёй перад носам махаць, бы махалам, на выпі трохі вады і гавары, што там у цябе за ліха,— ледзь стрымліваючы сябе, каб не раскрычацца, кажа Надзя.

Любка п'е ўзахлёб, карэц дробненька стукае аб яе зубы. Нарэшце, выпіўшы ваду, Любка быццам паспакайнела:

— Бяда, мамо, Грышка з трактара ўпаў.

На Надзю пасля гэтых слоў нападае ліхаманкавы смех:

— Ці з трактара, ці з падводы — усё адно, хрыпці сабе не адсадзіць твой Грышка.

— Не смейцеся, мамо, трэ за дахтаркаю нашаю бегці, а я ж там аднаго яго дома пакінула, а ён крыкам крычыць, за руку не дае ўзяцца, правае вока крывёю заплыло, яшчэ сляпым астанецца...

Не дагаварыла Любка — і ў слёзы, давай вохкаць ды прыгаворваць. Надзя не стала дапытвацца, калі тая бяда здарылася з Грышкам, пачала апранацца, думала: «Што за напасць на мяне такая, проста з усіх бакоў няшчасце адно...»

Калі яна прыбегла ў дом да Любкі, Грышка ляжаў з пасінелым тварам у пасцелі, войкаў ды божкаў, не падпускаў да сябе вясковую медсястру, якая збіралася агледзець яго.

Надзя сядзела ля акна на канапе насупраць ложка, у якім без перадыху крычаў-біўся Грышка.

Надзя наблізілася да пасцелі, убачыла, як рука ў локці ў Грышкі пасінела і пальцы пасінелі, напухлі.

Не стаўшы доўга валэндацца са сваім пацыентам, медсястра папрасіла Надзю, каб яна паліла ёй на рукі, і, спаласнуўшы іх, суровым тонам загадала:

— Тэрмінова ў бальніцу! Ды асцярожна, мабыць, пералом.

Любка не дала Надзі і з хаты выйсці, папрасіла, каб яна паглядзела Таньку і гаспадарку, а сама, усхліпваючы, асцярожна ўзяла Грышку пад бокі і павяла яго з хаты да вузкакалейкі, каб прычакаць дрызіну і адвезці яго ў раённую бальніцу.

Трохі супакоілася, пазвала да сябе Таньку, пяцігадовую ўнучку, якая сядзела ў куточку ля стала, забаўлялася нечым.

— Унучка мая дарагая, цябе саўсім забылі-закінулі, а ты ж мо ад самаго ранку і макавай расінкі ў роце не мела.

Танька падбегла да яе, ухапілася за спадніцу ручкамі. Надзя пагладзіла яе па галоўцы, падышла да печы, выцягнула засланку, узяла з кавешніка вілкі з доўгім дзержаком, пачала даставаць чыгункі. Вілкі ў яе руках дрыжалі, і яна баялася, каб не ўпусціць чыгунок, цягнула яго па сподзе печы. Вочы яе ў гэтыя хвіліны амаль нічога не бачылі: яна ціха, каб не перапужалася Танька, плакала, з вачэй цяклі буйныя, горкія слёзы, якія яна непрыкметна скідвала беражком хусткі.

У той жа дзень позна вечарам вярнулася з райцэнтра Любка. Яна была не падобная на самую сябе: маўклівая, ціхая, трохі разгубленая, але і асаблівага хвалявання Надзя ў яе вачах не ўбачыла. Палічыла: «Прывыкла Любка да ўсяго, нацярпелаága гора ў сваім няўдалым сямейным жыцці, таму і спакойная зараз. Ды і праўда, падумалася Надзі, колькі можна надрывацца, перажываць з-за ўсяго таго, што як ні кожны дзень вырабляе Грышка, калі пачынаюцца ў яго запоі? Пара і пра сябе трохі падумаць, пра малое дзіця...»

А праз тыдзень выпісаўся і Грышка. Правую руку яго дактары загіпсавалі і падвесілі на бінт, завязаны на шыі.

Цішэй вады, ніжэй травы хадзіў Грышка тым часам па хаце, ступаў, здаецца, па адной масніцыне, каб не нарабіць шуму. А гарэлкі і на зуб не браў. Яшчэ б! Любка пачала адкрыта гаварыць пра развод. Яго пужала разводам, а маці нашаптала на вуха: цяжарная яна. Надзю як абухам хто агрэў.

— Ці ў сваім ты розуме, донька? Твой Грышка коніка за конікам выкідвае, а ты раджаць уздумала?

— Малады ён яшчэ, маці, дурны, пабачыш, раджу яму другое, пабольшае клопатаў, тады ён працверазее.

Надзя не сказала дачцэ гэтага, падумала: «Любіць яна свайго цыганкаватага Грышку, таму і дарue яму ўсё. Другая і аднаго дня не жыла б з такім, а яна...»

Услых жа прамовіла:

— Каб ж, донька, твае словы ды богу ў вушы, каб, як гавораць, і нашаму цяляці ваўка спаймаці.

Грышка хутка выведаў, што Любка цяжарная. Абрадаваўся, павесялеў, маленькія шэра-блакітныя вочкі яго сажмурыліся, пасвятлелі ў мокрых шчылінах чорных веек. Надзя тады ўпікнула яго:

— Радуесса, што галапузых на свет пускаеш? А хто іх дагляне, хто на ногі паставіць і ў людзі выведзе? Падумаў ты пра етае?

Зяць не зазлаваў на яе, з яго твару доўга не сыходзіла добрая ўсмешка:

— Радуюся, бо думаю, што на гэты раз жонка мне сына родзіць. Вось. Пранясло мяне ў гэтай аварыі міма горкага калецтва, значыць, жыць буду, дзетак сваіх гадаваць буду, вось.

Надзя паківала на яго, бы на маленькага, пальцам:

— Хітры ты, Грышка, ой які хітры!

## 12

На небе бледным святлом высвечваў месяц. У гэтым святле выплывалі дрогкія цені асобных прадметаў, што віднеліся з хаты, з акна.

Вярнулася ў хату Любка, і Надзя сумысля пачала гаварыць:

— Ці многа, здаецца, чалавеку трэ? Толькі і трэ, каб прыстроіўса на работу, жыў, як усе людзі жывуць. Дак не ж, твой Грышка на адном месцы ўседзець не можа, усё нешта точыць, шукае, выгадвае, перабірае адну работу за адной. А ўсюды трэ рабіць, дарма грошы нікому не плоцяць. Радаваўса б, што з «Сельгастэхнікі» не праперлі за аварыю, стараўса б, дак ён ужэ пагаворвае пра меліярацыю, да меліратароў хочэ падацца ў заробкі, а работа ўсюды адноалькавая.

Яна хацела яшчэ гаварыць Любцы нешта пра Грышку, але пабачыла, што Танька, якая ў яе на руках, задыхала глыбока і роўна: заснула. Асцярожна пайшла па хаце, паклала ўнучку на пасцель, накрыла дзяругай, зноў вярнулася да акна, села на канапу.

— Я б на тваім месцы, Любка, будзіла твайго пустадомка Грышку на золку, хай не адлежвае ўлетку бокі сабе, а наладзіць косу дай з расой укосіць дзе трохі, у цябе ж хлявушнік пусты, ні жменькі сена на палацях, а палавіна лета прайшла. Я сярпом узмежкі выжынаю, повадам нашу і каляснік добры нанасіла.

— Спрабавала, мамо, выправіць яго на сенакос, то, кажа, рука шчэ моцно ные, а потым, кажа, дагаварыўся з некім у Старом Сяле, цэлы стог там яму паабяцалі.

Пад вокнамі чуваць крокі. Надзя ўгадвае: Грышка паявіўся. Праз якую хвіліну зяць пераступае цераз парог, уключае святло, незадаволена бубніць сабе пад нос:

— Вечна цешча ў маім доме, усё жонку супраць мяне настройвае,— ад Грышкі, чуе Надзя, пахне ўжо.— Прашу цябе, мая даражэнькая маці, не лезь ты не ў сваё дзела, мы з Любкай самі ва ўсім разбяромся.

— Ага, цяпер я і на парог не ступі, а як будаваўся, то я рукі на тваёй, зяцёк, будоўлі ўварвала, тады ты мяне не выпраўляў дахаты. Ды Таньку каб паглядзела, колькі за мною прыбягаў? Прыбягаў жа?

Грышка сеў ля стала ў крэсла, сашчапіў крукам на каленях рукі, цяжка засоп.

— Пакуль Любка, мамо, не радзіла, ты нічога пра мяне не здумляй, узяла б унека схадзіла да Ленкі — Віця ж таксамо, як мне здаецца, твой унук. Жанкі во зараз ля магазіна стаялі і пераказвалі, што нейкая хвароба прыліпла да Ленкі, дзіця яе няма каму дагледзець, а сама Ленка быццам пластом ляжыць. І хвароба ж нейкая... Такой хваробаю мала хто і хварэе.

Зяць напружвае памяць, шкрабе сябе за патыліцу, спрабуе ўспомніць.

— Во-во,— зноў абзываецца ён,— летаргічны сон, правільна, так жанкі і казалі: гэтым сном, калі ўжо ён да каго прычэпіцца, чалавек можа праспаць, не ўстаючы, да халеры доўга, да паўгода.

У хаце стала ціха-ціха. Нават добра чутно, як роўна і спакойна дыхае ў сне Танька. Цішыня гэтая цягнулася ўсяго некалькі хвілін.

— Адкладвала ўсё, мамо, не з'ездзіла да Валодзі, а цяпер і неўгадно што і прыдумаць,— сказала Любка, і Надзя ўбачыла, як у дачкі ўспыхнулі, загарэліся яркія, з зялёнымі кружочкамі-абадкамі вакол зрэнак, вочы.

— Знаю: адклад не йдзе на лад, але ж не выходзіла

раней вубрацца ў дарогу: то адно, то другое не пускала,— бы апраўдвалася перад дачкой і зяцем Надзя.

Зноў няёмкая, што нядобра дзейнічае на Надзіну душу, цішыня. У Надзі перад вачыма так і паплыло, паплыло ўсё... Бы жывую, убачыла Марылю — Ленчыну маці... А вось яе вязуць на санях на могілкі. Снег скрыпіць пад акованымі палазамі, палазы пакідаюць на снезе бліскучы след. Гэты след месцамі з рыжымі палосамі ад іржы, што ўелася ў жалеза, якім акаваны палазы. Ленка, якая сядзіць на санях са старой Хвядоркай, сваёй бабуляй, побач з дамавінай, заўважае гэты паласаты след, паказвае на яго ручкай, усміхаецца. Заплаканая Хвядорка ціхенька кажа ўнучцы: «Дурненькая, ох, дурненькая шчэ ты, Ленко, тут столькі гора...»

Старая Хвядорка, здаецца, пазалетась таксама ў зямлю легла.

Яна сядзіць у Грышкавай хаце і, здаецца, перажывае зноў тое, што адбылося некалі, што, думаецца, і забыць пара. А яна вось не забыла, помніць...

«От бедная дзеўка»,— са шкадобай успамінае Надзя тое, аб чым гаворыць Грышка. «Трэ ж було Ленцы захварэць, і ў такі час, калі прорва работы ды і сынок яе маленькі саўсім...»

Яна сядзіць у Любчынай хаце, слухае, як Грышка расказвае, ад каго ён пачуў пра тое, што Ленка захварэла, і не ведае, як ёй быць. Ад цяжкіх і невясёлых думак пачынае балець галава. Спытала ў Любкі:

— Мо ў цябе што ад галавы дзе заваляласо? Яна ў мяне бы расколваецца.

Любка адчыніла шафу, стала там корпацца-шукаць патрэбнае лякарства, але нічога не знайшла.

— Выйдзіце, мамо, на вуліцу, мо палепшае.

— Мамуць, донька мая, так хутко не пройдзе, толькі запеbecause перажываю — ціск падымаецца.

На двор яе праводзіла Любка. Прайшлі міма асветленых вокан, спыніліся каля плота, і Надзя адчула, што ёй адной сёння дома будзе вельмі сумна і адзінока, таму яна і не спяшалася.

— Вецер халодны захадзіў,— не змоўчала Любка.

Надзя паглядзела на цёмнае неба. У разрывах хмар паказаўся месяц. Паказаўся ўсяго на нейкае імгненне і тут жа схаваўся. На Надзін твар упала халодная кропля і пацякла па шчацэ. Не паспела яна змахнуць гэтую

дажджынку, як за Каласкамі, у тым баку, дзе стаіць бяроза, прагрымела.

— На дождж збіраецца,— Надзя адчыніла веснічкі, хацела, пакуль не лінула, паспець дахаты.

— Ты, маці, адведай Ленку,— пачула Надзя ў цемені Любчын голас.— Хто ёй зараз паможа? Радні ж у яе няма поблізу. Дай да Валодзі адскоч, а то ты тут з ног збіваешся, а ён мо пра гэта нічагусенькі і не ведае.

— І без цябе знаю. Толькі як цяпера да Валодзі вубрацца? Раней ніяк не магла, а зараз і неўгадно саўсім: калі ж Ленку пакладуць у бальніцу, то ля Віці ж трэ некаму сядзець.

Болей пагаварыць ім не даў дождж. Ён лінуў нечакана, забарабаніў па плоце, па лісці дрэў саду. Надзя заспяшалася, напаследак сказала:

— Заўтрэ шчэ пагамонім — пераначуем, то болей пачуем.

Пакуль дабегла да дамоўкі і ўскочыла ў хату — прамокла наскрозь. Дождж пайшоў спорны, але цёплы, замерзнуць Надзя не замерзла, толькі вопратка намокла і ліпнула да цела. Не запальваючы святло, пераапранулася ў сухое, узбіла падушку, адкінула коўдру, легла, сумысля закрыла вочы, каб хутчэй заснуць, але дзе тут заснеш, калі на душы такое робіцца?

На дварэ ўсё не сціхаў дождж. Грымела, бліскала маланка, асвятляючы вокны, сцены, падлогу дрогкім і кароткім сіне-белым святлом.

Ляжала ў пасцелі, не варушылася, адчувала, як гудуць, бы напятыя, нервы. «Бы насланнё якое! — падумала.— Учарашні дзень зранку як дзень, а к канцу... Хай на яго...»

Не ўгадала, калі заснула. І адразу прысніла сон. Убачыла Ладымера. Ён стаіць ля бярозы, што за вёскай. Адной рукой трымаецца за дрэва, а другой махае, кліча яе: «Надзя-я-я, давай сю-ю-юды-і-і».

Яна жне на калгасным полі жыта. Косы выбіліся ў яе з-пад белай хусткі, упалі на лоб. Пачула Ладымераў голас, паклала на пожню серп, узмахнула галавой, паправіла рукой валасы, каб не закрывалі вачэй, не перашкаджалі бачыць, прыклала даланю правае рукі да лба, углядаецца ў той бок, адкуль даносіцца Ладымераў голас: «Ага, вунь дзе той крыкун, пад бярозай». Ён усё махае і махае рукой, крычыць — кліча яе, аж ахрып.

Яна адклікаецца: «Давай, браце, ты сюды, мне да вечара трэ загон дажаць, снапы ў стаўкі паставіць».

З перакінутым цераз правае плячо чорным пінжаком, у белай, з вышытай манішкай, сарочцы, у нагавіцах, з закасанымі высока, каб не чапляліся ваўчкі-дзікуны, калашынамі, Ладымер ідзе па пожні, высока, як бусел на балоце, падымае ногі.

— Ты чаго ета сённячы прыбраўса? — як толькі наблізіўся ён да яе, пачала Надзя.

— Сваю работу ў калгасі зрабіў і хачу ось з табою пагаманіць, ці нельга? — вочы ў Ладымера вясёлыя, поўныя смеху.

— Бяры во ды снапы памажы знасіць,— кажа яна.— Насі і гамані, ніхто табе язык не завязвае.

Ладымер здымае з пляча і кладзе на пожню пінжак, шкрабе даланёй па патыліцы.

— Тут і да поначы аднаму не ўправіцца.

— Паменей языком менці — і не ўгадаеш, як ад етае работы і знаку не астанецца.

Хутка вячэрні змрок апускаецца на поле, усё раставараецца ў цемені, не стала відаць стаўкоў, якімі Ладымер ґуста ўкрыў загон, за гэтымі стаўкамі нешта не відаць і самога Ладымера...

У сне Надзя стараецца ўсё ж адшукаць яго. І хутка знаходзіць. Яна дома, прыбраная ў святочнае адзенне, у хаце ў яе бацькоў багата гасцей, што сядзяць за сталамі, п'юць, закусваюць. Нехта з гасцей выглянуў у расчыненае акно, выкрыкнуў: «Едуць, едуць!»

Усе выскокваюць на двор. Выходзіць і яна, Надзя. Выглядвае з-за варот і на другім краі сяла бачыць коней. Коней, мабыць, падганяюць, бо яны трусяць грывамі, ззаду за падводамі падымаецца слуп пылу. Той слуп быццам даганяе падводы. Коні ўсё бліжэй і бліжэй да іх, і Надзя бачыць, што ў грывах у коней кветкі, збруя таксама ў кветках. Звініць-заліваецца званочкамі бубен, плачуць скрыпка і кларнет.

Коні пад'ехалі да іхняй хаты, спыніліся, стрыгуць вушамі, перабіраюць на месцы нагамі, бы танцуюць. Надзіны бацька і маці стаяць у варотах з караваем, у які ўваткнуты запаленыя свечкі. Як толькі з падводы сыходзіць Ладымер, нехта з гасцей запальвае бярэмак саломы, што ляжыць тут жа, у праёме шырока расчыненых варот. Ладымер ступае проста ў гэты агонь, Надзя ад

страху закрывае рукой вочы, тут жа адводзіць руку і бачыць: Ладымер, жывы і цэлы, падыходзіць да яе бацькоў, нагінаецца ў паклоне, цалуе каравай, які трымае на рушніку Надзін бацька, адшчыквае ад каравая маленькі кавалачак, кладзе ў рот і каўтае. Надзя выходзіць з людскога гурту, Ладымер бярэ яе за руку, і яны ўслед за бацькамі ступаюць у хату...

Моцна ляснуў, аж зазвінелі шыбы ў вокнах, гром, і Надзя прахопліваецца. На дварэ, за цёмнымі вокнамі, не перастае шумець лівень. Мабыць, паналівала лужы, бо з даху цурком з шумам і плёскатам падае вада.

Яна варочаецца з боку на бок, але заснуць ёй так і не ўдаецца, і яна задумваецца: сон, які толькі сасніла, не выходзіць з галавы. Дзіўна ўсё-такі! Ладымер, вяселле, пярэзвы — усё тое папраўдзе было. Даўно было, да вайны яшчэ.

Пасля вяселля яна стала жыць з Ладымерам у сваёй маці: бацька яе памёр ад тыфу, недзе адразу ж пасля вяселля ён захварэў, і прахварэў нядоўга, хвароба скасіла яго.

Перад вайною нарадзіўся ў яе з Ладымерам сын — Валодзя.

Пачатак вайны ўрэзаўся ў памяць хваробай Валодзькі. Яму тады было два гадочкі. Рос яе першы сын хілым, слабенькім. Здаецца, усе хваробы, якія называлі дзіцячымі, ліпнулі да яго.

У той вечар Ладымер толькі вярнуўся з райцэнтра, куды ездзіў па лякарства для Валодзькі. Надзя напаіла Валодзьку, дала яму тых парашкоў, якія прывёз Ладымер, і сын заснуў. Яны выйшлі на вуліцу, селі на палена, якое ляжала пад плотам. Да іх падышлі-сабраліся мужыкі і жанчыны. Усе вінавата маўчалі, не маглі ніяк даўмецца, чаму ўсё абарочваецца так, як таго не чакалі: чуткі аб тым, што немец ідзе амаль несупынна, станавіліся ўсё больш настойлівымі. Ладымер, калі быў учора ў райцэнтры, купіў там газету, і ў той газеце пісалася, што нашы часці пакінулі Мінск, адступаюць... Вось і выходзіла, што нядобрыя чуткі, якія раней хадзілі па дварах, былі страшнай праўдай. І зараз, быццам пасля цяжкага сну, мужыкі гаварылі, што вайна не сёння-заўтра да іхняга парога дакоціцца. А Ладымер расказаў, што бачыў, як у райцэнтры ўсе спяшаюцца да чыгуначнага вакзала, эвакуіруюцца цэлымі сем'ямі.

— Мо то ўсе ад страху бягуць,— кажа Адам, сусед іхні.— У нашае арміі сілы ого-го колькі, не можэ таго буць, каб не прыастанавілі немчуру дай назад не пагналі.

Побач з Адамам — стары Богуш. Адной рукой ён апіраецца на рабы арэхавы кій, а ў другой трымае чорную, пазадымленую люльку, якую раз-пораз бярэ ў рот, пасмоктвае, зацягваецца, дыміць слязлівым самасадным дымам. Зацягнуўшыся яшчэ раз, выпусціўшы з рота дым, дзед, пазіраючы Адаму ў вочы, распальваецца:

— Я немца знаю... У германскую вайну сваім штыком не аднаму кішкі выпусціў... Немец, ён толькі з віду смелы... Начапляе на сябе жалезных крыжоў, у рамяні засупоніцца, а ўбачыць, як штык лязом блісне,— адразу намыльвае пяткі, уцякае, не дагнаць... Даваў я яму ў чатырнаццатым годзі ў хвост і ў грыву...

Людзі слухалі дзеда маўкліва, вочы ў кожнага ажывалі, у душы пачынаў зачэпліваціца агеньчык надзеі...

І тут усе ўбачылі калгаснага паштальёна, крываногага дзядзьку Есіпа, які з-за свайго калецтва ніякае работы не мог рабіць, і вось ужо мо гадоў дзесяць на кані дастаўляў з сельсавета пошту.

Дзядзька Есіп пад'ехаў да іх, спыніўся, зняў шапку-шасціклінку, выцер з ілба пот, надзеў зноў на палыселую галаву, пачаў корпацца ў брызентавай сумцы, перавешанай цераз плячо, дзе ляжалі газеты, пісьмы.

— Павесткі прывёз? — не ўцерпеў, спытаў у Есіпа Ладымер.

— Яны, бяры ды распішыся тут во...

Павесткі разварушылі вёску, пазбавілі людзей апошняй надзеі на тое, што немца затрымаюць, не пусцяць далей у глыб краіны... У дварах бегалі-рупіліся жанчыны, плакалі, не саромеючыся галасілі... А мужыкоў не чутно было — яны моўчкі збіраліся ў ваенкамат...

Апошні дзень Ладымер хадзіў па сваім двары, не ведаючы, за што ўзяцца, да чаго прыкласці рукі, каб не сядзець без работы і не думаць пра хуткае расстанне, якое можа разлучыць іх не на адзін дзень...

Сярод лета выправіўся на фронт Ладымер, а неўзабаве немцы занялі іхні раён.

...Той ноччу Валодзька заснуў рана, як толькі наступіў вечар. Надзя святла не запальвала: газа кончылася, купіць не было дзе, а лучыну на камінку паліць сумысля

не стала, бо ад яе ідзе на хату чадны, едкі дым. Ад таго дыму дзярэ ў горле, на вочы набягаюць пякучыя слёзы.

Распранулася і ціхенька, каб не разбудзіць сына, прылегла на краечку ложка, задрамала. Заснуць не паспела: падалося скрозь сон, скрозь трывожную дрымоту, быццам нехта шкрабнуў у акно. Шкрабнуў ціхенька, асцярожна раз і другі. Расплюшчыла вочы, затаіла дыханне, пачала ўслухоўвацца: ці не здалося ёй гэта? Не, так і ёсць: нехта там, за акном, просіць, каб яна адчыніла дзверы, упусціла ў хату. Басанож, крадком, на дыбачках наблізілася да акна, пачала ўзірацца, па вопратцы хутка пазнала: мужчына па той бок акна. Ціхенька-ціхенька, баючыся нават свайго ўласнага голасу, Надзя спытала: «Хто там?» Мужчына пачуў яе пытанне, паварушыўся, павярнуў галавой управа-ўлева, бы правяраў, ці не заўважыў яго хто, кашлянуў у кулак і асіплым голасам сказаў: «Надзё, гэта я, Ладымер, адчыняй барзджэй».

Ад неспадзеўкі рукі, якімі прытрымлівала хустку на плячах, расшчапіліся, з'ехалі-апусціліся ўніз, абвіслі, і з плячэй на падлогу спаўзла хустка. Надзя бы прырасла да падлогі, не можа паварушыць ні рукой, ні нагой. А ў галаве скачуць-мільгаюць, змяняюць адна адну думкі-здагадкі: «Скуль ён? Але жывы, жывы... Мо ён не адзін? Мо хто з ім яшчэ там, на падворку?»

Хвілінная разгубленасць, якая авалодала ёю, тут жа праходзіць. Падымае з падлогі хустку, укрывае ёю плечы, знаходзіць і натыкае на босыя ногі старыя галёшы, націскае на клямку, спяшаецца ў сенцы, адкідвае з кручка-прабоя зашчапку, расчыняе дзверы ў сенцах. Цераз парог пераступае Ладымер. Поначы яна не бачыць ні яго твару, ні вачэй, ні адзення на ім. У гэтыя першыя хвіліны ён уяўляецца ёй чамусьці такім, якім запамятала яго перад адпраўкай на фронт: з сумнымі вачыма, запалымі шчокамі, нервова-напружанымі рукамі. Ёй толькі зараз відаць, што яго правая рука ў белым і падвешана на матузку, завязаным на шыі.

Ладымер абдымае яе левай рукой, цалуе.

— Ты паранены? — неяк само сабой вырвалася ў яе з грудзей.

— Зачапілі трохі, ды нічога, жыць можна, на здаровай касці мяса нарасце.

Спакойны Ладымераў голас вяртае ёй цвярозасць і

развагу, вяртае свядомасць, і яна не нарадуецца: Ладымер жывы, праўда, вось рука, мо ён і прыкідваецца, сумысля маніць, што рана лёгкая?

— Ты адзін?

— Да самае хаты дабіраўся не адзін, а зараз так выйшла, што адзін.

Яна спахопліваецца, зноў накідвае зашчапку на прабой, заве Ладымера ў хату, папярэджвае:

— Вельмо не бразкай, Валодзька хворы.

Завешала дзяругамі вокны, запаліла ў печы, у ружаватым зарыве, якое адбівалася ад полымя і слабаслаба асвятляла хату, убачыла: Ладымер схуднеў, асунуўся, шчокі ў яго праваліліся, завастрыліся скулы, вочы чырвоныя-чырвоныя, мабыць, ад бяссонніцы. На ім — паношаная целагрэйка, выгаралая да белага салдацкая гімнасцёрка, на нагах армейскія боты, якім, відно, выпала доўгая дарога, а мо і бездараж, бо падэшвы спераду на іх адваліліся і прывязаны тоненькім бліскучым дротам. «Дасталасо, ой, як шчэ дасталасо Ладымеру»,— думае, аднак распытваць пра нешта ў гэтыя першыя хвіліны не асмельваецца. Кажа толькі:

— Ты пачакай тут, пасядзі, я вады нагрэю, ночвы ўнясу ў хату — пыл з сябе змыеш, а я згатую павячэраць.

Сказала «згатую павячэраць» і задумалася: апроч бульбы, у хаце ні-ні. Учора была разанка сала з мясам, то Валодзьку адварыла.

Успомніла пра бочку, закапаную за хлявом на сотках, і пачала апранацца. Ладымер затрывожыўся:

— Ты куды? Мо да каго сабралася? Прашу цябе: не рабі гэтага, ты ж сама знаеш, які цяпер час.

— Ні да каго я не збіраюся, на гарод трэ схадзіць, там у мяне схованка.

Унесла з сянец ночвы, наліла вады, і Ладымер пачаў мыцца, а яна выйшла на двор, узяла каля хлява вілкі, рыдлёўку, завярнула за рог хлява, адкідала вілкамі гной, якім закідала тое месца, дзе схавала бочку, пачала капаць.

Калі вастрыё рыдлёўкі ўдарылася аб цвёрдае, здагадалася: вечка блізка. Асцярожна вызваляла вечка ад настылага, злёгку падмерзлага пяску. Як толькі ачысціла ад пяску, падняла, адклала ўбок, пачала мацаць рукамі ў бочцы, шукала патрэбнае,

Борздзенька закрыла вечка бочкі, прыграбла адкопанае месца зямлёю, закідала зверху гноем, схапіла вузельчык з салам, крупамі, мукой — і ў хату.

Калі вярнулася, Ладымер, голы па пояс, дамываўся, ліў на шыю і спіну з конаўкі цёплую ваду, пялёскаўся, ад задавальнення фыркаў. Надзя прыгледзелася да яго і ўбачыла на спіне, трохі ніжэй правай лапаткі, глыбокі ружовы пісяг, які, мабыць, толькі-толькі зацягнула маладзенькай кволай скурай.

— Вазьмі, Надзё, трохі на спіну палі, а то самому не з рукі,— працягваў ён ёй конаўку.

— Дык ці можна? — спужалася яна.— Там жа ў цябе рубец на спіне, балецьме мо?

— Давай, давай, ніякая трасца мяне не схопіць.

— А і праўда не баліць? Да касці ж, здаецца, дастала. І дзе ето цябе так?

— Ат, і не кажы — асколкам шкрабнула, калі б трохі глыбей, то зачапіла б нервы, і не служыць бы маёй правай руцэ, але добра тое, што дабром канчаецца...

Яна дастала яму выпраны і выкачаны качалкамі ручнік з даматканага палатна, і ён, выціраючыся, расчырванеўся, узбуджана гаварыў:

— Добрая вадзіца, як лекі якія прыклаў, дзякуй табе, жоначко.

Выцершыся і зноў надзеўшы гімнасцёрку, басаnож падыбаў да ложка, на якім, раскінуўшы ў бакі ручкі, спаў Валодзька. Ён пазіраў на сына сумнымі вачыма, маўчаў, адно ўздыхаў глыбока і працяжна, папытаўся:

— І даўно ён захварэў?

— У канцы лета, праўда, пачаў быў ісці на папраўку, а пасля зноў недзе ветрам, мабыць, прабрала яго і хвароба вярнулася, але цяпер яму лягчэй.

Пасля яе слоў у хаце стала ціха-ціха, чуваць, як гараць і патрэскваюць у печы дровы.

— Думала, што ўжо не адхаю, не выхаджу — такі слабенькі стаў, але суджана яму жыць, цяпер бачу: будзе жыць, спаць спакойна пачаў і ўчора першы раз папрасіў есці.

Ладымер слухаў моўчкі, затым падышоў да яе, прыціснуў здаровай рукой да сябе, галаву паклаў ёй на плячо, рукой расчэсваў ёй валасы на галаве, казаў, бы суцяшаў:

— Нічога, маці, не гаруй, перажывом як-небудзь...

Ночы восенню доўгія, але якой кароткай паказалася Надзі гэтая. Яны ляжалі ў пасцелі і гаварылі. Надзя расказвала, што хто-ніхто з каласкоўскіх падаўся ў паліцыю, вунь і Яўстратаў хлопец ды Сялевееў апранулі чорныя шынялі з белай павязкай на рукавах.

— І хто б мог на іх падумаць? — дзівілася Надзя.— Да вайны ж абодва былі такія ціхія.

— Шкуру сваю, падлюгі, ратуюць, брахні нямецкай паверылі.

— Яно-то ўсё так, але ж мне ў галаву ніяк не ўлезе: такія ж ціхія былі етыя хлапчакі.

— Заладзіла: ціхія, ціхія... У ціхім балоце чэрці вадзяцца...

Ладымер абдымаў яе, цалаваў, горача шаптаў:

— Якое гэта шчасце, што я застаў цябе з Валодзькам на месцы! Чаго я толькі не перадумаў, калі дабіраўся да нашага сяла!.. І толькі калі ўбачыў у акне твой цень — на душы адлягло...

У гэтую ноч ёй было пра што гаварыць Ладымеру, але яна больш адмоўчвалася. Мінута за мінутай — і ноч паволі менела, карацела, вось ужо і досвітак...

Ладымер усё не выпускае яе са сваіх абдымкаў, і яна ціхенька пратэстуе:

— Вось яшчэ зацяжару, а кругом жа вайна.

Ён не даў ёй дагаварыць:

— Радзі, Надзько, шчэ аднаго сыночка, ну, што ў нас з табой за сям'я — пражылі колькі гадоў, а нажылі толькі адно дзетка.

— Не час цяпера, Ладымер, думаць пра радзіны.

— Не, Надзько, час. А калі са мной што здарыцца? То хоць дзеці астануцца, успомняць, на магілу маю прыйдуць і паплачуць.

— Каб табе прышч на языку ўскочыў...

Калі ў вокнах зашарэла, Ладымер пачаў апранацца, абувацца.

— Не час цяпер, Надзько, адседжвацца на цёплай печы. Мы, акружэнцы, дамовіліся сустрэцца ў Мялешкавіцкім лесе, пачнём біць немца тут.

Яна падбегла да мужа, павісла на шыі, заплакала.

— Беражы сябе, Ладымерко, як жэ я з Валодзькам без цябе жыцьмом?

— Праз які час наведаюся ў Каласкі — Мялешкавіцкія ж лясы блізка...

Да самага рання ў тую ноч не сціхаў дождж. Надзя, прачнуўшыся сярэдначы, болей так і не заснула. Думкі-згадкі пра Ладымера, пра першыя месяцы вайны развярэдзілі яе душу. Ды і хвалявалася за Ленку. «Летаргічны сон,— думала яна,— і што ето за хвароба? У іх у сяле чым толькі не хварэлі: воспай, скарлацінай, туберкулёзам, язвамі... А летаргічны сон? Такога слова ніхто ў сяле дасюля і не чуў».

## 13

Са спальні ўсё яшчэ даносяцца Валодзева гаворка, смех: то ён забаўляецца з дачкой, з Інай.

Надзя па-ранейшаму сядзіць перад акном і ўяўляе сынаву з унучкай забаўку: Валодзя, яшчэ не апрануты, босы, паказваецца з-за шафы, якая стаіць у спальні і за якую ён схаваўся ад дачкі. Інка шчабеча нешта, яна, мабыць, задаволена, што бацька весяліць яе, і ў яе радасны, жартаўлівы настрой. Яна кладзе галоўку на падушку, зажмурвае вочкі, камандуе:

— Хавайся!

Наступае цішыня, якая цягнецца некалькі хвілін. Пасля раптам да Надзі на кухню даносіцца стук, грук: гэта Інка саскочыла з пасцелі, шукае бацьку, але не заўважае яго і бяжыць на кухню. Згледзела Надзю, забыла пра бацьку і, хоць бачыць сваю бабулю ўсяго другі дзень, працягвае ручкі, каб Надзя яе ўзяла да сябе на калені. Надзя бярэ і пачынае паказваць ёй тое, што робіцца па той бок акна...

Хутка прыходзіць на кухню і сын.

Надзя бярэ ўнучку на рукі, прыхінае да сябе, цалуе ў абедзве шчочкі і адчувае, як на вачах закруціліся слёзы. Гэтыя слёзы былі горкія, пякучыя, нястрымныя...

Трымала адной рукой унучку, а другой выцірала слёзы, і ціха-ціха гаварыла — быццам супакойвала не ўнучку, а сябе.

— Нічого, Іначко, ето я так, ето хутко пройдзе...

Позірк яе прытуманіўся, але яна ўбачыла сына.

— Ты што, маці, захварэла? — Валодзя ўзяў з яе рук Інку, занёс яе ў спальню, да жонкі, а сам тут жа вярнуўся.

У вачах у Надзі трохі пасвятлела, але на душы ўсё адно як у глухую восеньскую ноч. Яна зірнула на сына

і па тым, як ён цяжка маўчаў, нізка апусціўшы галаву, зразумела: ён аб усім здагадваецца...

— Дык што ж, Валодзька, рабіцьмем? — ціха спытала яна.

Не зводзіць з сына вачэй, заўважае, як мяняецца яго твар, як запунсавеліся шчокі, а вочы спалохана заплюшчыліся, тут жа расплюшчыліся, і ён як бы хаваў свае вочы ад яе, баяўся зірнуць на яе, баяўся, мабыць, што яна загаворыць зноў...

— Не маўчы, сыне, кажы, што ты сабе думаеш... Я твая маці, і не таго я ў етую далеч ехала, каб глядзець, як ты маўчыш...

— Табе маці, трэба было раней прыехаць,— прамовіў Валодзя з сумам.— А цяпер... Неяк усё не так склалася...

Валодзя хутка сказаў гэта, замаўчаў, прайшоў ад дзвярэй да кухоннага стала, сеў на табурэт, закурыў і часта запыхкаў цыгарэтай. І раптам Надзя ўбачыла на сынавым твары хворую бездапаможнасць. Убачыла, што няма ў ім, у сыне, той упэўненасці, з якой ён размаўляў з ёю, сваёю маці, учора ўвесь вечар, калі яны сядзелі за святочным сталом. І, здавалася Надзі, што сын цяпер не ведае, як сябе паводзіць, не ведае, аб чым гаварыць.

— Кажаш, сынку, позна я прыехала? А ці магла я раней наведацца да цябе? Круцілася, як вавёрка... Ды каб жа і ты сам падказаў... А то як вады ў рот набраў... А цяпер кажаш «позна»... Ты як адгарадзіўся ад нас...

Магчыма, Валодзю было цяжка ўседзець на месцы, мабыць, прывык, калі гаворка ішла пра нешта такое, што кранала і хвалявала яго, слухаць, ходзячы па пакоі. Ён і зараз ускочыў з табурэта, зрабіў колькі крокаў да акна, але апамятаўся, вярнуўся на ранейшае месца, і цяпер выгляд у яго сапраўды быў вінаваты і бездапаможны. Надзя ўпершыню бачыла сына такім.

— Ты ж ведаў, што Ленка не адна будзе, то хіба ты меў права...— сказала Надзя і паморшчылася, як ад болю.

— Якая карысць гаварыць цяпер пра тое, што было? — паглядзеў на яе запытальным позіркам сын.

— Ага, сынку, табе хочацца, каб я маўчала. Не, тут не маўчаць, а крыкам крычаць трэба...

Перад ад'ездам з дамоўкі, сюды, да сына, у яе душы накапілася шмат рэзкіх слоў, якія яна збіралася выказаць Валодзю. У думках яна не раз праклінала яго за

тое, што на старасці гадоў з-за роднага дзіцяці ёй даводзіцца перажываць такое... Але цяпер, калі сын побач і яна глядзіць яму проста ў вочы, то нічога, апроч нейкіх жаласлівых слоў, сказаць не можа...

— Го-оспадзі-і! — пасля доўгага маўчання ўздыхае Надзя.— Калі б я ведала, што ўсё так кончыцца, то хіба я дазволіла б табе тады, перад тваім, Валодзя, ад'ездам у Мінск хоць на дзень заставацца дома? Але ж я думала, што ты чалавекам у мяне расцеш... У Ладымеравай і ў маёй радні ўсе дабрачыя былі, а ты, сынок, як з іншага свету — даждала ад цябе гасцінца... Парадаваў матку сваю... І сам у сяло не паказваешся — нарабіў шкоды і заціх, прытаіўся...

Гаворыць Надзя гэта, і ў душы ў яе ўсё кіпіць: «Колькі было перадумана, перагадана, як я з сынам сустрэнуся, як пагляджу яму ў вочы, якія словы скажу... А ось прыехала, убачыла... Але ж і не маўчаць... Дзе ето чувано — бацько жывы, а дзіця сіратою гадуецца...»

Ад гэтых горкіх думак, ад цяжкай размовы з сынам у вачах у яе ўсё памутнела, і яна ціха заплакала.

— Ладымер, бацько твой, калі ты, сынку, трохі падрос, нарадавацца не мог: «Вось мой наследнік, замена мая на зямлі!..» Ах, каб Ладымер жыў, як бы ён перажыў етае ўсё, што мне даводзіцца перажываць?!

Пахітваючы галавой, Надзя старанна разгладжвае на каленях сукенку, якая на ёй, колькі хвілін маўчыць: «Што цяпер будзе?»

Прымусіла сябе зірнуць на маўклівага сына, які паранейшаму сядзеў на табурэце, пазіраў у акно, пахмурнела моршчыў лоб і ні слова ў адказ: адвык за апошнія гады шчыра размаўляць з ёю, са сваёй маці. І хоць бы ж ёй у вочы глянуў, а то ўсё косіцца некуды ўбок, з акна позірку не зводзіць, быццам там, за акном, чорт ма што такое...

Добра прыгледзелася да сына і заўважыла, што скроні ў яго трохі пасерабрыліся, падбародак, начыста паголены, цяжкі, мясісты, паявіліся новыя маршчынкі на лбе, ля вачэй: «Хапае, мабыць, яму ўсяго: горкага і салёнага...» І тут быццам бы яе хвастануў хто крапівой па голым целе: «Што ж ето я раблю, ён жэ сын мой, крывінка мая, хто яго пашкадуе, калі не я, маці яго?..» На яе твары паявілася ўсмешка. У гэтую хвіліну яна як бы забылася пра ўсё: і чаго прыехала да сына, і пра тры-

вогу, якая не пакідала яе ні на момант. Яна ўсміхалася, Усміхалася ад радасці, ад шчасця, што вось выгадавала такога сына, які вялікім чалавекам стаў... Усміхалася яшчэ і ад таго, што ўпершыню за апошнія гады вось так блізка, твар у твар, вочы ў вочы, а не здалёку і не крадком бачыць свайго старэйшага сына...

Але ўжо ў наступны момант усмешка сышла з яе твару, вочы, што былі ажылі, у адно імгненне атухлі.

— Сынок, сынок,— твар яе стаў белы-белы,— значыць, ты вось так... Зганьбіў мяне на ўсё сяло...

Пачуліся лёгкія крокі, і з-за прыадчыненых на кухні дзвярэй паказалася Іра. Яна прысела каля стала на свабодны табурэт, рукі яе паспешліва пачалі разгладжваць складкі кяцістай, сям-там патрэсканай ужо, цыраты, якою засланы стол. Вочы ў нявесткі блішчалі зялёнымі агеньчыкамі, выгляд у яе быў такі, быццам яна ў чымсьці правінавацілася. І па аднаму гэтаму выгляду Надзя зразумела: Іра чула ўсё, аб чым яна, маці, увесь ранак гаварыла з сынам...

— Трэба крычаць, трэба кулакамі біць па стале, таму што гэта...— Іра як бы задыхнулася, закашлялася.— Ты, Валодзя, слухай маці, і ты зробіш усё, што трэба... Каб я знала...— Іра заўсхліпала: — Я не ведаю, што ў нас робіцца...

Унутры ў Надзі ўсё пахаладала, сціснулася: пачыналася сямейная сварка, а яна не хацела гэтага... Яна паспрабавала падняцца, але ад хвалявання аслабелі і не трымалі ногі, напала задышка, і Надзя, бяссільна апусціўшыся на ранейшае месца, адно сказала:

— Не трэба, дзеці... Крыкам гору не паможаш...

Мелькам зірнула на Валодзю і заўважыла: сын пакрыўджана, зусім як яго бацька ў такія моманты, як Ладымер, закусіў ніжнюю губу, вочы памутнелі, і ўнутры ў яго, мабыць, разгараўся агонь, які вось-вось прарвецца вонку... Але, убачыўшы гэта, Надзя не знаходзіла ў сваёй душы апраўдання для сына — заслужыў...

Паправіўшы на галаве белую ў чорныя кропачкі хустку-рэзанку, Надзя ўсё ж устала, правяла рукой па твары, па вачах — змахнула пот і слёзы, якія зноў былі падступілі да вачэй. Нельга ёй плакаць цяпер. Нельга даваць волю слязам. Не за тым яна ехала ў такую даль, каб сядзець ды ліць слёзы...

І тут Надзя губляе нітку разважанняў, ёй раптам па-

чало станавіцца млосна, у галаве бы нешта лопнула, зазвінела. Яна бачыць, як Валодзя варушыць губамі, але таго, што ён гаворыць, ніколечкі не разбірае. На сэрцы, адчувае, робіцца нядобра, пачынае кружыцца галава, перад вачыма ўсё паплыло, і яна правальваецца ў нейкую бездань... Падае доўга-доўга, пакуль нарэшце не ўдараецца аб нешта цвёрдае і не спахопліваецца:

— Дзе гэта я, што са мною?

Над ёю схіліўся Валодзя:

— У мяне ты, маці, гэта ж я, Валодзя, хіба ты не пазнаеш мяне?

Яна пазірае на яго і маўчыць, не разумее, што з ёю, чаму ў Валодзі слёзы на вачах? І чаму ў Інкі, яе малой унучкі, такі спалоханы выгляд?

Душна, чаму ў хаце так душна? Няма ж чым дыхаць, хоць бы дзверы адчынілі. Ага, здаецца, адчыніў нехта. Толькі што за чалавек у белым халаце паявіўся? Чаму Валодзя ўвіхаецца каля яго, памагае распранущца, падстаўляе яму табурэт.

Чалавек схіляецца над ёю, ён бярэ яе то за рукі, то заглядвае ў вочы, то пастуквае гумавым малаточкам па каленях, чыркае іголкай па ступнях ног, па суставах рук. Ад яго пахне лекамі. Выстукаўшы яе малаточкам, доктар — Надзя зразумела, што гэта доктар — садзіцца да стала, пачынае пісаць. А Валодзя ні на крок ад яго. Доктар пра нешта гаворыць ці мо нават пытаецца, Надзя недачувае, бо голас у яго прыглушаны, а Валодзя ківае яму галавой, бярэ з яго рукі паперкі, узіраецца ў іх, мабыць, чытае, што там напісана. Надзя стараецца лепш прыгледзецца да доктара, хоча запомніць яго твар. Але доктараў твар то прыбліжаецца, то аддаляецца ад яе. І воблік яго ўвесь час мяняецца: то ён нейкі далёкі, затуманены, то раптам павялічваецца, ёй добра відаць буйны падбародак, на якім бы павіслі, затрымаліся кроплі халоднага поту. І ўвесь твар у доктара ў дробных, бы раса, кропельках поту. Надзі цяжка пазіраць доўга на гэты твар, і яна адварочваецца, спрабуе павярнуцца на другі бок. І зноў ляціць-падае ў бездань. Доўга ляціць, нават страціла пачуццё часу...

Прытомнасць на гэты раз вярнулася да яе не так хутка. У вачах адразу пасвятлела, яна добра стала разбіраць, што робіцца ў хаце, толькі галава па-ранейшаму цяжкая, учыгунелая. Валодзя з Ірай знаходзяцца побач,

але яны не заўважаюць яе адкрытых вачэй, ціхенька перашэптваюцца...

Надзя неасцярожна паварушылася, і Іра заўважае гэта, наблізілася да яе, прысела на краёчак канапы, спытала:

— Вам палепшала трохі? Вазьміце лякарствы выпіце, мы тут урача выклікалі, ён вось выпісаў, аптэка ў нашым доме на першым паверсе, і Валодзя збегаў купіў.

Надзя нічога адразу не гаворыць нявестцы, ёй становіцца нядобра ад адной думкі, што прыехала і нарабіла дзецям столькі клопату. Ціхенька кажа:

— Даруйце мне, сама не знаю, што за ліха найшло на мяне, памарака нейкая прычапілася.

Парашкі, якія падала Іра, нясмачныя, горка-салёныя, бы палын. Яна адразу ўкінула ў рот тры таблеткі, скрывілася, запіла вадой і яе пацягнула на ваніты. Яна спрабуе падняцца, але Валодзя хуценька прыносіць вялікую міску.

— Ляжы, ляжы, маці, пакуль моташнасць і слабасць не пройдуць, урач сказаў, каб ты не вельмі варушылася.

Моташнасць, праўда, праходзіць хутка, толькі слабасць ва ўсім целе і галава бы не свая.

Ля пасцелі, дзе ляжыць яна, стаіць Інка. Яна трымае на руках вялікую ляльку ў бардовай сукеначцы. Ляльку Іна называе Мілай. Міла ўмее плакаць і нарасцяжку вымаўляе слова «ма-ма». Надзя гладзіць Інку па галаве, пытае:

— Ты любіш Мілу?

Замест адказу Інка махае галоўкай: «Ага, люблю».

Пакуль яна размаўляе з унучкай, Валодзя стаіць у дзвярах і глядзіць то на Іну, то на яе, Надзю. Надзі падалося, што сын пазірае на яе бясконца доўга. І заўважае: пад вачыма ў сына цёмныя кругі, а твар пабляднеў, сухі, бы нежывы. «Перажываеш, сынок? Як жа не перажываць — адна бяда кругом...»

Нарэшце Валодзя знікае за дзвярыма, але Надзя ўсё адно не зводзіць вачэй з таго месца, дзе стаяў сын. Ёй уяўляецца, што тут, адкуль ні вазьміся, Ленка. «Скуль ёй тут быць? — пераконвае сама сябе.— Гэта ў мяне нешта з галавой...»

Яна праводзіць рукой па твары, па вачах, бы змахвае, адганяе ад сябе нейкі туман. Не, Ленка ўсё адно стаіць у вачах.

## 14

Раніцай яна выйшла з хаты, пастаяла на ганку. На дварэ не сціхаў дождж, які пачаўся ўночы. Пасля ўчарашняга душнага дня рэзка пахаладала, і Надзя вярнулася ў хату, каб накінуць што на плечы. Знайшла ў старым драўляным куфры, абабітым па вуглах бліскучымі бляшанымі палосамі, старую канаплянку, разгарнула яе, паглядзела, ці не паела моль, ці не патачылі мышы. Не, хустка цэлая.

Ёй пара ісці, а яна ніяк не асмельваецца. Стала і стаіць на покуце бы ўкопаная. Ні разу ж, як радзіла Ленка, яна не заходзіла да яе ў хату. Яе, праўда, туды ніхто і не зваў. Не завуць і цяпер. Але ісці, разумее Надзя, трэба. Там жа, мусіць, Віця халодны і галодны, раз Ленка захварэла.

Пераходзіць гразкую вуліцу, ступае ў Ленчын двор і адчувае, як моцна б'ецца сэрца.

У хаце ў Ленкі поралася Палажка, апранутая не палетняму, у стары плюшавы паўсачок, на галаве ў яе пуховая хустка, завязаная ззаду вузлом, на нагах шытыя, у галёшах, валёнкі. Гэта была тая самая Палажка, якая некалі памагла Надзі, калі яна нарадзіла Любку. Пастарэла, змянілася з таго часу Палажка. Дзе ж ты не зменішся, калі столькі год мінула ад тых дзён! Высахла Палажка, стала маленькай, прыземістай, твар увесь зморшчаны, вочы слязяцца, выцвілі.

— Добрэ, Надзько, што хоць ты надумала прыйсці, а то я тут не знаю, у які бок кінуцца: карова ж, цяля, свінчо ў Ленкі. Дай і хлопца во дагляну́ць трэ, накарміць-напаіць яго, і ад Ленкі не адходзь — стогне яна, плача ў сне, а ў мяне самой здароўя бы ў камара: мерзну, аслабела, спіну, мабыць, застудзіла на скразняку, сагнуцца не магу.

Надзя ссунула з галавы на плечы канаплянку, падышла да печы, у якой зырка шугала полымя, працягнула перад сабой рукі, пагрэлася трохі і ступіла бліжэй да пасцелі, дзе ляжала Ленка. Яна не пазнала суседку. Твар яе пажаўцеў, выцягнуўся, выступілі і завастрыліся скулы, вусны абсмяглі, патрэскаліся, на іх запяклася маленькімі кропелькамі кроў: Ленка часта трызніла, кусала вусны, скрыгатала зубамі.

— Трэці дзень спіць,— дастаючы з печы вілкамі з

доўгім дзержаком вялікі чыгун бульбы, зваранай, мабыць, для парасяці, кажа Палажка.— Прыходзіла наша медсястра, яна і тое рабіла, і сёе рабіла, і ўколы калола, і халодны кампрэс на галаву клала — нішто не памагае. Кажа, што ето летаргічны сон. Етым сном, сказала медсястра, людзі могуць доўго спаць.

— Ой, хай на сухі лес усё етае,— толькі і адказвае Надзя Палажцы.

У роспачы і горы стаіць яна ля пасцелі і быццам чакае, калі Ленка раскрые вочы, устане, загаворыць. Ёй ужо і здаецца, быццам Ленка заварушыла рукамі і нагамі, заміргала вейкамі — сабралася ўставаць. Ды не — Ленка зноў пачала трызніць. Яна церабіла ў сне рукамі, круціла галавой, стагнала, кідалася.

Надзя правяла вачыма па хаце, пашукала Віцю. Ён, мабыць, прывык да таго, што яго мамка каторы дзень не ўстае з ложка, і спакойна гуляў-забаўляўся са сваімі цацкамі ля стала. У руках у Віці Надзя ўбачыла паравоз з трубой, які хлопчык усё хацеў каціць па самаробнай, зробленай з запалак, «чыгунцы». Ён гуў, сіпеў, спрабаваў пускаць ротам, бы сапраўдны лакаматыў, пару, і яго машына з шумам пачынала кранацца з месца.

На вачах у Надзі выступілі слёзы, але яна ўсё адно падышла да Віці:

— Хто ж табе даў сярнічкі?

Хлопчык паглядзеў на яе вялікімі чорнымі вачыма, якраз як у Ленкі, спужаўся, апусціў уніз галоўку.

— Давай лепш умыю цябе, дам паснедаць,— узяла Надзя Віцю за ручку і павяла ў сенцы, да вады.

— Вось цяпер парадак,— калі хлопчык выціраўся ручніком, казала Надзя.

Сюды ж, у сенцы, уваходзіць Палажка: яна ўносіць вялікі чыгун з варанай бульбай, ад якога пад нізкую столь падымаецца густая пара. Не адцэджваючы чыгун, Палажка высыпала бульбу ў драўляную ражку, прыпыліла яе зверху мукою і пачала таўчы. Паглядзела на Надзю, якая трымала за руку Віцю, сказала:

— Там, Надзё, у печы ўсё стаіць, даставай і кармі хлапчака, а я тут хачу барзджэй управіцца, урач жа з райцэнтра маецца прыехаць.

— Ой, то чаго ж ты зразу мне не сказала пра етае — трэ ж у хаце парадак навясці.

Яна павяла Віцю ў хату, пачала яго карміць, пагля-

дзела на ходзікі — стары гадзіннік, які яшчэ некалі купіла Ленчына бабуля, з металічным кругляшом-маятнікам на тонкім дроціку і бліскучай гірай на медным ланцужку,— ён паказваў адзінаццаць.

Хутка пакарміла хлопчыка і ўзялася за венік, падмяла падлогу, зграбла ў старое вядро і вынесла на двор смецце. Затым прайшлася мокрай белай анучкай па вокнах, падаконніках.

Раззлавалася на сябе, што не зайшла да Ленкі ўчора вечарам, калі дазналася пра яе хваробу ад Грышкі. І калі Палажка вярнулася з двара ў хату, Надзя пагля-дзела на яе нерухомымі вачыма, якія ўраз павільгатнелі, засмаркалася ў фартух, села на лаву, што насупраць печы, нізка схіліла галаву:

— Госпадзі, што цяпера падумаюць людзі?

Палажка ўздыхнула:

— У каго язык без касцей, хай што хоча меле, але не ў том, Надзько, цяпер дзело: трэ думаць пра Лену, пра Віціка. Барані божэ, але калі з Ленкай што паганае зробіцца, то куды ж дзіця дзець? Адна сірацінка астанецца, у Ленкі ж блізкай радні нямашака.

Твар у Надзі ад гэтых слоў Палажкі спахмурнеў, яна ўстала з лавы, непрывычна варухнула правым плячом.

— Як бы там сабе ні було, а Віціка я ў крыўду не дам, дагледжу як-небудзь.

Палажка слухала яе моўчкі, выграбла з печы жар, засунула далей у глыбіню печы чыгункі з абедам, закрыла печ засланкай.

— Твой Валодзя хоць ведае, што тут робіцца? — адышоўшы ад печы, паглядзела на яе Палажка.

— Збіраюся ж з'ездзіць, пагаварыць з ім, дак вечна ж у клопатах, няма калі вубрацца. А зараз і сама не знаю, што рабіць і з чаго пачаць; ці кінуць-рынуць усё і адскочыць на які дзень-другі ў Мінск, ці аставацца тут?

Палажка не спускала з яе вачэй, пазірала ўважліва, насцярожана, і, замінаючы няёмкую паўзу, прагаварыла:

— Пакуль пацярпі з паездкай, зараз ты тут больш патрэбна.

Разгубленая, растрывожаная Надзя павярнулася тварам да акна, быццам там, за акном, яна магла ўбачыць ці знайсці разгадку таго, што ёй рабіць, як выбрацца са становішча, у якім апынулася. Глядзела ў акно і казала:

— Хто яго разбярэ, Палаг'ё, чаму так усё складваецца? Заўсёды жытка ставіць мяне то перад адным, то перад другім... І колькі я магу трываць усякаго?! То Ладымера не дождаласа, то з-за Любкі нерваў колькі згубіла. Ды, нарэшце, у дачкі жытка наладжвацца пачала, пажыць бы цяпер хоць трохі ў спакоі, дак не. І чаго ето ўсё так складуваецца? Чаго? Хіба грэшніца якая, што на маю галаву ўвесь час шышкі сыплюцца? У етых бясконцых клопатах не ўгадаеш, калі і на магілкі збірацца пара настане. Жытка, бы тая вада: цячэ і цячэ, і ўсё, здаецца, міма ды міма, і пуста вось тут,— Надзя паказала рукой на сэрца. Твар яе пачырванеў, яна хвалявалася.— Хіба лёгко було гадаваць Валодзьку, вучыць яго? У школу ж за восем вёрст штодня хадзіў. І апраткі набрацца з вобуткам трэба было, і харчу. З апошняга цягнуласа, але вучыла, думала: хай то ў мяне жытка не такая, як хацеласо вуйшла, то хай хоць мае дзеці людзьмі стануць. А Валодзя вурас, наўчыўса, з кожным годам усё далей і далей ад мяне, іншым разом здаецца мне, што яго ў мяне і няма.

— Такая наша бацькоўская доля,— уздыхнула Палажка.— У нас свая жытка, а ў нашых дзяцей — свая. Канечне, твая праўда — у бацькоў з-за дзяцей вечна сэрца баліць, душа не на месцы, а ў дзяцей...

Палажка раптам перапыніла сваё разважанне, сцяла вусны, задумалася. У гэты час у калідоры стукнулі дзверы. Яны абедзве ад нечаканасці ўздрыгнулі, пераглянуліся, быццам папыталіся адна ў адной: «Хто там?»

На парозе тут жа паявілася вясковая медсястра, ці, як завуць яе ў Каласках,— «дахтарка». Яна прыйшла не адна: з мужчынам невысокага росту, у бліскучых, з залатой аправай, акулярах, чорным плашчы, з якога буйнымі кроплямі сцякала на падлогу вада. У руках мужчына трымаў вялікі партфель, зашчэплены на бліскучы замок.

— Праходзьце, Галька, садзіцеса,— першай апамяталася Палажка, схапіла стары палатняны рушнік, выцерла ім дубовую канапу, на якую паказала рукой, каб садзіліся. А гэты мужчына, што ўвайшоў з ёю, стаяў у парозе ў нерашучасці, не ішоў далей, баючыся, мабыць, наслядзіць,— з яго плашча сцякала вада.

— Андрэй Паўлавіч — наш раённы ўрач, неўрапатолаг,— адрэкамендавала ім медсястра мужчыну, хуцень-

ка распранулася і стала памагаць здымаць мокры плашч урачу.

На падлозе цямнела невялікая лужына вады, што насцякала з вопраткі і абутку фельчаркі і ўрача.

— Даўно б прыехаў, але ж ніводнай машыны пад рукой. Добра, што вузкакалейка да самага сяла падыходзіць, на дрызіне дабраўся, праўда, намок добра.

Доктар спаласнуў рукі, падышоў да ложка, на якім ляжала Ленка, пачаў выслухваць стэтаскопам.

Перш расплюшчыў ёй пальцам вейкі, зазірнуў у вочы. Затым узяўся выслухоўваць сэрца. Прыклаў стэтаскоп адным канцом да вуха, другім — да грудзей, прасіў, каб яны не гаманілі. Слухаў, круціў галавою:

— Часціць пульс, і шум староннi ў клапанах, арытмія відавочная.

Затым зноў пачаў падымаць уверх вейкі, заглядваць Ленцы ў вочы. З-за доктаравай спіны Надзя ўбачыла, што зрэнкі ў Ленчыных вачах запалі моцна ўніз, не варушыліся.

Закончыўшы аглядваць Ленку, урач папрасіў Галю даць спаласнуць яму рукі і пачаў апранацца.

Надзя пазірала на ўрача, які, уздзеўшы на сябе не зусім прасохлы плашч, стаяў ля печы, утаропіўся ў акно, нервова барабаніў пальцамі па вушаку ўваходных дзвярэй. Ён і без пытання разумеў, што павінен, абавязан нешта сказаць гэтым жанчынам. Ён пазіраў на іх, аб чымсьці думаў.

— Паслухайце,— звярнулася да яго Надзя,— што робіцца з нашаю суседкаю?

Наступіла нядоўгая цішыня. Урач сумна бліснуў акулярамі ў Надзін бок, апусціў вочы долу:

— Хваліцца пакуль няма чым, адно магу сказаць: хвароба гэтая — не першы выпадак у маёй урачэбнай практыцы. Раней многія лічылі, што такую хваробу лячыць нельга. Цяпер так не думаюць, урачы бяруцца — і багата каму памагаюць, так што давайце набяромся цярпення і будзем верыць усе разам...

Націснуўшы на язычок клямкі, ён адпіхнуў ад сябе дзверы.

— Памажыце ёй, дохтарко, каб ведалі вы, як ёй, беднай сіратцінцы, расці без бацькі і маткі было? — наўздагон папрасіла яго Надзя, і ў яе вачах выбліснулі, заіскрыліся слёзы.

Доктар першы раз усміхнуўся і, ужо стоячы па той бок дзвярэй, сказаў:

— Ґэта наш святы абавязак.

Сагнуўшыся як ні ў тры пагібелі, засланяючыся такім чынам ад нуднага, дробнага дажджу, што не сціхаў з самага ранку, ён хуценька пратупаў пад вокнамі, стукнуў веснічкамі, падаўся па вуліцы, выбіраючы сушэйшыя месцы, да праўлення калгаса.

Праводзіўшы позіркам урача, які пакрочыў па вясковай апусцелай вуліцы, Надзя ўздыхнула, улавіла тое, як пераглянуліся Галя з Палажкай.

— І што за свет цяпера пайшоў,— пачала Палажка,— бацькі цураюцца сваіх родных дзяцей — як так можна? А дзіця? Чым яно вінаватае? Хіба ў дзіцяці душы няма? Падрасце — і перажывацьме, што бацьку свайго роднага не знацьме.

Надзя зразумела: то ў яе гарод камень Палажка пусціла.

— Гм-м,— падцяла тоненькія фарбаваныя губы фельчарка,— сорам, кажаце, адказнасць, і ўсё такое? Цяперашняя моладзь навучылася мірыцца з усім гэтым. І праўда, хто б мог падумаць, цётка Надзя, што ваш Валодзя здатны на такія штучкі? А вучоны ж, з Каласкоў, здаецца, далей яго ніхто пакуль не пайшоў?

— Я не заступаюса за яго,— раззлавалася Надзя, якая дасюль моўчкі слухала тое, што тут гавораць,— нядобра ён, канечне, зрабіў, толькі з-за аднаго нагулы няма чаго чарніць усіх. Усе тут ні пры чым. А Валодзя? Дурны ён у мяне, думаў, гулі пагуляе і на тым усё кончыцца. Ён пагуляў, а Ленка і панясла ад яго, тут справа нехітрая. Вось я збяруса, з'езджу да яго, ён у мяне будзе знаць.

— Кіньце вы, цётко, нервы свае псаваць,— перамяніла тон і пачала супакойваць яе фельчарка.— Вельмі Валодзя спужаецца вас. Цяпер не пра гэта трэ гаварыць, пра іншае давайце падумаем — як Ленцы памагчы, куды жэўжыка малога дзець, не пакінеш жа яго аднаго ў чатырох сценах.

Асталявалася цішыня. Надзя падышла да Віці, які ўвесь час вёў сябе ціха, забраўся ў куточак каля стала, маўчаў, спадылба назіраў за ўсімі, хто быў у хаце.

— Хадзі ка мне, мой ты хлопчык, пра цябе ўсе забыліса, дзіцятка ты маё залатое.

Віця нясмела выйшаў з закутка, прысланіўся да Надзінага падола.

— Не плач, Віцік, усё будзе добра, мамка паправіцца — і табе зноў стане весела,— з пяшчотай гладзіла Надзя хлопчыка па стрыжанай галоўцы.

Суцяшала Віцю, а ў самой чортведама што рабілася на душы. Горла сціскала нейкімі тугімі спазмамі, няроўна і часта забілася сэрца, у скронях запульсавала кроў, цяжка, са свістам у грудзях, дыхалася. Убачыла, як Віця са страхам у вочках пазіраў знізу ўверх на яе, трымаў спужана за руку.

— Баба, го бабо? — ціхенька папытаў Віця і па-ранейшаму з нейкай верай і дзіцячай адданасцю пазіраў на яе.

Тут яна ачомалася, глянула зверху ўніз на хлопчыка, падхапіла яго на рукі, пачала цалаваць, гарнуць да сябе, прыгаворваць:

— Не бойса, дзіцятка маё, аднаго цябе ніхто не збіраецца пакідаць, покуль мамку будуць лячыць у бальніцы, я ад цябе ні на крок не адыду.

Калі яна сказала так, Палажка з фельчаркай пераглянуліся зноў, і Надзя паспяшала ім растлумачыць:

— Са мною Віця жыцьме, ага, са мною, а з кім жа яшчэ?

Фельчарка з Палажкай маўчалі.

Палажка загаварыла першай:

— Мы от жомкаем тут сабе, балабонім, а ўрач можа з'явіцца з хвіліны на хвіліну, а Ленка не гатовая, трэ ж яе ў чыстае пераапрануць.

Палажка забегала, закруцілася па хаце, шукаючы, у што б такое пераапрануць Ленку. Яна мітусілася, хапалася за бялізну, сукенкі, якія віселі на вешалцы ля печы. Але патрэбнага доўга не магла знайсці, бубніла сабе пад нос, бы некага ўшчувала.

— Не там, Палаг'ё, корпаесса,— спакойным голасам спыніла мітусню Палажкі Надзя,— глянь вазьмі ў шафу, выпраная бялізна, мусіць, там.

Адчыніўшы дзверцы шафы, якая стаяла на другой палавіне хаты, у кутку насупраць стала, Палажка пачала перабіраць і перакладваць з аднаго месца на другое вытканыя на кроснах яшчэ Ленчынай бабуляй радзюжкі, вышытыя Ленчынай рукой ручнікі, настольніцы, насыпкі на падушкі. Нарэшце знайшла і тое, што шукала...

Пад самы вечар паявіўся ўрач. З ім прыйшоў калгасны вартаўнік дзядзька Кеб — высокі, магутны, як дуб, з вялікім прамым носам, чырвоным абветраным тварам. Яго і вартаўніком зрабілі таму, што баяліся ўсе. А вартаваў Кеб калгасныя пчалапасекі, сенакосы, палі, лясы. Паспрабуй хто запусці скаціну ў шкоду ці высечы без дазволу праўлення дрэва — Кеб пад зямлёю небараку знойдзе і такога прачуханца ўваліць, што дзесятаму заказаш, запомніш, як лезці куды не трэба.

— Сабралі хворую? — ціха папытаўся доктар.

— Ага, пераапранулі, памылі,— адказала фельчарка.

— То рушым, валэндацца няма калі, позна ўжо,— прамовіў ён і паглядзеў на Кеба, які стаяў ля печы.

Кеб падышоў да пасцелі, з дапамогай жанчын захутаў Ленку ў цёплую радзюжку, узяў яе на свае дужыя рукі, пакіраваўся да выхада. Здавалася, быццам нёс ён не чалавека, а саломіну, так лёгка ён ступаў, спакойна, без задышкі гаварыў.

Услед за імі выйшла і Надзя. Яна трымала на руках Віцю, які маўчаў, цяжка соп, ні аб чым не пытаўся.

Кеб, трымаючы Ленку на выцягнутых руках, ішоў хутка, спорна, робячы як ні паўтарамятровыя крокі. Услед за Кебам, блізарука жмурачыся — не адрываючы вачэй ад долу, каб не аступіцца і не трапіць у лужыну, дробна часціў доктар. Надзя таксама ледзь паспявала за імі. Добра хоць, што Віця не куксіўся, не плакаў.

Усе яны, хто спяшаўся за Кебам, маўчалі. Палажка часта ўздыхала, ішла, каб не адстаць ад усіх, ледзь не трушком. Надзя пазірала, як Палажцы нялёгка даецца гэтая хада, моўчкі адзначыла яшчэ раз, што Палажка моцна пастарэла, высахла, зрабілася бы святая — такая яна сухенькая, невядома ў чым і душа трымаецца...

Ленку палажылі на насілкі, што стаялі на дрызіне, укрылі радзюжкай, а зверху радзюжкі, каб яна не прамокла і не прадула яе стрэчным ветрам, нацягнулі доўгі, выліняалы на сонцы брызент. Затрашчала, завыла дрызіна, ірванулася з месца, бы віхор, панеслася з пад'ёму ўніз, памчалася ў бок райцэнтра. «Толькі б усё добра было, толькі б добра...» — ціха шаптала Надзя, гледзячы, як хутка знікае з вачэй, раствараецца ўдалечыні дрызіна.

Заўсёды шумная, шматгалосая, ажыўленая вечарам вуліца зараз аказалася ціхай, бязлюднай, сіратлівай.

Адна Надзя толькі і ішла па ёй, несучы на руках Віцю, які, стомлены сённяшнім днём, заснуў, паклаўшы галаў ёй на плячо, спакойна і роўна пасопваў.

Кароў, мабыць, папрыганялі з пашы, бо за платамі, на дварах, чулася, як жанкі бразгалі вёдрамі, адчынялі са скрыпам у хлявах вароты: спяшаліся, пакуль яшчэ завідна, падаіць.

Надзя прыбавіла кроку. Трэба ж загнаць у двор сваю і Ленчыну каровы, падаіць, папарацца па малых гаспадарчых клопатах. Цяпер дапоначы і не прысесці, бо на яе плячах з сённяшняга дня дзве гаспадаркі і малое дзіця.

Упусціла ў двор Ленчыну карову, увайшла ў хату, паклала хлопчыка на ложак, распранула, разула яго, накрыла дзяругай, узяла ў сенцах даёнку, сабралася ісці на двор. У сенцах было ўжо цёмна, бо вокан тут няма, і, каб не зачапіцца за што, яна ўключыла святло. Агледзелася наваколл, адзначаючы вачыма, дзе стаіць цэбар, мяшок з мукой, бочка з жытам. Пазірала на ўсё, запамінала, каб, калі спатрэбіцца, не тыцкацца дарэмна тудсюд па калідоры. І ўздрыгнула, пачула, як часта, раз за разам, заўздыхаў у сне Віцька, нешта незразумелае прамармытаў. Яна вярнулася да дзвярэй, прачыніла іх, убачыла, што хлопчык спакойна спіць, зачыніла дзверы зноў, пайшла на двор.

## 15

Пад канец дня Надзі палепшала. Яна зноў адчула ранейшую рухавасць у целе, яснасць у галаве. Толькі ніяк не магла супакоіцца ад думкі, што вось прыехала да сына, нарабіла яму клопату. Яшчэ добра, што не злегла зусім і не зрабілася з ёю горш. Столькі ўсяго за апошнія месяцы звалілася на яе галаву, то як тут і вытрываць было, перанесці ўсё спакойна? Лічы, гэтае замарачэнне, якое найшло на яе сёння, не такая ўжо і цяжкая расплата за бясконцыя хваляванні апошняга лета і восені. У яе гадах магло б здарыцца і горшае.

Валодзя з жонкай і дачкой сядзелі ў спальні, пазачынялі дзверы, не ўключалі ні тэлевізара, ні радыё, каб лішне не трывожыць яе, Надзю.

Паспрабавала падняцца, прайсціся па пакоі. Не, адразу ёй гэта не ўдалося. Злёгку закружылася галава, за-

білася-заскакала сэрца. Зноў паднялася. Ногі як ні сваё, дрыжаць, не хочуць трымаць. «Божа, што за напасць на мяне такая?» — падумала, паволі і з цяжкасцю пратупала па пакоі да акна.

На вуліцы нанач, мабыць, бралася на мароз. На асветленым ліхтарамі прыпынку, які добра відаць адсюль, з акна другога паверха, людзі не стаялі на месцы, хадзілі ўзад-уперад, білі нага аб нагу, церлі рукамі вушы.

Надзя падняла вочы, глянула ўверх. На небе халодным бляскам высвечваў месяц. Міма месяца плылі-беглі пранізліва-бледныя воблакі, і здавалася, што ўслед за імі пусціўся ў пагоню і месяц. Але гэта толькі ўяўлялася. «Што мне рабіць? Як быць?» — пазірала яна на месяц, быццам чакала, што вось зараз ёй нехта адкажа на яе пакутлівыя пытанні. Наспружынілася ўся, напялася, бы струна, услухоўваючыся ў гукі, што чуліся па той бок акна, там, на вуліцы. Толькі не, нішто не магло яе суцешыць. І ўсё, што не давала ёй спакою, грызла душу, ляжала на сэрцы глухой, шчымлівай трывогай...

Але ад акна ёй усё адно адыходзіць не захацелася. Глядзела на асветленую ліхтарамі вуліцу, узіраючыся ў цёмны хваёвы лясок, да якога прыткнуўся гарадскі мікрараён, і быццам адыходзіла ад рэальнага, пачынала жыць толькі ўяўленнем. Ёй здавалася, што яна добра бачыць свае Каласкі, што няроўным клінам падступілі да вузкакалейкі. Недзе там, пасярэдзіне таго кліна, яе дом — будыніна з сасновых абчэсаных бярвенняў, накрытая асінавай гонтай, ці, як кажуць у Каласках — «стружкай», бо тую гонту нарэзваюць з асінавых плашак каласкоўцы самі. Дзе-нідзе гонта зверху пакрылася кароценькім слізкім мохам. Але дах, хоць і абымшэў, не цячэ, бо гонту клалі не ў адзін, а ў некалькі радоў. Не на адзін дзесятак гадоў хопіць такога даху, абы падваліны з вянкамі вытрымалі.

Зараз Надзі ўяўляецца, што каля яе хаты сабралася багата людзей. І яна пільна ўзіраецца ў іх твары, услухоўваецца ў галасы, але пра што ідзе гамана — разабраць не можа. І раптам бачыць свайго меншага сына — Сяргея. Радуецца, што агледзела яго, працягвае яму рукі, кліча да сябе: «Сынок мой! Што ты тут робіш сярод чужых людзей?» Сяргей здзіўляецца: «Ды што ты, маці, гаворыш?! Агляніся лепш, якія ж гэта чужыя? Гэ-

та ж госці нашы, прыйшлі да нас з Валяй на вяселле...»

Махнула перад сабой рукою, бы адмахвала ад сябе туман-навалач, у якім бачыла-пазнавала Каласкі, свайго меншага сына. Павярнулася, яе моцна хітнула ўбок, ледзь устояла на нагах і, каб не ўпасці, схапілася рукой за падаконнік. Вярнулася да пасцелі, села, распранулася і лягла, зажмурыла вочы, паспрабавала прымусіць сябе заснуць, ды не так гэта проста зрабіць, калі душа не на месцы. Не спускаючы з пасцелі ног, села, пазіраючы перад сабой невідушчым позіркам, і бачыла даўняе і нядаўняе, пражытае...

## 16

Пачынала днець, але Надзя так і не самкнула за ўсю ноч вачэй. Яна ўсё думала, думала, думала...

Да Ленкі ездзіць яна сама не ездзіла. Паспрабуй пакінь дзве гаспадаркі без нагляду на ўвесь дзень! Тут табе віску-піску такога наробяць свінні, цяляты ды куры з гусямі, што ўсё сяло на ногі падымуць. Ды і кароў жа на дні тры разы падаіць трэба.

Выпраўляла Грышку. Ды хіба ад гэтага болбатня даб'ешся якога толку? Вярнуўся з раёна, заладзіў: «Доктар сказаў, што ўсё ў поўным парадку, хутка, маўляў, Ленка паправіцца, вернецца дадому».

Канечне, калі б удалося самой вырвацца, то ведала б, як там з Ленкаю, ці доўга яшчэ ёй качацца на бальнічным ложку? Ужо месяц, як спіць яна тым летаргічным сном і не ачнецца ніяк. Пачынала зацвітаць бульба, калі адпраўлялі яе ў бальніцу. Цяпер жа багата хто ўжо падкопвае дзе якія большыя карчы. Хоць і ранавата яшчэ падкопваць маладую бульбу, але пасля спорных ліпеньскіх дажджоў завязі багата. Праўда, яшчэ драбнаты нямала, але трапляліся ўжо клубні і з курынае яйка. Наедак з гэтай маладой бульбы невялікі. Зварыш яе, а яна слізкая, бы тое мыла, не разварваецца, і смаку ніякага. Ды ў каго леташняя выйшла, а сям'я ў пяць ці сем душ, то куды ты дзенешся, будзеш і такую падкопваць.

Спрабавала і Надзя ўчора падкопваць на Ленчыных сотках. Выбірала лепшыя карчы, зверху якіх на месцы адцвілых кветак выспелі зялёныя, бы малыя таматы, «яб-

лыкі». Ёй-то і не хацелася псаваць загон, але ж парася зеллем не стала каядацца, віскам вішчыць праз увесь дзень, думала накапаць трохі і накарміць ненажэру гэтую маладымі клубнямі. Ды позна Ленка сёлета пасеяла свае соткі, пад карчамі пакуль адзін гарох. К пачатку восені, мабыць, толькі збуцвее бульбоўнік на яе сотках. Добра, што мукі жытняй у калідоры два мяхі стаіць. Усё-такі не нішчымнае зелле можна падаваць парасяці: місачку мукі заўсёды можна прымяшаць.

На пасцелі, упобачкі з ёю, ляжыць Віцька. Спрабавала класці аднаго, то не, не хоча, баіцца, мабыць, адзін.

Віця дыхае спакойна, паклаўшы адну ручку пад галаву. Надзя паправі́ла коўдру, якая спаўзла хлопчыку на ногі. І тут пачула, як нехта стукнуў веснічкамі, пратупаў пад вокнамі, пачаў барабаніць у дзверы, зваць яе: «Мамо, го, мамо, адчыні!»

Не апранаючыся, накінуўшы на плечы плюшавую жыкетку, наткнуўшы на босыя ногі боты, борздзенька выйшла ў сенцы, прыцішаным голасам папыталася: «Хто там?» Ёй тут жа адказаў мужчынскі голас: «Я, мамо, Сяргей, адчыняй хутчэй».

Абрадавалася, калі пачула Сяргееў голас: «Чаго ето ён прыехоў? Мо насаўсім? Добрэ було б, каб насаўсім, усё-такі жыцьму не адна, а то хоць прападзі — ні загаварыць няма з кім, ні душу адвясці, Віцька ж маленькі, ды ці надоўга ён затрымаецца ў яе: выйдзе з бальніцы Ленка і забярэ...»

Адначасова затрывожылася, падумала: «Ні слоўца не напісаў жэ, што маецца прыехаць. Мо там у яго ліха якое надарыласо? То прасіла-маліла, каб кідаў сваю вярбоўку і да дамоўкі вяртаўса, дак не ж, такі неслух, свету белаго яму пабачыць захацеласо. Толькі як далёка ні ўцякаў ад свайго кутка, ды насаўсім, мабыць, забыцца не хапіла духу, вярнуўса ж, бач, прыджгаў з усім сваім сямействам... І колькі то ён гадочкаў дахаты не заяўляўса? Калі з арміяй, то шэсць. Двое ж дзеток цяпера ў яго».

— Мамо, ну, што там у цябе, пусціш нас пераначаваць ці не?

Спахапілася, падбегла да дзвярэй, адкінула зашчапку.

— Мой ты сыночак, праходзьце, праходзьце, не стой-

це на холадзі, толькі вельмо не бразкайце, дзіця там у мяне спіць, не разбудзіце.

Заспяшалася паперадзе Сяргея, уключыла святло. Сяргей прайшоў на сярэдзіну хаты, стаяў, трымаючы на руках дачку Святланку, якая паклала яму голаў на плячо і спала. У свабоднай руцэ Сяргей трымаў вялікі карычневы чамадан. У дзвярах застыла-спынілася яго жонка, Валя. Яна амаль ніколькі не змянілася, такая, якою і помніла яе Надзя: невысокая, чарнявая, паўнацелая, шчокі, бы спелыя таматы — круглыя і як падкрашаныя чырвонай фарбай. На галаве ў Валі нейкі модны капялюш, карычневае крымпленавае паліто з шырокім каўняром. Надзя адразу, як глянула на Валю, пазнала: цяжарная яна. За крысо Валінага паліто ўхапілася Алеська, старэйшая за Святланку на год.

— Ну, чаго ета мы ўсе пасталі,— загаварыла Надзя.— Сяргей, ты бутто тая свечка стаіш, бутто не родны мне, занясі Святланку ў спальню, там ложак свабодны, і Валі памажы, дай сесці ёй, яна ж вунь і так занемагла: падумаць толькі — поначы ад самага шляху пешкі дабірацца да сяла. Ды ці блізкі ета свет: ад шляху ж да Каласкоў вёрст шэсць.

— Не пяражывай, мамо, за нас, мы прывычныя да пераходаў-пераездаў, ад шляху далёка, твая праўда, але мы ішлі з перадышкамі, ды і ноччу ісці па лесе, ведала б ты, проста рай: свежа, совы крычаць, у траве светлякі гараць.

— Рай, рай,— ціха зазлавалася Надзя.— Спёрса за етым сваім раём чортведамо куды, але, мамуць, у том раі не вельмо соладко табе жылосо, дахаты ўсё адно прыбіўса. І добрэ, сынку, зрабіў, не гадзіцца табе з тваімі дзеткамі валачыцца па свету, а я цяпер адна ў сваіх харомах, усім места тут хопіць.

Сяргей аднёс Святланку ў спальню, завёў туды ж і Алесю, якая церла рукамі прыпухлыя ад бяссонніцы вочы, хныкала.

Затым вярнуўся і памог распрануцца Валі, узяў яе за плечы, зазірнуў ёй у вочы, з палёгкай уздыхнуў: «Вось і кончыліся, жонка, нашы доўгія вёрсты, цяпер мы дома, кінем тут сямейны якар надоўга... А мо і назаўсёды?.. Ладна, не будзем загадваць, пабачым...»

Валя хацела ўстаць з канапы, на якой сядзела, хацела адкрыць чамадан. Але Сяргей не даў ёй уставаць, сам

раскрыў-развязаў клункі і падаў жонцы патрэбнае. Надзі спадабалася гэта. Яна падумала: «Чалавекам стаў мой меншы, добрым сем'янінам стаў...»

Надзя пазірала, як ён адмыкаў чамаданы, расшпільваў сумкі, даставаў адтуль адзенне, клаў яго ў беспарадку на канапу каля Валі. Яна проста нарадавацца не магла сынам у гэтыя хвіліны. Канечне, яна больш за ўсё радавалася таму, што ён прыехаў да яе, да сваёй маці. Знешнія і ўнутраныя перамены, якія яна паспела заўважыць і якія адбыліся з яе меншым сынам, прыемна хвалявалі яе.

— Сярожа, дзе тут напіцца можна? — памкнулася Валя ўстаць з канапы і пашукаць, дзе стаіць вядро з вадой.

Але Сяргей сам скочыў у калідор, зачарпнуў у вядры вады. Падаў Валі карэц з вадой і толькі цяпер звярнуў увагу на Віцю, які спаў на ложку.

— Любчына наследства? — паказаў ён вачыма на ложак і папытаўся ў Надзі.

— У капусце, мой сынок, знайшла,— распальваючы ў печы і не гледзячы ў Сяргееў бок, адказала яна.

Дастаўшы з камінка сухую бяросту, Надзя падпаліла яе, падсунула качарэжнікам пад дровы, якія неўзабаве затрашчалі, застралялі іскрамі. Запаліўшы ў печы, Надзя павярнулася тварам да Сяргея.

— Валодзеў гасцінец,— толькі і прамовіла яна, ціхенька заплакала, пачала смаркацца ў фартух, у якім поралася.

Сяргей, мабыць, пабаяўся, што ад пачатай гаворкі расхвалюецца Валя, узяў яе пад руку, памог устаць і ціхенька правёў у спальню, сам тут жа вярнуўся.

— Дык кажаш, маці, Валодзеў гасцінец?

— Ох, мой ты сыне, каб пра што добрае расказуваць, а то пра етае. Дажылася я, даждалася ад сваіх дзеток помачы, то на старасці трэ мне такое перажываць...

Маці стаяла перад ім, і Сяргею здавалася, што яна ў думках недзе далёка-далёка.

— Усё, мамачка, будзе добра, не перажывай.

Ад сынавых слоў Надзі стала лягчэй, і яна больш не ўсхліпвала. Выцерла фартухом вочы, дрогкім голасам сказала Сяргею:

— Забавілася я з табою, Сярожка, а ўжо час і карову даіць, развідніваць пачало. Ды і вы мо галодныя? Па-

піце пакуль малачка, а я от падаю карову, праганю яе на пашу, вярнуса і нагатую вам.

— Не галодныя мы, а вось памыцца б з дарожкі не грэх было б, усё-такі пяць сутак у дарозе, пылу на нас процьма.

— Падумала я пра етае, Сярожка, тры вялікіх чыгуны вады паставіла ў печ, каб нагрэліса, так што як закіпіць — адстаўляй, муйцеса, балея стаіць у сенях.

Надзя схапіла даёнку і пабегла перш даіць Ленчыну карову. Раніца выдалася халодная. На дарозе пыл-пясок аж учарнеў ад золкай расы. Трава ў канавах, пад платамі, на ўзмежках, кветкі мальвы, што нахіліліся над сцежкай, якая вядзе на вуліцу,— на ўсім бліскучымі халоднымі пырскамі-пацеркамі свяціліся буйныя кроплі расы. Раса свяцілася-пералівалася блакітам неба, чырвона-белым колерам кветак.

Спяшалася Надзя, збівала з травы і кветак расу, якая пякла холадам, думала пра Сяргея, радасна ўсміхалася. З першага кроку, як толькі ступіў Сяргей сёння ў хату, яна адразу прыкмеціла ўнутраныя перамены, што адбыліся ў ім за апошнія шэсць гадоў, праведзеных ім у арміі, затым на Поўначы, куды ён завербаваўся пасля службы. Хто б мог падумаць, што яе Сяргей, на якога раней не магла патрапіць ніякае ўправы, стане такім вось сур'ёзным, разважлівым? Некалі ён не захацеў пасля дзесяцігодкі нікуды паступаць вучыцца, і колькі Надзя ні ўпрошвала, ні білася, каб усё ж перадумаў — не пераставіла яго. Як рашыў — так і зрабіў.

Пасля школы на лета ў калгас пайшоў на работу. То каб жа рабіў тое, што яму загадае брыгадзір? Дык не, калі нойдзе на яго што, то ніякія ўгаворы не маглі прымусіць яго перадумаць. Ён не прызнаваў ніякай улады над сабой. Паедзе, бывала, на Смалярова поле абганяць коньмі бульбу і, як ледзь засмаліць сонца, тут жа выпражэ з акучніка коней, асядлае іх і айда — толькі пыл за ім курыць. На Прыпяць, якая ад поля аж за сем вёрст, папрэцца. Вечарам, калі ён вернецца на поле, брыгадзір як ні загрудкі хапае яго: «У суд, ядры тваю корань, за такую работу, за самаўпраўства падам, ты мне цяглавую сілу з селішча звалок, а картоплі перарастваюць, у гічанне, паглядзі, як гоніць іх дудкай уверх, які ўраджай з такой картоплі мы сабяром? Ты падумаў пра ето, пустая твая галава? Ці мо заместа галавы ў цябе

качан капусты?» Сяргей знешне спакойны, чакае, пакуль брыгадзір выгаварыцца, слухае, як ён надрываецца крыкам. Затым як лясне пугай па зямлі, аж воблака пылу ўздымаецца: «Тожа мне гаспадар знайшоўся! Хто ж гэта коней у спякоту мучыць? Ды яны ж у мыле ўсе ў такую духату, якая з іх работа? Зранку я акучваў, а як толькі пад хамутом і набедрыкамі мыльная пена паявілася, я выпраг і паехаў паіць, купаць коней. І не твая, брыгадзір, справа, што днём я, як ты гаворыш, лайдачыў, за сённяшні вечар і заўтрашні ранак Смалярова поле акучу».

Пасля работы ён вяртаўся дадому позна-позненька, калі неба ўкрывалася белымі зоркамі. Памыецца, пераапранецца, перакусіць нахапок — і толькі бачыла яго Надзя. Да самага ранку не паказваецца. А прыйдзе, зноў апранецца ў рабочае адзенне, паснедае, за вожкі-лейцы — і подбежкі на канюшню запрагаць коней. Дзе ён начамі прападаў, дзе блытаўся — Надзя пра тое не ведала. Мо за дзяўчатамі пачынаў ухлёстваць? Неяк ён, праўда, прагаварыўся, што ў суседняй вёсцы ў яго завёўся «сябар да магілы». Надзя верыла тым яго словам і не верыла. Адно заўважыла: перамяніўся, вельмі перамяніўся яе Сяргей за апошняе лета. Твар яго набыў новыя рысы, у вачах паявіўся малады бляск, сам ён стаў незвычайна рухавы, дабрачы, жыва адклікаўся на ўсё, што б яна яму ні гаварыла: ці загадвала, ці ўшчувала.

Аднойчы ён вярнуўся сярэдначы. Увайшоў у хату ціхенька, сеў на ложак, доўга не распранаўся, запусціў даланю ў густую белую чупрыну, пальцамі расчэсваў валасы. На дварэ мякка свяціў месяц, і яго святло коса падала праз вокны на сцены, падлогу, пасцель, на якой сядзеў Сяргей. У месяцавым святле, убачыла Надзя, у вачах у сына ўспыхвалі пранізліва-яркія іскрынкі. Яна не ўцерпела, спытала:

— Што за ліха там цябе трывожыць, чаго заўздыхаў?

Ён павярнуў галаў на яе голас:

— Не-е, мамо, ты не ўгадала, тут не тое.

Сказаў, зрабіў кароценькую паўзу, і бы сам у сябе спытаў:

— Няўжо яна мяне не любіць?

Надзя прыняла яго словы са смехам:

— Мо і жаніцца надумаў, то скажы хоць, хто твая будучая жонка?

— Калі трэба будзе, мамо, то і ажанюся, яна дзеўка што трэба.

Надзю бы маланкай падхапіла з пасцелі.

— Глядзі ты на яго, жаніх смаркаты, няма бацькі, ён бы ажаніў цябе папругай добра, то ведаў бы. Хіба ездавым на конях усю жытку думаеш рабіць? Вучыцца табе трэ, а не пра гулі думаць ды забіваць галаву любошчамі, ета ад цябе нікуды не дзенецца.

— Не-а, мамо, вучыцца я пайду, у Нароўлю паеду, на механізатара вывучуся. Чым не хлебная работа, га?

Яна не стала спрачацца з ім, махнула рукою, падумала: «Рабі як хочаш, дзесяць гадоў я вучыла цябе, а цяпер жыві сваёй галавою».

Хутка Надзя дазналася, хто ўскружыў галаву яе Сяргею: Валька Макарова. Дзеўка яна, здавалася Надзі, як усе дзеўкі з Заводнага, з суседняга з іхнімі Каласкамі сяла. А Сяргей, бачыла Надзя, спамінаючы яе, Валю, пачынаў хвалявацца, станавіўся сам не свой.

— З такой, маці, не засумуеш, жыццё пражывеш і не заўважыш.

— Багата ты чаго, сыне, панімаеш у етом, але рабі як хочаш і любі каго хочэш, мне за цябе не жыць, я сваё адгаравала...

Праз нейкі час Сяргей пачаў вучыцца ў Нароўлі. На кожны выхадны заяўляўся дадому. Ён ужо без усялякага сораму, ні ад каго не хаваючыся, хадзіў з Валяй пад ручку па Каласках, прыводзіў яе да сябе дадому, дзе яны да позняга круцілі пласцінкі.

Дні перад арміяй Сяргей увесь час пазіраў на Валю строга, з хваляваннем. «Мамуць,— думала Надзя, ловячы тыя сынавы позіркі,— мяжу чалавечай блізкасці яны паспелі пераступіць».

Яна, Надзя, не памылілася. Калі Сяргея паклікалі ў ваенкамат для адпраўкі на ваенную службу, Сяргей з Валяй прызналіся ёй:

— Так выходзіць, што ў нас дзіця будзе, мы пажэнімся.

Праводзіны сына ў армію і яго вяселле гулялі ў адзін вечар. Гулялі без лішняга шуму, неразбярыхі, асаблівай урачыстасці, якія пануюць у іх у Каласках на кожным вяселлі. Вечар той, здалося тады Надзі, быў трошачкі сумнаваты. Сяргей стараўся паказацца ўсім вясёлым, шчаслівым, непасрэдным. Толькі адна Надзя бачыла,

што на душы ў сына зусім іншае. Ён жартуе, смяецца, а самому балюча і шкода пакідаць Валю адну.

У той вечар Надзя многа плакала, Сяргей суцяшаў яе:

— Кінь ты, мамо, гэтае глупства, цяпер жа не вайна, адслужу — вярнуся.

Яна хацела яму сказаць, чаго плача, ды змоўчала, думала: «Не, Сярожка, не таго я плачу, не таго... Ведаю, што ты жывы-цэлы вернесса, калі адслужыш. Плачу я па бацьку тваім, па Ладымеру плачу... От бы ён цяпер радаваўся разом са мною, гледзячы на цябе і тваю жонку... Хоць бы разок пабуць на яго магіле... Дзе яна? Далёка-далёка ад Каласкоў...»

## 17

— Маці, ты спіш? — пачула Валодзеў голас, убачыла, як з прачыненых дзвярэй упала палоска святла на падлогу.

— Не, сынку, не сплю, шчэ ж мо рано, не прывыкла я так рано лажыцца.

Валодзя ўвайшоў, зачыніў за сабою дзверы, сеў у крэсла ля канапы, на якой, прысланіўшыся спіной да падушкі, сядзела Надзя. Сяргей, Валя, Каласкі — усё, што займала яе думкі да Валодзевага з'яўлення, на нейкі час сплывае з вачэй.

— Палепшала табе хоць трохі, маці? — у Валодзевым голасе чулася трывога.

— Замарачэнне, мамуць, сынок, найшло на маю галаву,— адказала яна,— ніколі ж за свой век так далеко не ездзіла.

У гэтыя хвіліны яна быццам убачыла сябе збоку, бы дзівілася сама на сябе чужымі вачыма, слухала свой ціхі, аслабелы голас. Падумала, што яна, мабыць, у сынавых вачах уяўляе забітага, затурканага чалавека. А мо гэта ёй толькі здаецца? Мо таму ў галаву лезуць зараз сумныя разважанні, што занемагла трохі і настаў вечар? Не раз заўважала яна, што зранку на душы заўсёды светла, добра, ціха. А к вечару настрой прападае. Набегаецца, наскачацца за дзень так, што галава як ні кружыцца, а ногі гудуць. Работы і клопату заўсёды цэлая прорва. Усё ж апошняе лета разрывалася на дзве гаспадаркі. Ды і ўнукаў дома аж пяцёра. Гэта з Віцем. Для

яе ўсе ўнукі дарагія, але Віця дарагі асабліва. Мо таму, што яна ўвесь час хвалюецца за лёс яго маці і за яго ўласны лёс.

Паціху вядзе размову з Валодзем, думае пра свае клопаты, а на дварэ тым часам, мабыць, падняўся вецер, паваліў густы снег, відно, як сняжынкі мігцяць-кружацца ў святле вулічных ліхтароў. Снег забіваецца ў цёмныя разоркі каля аконных шыбін, ударaецца аб шкло: начная завея памалу набірала сілу.

Надзя з трывогай услухоўваецца ў глухое завыванне ветру, у пошум мяцеліцы, думае пра Ленку, пра Віцю. Не магла, не можа яна не думаць пра Віцю: хлопчык сіратою ж расце. І хоць ён яшчэ маленькі, нічога не разумее, а Надзі часам здаецца, што сэрцам сваім ён усё адчувае. Ад таго, мабыць, ён і не такі, як усе дзеці: кволы, хваравіты, з несхаваным сумам у вачах. А чаго, калі разабрацца, яму не стае? Аднаго бацькі? Але чаму тады яна падумала пра Віцькава здароўе? Не, мабыць, сувязь тут ёсць. І калі ўжо здарылася бяда, праз яе не пераскочыш. А бяды ў Ленкі з сынам хапае...

Надзі пераказвала неяк Палажка, што каласкоўскія жанкі не раз ушчувалі Ленку, павучалі яе:

— Як гэта так: нажыць ад мужыка дзіця і маўчаць? Ды мы б на тваім месцы такое зрабілі б, што як міленькі прыйграў бы, рукі-ногі цалаваў бы. Ён жэ не абы-хто: вучоны, інжынер, калі напісаць куды трэба — з ім не стануць цацкацца. Ды, урэшце, на аліменты падала б, любая з нас у сведкі пойдзе, прысудзяць, дзіцяці капейка не лішняя, падрасце ж, там усё больш і больш яму давай: то боцікі, то касцюм, палітончык...

Ленка выслухоўвала тое, што казалі ёй, чырванела, гаварыла:

— Па прымусу мне нічога не трэба, а Віцьку і сама выгадую, абы здароўе.

Жанкі не разумелі яе ўпартасць:

— Мужчын трэба ў кулаку трымаць, не даваць ім паслабкі, а ты, Ленко, завельмі рахманая, вось цяпер і кукуй адна, калі не хочаш рабіць так, як людзі табе кажуць.

«Эх, каб не хвароба, што так нечакана абрынулася на Ленку! — уздыхае, пазіраючы на Валодзю. Надзя.— І гора таго, здаецца, не було б. А так?! Перакруцілася цяпер усё Ленчына жыццё, як той лён палеглы».

Не, не ўсё яшчэ яна сказала сыну пра Ленку. Але ці трэба гаварыць усю праўду? Мабыць, цяпер маўчаць — не золата... Толькі чым абернецца гэтая праўда для Іры — Валодзевай жонкі, для Іначкі, яго дачкі? І ці паможа той яе расказ Віцю? А раптам, калі яна загаворыць пра Ленку, Валодзя сарвецца з месца — і тады ўсё затрашчыць тут у сынавай сям'і, зямля паплыве з-пад яго ног? Не, мабыць, усё ж спяшацца зараз ёй нельга. Трэба як след падумаць, як і што сказаць. А мо лепш за ўсё цяпер прамаўчаць? Хто яго ведае...

«Ды што гэта за дзень сёння? — трывожыцца Надзя.— І маўчаць нельга, і рот раскрыць таксама нельга... Не, так можна і зглузду з'ехаць... За апошнія суткі ўсё маё нутро перакруціла...»

«Не, мабыць, нічога добрага я сама сабе сёння не параю,— рашыла моўчкі,— каго пашкадаваць, каго ўдарыць,— цяпер усе святыя, калі сабраць іх разам, не разбяруцца...»

Надзя ўстала з пасцелі, сунула ногі ў тапачкі, падышла да акна, убачыла, як там, на дварэ, усё нібы плыло, абрушвалася, хісталася. За акном выла-гула мяцеліца. Шалёная завіруха насілася па дварах, насыпала на тратуарах сумёты, закідвала ўсё кругом сыпкім снегам.

Бы распятая, бы прывязаная, стаяла ля акна і чакала, калі загаворыць сын і аб чым-небудзь спытае. А ён як на ліха толькі пазірае ў яе бок і вінавата маўчыць...

І не стрымалася, не сцярпела, сама сказала:

— Добра мяне, Валодзька, прымаеш... Я, папраўдзе, і не спадзявалася на такі прыём...

Не, сынава маўчанне можа давясці да шаленства: «Ну, правінаваціўся, то скажы ж хоць слова, распытай, парахуйся...»

— Нада мной, сынку, ты паздзекаваўся, ды й сцярплю... Але ж Ленка тваё дзіця сама гадуе... Яна захварэла, а дзіця адно ў хаце... Як тут не крычаць, не галасіць... А ты за светам...

Гаварыла і сумнявалася: ці ёсць у яе сына сэрца? Што ў яго ў душы? Што за ягадку яна выпеставала? Не, мабыць, сапраўды трэба ісці вайной супраць роднага дзіцяці... Якія тут могуць быць охі ды ахі-ўздыхі?

— Маці... Я ведаю... Я разумею,— нешта ціха, амаль нячутна прамармытаў Валодзя, і Надзя зразумела: на-

ступіла яна яму на хвост, закруціўся, як вужака, разгубіўся, язык бы адзеравянеў, слоў ніяк не падбярэ...

Як яна ні даводзіла, ні гаварыла сабе: спакойна, не забывай пра асцярогу, не лезь на ражон, не кіпяціся тады, калі трэба развага і розум... Але дзе там! Не вытрымала. Ды і як было вытрымаць? Давёў родны сынок...

— Валодзька, Валодзька... Што ты нарабіў? Каго пакрыўдзіць уздумаў? Сірату Ленку...

Сын са страхам замахаў рукамі:

— Хопіць, хопіць! Перастань!

Сынавы словы не спадабаліся Надзі. Як гэта так? Бачыць і ведаць усё, што адбылося на яе вачах, і маўчаць? Не, якая ж яна тады маці?

— Ці ёсць у цябе душа, мой чалавеча? Бо чалавек без душы як жывёліна, і нават горш...

Эх, шкада, што яна не можа цяпер узяць на рукі Віціка, унука свайго, Валодзевага сына! Тады, здаецца, і гаварыць ёй багата не трэба было б.

— Валодзька... Не ведаю, як табе і сказаць... Ленку і так сонейка не вельмі грэла, калі яна гадавалася...

Надзя крута павярнула галаву, пачала ўзірацца ў тое, што робіцца цяпер на вуліцы. Глядзела, але, здаецца, нічога і нікога не бачыла, не заўважала. Пра Ленку ўсе яе думкі-трывогі...

— Калі Ленка, Валодзя, дазналася, што еду да цябе, прыбегла да мяне ў хату, пачала прасіць, каб я табе пра Віцю ні слова, ні паўслова... Кажа, не трэба. Кажа, яна не крыўдуе на цябе. Гаворыць яна мне так, стараецца быць вясёлай, але ж я не сляпая, бачу: ужо на слязу настроілася, але трымаецца, не хоча паказаць...

Валодзя сеў у крэсла, абшчапіў рукамі галаву.

— Маці, каб я ведаў...

Не паверыла Надзя, што сын сказаў гэта шчыра. Але і спрачацца з ім не стала. Працягвала:

— Ну, так я сяджу з Ленкай у хаце, гамонім памалу. І тут Віцік адкуль ні вазьміса. Убег у хату, стаў на покуце і не знае, да каго перш падысці. Я сама ўстала з канапы, пазвала яго. І як толькі ўзяла яго на рукі, ён як прыліпнуў да мяне, абшчаперыў маю шыю і не адпускае. Я тады вельмі дзіву далася, што не да Ленкі, не да маці, а да мяне на рукі папрасіўся. Ну, думаю, дзіва, ды і толькі. Але ж якое, калі разабрацца, тут дзіва? Кроў у яго жылах наша, Голікавых...

Хоць ёй і нельга было вельмі непакоіцца, але ўвесь вечар яна расказвала пра Ленку, пра Віцю, увесь вечар гублялася ў думках, што ж ёй рабіць, як парадзіць негта сыну, ды так на штосьці рашыцца і не змагла. Адно толькі і сказала Валодзю:

— Віця — твой сын, і ты не павінен яго забываць...

У Надзі гарэў твар, перасохла ў горле, і яна папрасіла сына, каб прынёс вады. І ад першага ж глытка ёй стала лепш. Крыўда, гнеў, трывога як бы адступілі, і Надзя, супакоіўшыся, ціха спытала:

— Скажы, сынок, хоць як табе тут жывецца? — прамовіла і адчула, што яе пытанне зараз было лішняе, сваімі ж вачыма бачыць: сын уладкаваўся добра, лепш, здаецца, і не трэба. Кватэру раскошную мае, у кватэры не пуста.

## 18

Адказаў ёй Валодзя не адразу. Надзя пачула, як сын кароценька ўздыхнуў, змоўк, не варушыўся, нібы акамянеў у крэсле. Трывожным позіркам ён паглядзеў на яе, на маці, устаў, пацёр кулакамі вочы, усё адно бы толькі ачнуўся ад сну:

— Зараз у мяне як на ваенным караблі: усё ў поўным парадку, але на першым часе пасля інстытута давялося трохі закусіць...

Расказваючы, сын, бачыла Надзя, трошачкі хваляваўся.

Валодзя гаварыў, як ён на першай пары, калі прыйшоў на трактарны завод, пачаў займацца даволі сумнай і не дужа складанай работай: працаваў інжынерам па тэхніцы бяспекі. Надзя, вядома, ні кроплі не разумела пра тое, што гаварыў ёй Валодзя аб сваёй рабоце, хоць ён і стараўся гаварыць ёй аб усім проста:

— У мае абавязкі ўваходзіла сачыць за вентыляцыйнымі цэхавымі ўстаноўкамі, рабіць разлікі, якія з іх, тых установак, болей эфектыўныя, прызначэнне іх, маці, вельмі простае і неабходнае: падтрымліваць нармальны тэмпературны рэжым і падаваць кісларод...

Пра такое, мабыць, і не варта было яму гаварыць маці, бо хоць тая даўняя работа і паказалася яму, маладому спецыялісту, вельмі шэрай і празаічнай, ён хутка ўбачыў і пераканаўся: работа гэтая неабходная людзям.

Ён прывык да яе, уцягнуўся і, супакоіўшыся душою, выконваў свае абавязкі сумленна, з усёй шчырасцю.

Затым яго перавялі ў загадчыкі лабараторыі. У першыя дні на новым месцы ён радаваўся ад адной думкі, што яму не трэба, прыйшоўшы на работу, пераапранацца, можна ісці ў лабараторыю ў чыстай сарочцы пад гальштукам, у новым, свежаадпрасаваным касцюме. Праўда, ён цяпер як бы аддаляўся ад вытворчасці, ад рабочых людзей, да якіх прывык. Цяпер ён займаўся складанай і карпатлівай работай, звязанай з разлікамі розных вузлоў і агрэгатаў трактара. Стамляўся часта. Але раз даў згоду, перайшоў — нічога ўжо не зробіш, вязці воз, хоць ён і не лёгкім аказаўся, трэба. Ды, калі паглядзець на ўсё гэта з іншага боку, то яно, можа, і добра, што паспытае рознага хлеба — больш будзе ведаць і разумець вытворчасць.

Ён любіць сваю работу. Хоць вопыт работы ў яго не такі яшчэ і вялікі, але таго вопыту дастаткова, каб ён мог працаваць спакойна, разважліва, без усялякага хвалявання і неразбярыхі. У яго ўсюды дакладны і вывераны разлік, які ў сваім абыходку людзі яго кола называюць «запасам надзейнасці»...

Валодзя доўга расказваў ёй пра сваю работу, пра тое, што кіраваць яму лабараторыяй не вельмі і проста, бо адно, калі ты думаеш толькі за сябе, і зусім іншае, калі ты клапоцішся пра калектыў. У яго лабараторыі справы ідуць добра. Яго партрэт павесілі на дошку Гонару, якая знаходзіцца ў заводскім скверы...

## 19

— Ну, а як у цябе з Ірай, ладзіце вы? — калі сын замоўк, спытала Надзя.

Толькі другі дзень яна гасцюе ў сына, але шмат, здаецца, убачыла і зразумела. Канечне, пра ўзаемаадносіны Валодзі з Ірай можна было толькі здагадвацца, бо сын больш адмоўчваецца, а яна не магла асмеліцца распытваць у яго.

Пазіраючы на сына, Надзя думала: «Ось ты, Валодзька, і работу добрую знайшоў сабе, і кватэра ў цябе вунь якая на трох, і капейчыну не абы-якую зарабляеш, жонка ў цябе прыгожая ды граматная, дачка... Але чаго,

чаго, мой сыне, у цябе сум у вачах? Няўжэ ты Ленку забуць не можэш?»

Валодзя мог бы ёй расказаць, што Іра ўвайшла ў яго жыццё непрыкметна і нечакана. Калі ён гуляў аднойчы ў нядзелю ў парку Чалюскінцаў, пазнаёміўся з ёю, і не паспелі яны разгаварыцца, як лінуў дождж. Іра запрасіла яго да сябе. Колькі часу яны прасядзелі ўдваіх у пакоі, ён пазіраў на яе, а ў вачах стаяла Ленка... Ён міжволі параўноўваў іх і бачыў, што Ленка хвалюе яго, а на Іру ён глядзіць спакойна...

Хацеў тут жа збегчы. Але дзе там! Іра не пускае, кажа, што спяшацца няма куды, бо дождж яшчэ не сціх. Яна гаворыць з ім, падыходзіць да акна, пазірае на яго здалёку, як бы вывучае яго, як бы хоча пераканацца ў сваіх думках...

Іра ўвесь час то падыходзіць да яго, то адыходзіць, узіраецца ў акно, за якім слабеў летні дождж. І ўвесь час размаўляе, размаўляе... Голас у яе ласкавы, давяральны, а вочы з шырока раскрытымі зрэнкамі, калі яна побач, зусім блізка, і гэтыя вочы, здаецца яму, бачаць наскрозь, і нічога ад яе позірку не схаваць і не ўтаіць...

Ён зразумеў, што трэба ёй адказваць на гэтыя шчырыя, ласкавыя позіркі. Адказваць шчырасцю на шчырасць... А ён не мог... Бо з галавы не выходзіла Ленка...

І колькі Іра болей не прасіла, каб пабыў яшчэ трохі, паспешліва развітаўся і як ні выскачыў з пакоя, дзе яму зрабілася душна і цесна, на вячэрнюю вуліцу.

Кватараваў ён на ціхім ускрайку, у сельгаспасёлку, які карацеў, меншаў: драўляныя дамы зносілі, раскідвалі, і на іх месцы выраслі каменныя мікрараёны, і Валодзя, спяшаючыся раніцай на работу, не пазнаваў куточкаў, дзе раней туліліся адна да адной старыя аднапавярховыя хаткі, схаваныя за зялёнай навіссю вішань.

...Малады месяц ясна высвечваў у чыстым небе, калі ён сышоў з тралейбуса і пакіраваўся брукаванай вулкай сельгаспасёлка да скрыжавання трох дарог, дзе за хісткім драўляным парканам стаяла хата, у якой ён за невялікую плату наймаў пакойчык.

«Дык у суботу? — усё яшчэ чуецца яму голас Іры.— Прыязджай першым тралейбусам, буду чакаць на прыпынку...»

«Не, да Іры я болей ні кроку... Але чаму я ёй гэтага адразу не сказаў? Пабаяўся? Сам сябе пабаяўся?»

«Колькі гэта да суботы? Адзін, два, тры, чатыры, пяць... Пяць дзён да суботы,— падумаў з радасцю.— Трэба напісаць Ленцы... Што з ёю? Чаму яна як вады ў рот набрала?..»

Не думаў, не гадаў Валодзя, што за гэтыя пяць дзён усё можа змяніцца. Здаецца, тое адбылося ў сераду. А мо ў чацвер? Цяпер ужо не прыпомніць, бо хіба тады аб чым думалася?

Чырвонае сонца толькі ўзыходзіла, калі ён быў на паўдарозе да тралейбуснага прыпынку. Чысты блакіт неба, зялёныя галіны вішань над вузкім тратуарам. Лёгка, прыемна дыхаецца. І на сэрцы добра, светла, радасна. Учора нарэшце напісаў Ленцы пісьмо. Перамог у сабе самалюбства і напісаў. Сэрца ж у яго не камень — хіба можна столькі вытрымаць, нічога не ведаючы пра яе?

Вось і прыпынак. Падкаціў да краю тратуара тралейбус, і ён спакойна ўвайшоў, прымасціўся на заднім сядзенні. Усю дарогу чамусьці было душна і млосна, не хапала, здавалася, паветра... Узіраўся ў тралейбуснае акно і не мог дачакацца, калі ўбачыць сосны заводскага сквера...

Цераз дарогу як ні пабег. Убачыў, што вусаты малады матацыкліст на «Яве» імчыць з такой хуткасцю, што проста страшна робіцца. А мо гэта яму толькі падалося? Мо ён сам завельмі мітуслівы? Ну і дзень жа! Быццам чорнай кошкі і ў вочы сёння не бачыў, а вось...

Не ўгадаў, як гэта выйшла: аступіўся, прыпаў усім целам на левую нагу. Ды неяк няўдала, і, прысядаючы, пачуў, як хруснула ў калене. Ад пякучага болю войкнуў, з вачэй сыпанулі іскры, закружылася галава, у адзін момант аслабеў, не змог выпраміцца, устаць...

Шлях да бальнічнай палаты быў, здалося яму, нядоўгі, кароткі. Вось ужо і палата. Чатыры ложкі, але ён трэці хворы. Адзін ложак свабодны. Тыя двое, што трапілі сюды да яго, ходзяць. Побач з ім — малады хлопец з гіпсавым каўнерыкам на шыі. «Як і я, мабыць, паспяшаўся недзе — шыю сабе зламаў,— міжволі падумаў Валодзя.— Такая траўма небяспечная, бо саслізгне пазванок — і ў чалавека ўраз адымуцца рукі-ногі».

Неўзабаве паявілася ўрач — высокая, худая, сярэдніх гадоў жанчына. Падышла да яго, пачала абмацваць нагу.

— Закрыты пералом каленнага сустава,— сказала яна і зірнула яму ў вочы, бы хацела ўбачыць, ці гаварыць яму ўсё, што яна ведае.— Без аперацыі не абысціся...

Не паспела выйсці з палаты ўрач, як паявілася са шпрыцам у руках медсястра і спынілася каля яго.

— Паварочвайся, хлопча, на бок,— задумліва прамовіла яна,— зараз я зраблю ўкол, а мінут праз пятнаццаць на аперацыю... Ды ты не дрыжы, не раскісай... Не вельмі вялікая бяда ў цябе, але пракачаешся ў нас не адзін месяц — косці не хутка зрастаюцца...

Аперацыю рабіла тая ж самая высокая, худая жанчына-ўрач. Валодзя думаў, што будзе вельмі балець, а болю не было — уколамі «замарозілі» нагу, і ён нічога не адчуваў, і ад гэтага рабілася страшна...

Ён пазіраў на ўрача, якая, мабыць, была нечым ці некім незадаволена, рабіла заўвагі медсястры, каб тая трохі хутчэй варушылася. Медсястра ўспыхнула, зачырванелася і хацела нешта адказаць, але ўрач так глянула, што яна бы вады ў рот набрала і тут жа супакоілася...

Калі аперацыя падыходзіла к канцу, урач сказала, што пацярпець давядзецца трохі, і паглядзела на яго добрым, супакаяльным позіркам.

На другі дзень нага разбалелася, і ён зваў палатную медсястру, прасіў, каб яна зрабіла ўкол, суцішыла боль. У адказ сястра, высакарослая маладая бландзінка, злавала і гаварыла:

— Во-во, я так і знала... Не, і не думай, прасі ў доктара, сама ад сябе я не стану... Ды і не раю табе ніякія ўколы... Прывыкнеш яшчэ... Нядоўга і наркаманам стаць... Сашчапі зубы і пацярпі... Боль у першыя дні даймае, а пасля пройдзе...

На трэці дзень яму і праўда палепшала, і тады яго ахапіў сум. Як яму хацелася паехаць у Каласкі! А цяпер? Што рабіць цяпер? Калі і выпішуць з бальніцы, то адразу хіба паедзеш дадому, хіба можна паказвацца маці на вочы?

Ратункам ад суму былі кнігі. Чытаць ён любіў, а ў бальніцы добрая бібліятэка, і ён мяняў кнігу за кнігай. Чытаў ранкам, днём, вечарам. Чытаў да таго часу, пакуль не пачыналі скакаць у вачах літары... Адкладваў убок кнігу і думаў, думаў... Пра маці, пра Каласкі, пра неадпраўленае Ленцы пісьмо...

Аднойчы ў палату нянька прынесла яму запіску. Разгарнуў і прачытаў: «Мяне не прапускаюць. Калі хочаш убачыць — памажы прайсці. Іра».

Божа, як забілася ў яго сэрца! Ніхто, калі не лічыць аднаго таварыша з работы, не адведваў яго, а тут! Адкуль яна даведалася, што ён у бальніцы?

І вось яна перад ім — ціхая, журботная, жаласлівая, у накінутым на плечы белым халаце.

— Сядай, бяры табурэт і сядай, у нагах праўды няма,— паспрабаваў ёй усміхнуцца.

Прысеўшы, Іра ўпаўголасу пачала сварыцца:

— З ім такое, а ён сябрам ні гу-гу... Добра, што я зусім выпадкова была на тваёй рабоце і пра ўсё там даведалася...

Ён разгубіўся, густа пачырванеў.

— Не варта было... У цябе, мабыць, і без таго клопату хапае...

Іра пачала прыходзіць кожны дзень. З кветкамі, з перадачамі. Ён аднекваўся, не браў тое, што яна прыносіла яму. Але калі ён бачыў яе з кветкамі ў руках, на душы рабілася добра, радасна.

Валодзевы суседзі па ложку ціха падымаліся, непрыкметна пакідалі іх удваіх.

Застаўшыся сам-насам, яны амаль не размаўлялі, і толькі пазіралі адно аднаму ў вочы...

Праз які час яна пакідала яго, і ён думаў, што без яе яму цяпер было б цяжка, бо заўсёды, як толькі яна паяўлялася ў палаце, ён забываў пра боль, пра сваю бяду...

Выпісаўся з бальніцы перад зімой. Нага як след не загаілася, і хадзіў ён цяжка, паволі, з кавенькай у руках. Пры выпісцы ўрачы раілі, каб яшчэ з паўгода быў асцярожны, бо нага ў пераломе добра не абмазолілася, і ўсё магло здарыцца...

Бюлетэніў яшчэ доўга. Ад маці прыходзілі пісьмы, у якіх яго старая ўсё пыталася, чаму ён забыў дамоўку, чаму не прыедзе хоць на адзін дзень. Але як ён мог з хворай нагой выбірацца ў дарогу? І таму ў пісьмах у адказ маці ён маўчаў пра тое, што канец лета і восень правёў у бальніцы і цяпер во яшчэ ўсё не можа як след ступіць на адну нагу, бо калена ные, баліць, не дае начамі спаць...

Увесь час, пакуль ён папраўляўся, побач з ім была

Іра. Ён добра прыгледзеўся да яе і ўбачыў, якая яна ласкавая, пакорлівая, пяшчотная...

Па вясне яму палепшала, ён хадзіў ужо хутка, забыў пра кавеньку. Раніцай спяшаўся на работу і слухаў, як бясконца, да самага змяркання, крычалі на гарадскіх могілках гракі: міма тых могілак была дарога да тралейбуснага прыпынку. Бярозы і таполі на могілках пачыналі пакрывацца жаўтаватай зелянінай, а вішаннік каля хат у сельгаспасёлку зацвітаў першым дробным цветам.

У гэты дзіўны час Валодзя з радасцю назіраў за ўсімі вясеннімі зменамі, што адбываліся вакол яго. Ён ясна бачыў, што Іра, да якой ён так прывык за час хваробы, не аддалілася ад яго, а, наадварот, стала яму блізкай, кожнае спатканне з ёю хвалявала яго...

Праз нейкі час ён распісаўся з ёй. І толькі пасля загса востра адчуў, што з жаніцьбай паспяшаўся, што штурхалі яго да Іры не пачуцці, а адзіноцтва. Блізкіх сяброў у яго не было.

А Ленка? Як яна там цяпер?

Думаючы пра Ленку, Валодзя разумеў — ніколі і ніхто яму не даруе таго, што яна засталася з-за яго адзінокай... Ніякой малітвай, ніякім раскайваннем не замаліць яму віну перад Ленкай. Дзяўчына паверыла яму, спадзявалася на яго, аддала яму сваю дзявоцкасць... І як карабель, у якога ў адкрытым моры заклініла руль, Валодзя паплыў па жыцці. Праўда, паступова ён цішэў, спакайнеў, але зусім забыць Ленку не мог... і баяўся, вельмі баяўся, што калі-небудзь давядзецца сустрэцца з ёю, давядзецца глянуць ёй у вочы, і што тут будзе, невядома...

Позна, вельмі позна ён зразумеў гэта... Па начах ён стаў мала спаць, а варочаўся з боку на бок, уставаў, закурваў. Іра непакоілася:

— Ты мо захварэў?

Ён прытушваў папяросу, маніў:

— Выдумляеш. Проста ўчора на рабоце з адным суб'ектам ледзь не загрудкі схапіўся, успомніў вось і занерваваўся.

— Фу ты, ну ты,— засмяялася Іра,— ён мне і сярэдначы пра работу, ну і мужычка нажыла сабе...

Канечне, пра ўсё гэта Надзя нічога не ведала, магла толькі здагадвацца. Па сынавых вачах, яго частых узды-

хах яна бачыць і адчувае, як на яго, на Валодзю, не-не ды і находзіць пакутлівае пачуццё непаўнаты сямейнага жыцця і шчасця...

Аб усім зараз думала Надзя — пра Ленку, Віцю, пра Валодзю, Любку з Грышкам, пра Сяргея... І дзіўны спакой авалодаў раптам ёю. Яна быццам перастала хвалявацца. Калі прыкінуць розумам, то што яна цяпер можа змяніць? Вось пачала расказваць — і ўжо, здаецца, пасварыла сына з жонкай, падліла масла ў агонь сямейных спрэчак, якіх, мабыць, і без таго хапае.

Толькі на нейкае імгненне Надзя супакоілася, устала з канапы, на якой праляжала і прасядзела ўвесь дзень, памалу пратупала да акна. На дварэ мяцеліца сунялася, на возеры, па закіданых снегам берагах якога свяціліся электрычныя ліхтары, цямнелі адзінокія чалавечыя фігуры. Людзі, мабыць, не зважаючы на завею і мароз, ці то прагульваліся, ці спяшаліся напрамкі па аснежаным лёдзе возера дадому. Па той бок возера, з шырокай трубы, падобнай на гіганцкую бочку, валіў густы чорны дым. Ён падымаўся ўверх шырокім жывым слупам, на вышыні разрастаўся і недзе высока-высока рассейваўся.

Стаяла тварам да акна, спіною да сына. Адчувала, што Валодзя не зводзіць з яе вачэй, чакае, калі яна загаворыць. Але яна маўчала. «Вось і вывучыла я сына. Вучоны стаў, невучоную Ленку на вучоную прамяняў... Хоць не, што я сабе падумала? Ленка ж таксама скончыла тэхнікум... Тут не ў грамаце справа, не ў грамаце... І абставіны тут ні пры чым... Дрэнная, мабыць, я маці... Недзе праглядзела... Не так, мабыць, выхоўвала сына...»

Павярнулася і бы спатыкнулася аб востры Валодзеў позірк. Адвяла ад няёмкасці вочы ўбок, адчула, як ля акна холадна. Зрабіла колькі крокаў і наблізілася да канапы, села. Перад вачыма праплыла Ленка. «Ды хіба цяпер справа ў адной Ленцы! Віця — вось аб кім думкі не пакідаюць, трывожаць...»

Віцю яна вельмі шкадуе. Чым ён вінаваты, што яго жыццё змалку пайшло не так, як трэба? А падрасце ледзь — яго роўня яшчэ і дражніць пачне, маўляў, твой бацька сабакам сена косіць. А бацька вось ён, жывы, здаровы, такім бацькам ганарыцца толькі...

Апроч свае волі яна нечакана падумала, што з Ленкай можа здарыцца якое-небудзь страшнае ліха. Тады як быць з Віцем? У школу-інтэрнат аддаць, калі падрасце?

І Надзя жыва ўявіла: вось праводзяць яго ў інтэрнат, заплаканага і сумнага, да дзяцей — сірат, у якіх няма ні маці, ні бацькі. Ніхто не наведае яго ў нядзелю ці на свята, каб забраць дадому і пасадзіць за святочны стол з пірагом. Сірата...

Толькі не, пакуль яна жывая — не дасць, каб хлопчык рос сіратою. Віця — яе крэўны ўнук. Жыццё ў гэтага маленькага «пакаці-гарошка», як часам называе Віцю Сяргей, толькі пачынаецца, і яна, Надзя, зробіць усё, каб яно, тое жыццё, не было азмрочана, каб яно было ўдалае і шчаслівае. Удалае! Для таго Надзя і выбралася ў гэтую няблізкую дарогу, каб памагчы вырасці дзіцяці.

Трэба, вунь як трэба, каб Віця знаў свайго бацьку, рос і адчуваў яго плячо, яго падтрымку, параду...

Разважаючы, не адразу заўважыла, што ўвайшла Інка. Абута яна ў чорныя, з кароткай халяўкай, валёнкі. Дзяўчынка смела падышла да яе, прамовіла: «Ва-ва, ва-ва».

Сказала, працягнула ручку да Надзінага лба, прыклала сваю маленькую даланю, зрабіла сур'ёзны выгляд.

Надзя нахілілася, пацалавала ўнучку ў шчаку.

— Ах ты лекар мой дарагі, ты ўжо нештачкі і кумекаеш!

— Папугайчык яна ў нас, вось,— схіліўся над дачкой Валодзя,— то ўжо ад урача пераняла. Той, калі выклікаем на дом, прыходзіць і перш за ўсё тэмпературу рукой пачынае правяраць.

Валодзя ўзяў яе на рукі, сказаў:

— Нам пара спаць.

Інка заўпарцілася, нешта ўсё паказвала рукой на акно і вымаўляла адно «унь, унь».

Надзя схапіла ўнучку на рукі, пачала цалаваць:

— Хочаш, бабулька раскажа табе казачку пра верабейку, якога закалыхала ў полі тоненькая былінка?..

Інка слухала няўважліва: яе пацягнула на сон, яна прыгарнулася да Надзі, звілася клубочкам, часта заміргала вочкамі, запазяхала і заснула на руках. Надзя кіўнула Валодзю: «Вазьмі перанясі на пасцель».

Валодзя панёс дачку ў спальню, перашэптваўся там аб нечым з жонкай. Надзя не чула, аб чым яны перамаўляліся, але зразумела, што яны спрачаюцца, і адчула сябе ад гэтага нялоўка, бо спрэчка тая, здалося ёй, пачалася ў іх з-за яе хваробы.

Спрэчка паміж Валодзем і Ірай хутка скончылася, і Іра ціхімі крокамі ўвайшла ў залу, запрасіла Надзю на кухню вячэраць. Але яна адмовілася, сказала, што ёй не хочацца ні піць, ні есці. Ды адкуль мог узяцца той апетыт, увесь жа дзень яна каўтае парашкі.

Дзеці вячэралі на кухні, а яна то ўставала, падыходзіла да акна, то зноў садзілася. Прыслухоўвалася, лавіла кожны шолах, што адбываўся тут, у сынавай кватэры. Спрабавала ўгадаць: «Аб чым цяпер думае Валодзя?»

Надзя ў гэтыя хвіліны стараецца напружваць слых, зрок, памяць, але, здаецца ёй самой, што яна забылася, чаго прыехала да свайго старэйшага сына, што прымусіла яе пасярод зімы выбрацца ў няблізкую і халодную лютаўскую дарогу. Пачынала здавацца, што ёй цяпер няпроста будзе адарвацца ад гэтай канапы, да якой быццам прырасла, на якой сядзела і ляжала, і ёй няпроста зараз падняцца, апрануцца і выправіцца на вакзал, каб купіць білет і хутчэй дабрацца дахаты, у Каласкі.

Думала, думала, кожны раз уздрыгвала, пачуўшы гул электрарухавіка, які падымаў кабіну ліфта. Услухоўвалася, як ліфт спыніўся, нехта з яго выйшаў і моцна ляснуў дзвярыма. Не адразу заўважыла, як вярнуўся да яе ў залу з кухні Валодзя. Сёння ён не такі, якім быў учора, калі яна прыехала і ўбачыла яго. У яго на вачах, на ўсім твары блукалі нейкія сумныя цені. Ён, здавалася Надзі, захварэў.

Валодзя прысеў на крэсла, задумліва пазіраў перад сабой, стаў нейкі падкрэслена строгі і жаласлівы. Надзя спужалася: «Ці не напраўду захварэў ён?»

Сын усміхнуўся, паглядзеўшы на яе, але ўсмешка ў яго атрымалася нягеглая, вымучаная, і ён ціха прамовіў: «Глядзіш, што ў мяне выгляд такі? Не, я не хворы, проста, мабыць, трохі прытаміўся».

Не, дарма ён стараецца падмануць яе, і без яго тлумачэнняў чуе: на сэрцы ў яго цёмна, трывожна. Але ён не гаварыў, баяўся, мабыць, гаварыць ёй праўду пра тое, што рабілася ў яго ў душы, бо адчуваў сябе вінаватым перад ёю, сваёй маці. Яго сёння ўвесь дзень, бачыла Надзя, адольвалі сумненні, здагадкі, пытанні, пра якія ён не асмельваўся загаварыць з ёю.

## 20

У гэты позні час, калі ўвесь шматпавярховы дом, дзе жыў яе старэйшы сын, паступова цішэў, Надзя нібы толькі ачнулася пасля добрага і спакойнага сну. Здавалася, яна зусім забылася і пра тое замарачэнне, што найшло было на яе сёння раніцай, забылася пра трывогу і хваляванні, якія не пакідалі яе за ўвесь дзень ні на хвіліну. Яна адчула, што цела яе зноў стала лёгкае, рухавае, паслухмянае.

Валодзя пакінуў яе адну, пажадаўшы «спакойнага сну», а сам пайшоў у спальню. Ля канапы, на якой Надзя сядзела ці ляжала, сын паставіў табурэтку з ежай, гарачым чаем. Яна, праўда, адмаўлялася ад яды, але калі ўбачыла перад сабой стравы, то ўсё ж адчула голад, узяла бутэрброд з маслам і сырам, выпіла паўкубка чаю, а да астатняга і не дакранулася.

Затым устала, пачала распранацца, зарадавалася, што зноў здаровая. Але, мабыць, яна, распранаючыся, рэзка павярнулася і адчула, як нешта кальнула ў грудзях, пад самым сэрцам, і доўгі, шчымлівы боль працяў раптам, скаваў усё яе цела. Гэты востры боль не даваў свабодна ўздыхнуць, і яна хвілін колькі стаяла на адным месцы, баялася паварушыцца, бо толькі спрабавала зрабіць крок ці падняць руку, як боль адзываўся ўсярэдзіне, мацнеў.

З вялікай натугай забралася пад коўдру. «Рана пачала радавацца я,— падумала моўчкі.— Хвароба як след яшчэ не адпусціла, яна, тая хвароба, усяго адступіла, прытаілася, а так сядзіць усярэдзіне, зноў пачынае даймаць...»

Узяла парашкі, мікстуру, што ляжалі на табурэце, укінула ў рот, скрывілася, бо вельмі ж горкія лекі, запіла астылым чаем. Быццам трошкі палегчала. «Трэ заўтра ж дамоў,— рашыла, калі боль адпусціў,— а то я тут і папраўдзе злягу, а на дварэ ж зіма, злягу, то ўсю зіму пракачаюся».

Ціха заплакала, пашкадавала, што так вось нядобра склалася ў яе з гэтай паездкай. То ж і сама не помніць, калі яна апошні раз так моцна хварэла, а тут на́ табе, як на якое ліха. Ды яшчэ і не дома.

Згадала пра дамоўку. Як цяпер там? Не, ёй, канечне, за дамоўку перажываць асабліва няма чаго. Сяргей з

Валяй цяпер жывуць з ёю, усё дагледзяць-накормяць, напаляць у хаце, не дадуць, каб сцены настылі-нахалодалі. Цяпер ёй добра. Цяпер бы толькі і пажыць ёй спакойна, пагрэць бы зімою свае старыя косці на печы на гарачым чарапе ды няньчыць унукаў, не трывожачыся ні аб чым. А яна вось прыдумала сабе гэтую дарогу ды ўдабаўку да ўсяго яшчэ і злегла. Але ж і не адкладваць было надалей гэтую паездку. Усё ж з Валодзем пагаварыла, сказала яму, што змусіла яе пакінуць дамоўку пасярод зімы...

Уздыхнула, падумала: «Калі б Ладымер жыў, не так усё, мамуць, склалася б у яе ў жыцці. Не так... Ды і з Валодзем цяпер ён пагаварыў бы па-свойму, па-мужчынску, і, глядзіш, усё було б добрэ...»

Ладымер... Трое дзяцей яна нажыла з ім, а вось пажыць з ім для сябе, для яго і сябе, не паспела. З таго дня, як ён пакінуў яе адну з двума хлопчыкамі ў зямлянцы, а сам выправіўся на фронт, назаўсёды выправіўся, яна згадвае яго ў святы, у буднія дні, згадвае часта — як ні кожны дзень. Яго цень, яго вобраз жывуць у ёй, не гаснуць, не засланяюцца гадамі, якіх наслаілася так багата з таго дня, калі ён, Ладымер, выправіўся ў сваю вечную дарогу...

Будавалася — згадвала яго, Ладымера. Думала: вось каб ён аказаўся побач, то і будаваў бы лепш, хутчэй, інакш.

Падымала-ставіла на ногі дзяцей — клікала ў думках, калі здаралася, што дзеці хварэлі, яго, Ладымера. Жаніла, аддавала іх замуж — зноў жа не магла не ўспомніць іхняга бацьку: хай бы і ён парадаваўся з ёю разам...

І цяпер вось: як бы ён памог ёй разабрацца з Валодзем. Адно яго слова, думае яна, і ўсё неяк пайшло б іншым, лепшым ладам...

Праз трыццаць з лішнім гадоў, якія аддзяляюць яе ад іх апошняга дня, калі яны расталіся назусім, Надзя жыва ўяўляе Ладымера: высокі, русавалосы, з кароткімі вусамі, якія ён адпусціў ужо там, на фронце...

Уяўленне вярнула яе да светлай Ладымеравай усмешкі, да радасці і гора, перанесенага імі там, у партызанскім лагеры.

## 21

Аднойчы позняй восенню сорак трэцяга Ладымер прыйшоў, калі сцямнела, дахаты і сказаў ёй, каб яна сабралася з Валодзем, ішла з ім, у лес. Яна, як пачула пра тое, успляснула ў далоні:

— Зіма ж на парозе, ці вытрымае Валодзька, ды і сама зацяжарыла, як там, у лесе, жыць?

Ладымер спахмурнеў:

— У лесе я за вас спакойны буду, а тут штодня чакай ліха, вунь Копанку гітлерукі разом з людзьмі спалілі. Яны ж лютыя, як воўк у галодную зіму, ад іх усяго можна даждацца, так што і не прастарэкуй мне, не пярэч, сабірайся.

Яна ўсё адно доўга не згаджалася з ім.

— Ты глядзі, Надзё, праўдзе ў вочы,— нерваваўся Ладымер,— хіба ў Копанцы старыя ці малыя за зброю браліся, стралялі па фрыцах, а іх жывымі фашысты пакідалі ў агонь...

Скрануліся з хаты сярэдначы. Ішлі паўз шырокае калгаснае поле, на якім да вайны сеялі грэчку, сланечнік. Цяпер поле загнала травой. Надзі было страшна ад пустаты, якая веяла з гэтага некалі хлебнага поля. Слабы месячык свяціў над іхнімі галовамі, і ёй здавалася, што яна бачыць, як пеніцца-буяе пад лёгкім ветрам грэчка, як сланечнікі павярнулі свае галавы да сонца. Уяўляецца, як усё поле жыве, дыхае, гудзе пчоламі і чмялямі...

І як радасна, светла, святочна на душы сярод яркіх залатых кветак, што павярнуліся, як адзін, да сонца, якое лашчыць, сушыць ад расы кожны пялёстак...

А зараз вакол пустата, нямая, зацятая цішыня. Адно толькі вецер падымае пыл, раскалыхвае зараснікі падбелу, якім загнала ўсё поле...

Калі выбраліся на пад'ём, за якім пачынаўся лес, Надзя не вытрымала, павярнулася, паглядзела назад: вёска ледзь віднелася-ўгадвалася доўгім радам дамоў. Але, як яна ні сілілася, як ні напружвала зрок, свайго дома не разгледзела, нават месца, на якім ён павінен быць, не магла зараз адшукаць. Толькі, падалося ёй, з боку вёскі яшчэ далятаў да іх цёплы пах попелу, знаёмы пах чалавечага жылля.

— Ці хутко, Ладымер, давядзецца ўбачыць нашэ се-

лішчэ? — Слабы вецер дзьмуў ёй у твар, раздзімаў на галаве хустку.

— Не вярэдзі, Надзё, душу, хіба я жалезны, хіба не разумею?..

Дзве зімы, доўгіх і цяжкіх, правяла Надзя ў лесе ў партызанскім атрадзе. Кожны з дзён, пражытых там,— бы вечнасць. Пойдзе Ладымер з якой групай на аперацыю ці ў разведку — яна месца сабе не знаходзіць, не есць і не п'е, не спіць начамі, пакуль не пачуе яго крокі, не прыхінецца шчакой да яго схуднелага твару...

Ужо нашы наступалі, як Ладымер знік нечакана з атрада з групай разведчыкаў. Нямецкія войскі адступалі. Хапала тады гітлераўцаў і ў лясах, што каля дарог, бо лінія фронту праходзіла побач, рукой падаць, ад іхняга партызанскага лагера.

З самага ранку, яшчэ не паспее згаснуць апошняя зара на небе, а недзе далёка з-за лесу плыве ў іхні бок гул. Надзя прыслухоўваецца да таго гулу.

А ён усё нарастае, набліжаецца. За час вайны яна навучылася распазнаваць па гуку свае і нямецкія самалёты. Гэты перарывісты, з падвываннем, гук ідзе ад нямецкіх бамбавозаў...

Самалёты ішлі нізка над лесам. Надзя паспешліва стала ўзірацца ў неба і нарэшце ўбачыла чорны бамбардзіроўшчык з крыжамі на крылах.

Паблізу ад кураня стаяць, трывожна стрыгучы вушамі, коні. Чорнай масці кабылка не вытрымлівае, заліваецца трывожным іржаннем. Ад гэтага жудаснага ржання Надзя дранцвее, не сваім голасам крычыць на Валодзю, каб бег далей ад кураня.

Зямля, здаецца Надзі, стогне ад бомбавых разрываў. Усе, хто застаўся ў лагеры, хаваюцца дзе можна, байцы занялі кругавую абарону: фрыцы могуць пранікнуць на тэрыторыю лагера.

Надзя з Валодзем і Сяргеем сядзяць пад вываратнем, баяцца паварушыцца, бо нядоўга трапіць пад асколак. Прыхінула хлопчыкаў да сябе, углядаецца ў неба, але ўбачыць што-небудзь не ўдаецца.

Надзя подбежкі перабіраецца з-за вываратня ў глыбокую-глыбокую варонку, далей ад таго месца, дзе рвуцца і рвуцца бомбы. На руках у яе Сяргей, а другой рукой яна прытрымлівае Валодзю, які бяжыць следам.

Стаіўшыся ў варонцы, аддыхаўшыся трохі, азіраецца па баках. І тут заўважае Ладымера. Ён зусім поблізу. Не адзін. Поплеч з ім мужчына ў цывільным. Надзя ведае: гэта камандзір армейскіх разведчыкаў. Ужо два месяцы, як наша армейская разведка ў іхнім партызанскім атрадзе.

Заўважыўшы ў варонцы яе з дзецьмі, Ладымер падбягае да іх.

— Горача? Нічога, праз дзень-другі гэтая кругаверць пакоціцца далей, нашы вось-вось паявяцца тут, то ж я з разведчыкамі хадзіў на баявое заданне.

К вечару ў лагеры цішэе. Ладымер, адлучыўшыся на гадзіну-другую з разведчыкамі, вяртаецца да іх, расказвае ёй пра апошнія навіны. Ён гаворыць, а яна хапаецца за жывот, садзіцца на зямлю: мабыць, яна разнервавалася і той маленькі чалавек, які яшчэ не паспеў паявіцца на свет, не дае ёй сёння ўвесь дзень спакою, бясконца б'е ў жывот.

— Госпадзі, здурнелі мы з табой, Ладымер, тут такое робіцца, а мне раджаць трэ!

Яна нервуецца, злуецца, ледзь не крыкам крычыць, а ён смяецца, быццам і вайны яму ніякае няма, азіраецца вакол сябе, вочы яго спыняюцца на нейкай кветцы, да якой ён тут жа падыходзіць, нагінаецца, зрывае і падае ёй.

— Ох, жонка ты мая залатая! Вайна нам з табой запомніцца: мы і з немцам ваявалі, і дзяцей раджалі. А хіба можна жыць без дзяцей?!.

Меншы, Сярожка, у гэты час прачынаецца, выслізгвае з яе рук, бяжыць да бацькі, але зачапіўся ножкамі за апоўзіну, заблытаўся, упаў, заплакаў. Ладымер падскочыў, нагнуўся, схапіў адной рукой яго за пінжачок, падкінуў уверх і, спаймаўшы яго ў паветры, прыціснуў да грудзей, прылашчыўся няголенай шчакой да сынавага тварыка. Ад гэтага дотыку, убачыла Надзя, у Ладымера ўсё нутро закіпела буйнай, хмельнай радасцю, і ён усё больш горне сына да сябе, нейкі час не можа вымавіць ні слова, а толькі ласкава, пяшчотна мармыча «м-да, м-да», быццам удыхае ў сябе пахі лесу, кветак, быццам п'е ў гарачы летні поўдзень з халоднай крыніцы. Сяргей жа забывае пра свой мінутны плач, вочкі яго высыхаюць ад слёз, ён шчасліва засмяяўся ад дотыку да шлокатнай, няголенай бацькавай шчакі, абедзвюма рукамі аб-

няў яго за шыю, прыхінуўся да грудзей, пазірае на яе, на Надзю, з вышыні бацькавага пляча...

Сядзіць яна ў Валодзевай кватэры — і Ладымер стаіць перад яе вачыма, бы жывы, яна «размаўляе» з ім доўга...

Мінула, мабыць, за поўнач, бо нарэшце асталявалася цішыня, перастаў гусці рухавік ліфта, сціхлі галасы за сцяною, адкуль даносіўся віск сабачаняці.

Надзя ляжала на канапе з адкрытымі вачыма ў цёмнай зале і ўсё яшчэ знаходзілася пад уражаннем таго, аб чым толькі думала, уяўляла. Яна як бы заканчвала «гаворку» з Ладымерам і цяпер працягвала разважаць далей сама з сабой: «Дзеці падраслі, сем'і маюць, гадуюць дзяцей, уладзіць бы толькі вось з Валодзем — і спакойна жыві. Ды ці багата ёй засталоса? Лепшыя гады праляцелі — азірнуцца не паспела. А цяпер што, і папраўдзе толькі чакаць смерці?» З сумам падумала, што ад гэтага нікуды не дзенешся, і марыць ёй асабліва няма аб чым. Толькі не, клопату ў яе яшчэ шмат: унукаў у яе цяпер хапае. Ды і Ленка ж з Віцем як без яе? Ленцы апроч яе няма на каго спадзявацца. Значыць, рана ёй яшчэ думаць пра смерць.

Ад гэтых думак ёй раптам захацелася ўстаць, пахадзіць па пакоі. Яна вылезла з-пад коўдры, апусціла на падлогу ногі, сунула іх у тапачкі, але хадзіць па пакоі не асмелілася: пабаялася, каб яе крокі не пачулі дзеці і не папрачыналіся.

Пасядзела так хвілін колькі, з ціхім стогнам забралася зноў пад коўдру, і яе памалу адолеў сон. Закрываючы вочы, падумала: «Заўтра шчэ трохі патапчуса тут, мо ўдасца нарэшце настроіць сябе на гаворку з сынам, з Валодзем. Толькі вось сэрца нечага ўсё ные. А зараз спаць, спаць трэ...»

## 22

На другі дзень Надзя, устаўшы з пасцелі, адчула сябе значна лепш. Не кружылася галава, перастала калоць пад грудзьмі. З добрым настроем яна ўзялася памагаць Іры прыбіраць у кватэры, зрабіць тое-сёе на кухні. Іра, канечне, не магла ёй забараніць брац-

ца за дамашнюю работу, але ўгаворвала, каб яна лепш спакойна сядзела ды забаўлялася, раз ёй так сумна без справы, з Інай. Але адгаварыць яе ад работы Іра не змагла, толькі хіба не дала таптацца на кухні. Надзя глянула ў ванну, убачыла там вядро з анучкай, падаткнула падол сваёй доўгай чорнай сукенкі, наліла з крана ў вядро вады — узялася мыць падлогі.

Поўзала на каленьках з мокрай анучкай у руках, старалася не абмінуць ніводнага куточка, нізка нагіналася, засоўваючы руку з анучкай глыбока пад канапу і шафу.

Мыла і шкадавала, што нельга пашараваць падлогу старым дзеркачом ці вярчом, як гэта яна робіць у сябе дома, дзе адмывае падлогу да жоўта-васковага бляску. У Валодзевай кватэры так мыць яна не можа, хоць бы і аказаліся пад рукой добры дзяркач з лазовым вярчом: падлога тут пафарбаваная.

Валодзя як згледзеў, што яна рачкуе з анучкай у руках, расхадзіўся:

— Хочаш, каб я зноў доктара бег выклікаць? Ты ж мо яшчэ ад учарашняга прыступу не паспела ачомацца?

Яна не стала звяртаць увагі на сынавы словы:

— Адчапіся ты ад мяне, не назаляй тута і перастань гусці як аўдод над вухам.

— Глядзі, маці, доктар казаў, каб ты асабліва не турбавала сябе.

Увайшла Іра і перапыніла іх спрэчку:

— Давайце ўсе на кухню, стыне снеданне.

За сталом усе маўчалі. Толькі Іра зрэдку пакрыквала на дачку, якую трымала ў сябе на руках, за тое, што яна, Іна, нічога не хоча браць у рот. Надзя п'е чай, глядзіць, як Інка круціць галавой, аднекваецца. Надзя не вытрымала і кажа:

— Ад раскошы цяперашнія дзеці пераборлівыя ў ядзе. Пасля вайны, Валодзя, калі вас, жаўтаротых шпакоў, у мяне на руках трое было, то вы і чэрствай скарыначцы жытняга хлеба радаваліся як неўгадно чаму, а пра белы і казаць няма што — белы рэдка трапляў на стол.

— Ты, маці, не спамінай старое, яно было і згуло, старым аршынам сённяшні наш дзень не ахваціш, не змераеш,— запярэчыў Валодзя.

Надзя не стала ўступаць з сынам у дыскусію, паду-

мала: «Гавары, гавары, ты ў мяне вучоны, цябе я ўсё адно не перастаўлю».

Услых жа прамовіла:

— У етом вашом горадзі каб я і стала жыць, то хутко, мамуць, счахла б: машыны ж па вуліцах адна за адной шнуруюць, капцяць, чадзяць, ад етаго смуроду і галава ў мяне мо ўчорэ забалела. А дзеткі? Хіба ім не дастаецца?

— Тут твая праўда, маці,— не паднімаючы вачэй, сказаў Валодзя,— чаду ў гарадах хапае. Але ж нешта робіцца, каб паветра ў гарадах было чыстым, вучоныя ломяць галовы над гэтай праблемай...

Ужо кончылі есці, Іра пачала прыбіраць са стала. Рабіла нявестка ўсё ціха, не ўмешвалася ў гаворку Валодзі з ёю, з маці. І Надзя падумала, што Іра добрая, далікатная жонка, і адразу здагадалася, што не без дай прычыны трымціць яна, Надзя, увесь час хвалюецца, бясконца паглядае на Валодзю, нешта імкнецца яму расказаць, ды недагаворвае...

Яна пазірала, як нявестка спрытна ўпраўляецца з дамашняй работай, і думала: цяпер яна перажывае не толькі за Ленку з Віцем, а і за Іру з Інкай. І Надзя канчаткова рашыла сёння маўчаць. Вось, меркавала, прыедзе Валодзя да яе, тады і парахуюцца там, у Каласках, усёй сям'ёй. А яна пастараецца ўгаварыць яго, каб не цягнуў з прыездам. Нешта прыдумае, патрапіць сказаць сыну, каб паскорыць яго прыезд у Каласкі.

Павагаўшыся, паспрачаўшыся ў душы, Надзя выйшла з кухні, вярнулася ў залу, дзе Валодзя з Інай глядзелі тэлевізар.

Надзя наблізілася да акна, пачала ўзірацца ў возера і лесапарк. Сёння на дварэ пацішэла: не хісталіся хваёвыя дрэвы, голле на якіх пасля ўчарашняй завеі паабвісала ад снегу, што густа абляпіў кожную лапку ад зямлі да самай вяршаліны.

— Пара мне, сыне, дадому,— спакойна прамовіла Надзя, не адыходзячы ад акна.— Сёння пагода настроіласа, то я зараз жэ і сабяруса, з'езджу на вакзал, укуплю білет.

— Хіба дома ў цябе гарыць што? Пабудзь у мяне, трохі пагасці, вось Іра ўправіцца з работай, навядзе збольшага парадак у хаце — пакатаемся па горадзе.

Памаўчалі крышку — і Надзя зноў загаварыла пра

тое, што ёй трэба збірацца дадому, у Каласкі. Пачала выдумляць:

— Дзякуй табе, сыне, што просіш, каб асталася ў цябе, але болей затрымлівацца не магу, паеду, мо там Грышка зноў што-небудзь адчыбучыў, то Любка адна ўчарнее, покуль дасць таму надалабню рады.

— То хоць зараз не спяшайся ўжо, сёння ж нядзеля, мы ўсе дома, пагамонім, ты мне яшчэ што-небудзь раскажаш.

— Хто ж то, сыне, у панядзелок што робіць ці, тым болей, вупраўляецца ў дарогу? Ето ж такі нядобры дзень, я ўжэ і сама запрымеціла: што б ні зачынала ў панядзелок — тэе пагано канчаласо.

— Забабоны, маці, выдумкі, дзень як дзень, але калі ты так проці, то рабі па-свойму, а то раптам што, тады на маю галаву шышкі пасыплюцца.

Увайшла Іра, і Валодзя яе папярэдзіў:

— Заканчвай там валэндацца, з'ездзім у горад, маці білет купіць трэба, сёння вечарам яна збіраецца дахаты.

— Ось дык госці! — здзівілася Іра.— Не паспелі на парог — і ходу назад.

Зіркнула на Валодзю, працягвала:

— Пагана прымаеш маці, раз так.

Надзя пабаялася, каб з-за яе зноў не пачалася сварка.

— Пабойса бога, Ірачко, як ты можэш казаць такое, але ж там, дома, мяне чакаюць.

І да гэтага Надзя яшчэ дадала, каб болей пераканаць нявестку:

— Сон гэтай ноччу паганы сасніла, баюса, каб там чаго нядобраго Грышка не нарабіў, а Любка хіба яго ўгамоніць?

— Валодзя ж таксама ваш сын, і вы першы раз да нас прыехалі, то чаго такія спешкі? — ужо не верачы, што ёй удасца затрымаць Надзю хоць бы на дзянёк, прамовіла Іра.

— Валодзя — мужчына, а Любка ў мяне безабаронная, бы дзіця: калі што ўтворыць Грышка, то толькі і ратуецца плачам, ні насварыцца на яго, ні прыгразіць не ўмее. А ад таго чорта лазатага ўсяго можна чакаць, калі вып'е. Я з'ехала, то ён цяпер там волю пачуў. Не, я мушу паехаць сёння, не крыўдуйце на мяне, дзеці.

Дзіву далася Надзя, што Валодзя зараз не нерваваў-

ся, не сварыўся на яе за зяця, супраць якога некалі так настроілася яго душа. Ды і што за карысць з яго сваракперабранак? Перайначыць цяпер нічога не перайначыш.

Застыла, знерухомела Надзя ля акна з нялёгкімі ў галаве думкамі. У яе зараз было такое пачуццё, што яна павінна ж усё-такі нешта яшчэ зрабіць, сказаць...

## 23

У хаце ў Надзі, як толькі прыехаў Сяргей са сваім сямействам, адразу загуло, бы ў вуллі з пчоламі. Святлана і Алеся хутка асвойталіся з Віцем, насіліся па пакоях, узнімалі такі гармідар, што хоць бяры ды вушы затыкай, бо за дзень унукі добра надурaць ёй галаву.

Святлана з Алесяй, вельмі падобны адна на адну, у Валю абедзве ўдаліся: кругленькія, быццам цялешыкі, з чорнымі-чорнымі, як у цыганак, валасамі, кірпаносыя.

На другі ж дзень старэйшая, Алеся, ускараскалася Надзі на калені, спытала:

— Бабулька, а дзе ты цукеркі хаваеш?

Ад такога нечаканага пытання Надзя рассмяялася:

— У бабулькі зубы баляць, ёй нельга есці салодкае.

Ні кропелькі не засмуціўшыся, Алеся пачала яе суцяшаць:

— У нашага папкі таксама балелі зубкі, ён схадзіў да доктара, гэта зусім-зусім не страшна.

Віця, калі яна трымала Алесю на руках, стаяў побач. Ён насупіўся, спадылба пазіраў на Надзю, цяжка соп: мабыць, хлопчык раўнаваў, што гэтая дзяўчынка, якая паявілася ў іх у хаце толькі ўчора, сляпіцаю лезе-чэпіцца да яго бабулі. І Надзя, пусціўшы гуляць Алесю, узяла Віцю за руку, пагладзіла яго стрыжаную галоўку, пацалавала ў шчаку.

— Мой ты ўнучак, не плач, баба Надзя ўсіх вас, і цябе, дзіцятка ты маё дарагое, любіць і шкадуе.

Віця абрадаваўся, што з ім яна так пяшчотна размаўляе, сам ускочыў Надзі на калені, абняў за шыю і доўга-доўга не адпускаў, мабыць, па-сапраўднаму баяўся, што гэтая кірпаносая дзяўчынка з блакітным бантам у густых чорных валасах адбярэ ў яго бабулю.

Зразумеўшы, што яго страх дарэмны, што бабуля Надзя аніколечкі не разлюбіла яго, Віця порстка саскочыў

з Надзіных каленяў, паклікаў Алесю, і яны навыперадкі пабеглі на двор лавіць матылёў, якія пасля дажджу кружылі-ўзнімаліся ў сонечныя дні над вялікімі жоўтымі кветкамі лапушыстага гарбузніку. Надзя паглядзела ўслед унукам, усміхнулася, крадком выцерла слязу, якая нечакана набегла на вочы. У гэтую хвіліну яна падумала пра Віцю: «Такі маленькі чалавечак, а ўжо нешта адчувае і разумее, бач, расхваляваўса, калі яна прыгарнула да сябе Алесю».

Выйшла на двор паназіраць за ўнукамі, але тут раскрылася акно, і яе паклікаў Сяргей.

— Мамо, барзджэй сюды.

Вопрамеццю кінулася ў хату, падбегла да пасцелі, дзе курчылася, стагнала Валя.

— Дацягнулі, даждаліса,— пачала Надзя адразу ўшчуваць Сяргея,— хіба ж я не казала, каб вёз у раён у радзілку? Дак не ж, не паслухоў, казаў, што не пара шчэ, а хто тую пару знае? Бачыш, жонцы от раджаць трэ, а я хіба доктар? Цяпер во разводзь рукамі, маліса богу, каб усё кончыласо добрэ.

Сяргей стаяў пасярод хаты, твар яго ад нервовага напружання пабялеў.

— Чаго стаіш? Па фельчарку нашу, па Галю бяжы.

Сяргей пераступае цераз парог, аглядваецца назад, пазірае на жонку, якая то стогне, то скрыгоча ад болю зубамі, хапаецца за падушку ды вымаўляе адно:

— Ох ма-а-ама-ачкі-і-і вы мае-е, калі ж кончацца гэтыя му-у-укі-і.

Надзя збегала ў павець, прынесла сухіх дроў, кідае іх у печ, здзірае з бярозавага паленца бяросту, бярэ на камінку запалкі, чыркае аб лубок карабка, але, мабыць, спяшаецца вельмі, хвалюецца — і запалка ломіцца. Дастае другую — чырк, і ўсхопліваецца вясёлае жоўтае полымя, яна прыпальвае скручаную ў трубачку берасціну, кідае яе ў печ, агонь увачавідкі распаўзаецца па сухіх дровах.

Налівае чыгуны вадою, ставіць іх у печ — грэтай вады сёння спатрэбіцца нямала.

Ухапілася за вёдры, хацела збегаць да калодзежа прынясці вады: вечар жа блізка, пара і вячэру гатаваць. Але адчайны Валін ускрык «ма-а-ама-а-ачко-о-о ма-а-ая-я мі-і-іла-а-я» прымушае паставіць вёдры на ўслон і вярнуцца назад. Яна падыходзіць да пасцелі, на якой

ляжыць яе нявестка-парадзіха, бачыць, што Валя да крыві пакусала губы, лоб і твар у яе пакрыты гарачымі кроплямі поту.

— Пацярпі, пацярпі трохі, Валечко, усё будзе добрэ, ці ж табе першы раз раджаць?

— Двух жа дзевачак так лёгка радзіла, а трэцяга, думала, яшчэ лягчэй раджу, таму і ў бальніцу не спяшалася, а тут на табе, хлопец, мабыць, будзе, раз так,— перасіліўшы боль, сказала нявестка.

— Што не паехала ў радзілку, пагано, канечне, ды не бяда, Галя ва ўсіх нашых жанок роды прымае.

А тут і Галя з Сяргеем у хату. Запыханыя, зачырванелыя абое ад хуткай бегатні. Галя дастала са свайго вялікага жоўтага скуранога партфеля белы халат, пачала апранаць яго, закамандавала:

— Мужчынам тут рабіць няма чаго.

Надзя бачыць, як Сяргей нехаця выходзіць, зачыняе за сабою дзверы, садзіцца на приступках ганка, абхоплівае абедзвюма рукамі галаву, каб не чуць, як заходзіцца крыкам Валя. Яго тут жа акружаюць дзеці: Алеся, якая трымае за руку Святлану, Віця. Праз акно не чутно, але Надзя здагадваецца, што дзеці наперабой пра нешта расказваюць Сяргею, паказваюць рукамі ў бок павеці, куды хутка ўсе і кіруюцца. Надзя ў душы радуецца, што дзеці далі Сяргею занятак, памаглі яму на нейкі час забыцца пра тое, што зараз робіцца ў хаце... І тут Надзя чуе ўладны голас фельчаркі:

— Давайце, цётка Надзя, памагаць мне: ваду рыхтуйце, чыстае радно...

Рэзкі дзіцячы плач на хвіліну-другую заглушае ўсё: патрэскванне дроў у печы, голас фельчаркі. Надзя толькі бачыць, як Галя варушыць губамі, а што гаворыць — не чуе, бо дзіцячы крык такі моцны і пранізлівы, аж у вушах закладвае.

Калі дзіця сціхае нарэшце, Валя ціхенька пытаецца ў фельчаркі:

— Дзеўка ці хлопец?

За фельчарку адказвае Надзя, яна ўсміхаецца Валі, вымаўляе:

— Ты, Валечко, бы ў ваду глядзела: хлопец.

Чорныя Валіны валасы пышна і свабодна рассыпаліся па падушцы. Бы не паверыўшы таму, што ёй сказала Надзя, Валя просіць, каб ёй паказалі дзіця, мабыць,

ёй зараз жа захацелася ўбачыць, у каго ўдаўся хлопчык: у яе ці ў Сяргея. Фельчарка запратэставала, калі Валя прыўзнялася на падушцы:

— Ляжы пакуль, асабліва не варушыся, колькі часу табе трэба паляжаць спакойна, яшчэ паспееш нацешыцца сваім крыкуном.

І тут Надзя ўбачыла па той бок акна Сяргея з дзецьмі, якія, мабыць, усё чапляліся да яго з вечнымі пытаннямі-роспытамі. Сяргей ім то пра нешта гаварыў, то складваў губы трубачкай і прысвістваў ці гуў, як гудзе на вузкакалейцы, калі пад'язджае да сяла, цеплавоз. Калі дзеці на хвіліну далі яму аддышку, ён прыліп да акна, знакам папрасіў Надзю падысці:

— Як там у вас?

— Радуйса, сын!

— Не мані, маці, кажы праўду.

Надзя на гэта толькі кіўнула галавой: праўда, праўда.

Ад радасці Сяргей аж падскочыў на месцы, па чарзе браў на рукі Святлану, Алесю, Віцю, гарнуў іх да сябе, цалаваў, прыгаворваў:

— Мае вы жэўжыкі дарагія, гэта ж трэба, гэта ж трэба...

У тыя дні Надзя не клалася спаць да позняга. Дома хапіла работы, ды яшчэ і Ленчына гаспадарка вісела на яе шыі. Але на душы ў яе тады было добра і спакойна, бо яна бачыла, як радаваўся Сяргей, бачыла, якім ён стаў сур'ёзным і шчаслівым. Новыя клопаты моцна змянілі яго, зрабілі трошачкі пахмурным, нешматслоўным. З добрым настроем ён выпраўляўся на работу ў калгас, дзе працаваў на трактары. А вяртаўся вечарам — з апетытам уплятаў вячэру, браў на рукі сына з жончыных рук, яго, сына, ён назваў Уладзімірам, клаў у каляску, выкочваў на вуліцу, з парога казаў Валі:

— Адпачні трохі, за дзень і так хапіла з цябе.

Валя падбягае да яго, цалуе ў шчаку, кажа:

— Ты ў мяне, Сярожа, залаты, самы лепшы муж на свеце.

Надзя ўсё гэта чуе і бачыць. І як ёй ні радавацца, што выгадавала сына, добрым чалавекам ён стаў, добрым сем'янінам...

Неўзабаве выпісалі і Ленку з бальніцы. Пачыналася якраз восень. Людзі браліся выкопваць на сваіх сотках

бульбу. І Надзя вельмі-вельмі радавалася, што Ленка паправілася, цяпер сама дагледзіць Віцю, возьмецца за сваю гаспадарку. Ленка, калі прыйшла да яе па Віцю, не знала, куды дзець вочы.

— Дзякуй вам, цётачко, на ўсё жыццё цяпер я перад вамі ў даўгу.

На вачах у Ленкі заблішчалі слёзы.

— Не кажы так, Леначко, не трэ, памагла і добрэ, а хто ж, як не я, паможэ табе? Віця ж мой унук.

Ленка расплакалася, і Надзя разгубілася:

— Чаго табе цяпер плакаць? Дзякуй богу, што паправіласа, будзе здароўе, будзе ўсё.

## 24

У пакоі станавілася душна, чутно, як пераліваецца-булькоча вада ў ацяпляльных батарэях, умураваных у сцяну. Ёй здалося, што ў гэтыя хвіліны і гадзіннік, які стаіць на кніжнай паліцы, пачаў адбіваць свой ход болей гучна і моцна, быццам прыспешваў яе. Ёй зараз станавілася балюча за тое, што прыхварэла трохі і, мабыць, з-за гэтай сваёй хваробы разгубілася.

Надзя зморшчылася. Ёй станавілася проста невыносна. Каб не глядзець на сына і каб не паказаць, што яна пакутуе, пачала ўзірацца ў парк, які добра відаць адсюль, з акна трэцяга паверха. Але вочы яе быццам перасталі бачыць, яна ўздрыгнула ўсім целам: як і ўчора, сэрца пранізаў востры боль. Яна не на жарт перапужалася, што не ўстоіць, упадзе, мацней ухапілася рукамі за падаконнік і так стаяла, стаяла... Адчувала, як робіцца млосна, не хапала дыхання, а нябачны маленькі свярдзёлак як упіўся ў сэрца.

Перачакаўшы, калі перастане ныць сэрца, спыніцца галавакружэнне, Надзя падышла да канапы, з цяжкасцю села, пачала абувацца. У душы лаяла сама сябе: «Ну, ось, раскісла... хопіць... толькі хутчэй, хутчэй жа праходзь, адпусці, дай мне заехаць дадому»,— быццам угаворвала яна тупы боль, які маленькай кропачкай яшчэ дрыжаў усярэдзіне, не згасаў зусім.

Апранулася, абулася даволі хутка і адчула, што боль сапраўды сціх, яна бы загаварыла-зашаптала яго, кропачка, якая так доўга мучыла яе, раптам патухла. «Ось і добрэ,— абрадавалася,— прыедзе Валодзя ў Каласкі.

А цяпер ён абавязкова прыедзе, у мяне-то хоць на душы паспакайнее...»

Выйшла ў калідорчык-прыхожую, стала насупраць люстра, убачыла ў люстры сябе і ледзь не жахнулася: ці яна гэта? Толькі мелькам зірнула, але заўважыла: пачарнела, вочы апухлі. І ўсё, мабыць, таму, што ва ўсім вінавацiла не толькі сына, але і сябе. І што цяпер можна зрабіць?

Рашэнне прыйшло нечакана: перш-наперш трэба, каб Валодзя прыехаў дадому. Што хочаш, ёй неабходна прыдумаць. Але ў бліжэйшы час сын павінен быць у Каласках. Ну, а там усёй сям'ёй пагавораць з ім як след...

— Ось што, сынок,— пачала гаварыць Надзя, але не дагаварыла. Не сваім, а чужым, далёкім і пабочным позіркам глянула на сына і заўсміхалася даўно забытай усмешкай. У гэтыя хвіліны яна падумала, што самыя шчаслівыя, самыя радасныя дні ў яе жыцці былі тады, калі Валодзя рос, вучыўся, жыў душа ў душу з братам, Сяргеем, з ёю, маці. У тыя гады, хоць і бедна і голадна жылося ім, але яны глядзелі на ўсё аднымі вачыма, умелі зразумець адно аднаго, умелі хутка паладзіць, калі, не без таго, і бывалі ў іх сваркі... І няўжо цяпер, калі старэйшы сын вырас, пасталеў, стаў бацькам, не зразумее яе, сваю маці, не пачуе сэрцам, як гаруе яна. За той час, што сын не прыязджаў у Каласкі, ён, заўважыла Надзя, як бы ўзвёў сцяну між сабою і ёй... Але хіба ад гэтага ён стаў лепшым і болей шчаслівым? Нельга ладзіць уласнае шчасце на няшчасці другога...

Надзя была ў поўнай разгубленасці.

— Што мы за людзі?

Яна спытала аб гэтым у сына з такім здзіўленнем, быццам толькі цяпер пачала з ім размаўляць. Ёй самой здавалася, што гэта і сапраўды так. Бо яна ніяк не магла даўмецца: не спала начамі, калі гадавала сына, столькі пражыла з ім пад адным дахам, сядзела за адным сталом, дыхала адным паветрам, але хіба яна спадзявалася дачакацца ад яго...

— Дык бывайце яшчэ раз, дзеці... Ладзьце адзін з адным, не сварыцеса... А ты, Валодзя, падумай і зрабі так, як трэба...

Наспех развіталася з Ірай, Інкай, з чамаданам у руцэ прайшла паўз сына, ледзь не зачапіла яго рукой. Але

хіба яна бачыла цяпер што? Затухнуў агонь у яе вачах, скамянела сэрца, попелам узялася душа...

Калі Надзя ўзялася за ручку дзвярэй, Валодзя хуценька апрануўся, узяў у маці чамадан і першы пераступіў парог:

— Праводжу цябе, маці, куплю білет, пасаджу.

— Ой, сыне, я б і адна як-небудзь...

...У вагоне Надзі не спалася. Пасля таго як яна развіталася з сынам, яе зноў ахапіла трывога. У купэ ўсе даўно пазасыналі, не зважаючы, што цеплавоз, які цягнуў састаў, то імкліва рваўся ўперад, то тармазіў на пераездах і паўстанках, гучна ляскочучы буферамі.

Яна сядзела перад акенцам, за якім віднеўся снег, праплывалі, нібы беглі насустрач і паспешліва адступалі назад цёмныя бярэзнікі, нізкарослыя хваёвыя маладнякі, балотцы, на якіх ля самай чыгункі сіратліва стаялі прысадзістыя, нахіленыя стагі ўчарнелага ад дажджоў сена, скіданыя мінулым летам.

Надзя не пераставала думаць пра Ленку. Яна не ведала, што адкажа ёй, калі вернецца і сустрэнецца з ёю дзе-небудзь на вуліцы ці ля калодзежа. І як паглядзіць яна ў вочы сваім: Любцы, Сяргею? З'ездзіла дарма... Не, мабыць, гэта не зусім так. Нешта ж высветліла, пабачыла, як жыве Валодзя, пагаварыла з ім. Толькі не выйшла, не склалася яе паездка так, як хацелася. І хаця Надзя дадумалася да гэтага, яна ўсё адно адчувала сябе вінаватай перад Ленкай, перад Віцем — унукам сваім...

У купэ, дзе была яна, яшчэ двое: муж з жонкай, але яны спяць, а ёй хутка выходзіць, і яна думае, як ехала ў Мінск і пазнаёмілася са старой, што выбралася да сталічных урачоў. Як яна цяпер? Надзя, здаецца, зайздросціць той старой: ездзіць сабе па ўрачах, лечыцца, ніякага клопату ў галаве, што там дома — ведама, бяздзетная... Не, не хацела б, мабыць, такога бесклапотнага жыцця: з дзецьмі ёй і тлумна часам, горка, але і без іх яна ніхто...

Развіднівала, калі яна сышла з аўтобуса, на які села ў Калінкавічах. Ад шляху да Каласкоў дарога блізкая — пяць кіламетраў. Улетку і не ўгадала б, як адолела б тыя кіламетры. Цяпер жа кругом зіма. Дарогу папераматала высокімі касымі сумётамі з вострымі, рабрыстымі вяршкамі. Каб пераступіць сумёт-гурбу, даводзіцца

высока паднімаць ногі, ісці асцярожна, каб не насыпалася снегу ў валёнкі.

Хутка стамілася, спынялася, каб хоць трошкі перавясці дых. Пасвятлела, чулася, як недзе поблізу адчайна малаціў аб дрэва дзяцел, далёка ад дарогі зайшоўся і доўга не сціхаў сабака, мабыць, напаў на зайца і выганяў яго са сховішча на тое месца, дзе затаіўся са стрэльбай напагатове паляўнічы. І праўда. У тым баку, адкуль даносіўся брэх, пачуліся стрэлы, але, мабыць, паляўнічы прамазаў, толькі напалохаў зайца, і той з усіх ног пусціўся наўцёкі ў хмызы. Сабака ад злосці, што не можа дагнаць касога, заекатаў і, мабыць, кінуўся даганяць зноў, бо яго голас слабеў, а затым і зусім сціх.

Зімою лес мяняецца. Надзя зараз проста не пазнае яго. А ў гэтых жа месцах, здаецца, няма куточка, дзе б не ступала яе нага. То кароў прыганяла сюды на пашу, то па грыбы ці па ягады прыходзіць улетку і восенню. На кожным тутэйшым грудку, паляне бывала не раз.

Але што гэта такое? Глядзіць яна на лес і не пазнае ранейшы сасновы бор — вельмі ж парадзеў ён. Там-сям толькі стаяць тонкія, чэзлыя дрэўцы, а каб сасняк вёрстамі, дзялянкамі, ды па абодва бакі дарогі, як гэта было ў вайну і пасля вайны, і каб той лес поўніўся птушыным спевам, крыкам звяроў — не, цяпер гэтага няма. Усё высечана, адны пні вакол...

Па невялікім драўляным мастку перайшла рэчку Чарцень і зноў пачала азірацца налева, направа... І тут усё высечана. У вайну, у ліхалецце выстаяў бор. А цяпер што за неабходнасць была начыста зводзіць яго?

Звялі... Кругом запусценне, бясконцыя зараснікі бярэзніку... Усё адно як Мамаева войска прайшло тут ардою з піламі і сякерамі... І там, дзе высіўся, красаваўся лес, свабодна гуляе вецер, які па вясне вельмі хутка выдзьме з палёў вільгаць і прынясе засуху... Ох, чалавек, чалавек... Сам сячэ сук, на якім сядзіць...

Памалу набліжаецца да Каласкоў, у якіх цяпер, як і кругом усюды, зіма, завеі.

## 25

Фронт аддаляўся ад іх лясных схованак, памалу пакаціўся ў бок Мазыра, да Прыпяці. Там, на пераправе ля Прыпяці, цэлымі днямі ўсё вухкала, а ўно-

чы неба паласавалі ярка-светлыя касякі пражэктараў, якія шнырылі ў цемнаце падоўгу, перакрыжоўваліся, бралі ў свае «ножніцы» самалёты, што прарываліся да ракі і бамбілі пераправу.

— Пара, таварышы грамадзяне, нам выбірацца адсюля, пара вяртацца на свае селішчы,— сабраў Ладымер у адзін гурт людзей пасля таго, як фронт аддаліўся.

Ён яшчэ не паспеў зняць карту-планшэт, быў апрануты па-зімоваму, хаця ўжо цэлымі днямі шчыравала красавіцкае сонца. Ён трымаўся адной рукой за драбіну падводы, на якой ціха сядзелі Надзя з Сяргеем і Валодзем, з Палажкай. Усе каласкоўцы не варушыліся, уважліва слухалі, аб чым будзе гаварыць Ладымер.

— Цяпер пачнём засыпаць прыфрантавыя равы, пачнём разжывацца на плугі, бараны — і возьмемся за нашу зямельку, якую загнала бур'яном.

Палажка заўздыхала:

— Чым жэ, Ладзімерко, засяваць тэе поле: ні насення, ні коней, а хіба етыя два парцізанскія конікі саруць усё, што трэ?

Ладымер павярнуўся тварам да падводы, глянуў на Надзю, перавёў позірк на Палажку:

— Каму лёгка цяпер, Палаг'ё?

Твары і вочы павернуты да Ладымера: усе слухаюць яго напружана, Надзя самкнула губы і засяроджана пазірае на дол, не міргаючы. Маўчыць і Палажка, у гэтыя хвіліны яна бы панікла плячыма, на твары выступілі вострыя жаўлакі-скулы, а нізка насунутая на лоб хустка падкрэслівала яе сумны, жаласны выгляд. І толькі адны дзеці, нічога добра не разумеючы, недаўменна пераміргваліся, затрымлівалі позіркі на тварах дарослых, што раптам зрабіліся амаль чужымі і непазнавальнымі...

Ладымер першы ачнуўся ад цяжкай задуменнасці, крутнуў галавой, шырока і светла ўсміхнуўся:

— Родныя вы мае, колькі мы гэтага дня чакалі?! Доўго, ох як доўго... Радавацца трэ, адгараваліся... Ну, пайшлі...

Ехалі міма палёў, парослых за тры гады вайны ціпчаком, падбелам, вяршковым палыном. Ад нагрэтых сонцам узгоркаў веяла разамлелымі вясеннімі травамі, што востра праклюнуліся праз леташні парыжэлы хвошч. Спіны ў жанок і мужчын хутка ўзмакрэлі, веяла загус-

целым чалавечым потам... Усе крочылі, нецярпліва пазіралі ўперад, на пад'ём, за якім віднелася бяроза з яшчэ голай вяршыняй. І калі да бярозы заставалася рукой падаць, Надзя ўбачыла на яе вяршыні вялікую птушку, якая, калі наблізіліся, падхапілася і паляцела, страшна і цяжка лопаючы крыламі: то быў лясны коршак, які корміцца на конскіх могілках. Быццам развешаная чорная сарочка, коршак павіс над імі ў паветры, здзіўлены, мабыць, паяўленнем людзей, якіх ён даўно не прывык тут бачыць...

Заскрыпела падвода, крануўся людскі натоўп, рушыў з лесу ў чыстае поле, пакіраваўся ў бок Каласкоў. Радаваўся кожны, што смела ідзе па сваім лесе, па сваім полі, у сваю вёску, на родныя селішчы. Журыўся кожны, бо ўсюды, на кожным кроку бачыў разбурэнні, пашчэпаны асколкамі лес, пераараное бомбамі поле...

Надзя сядзела на падводзе моўчкі, не варушылася, слухала, як б'ецца ножкамі ў жывот маленькі чалавечак, які вось-вось павінен паявіцца на свет. Ладымер ідзе поруч, трымаецца адной рукой за драбіну, курыць, пазірае на яе, вачамі ўсміхаецца ёй, быццам гаворыць: «Цяпер усё будзе добра, адбудуемся, зажывём».

Яна ж баялася за блізкія роды, думала пра тое, што сказаў ёй Ладымер, калі рушылі з лесу ў Каласкі. Ён сказаў ёй: «Я і мой атрад мабілізаваны, паслязаўтра ж ўсе павінны выправіцца на фронт».

«Божачкі,— думае Надзя,— і як я цяпер без яго астануся? Ні кала ж ні двара. Ад хаты адна печ асталаса, ды яшчэ яблыня, што каля самага плота расла, не згарэла, не дастаў яе, мамуць, агонь, подалека ўсё-такі яна ад хаты...»

У той жа дзень, як выправіўся на фронт Ладымер, Надзя і радзіла Любку. Намучылася, пакуль акрыяла яе дзіця ад тае праклятае хваробы, што струпамі пакрыла ўсё цельца дзяўчынкі. І як толькі Надзя сама сабралася з духам, упраглася ў сямейны воз, пайшла да праўлення калгаса, якое размясцілася ў наспех скіданай хатцы з трыма вокнамі, што выходзяць на вуліцу. Там, у той хатцы, сустрэў яе дзядзька Сіла — невысокі, лысаваты, насаты, з худымі, упалымі шчокамі старшыня праўлення. Ён сядзеў за самаробным драўляным сталом, збітым з дубовых коланых плашак, уткнуўшыся ў паперы. Мелькам зірнуў на Надзю. Яна падышла да стала, пераміна-

лася з нагі на нагу, не адважвалася вось так адразу пачаць гаворку.

— Дзевачка твая як, расце памаленьку? — адвёў позірк ад папер дзядзька Сіла.

Надзя цяжка і часта задыхала, зашморгала носам, выцерла вочы рогам хустачкі-рэзанкі, якую насунула нізка на лоб і завязала вузлом трохі ніжэй падбародка.

— Каб не еты ваенны дохтар,— адказала, саўладаўшы з сабой, яна,— то і не знаю, ці вужыло б дзіцятко: дзень жэ і ноч не сціхало, плакало ўсё, наравіло вылузаць ручкі ды ўдзерці сябе за твар, за лобік, шыю. А дзе дзярне, там кроў паказваецца. Намучылаcа я за етыя месяцы, але дзякуй таму дохтару, памаглі яго лекі.

— То і добра, калі так, давай на работу ў калгас хадзі, а то вуньдзека палі свірэпай і драсёнам заганяе, а людзей мала.

Надзя не сказала, падумала: «На каго ж я дзяцей кіну? Хлопцы то ўжо як-небудзь правалэндаюцца на двары, а Любка?»

Не знайшоўшы адказу на гэтае пытанне, рашыла, што старшыня ўсё адно праўду кажа, мала работнікаў у калгасе, а работы прорва, так што няма чаго ёй седжма сядзець, а з Любкай нешта прыдумае, мо старую Марыну, Адама, суседа, маці ўгаворыць-упросіць, каб паглядзела, пакуль яна вернецца з работы.

Стаяла так Надзя, разважала сама з сабой, і старшыня заўважыў, як яна пазірае чагосьці ў акно, над нечым задумалася, папытаў у яе:

— Ты ж, Надзё, мусіць, па нейкай справе да мяне? Калі так, то гавары, бягу я, трэ ў раён з'ездзіць, акучваць жа картоплі час, а акучваць няма чым, капанічкамі ж аднымі тут не ўправіцца, то мо ў раёні які плужок выпішу і прывязу.

— Лесу, старшыно, вупіш мне, не векаваць жэ мне ў зямлянцы.

Дзядзька Сіла ўстаў, дастаў з кішэні капшук з самасадам, скруціў папяросу, закурыў. Узяў са стала сваю картовую шасціклінку-кепку, спрытна накінуў яе на галаву.

— Ты як быта, жонка, на другім краі свету жывеш, казаў жа я, перад усім сходам выступаў і казаў: адзінокім удовам калгас зараз жа пачынае будаваць хаты. Канечне, пра харому ты не думай, не да таго цяпера,

а нейкі дамок паставім табе, усе ж не ў зямлянцы жыцьмеце.

Узяўшы кавеньку, што стаяла ў куце, Сіла праскрыпеў міма Надзі на сваім драўляным пратэзе, які замяніў яму правую нагу, адрэзаную партызанскім доктарам пасля таго, калі аднойчы невялікая група з Ладымеравага атрада вярнулася ноччу сорак трэцяга з аперацыі і прынесла на самаробных бярозавых насілках яго, дзядзьку Сілу.

Яна глядзіць, як Сіла кульгае на пратэзе паўз яе і кіруецца на двор да падводы, у драбіны якой укінуты, каб мякчэй было сядзець, бярэмак саломы. Ідучы ўслед за ім, Надзя думае, што хай сабе і без нагі, ды жыве ж Сіла, а яе Ладымер у чужой зямлі ляжыць.

Вакол падводы стоўпілася купка людзей — адны жанкі. Пасля вайны яно так і было: мужчын у сяле раз-два, вось і за старшыню выбралі бязногага дзядзьку Сілу, бо апроч яго няма ў сяле болей граматнага. Даводзілася Сілу ўсюды скакаць на сваім рыплівым пратэзе, ваяваць з бабскім царствам.

Глянуўшы на жанок з-пад сваіх кудзелістых броваў, дзядзька Сіла паклаў кавеньку ў падводу, ухапіўся аднной рукой за драбіну, а другой зняў кепку, пашкроб сябе за патыліцу, зноў надзеў шапку і ціха, але так, каб яго пачулі ўсе, хто быў цяпер ля канторы, пачаў гаварыць:

— Тута да мяне каторыя з жанок прыходзяць лесу дабівацца,— пры гэтых словах Сіла паглядзеў на Надзю.— То каб не прападаў ваш і мой час на пустыя балабонкі, шчэ раз кажу вам: не хадзіце болей — усім адзінокім жанкам, хто ў вайну страціў карміцеля, галаву сям'і, калгас пастроіць хату. На гэта ўжо адпушчаны лес, цяпер затрымка за будаўнікамі: самі знаеце — сваіх людзей у нас няма... Але знойдуцца і людзі, толькі не ўсё адразу.

Сказаў гэта старшыня, пашарыў вачыма па людскім натоўпе, бы хацеў угадаць, пра што ў яго яшчэ могуць папытацца, і, не дачакаўшыся ніякіх пытанняў, закончыў:

— Словам, рабіце сабе спакойна, жанкі, не думайце ні аб чым, асаблівых трывог у нас з вамі цяпер няма і быць не можа — наша Савецкая ўласць не забудзе тых, хто праліў сваю кроў за людское шчасце.

Жанчыны пераглянуліся між сабою, пачалі аб нечым ціхенька перашэптвацца. Старшыня зірнуў на Надзю, убачыў, як у яе вачах заблішчалі слёзы, сказаў:

— Мае вы шызыя галубкі, цяпер плач не плач, а бацькоў, сыноў, мужоў сваіх усё адно не вернеш, не падымеш з брацкіх магіл, цяпер нам трэ радавацца, што адолелі звера-ворага, трэ расціць дзетак, спакойна жыць.

Пасля старшынёвых слоў Надзя сышла са сходцаў, склала на грудзях рукі, прамовіла:

— Канечне, Сіла Ціханавіч, слязамі гору не паможаш, але і не плакаць нельга — паспрабуй адной падымі на ногі трое дзеток, як у мяне. Дзе тут не заплачэш, не спомніш Ладымера?..

Усе паглядзелі на Надзю, маўчалі, цяжка ўздыхалі, некаторыя з жанок заўсхліпалі, выціралі павільгатнелыя вочы. Маўчаў і дзядзька Сіла, які, здавалася, ніяк не мог даўмецца, чаму кожны раз яго гаворка з жанчынамі выходзіла нейкай няскладнай, абавязкова збівалася на сумныя і журботныя размовы-разважанні?..

Ідучы тады ад канторы праўлення да свае зямлянкі, Надзя часта азіралася, бачыла, як дзядзька Сіла з цяжкасцю забіраўся на падводу, браў рукамі і закідваў на салому драўляны пратэз, які мёртва звісаў з дзіркі ў драбіне. Ён не спяшаўся ад'язджаць, тпрукнуць на каня, зноў задыміў папяросай. Надзя пазірала на яго, думала: «Хоць і без нагі, але ўсё ж такі жывы чалавек, і справу, бач, якую шчэ ўзваліў на свае плечы... Хай бы і Ладымер нават і без абедзвюх ног вярнуўса з вайны, усё ж было б з кім пагаварыць, і дзяцей памог бы збольшага дагледзець... А так? Як пайшоў на фронт, то і дачушку, Любку, нават ні разу не ўбачыў, не патрымаў на сваіх руках...»

Цяжкія то былі гады, з Надзіных рук валілася ўсё, калі пачынала думаць пра Ладымера, не магла яна змірыцца з думкай, што яго больш няма... І нават калі перасялялася ў хату, якую неўзабаве пабудаваў ёй калгас, на душы было горка і адзінока: на кожным кроку яна адчувала, як не хапае ёй Ладымера.

Пераносіўшы клункі з зямлянкі ў новую, што пахла свежай тынкоўкай, смалой-жывіцай, хату, Надзя ўпала тварам у вузлы, скіданыя ў беспарадку ля печы, і ляжала так доўга-доўга, не варушылася, заставалася сам-

насам са сваімі горкімі думкамі, безгалоса адпакутавала сваю долю, затым заўсхліпала, бы шукала палёгку для душы ў несуцешным плачы.

Апамяталася, калі Валодзя падышоў да яе, стаў перад ёю наўколенцы, слаба паторкаў яе за плячо, папытаўся:

— Мамо, го мамо, а ў новай хаце ў дождж не будзе капаць на пасцель?

Сынава пытанне прымусіла яе задумацца, яна глянула перш на дзяцей, потым абвяла доўгім позіркам хату, перастала ўсхліпваць, выцерла вочы, зноў глянула на Валодзю:

— Не, мае вы дзеткі, гэта не ў зямлянцы, дождж нас тут не дастане, тут столь добрая, з дошак, а наверсе на столі мох з пяском, і цёпла нам тут узімку будзе, бач, якая печ вялікая, напалю добра, то і босыя зможаце бегаць па хаце...

Хоць і ранавата яшчэ, але вёска прачнулася. Шырокімі фанернымі лапатамі мужчыны адкідвалі з двароў на гарод снег, якога за ноч накідала па калені, бо калі не адкідаць гэтага снегу, то не прабрацца тады ні да хлявоў, каб пакарміць-дагледзець скаціну, ні да штабеляў дроў, складзеных дзе-небудзь у павеці ці пад глухою сцяною хаты.

То на адным, то на другім краі сяла чуліся мужчынскія і жаночыя галасы, скрыпелі настылымі палазамі сані, якія ляніва цягнула ад калгаснай канюшні гнядая кабылка. Надзя пільней паўзіралася і пазнала ездавога: то быў Адам, сусед. Калі сані параўняліся з ёю, Адам паздароўкаўся, пацікавіўся, адкуль так рана ды яшчэ ў такую завею ідзе яна, Надзя.

Не вельмі хацелася ёй тлумачыць Адаму, дзе і чаго яна была. Але і не маніць жа суседу, і, цяжка ўздыхнуўшы, Надзя прагаварыла:

— Да Валодзі ездзіла.

— Зразумела,— адказаў Адам,— цяперашнія дзеці толькі вырастуць — і на крыло хутчэй, у свет пруцца... Цяперашніх дзяцей дома і на прывязі не ўтрымаеш...

Душой чуе Надзя — не пра гэта хацеў бы, мабыць, гаварыць з ёю Адам, а пра Ленку. Але ж... Хопіць ёй ірваць свае нервы. Нагаварылася, наперажывалася там,

у Валодзі... І цяпер не пра гэта... Вось прыедзе Валодзя, тады... Бо тут і так без балота, здаецца, утопішся — усё так і плыве, распаўзаецца пад нагамі...

Адам, убачыўшы, што Надзі цяпер не да размовы з ім, сеў у сані, паехаў. А яна яшчэ колькі хвілін стаяла на месцы, пакутавала, думала, што ёй цяпер рабіць, але нічога суцяшальнага прыдумаць не магла. І калі ўзялася за веснічкі, расчыніла іх, а затым ступіла на ганак, заплакала. Ёй трэба выплакацца тут, на двары, каб у хаце ніхто не бачыў яе слёзы. Бо дома ёй нельга перад усімі плакаць, бо паабяцала сваім, што ўсё ўладзіць, што ўсё будзе добра. А інакш яна і думаць не хоча. Трэба, каб усё было добра. Ці не таго яна ездзіла сярод зімы ў далёкую дарогу?

# Унук

## 1

Босы, з аблупленым ад загару носам, смуглым тварам, белымі, даўно не стрыжанымі і выгаралымі на сонцы валасамі, Сашко стаіць пасярод двара з вядром у руках, у якім круцяцца-пішчаць злоўленыя ў рэчцы ўюны, вінавата перамінаецца з нагі на нагу.

«Гэтаму дзеду, мабыць, цяжка хадзіць,— думае Сашко,— на адну нагу накульгвае і без кавенькі не зробіць і кроку... Але ж вось прыйшоў... і адкуль — з Вярхоў... Ды па такой духаце... А кавенька ў яго прыгожая, такіх я ні ў каго не бачыў...»

Яшчэ ён дзівіцца таму, што дзед так падобны на таго дзядзьку, які, калі жыла мама, прыходзіў да іх і называў яго, Сашка, сваім сынам. Каб не сівыя дзедавы вусы з кароткай пасівелай бародкай ды маладзей трохі, то ён так і падумаў бы, што зноў прыйшоў той самы дзядзька...

— Здароўя ў мяне нямаш з ім управіцца,— скардзіцца бабуля гэтаму чужому дзеду, які неяк даўно ўжо прыходзіў да іх.— Такі шыбельны хлопец, што на месцы ні мінуткі не ўседзіць, а рукі ў яго, здаецца, так і свярбяць, каб улезці куды ды нарабіць шкоды... Вунь сусед наш, Васіль Парахня, збіраецца ў суд падаваць... У яго мацыклет з калыскаю, то ўзяў ды ў бензінавы бак цукру насыпаў... А вунь нізачка леташніх грыбоў віселa, дак у лаўку здаў, а за грошы кніжак цэлы абярэмак накупіў... Прачытаў і ляжаць, цяпер хоць бяры ды накрывай імі гладышкі...

«Як бабулі, мабыць, цяжка са мною,— думае ён,— адны клопаты ёй з-за мяне... І пастарэла мо яна з-за мяне, занядужала апошнім часам, хварэе...»

— ...Бяры яго, сват, і рабі з ім што хочаш,— як ні моліць бабуля дзеда.— Ён жа не толькі мой унук... Зусім адбіўся ад рук, а ты мужчына, як-небудзь угамоніш...

«Толькі б бабуля не аддавала мяне гэтаму дзеду,— спадзяецца ён, што ўсё пераменіцца і бабуля возьме ды і перадумае,— я б стаў слухацца... А што Парахні цукру насыпаў у бак, то тут ты, бабуля, нічога быццам не

разумееш... Даўно я збіраўся зрабіць тое... Парахня ж на сваім матацыкле ездзіць у Алехавае балота, дзе плаваюць дзікія гусі, і са стрэльбы страляе па птушках... Цяпер доўга не паедзе... І ў суд не падасць, не паскардзіцца... А калі і паскардзіцца, я не вельмі баюся яго, я тады ўсім раскажу, бо я не люблю яго, не адзін я не люблю яго... З Парахні ўсе смяюцца... Яго ніхто не называе дзядзькам Васілём... У яго даўно ёсць мянушка — Лясны Пірат...»

Бабуля пазірае на яго, уздыхае.

— Дома не стыкаецца, вечна то ў катаргонкі гуляе, у чыжыкі або ў рэчцы гразь месіць, галавасцікаў ловіць... Ногі, як капаніцы, парэпаліся ад гразі, хоць рэпу на іх сей...

У яго замлелі рукі, ад стаяння на адным месцы адзеравянелі ногі. Але ён не рашаецца скрануцца з месца, па-ранейшаму трымае ў руках вядзерца, у якім круцяцца слізкія ўюны, і слухае, аб чым размаўляе бабуля з дзедам. А яны ўсё ніяк не могуць вырашыць, дзе яму жыць: ці з бабуляй, якой ён, мабыць, добра дапёк, што яна хоча, «каб ён згінуў з вачэй яе», ці з гэтым дзедам...

— Як меншы быў, то чуў дух, а падрос і распусціўся, пабачыў, што я адна за ім не ўганюся.— Голас у бабулі сярдзіты, і ён зразумеў: спадзявацца на добрае няма чаго.— Я ж адна ўсюды кідаюся — і карову дагледзь, і соткі дагледзь, і ягадзіну з лесу яму прынясі-высушы, і грыбы, калі пачынаюць пракідвацца...

Заціхае бабуля на хвіліну. Але змоўчаць усё адно не можа.

— Лісапет яму захацелася. Ва ўсіх, кажа, ёсць, адзін я, кажа, як сабачка, бегаю за Колем Матруніным, прашу, каб ён даў пакатацца... Скуль у мяне грошы тыя? Але ўкупіла, катайся, мой дарагі ўнучак, хто ж цябе пашкадуе, як не родная бабуля... Стаіць цяпер той лісапет у павеці, іржа ўядаецца ў яго, а ён і не глядзіць у той бок — зламаў, мабыць, а што ж: усе дзеці з нашай вуліцы каталіся на ім, як на сваім...

Бабуля падымае вочы да неба і як ні моліцца:

— Не ў Маню, не ў маю дачку, удаўся, бацюхно, увесь чысценько бацюхно... Я і казала яму не раз — вырасцеш, то як і бацько твой па свету валачыцьмешся... Увесь жа дзень не бачу, як загіне... А што ж: не вылазіць з лесу, пакуль на якое дрэва не здзярэцца, то жывым не

будзе... Штаноў не набрацца, вечна свеціць голымі каленьмі...

— Хіба ён маленькі? — нарэшце ўступае ў гаворку і дзед.— Хіба ён не мог бы па грыбы, па ягады схадзіць?

— Мог бы, а як жа! — ніяк не лагаднее бабуля.— Хоць бы на кніжкі сабе зарабіў. Другія дзеці не вылазяць з валокі, а што ж — у лесе аж чорна ад ягад.

— Ці праўду кажа бабуля, Сашко? — першы раз па імені назваў яго дзед.

— Выходзіць, ты не верыш мне? От возьмеш — паглядзіш, тады і пытацца не трэ будзе, ён сябе хутка пакажа.

— Не, верыць я веру табе, свахо, проста ў галаву маю ніяк не ўмяшчаецца — такі ж вялікі хлапчак...

Тут дзед замоўк, сеў на траву, якой за лета густа зарос увесь двор, паклаў каля сябе сваю прыгожую кавеньку, закурыў.

— Раз так — забяру я цябе, Сашко, зараз жа забяру і ўсю дур з тваёй галавы хутка выб'ю, я не дапушчу, каб мой унук неслухам рос... А калі што не па мне, то лаза блізка, лазы мне не шкода для твайго азадка...

Гаворыць дзед сур'ёзна, але голас у яго хрыплы, з кашлем, і ён, Сашко, не разумее, ці праўда дзед строгі, ці проста палохае яго лазінай. Але ад таго, што бабуля сапраўды хоча аддаць, «праперці яго са сваёй хаты», робіцца нявесела.

— ...Бяры яго, сват, дай мне вольна дыхнуць, а то ён мяне ў магілу раней часу заганіць,— не сціхае бабуля,— помачы ад яго аніякай, а клопату... То ж вушы мне пратрубіў: «Давай, бабуля, трусоў развядзём». Добра, унучак мой, калі табе так хочацца — будуць у нас трусы, толькі ты не лянуйся, даглядай іх... Пайшла да людзей, самых лепшых купіла, грошай колькі патрацiла... Праз год тых трусоў вунь поўная клець ужо... Ды гляджу я — з кожным днём іх усё меней і меней. Думала, кот убудаваўся ды зводзіць іх. Аж не. Ён, басяк гэты, у школу пазносіў, там, кажа, у іх нейкі жывы куток зрабілі.

— А як вучыцца ён? — перабівае дзед бабулю.— Заглядвае калі ў кніжкі?

— Дзе там! Я ж кажу — здаў грыбы ў лаўку, ды мо скупіў усе кніжкі, якія там былі... Як уключыць святло звечара, то, здаецца, гатоў да трэціх пеўняў чытаць...

А пра ўрокі і не здумляе... Праверыць жа я не магу, што хоча — тое й робіць...

— Плача па табе, унучак, лазіна, ох як плача! — дзед дакурвае другую папяросу, тушыць яе, кідае на зямлю, з цяжкасцю, апіраючыся на кавеньку, устае.

— Пайшлі, Сашко, не хацеў слухаць бабулю, то цяпер забывай яе, а я цябе ўжо вазьму ў рукі.

«Бедная, бедная мая бабуля,— думае ён.— Цяпер яна застанецца адна... Хай мяне ясны гром заб'е, калі я і на гэты раз манюка, але калі б яна зараз не выпраўляла мяне з гэтым дзедам, я ніколі-ніколі болей не пакрыўдзіў бы яе».

Бабуля забірае вядзерца з яго рук, пазірае, як у ім варушацца тоўстыя, як палкі, уюны, уздыхае:

— На досвітку звалокся з хаты, галодны цэлы дзень гайдамачыць, паесці беднаму нямаш калі.

Дзед набліжаецца да яе, заглядвае ў вядро, лагаднее:

— Ого-го якія чэрві! Гэтыя ўюны ўсё адно як на адкорме былі — гладкія, бы кабаны, пасушы іх, свахно, ды завязі на базар, капейку выручыш: і на кніжкі, і на адзежу Сашку будзе.

— Цэлы мех ужо насушыла, а есці нямаш каму — у мяне ў роце адзін зуб тырчыць, а Сашко і не глядзіць на іх, толькі ловіць... Канечне, добра было б завезці на базар, але ўсё ж ніяк не збяруся, ды і ці блізка той базар...

«Здаецца, памякчэў голас у бабулі,— заварушылася ў яго душы слабая надзея.— Мо цяпер і пераменіцца ўсё? Бабуля ж такая добрая, толькі сёння яна сама на сябе не падобная — злосная...»

Цяжка дыхаючы, дзед апіраецца на сваю драўляную кавеньку з мудрагелістай дужкай-ручкай, падыходзіць да яго, заглядвае яму ў вочы, гладзіць па галаве:

— Бацькоўскага клопату яму не хапае, сіратою расце дзіця, таму і ад рук адбіваецца. На яго, свахно, не толькі крычаць трэба, а часам і пашкадаваць трэба. Скаціна і тая любіць, калі яе лашчаць, а то ж чалавек...

— Гэтаму вісусу толькі дай паслабку... і так яму палец у рот не кладзі, бо руку адкусіць.

Дзед з прысвістам у грудзях уздыхае:

— То кажаш, свахо, можна хоць зараз яго забіраць?

— Забірай, забірай, няўжо ж я сама павяду яго? Ногі ў мяне баляць, соль, кажуць дахтары, у суставах, за дзень магу і не звярнуцца туды і назад.

«Што цяпер будзе? — спрабуе ён угадаць, як яму зажывецца ў дзеда.— Не ўкараvуліць ён мяне, уцяку я назад, да бабулі ўцяку, і лазіны яго не пабаюся...»

— Ты б, свахо, апранула дзіцця, штонікі дала б яму другія, а то гэтыя, што на ім, ліхенькія, у чым яго восенню ў школу выпраўляць?

— Не набрацца ж яму адзежы, сёння купіш, а заўтра тую абнову не пазнаць, жывога месца на ёй нямаш.

Бабуля не сунімаецца, здаецца, усе злыя словы, якія ведае, спамінае сёння. Яна ідзе ў хату, і чутно яе голас і адтуль. Яна адчыняе дзверы старой, з аблузанай фарбай шафы, звязвае ў вузялок яго вопратку, вяртаецца з хаты на двор, аддае вузялок дзеду.

— Тут яго адзежа і паперы, якія трэба для школы.

Дзед бярэ вузялок у свабодную руку, развітваецца.

— Зайшоў бы, сват, у хату, з'еў бы чаго, пакуль зойдзеце — голад дойме.

— Я не хачу, ці багата мне, старому, трэба — раз таго-сяго зранку паем і на ўвесь дзень, мо вось ён хай падсілкуецца, а то і праўда ногі не панясуць,— ківае дзед галавой на яго, на Сашка.

Але ён круціць галавой: ці ж палезе яму ў рот яда, калі ні з таго ні з сяго так крута мяняецца яго жыццё? «Была б мамка жывая,— думае ён,— то не перадавалі б мяне з рук у рукі...»

Бабуля сышла з ганка, узяла яго за руку, павяла ў хату.

— Чарцяня рэпанае, ён яшчэ і губы свае капыліць... Дайграўся, а што ж ты думаў — бабуля ў цябе жалезная, усё сцерпіць-змаўчыць? Не, годзе, мой унучак, нацярпелася я, нагаравалася, слёз рэчку выплакала...

Яе словы балюча кранаюць, яму самому хочацца зараўці на ўвесь голас, на яго як дыхнула жарам: твар гарыць, а на галаве, здаецца, заварушыліся валасы.

— Вырасціла, захавала, зберагла,— не маўчыць бабуля, саджае яго за стол, налівае ў міску з чыгуна боршч.

Ён і не пазірае на міску, апусціў нізка галаву і памоўквае.

— Чаго не ясі? — бабуля падае яму ў руку лыжку.— Павячэраеш ужо ў дзеда, на новым месцы.

Пільна зірнула яму ў вочы, убачыла, што ён устрывожаны, усхваляваны.

— Нямаш у мяне, унучак, здароўя... Пажыві трохі ў дзеда... Ён жа не чужы табе, як і я...

«Значыць, усё,— зразумеў ён,— прасі не прасі — нічога не паможа, бабуля не перадумае, дапёк, мабыць, я ёй добра...»

Кусае засохлую скарынку, чэрпае з міскі боршч з чырвонага бурака. Боршч гарачы, толькі з печы, ён паспяшаўся ўзяць лыжку ў рот, не пастудзіўшы, і папярхнуўся, закашляўся... А на вачах кіпяць слёзы. Не ад таго, што апёкся,— ад крыўды. Бы невідушчы, пазірае ў глухі куток, завешаны цюлем: «Усё ў мяне не так, як у іншых, нікому я не трэба, вось і перадаюць мяне з рук у рукі...»

Маці ён памятае слаба. Яму не споўнілася і шасці, калі яна памерла. Памятае толькі, што доўга, амаль усё лета, яго бабуля, тады яшчэ не такая згорбленая і старая, як цяпер, з дня ў дзень хадзіла ў канец вёскі, у бальніцу. Там ляжала яго мамка. Бабуля вярталася з бальніцы, садзілася на канапу, клікала яго, гладзіла па па галаве, бы расчэсвала. І з вачэй у яе цяклі, як кропелькі дажджу па аконнаму шклу, частыя-частыя слёзы...

Затым мамку прывезлі на падводзе, і яна ўжо не ішла сама ў хату, як раней. Яе ўняслі на руках і паклалі на канапу, на якой часта сядзела бабуля і гладзіла яго па галаве. Мамка ляжала і не варушылася, не міргала вачамі і не ўсміхалася, як усміхалася яму да таго, пакуль не была ў бальніцы. Каля мамкі стаяла бабуля, апранутая ў чорны андарак, чорную кофту і плакала, плакала... Плачучы, яна пазірала на яго і называла сірацінкаю...

Пасля, калі мамку пахавалі, да іх прыязджаў высокі, прыгожы мужчына. Ён ласкава называў яго сваім сынам, браў на рукі, але бабуля ўвесь час адбірала яго, гарнула да сябе, сварылася на таго мужчыну.

— Анягож бацько ты... Як Маня радзіла ды адна разрывалася і на работу, і дома, дзіця вечна хварэла, то тады цябе і са свечкай не знайсці было, як згінуў... Праз цябе Маня раней часу ў магілу пайшла...

Бабуля ціха плакала, успомніўшы пра яго мамку, злосна зыркала ў той бок, дзе быў мужчына.

— У самога ні кала, ні двара. І куды ты Сашка забярэш? Ты ж вечна як у прочках — з'едзеш на гады, то ў Сіберы, то шчэ йдзе-небудзь. І што, дзіця з сабою цягацьмеш? Не, і не думай, не аддам.

— Не маеце права, бабка,— ледзь-ледзь усміхнуўся мужчына,— па-добраму не аддасце — судом забяру... Ну і што, калі ў мяне зараз няма сваёй хаты, свайго кутка? Але ён будзе. А пакуль сын пажыве ў дзеда. Гэта ж блізка, і вы, калі захочаце, адведаеце.

Бабулю як ашпарыла яго словамі:

— Пра суд спамінаеш? А ці забыў ужо, як хаваўся ад суда, каб аліменты не плаціць... Бацька знайшоўся... Шэсць гадоў не бачыў дзіцяці, а тут аб'явіўся, міласцівец... І трэ будзе, то і без такога смаркача, як ты, як-небудзь разбяруся: аддаваць дзіця дзеду ці не...

Мужчына пайшоў, а бабуля доўга не магла супакоіцца:

— Наведаўся, абрадаваў... Хоць бы касцюмчык дзіцяці ўкупіў...

Ён слухаў тое, што казала бабуля, але не разумеў нічога, смяяўся, і бабуля крыкнула:

— Смейся, смейся з мяне, от аддам твайму радзіцелю, тады ты спомніш мяне.

Мужчына і папраўдзе падаў на бабулю ў суд, хацеў адабраць яго ад яе. На той суд вазілі і яго, і маладая строгая цёця, што сядзела за высокім сталом, спытала ў яго, з кім ён хоча быць: з бабуляй ці з бацькам? Ён перапужаўся, не сказаў ні слова, бо там было многа незнаёмых людзей, якія пазіралі на яго. Ён прыціснуўся да бабулі, абняў моцна яе за шыю, і не адпускаў...

І вось цяпер бабуля сама аддае яго гэтаму кульгаваму дзеду, які вельмі падобны на таго маладога прыгожага мужчыну. «Аслабела мая бабуля, зусім аслабела,— думае ён,— рукі ў яе дрыжаць, голас дрыжыць...»

## 2

Дзед ідзе цяжкай, павольнай хадой. Часта спыняецца, каб адкашляцца і перадыхнуць. «І што мяне трымае? — дзівіцца ён.— Збоч з дарогі, а там кусты — і дзед толькі і бачыў яго: хіба ён дагоніць? Вунь ледзьве кульгае...» Але ён не можа зрабіць так. Яму шкода гэтага старога, пакалечанага дзеда, і ён паслухмяна ідзе за ім.

На ўзгорку, які наводдаль ад сяла, дзед зноў спыняецца, садзіцца на прыдарожны камень, закурвае. Побач з ім, на траву, прысядае і ён, пазірае ў бок вёскі, хоча

ўбачыць бабуліну хату. І як бы імкнецца ў гэтыя хвіліны дастаць позіркам тое месца паблізу вёскі, дзе за густым лесам, за зялёным поплавам плыве-блішчыць рэчка, каля якой ранкамі такуюць у бары цецерукі, на высокім-высокім дубе, які схаваўся за бярэзнікам, у вялікім гняздзе крычаць, просячы корму, маладыя каршакі.

Неаднойчы, бываючы летам за вёскай, бегаў ён туды, дзе блішчыць рэчка. І кожны раз яму здавалася, як здаецца і зараз, што за бясконцай далечынёю, якая па той бераг ракі, усё нейкае таемнае, дзівоснае, поўнае цудаў... Але яму заўсёды думалася, што гэта далёка-далёка, і колькі туды не ідзі, не дойдзеш ніколі... І ён вельмі шкадуе, што цяпер, пасля таго, як дзед забраў яго ад бабулі, яму не давядзецца хоць прыблізіцца да краю цудаў... Той край часта прыходзіў да яго ў сне, і ён іншы раз блытае яву са сном, і гэта заўсёды трывожыць, хвалюе...

Дакурыўшы адну папяросу, дзед тут жа дастае з пакамечанага пачка другую, прыпальвае яе ад недакурка, які кідае на зямлю, расцірае яго канцом кавенькі. Затым робіць глыбокую зацяжку, у нос яму, мабыць, трапляе тытунёвы пылок, і ён некалькі разоў запар чыхае, на вачах у яго выступаюць слёзы, і ён прыгаворвае: «Хай ты сцямса, прывязалася трасца-халера».

Хутка дзед як ажывае, пытаецца ў яго:

— У які ты клас, унучак, перайшоў?

— У чацвёрты.

Ён пазірае на яго, а губы слаба варушацца: дзед, здаецца, нешта лічыць.

— Значыць, унучак, табе дзесяць гадоў з лішнім, на адзінаццаты пайшло?

У адказ ён ківае галавою:

— Ага, на адзінаццаты.

Слізгануўшы па ім кароткім позіркам, дзед зноў робіць доўгую зацяжку.

— У такія гады, як у цябе, унучак, я ўсё ўмеў рабіць: пасвіў кароў, з бацькам у лес па дровы зімой і летам ездзіў, малаціў цапом жыта... Чалавек, унучак, і раджаецца-жыве для таго, каб навучыцца ўсё рабіць самому, а пасля навучыць гэтаму сваіх дзяцей, унукаў. Нашто ў чалавека рукі? Каб работу рабіць, а ў цябе ў галаве ўсё яшчэ адны гулянкі-хованкі...

Дзед абапіраецца адной рукой на кавеньку, а другой

на камень, на якім сядзеў, рэзка ўстае, але тут жа з яго вуснаў вырываецца працяжны стогн, ён выпускае з рук кавеньку, хапаецца абедзвюма рукамі за спіну. Хвіліну-другую ён мяняецца ў твары — бялее, і яго кароценькая сівая бародка ледзь-ледзь уздрыгвае, а бровы то сыходзяцца да пераносся, то разыходзяцца. Але вось боль, які так нечакана пранізаў, здаецца, дзеда наскрозь, адпускае, адкочваецца, і ён з палёгкай уздыхае, асіплым голасам кажа:

— Камень, мабыць, у нырках сядзіць, як схопіць другі раз, то хоць на сцяну дзярыся.

«Бедны дзед,— думае Сашко,— ён, як і бабуля, хворы...»

Пальцы ў дзеда яшчэ дрыжаць, і ён вялікім намаганнем стрымлівае нервовую ліхаманку, якая колькі хвілін біла-труціла яго. Ён падымае з зямлі кавеньку, дастае з кішэні папяросу, прыкурвае, соладка зацягваецца і, адчуўшы цёплы дымок у роце, цмокае.

— Пайшлі, унучак, няблізка нам яшчэ да дамоўкі.

Сашко яшчэ раз азіраецца на вёску, знаходзіць вачыма бабуліну хату, і ў думках развітваецца з бабуляй, са старой грушай, што каля хаты пад акном. З аднаго боку галіны ў той грушы павысыхалі, і адсюль, з-за сяла, яны гола і мёртва чарнеюць...

Памалу брыў за дзедам. Дзень дагараў. Дзедава вёска стаяла непадалёк ад Прыпяці, у якой свяціліся чырвоным колерам праменні ўжо астылага вячэрняга сонца. Ад ракі павеяла на іх свежай вільгаццю. Нагам, натомленым за дзень, усяму целу зрабілася зябка. Сашко намацваў босымі нагамі засохлую траву з мохам, што расла паўз дарогу, растапырваў пальцы, прыпыняўся — нагрэтая сонцам трава і мох яшчэ трымалі цяпло.

### 3

Дзедава хата стаіць на ўскраіне вёскі, якая разбеглася-размясцілася на ўзгорках-выспах, што пачынаюцца каля рачных лугоў. Хата яшчэ не старая, ашаляваная па вуглах габляванымі дошкамі. Ганак, мабыць, зроблены зусім нядаўна, бо дзерава і падлога тут пахнуць яшчэ смалой.

— От тут і будзе наша з табой седала, унучак,— кажа дзед, уваходзіць у дом.

Як і бабуля, дзед жыве адзінока. Гадоў колькі назад яго жонка, другая Сашкова бабуля, памерла. Малодшы дзедаў сын, а яго, Сашкоў, бацька, недзе блудзіць па свету, ганяецца, як кажа яму дзед, «за лёгкім рублём». Старэйшы ж сын, якога Сашко пабачыў на здымку ў рамцы, што вісіць на сцяне між вокан, загінуў на апошняй вайне.

Спахмурнелай, застаялай цішынёй сустрэла Сашка дзедава хата. Трывожна варухнулася і звілося клубочкам штосьці ў ім, як бы скразняком павеяла ўнутры: «Непрывычна як і трохі страшнавата...» І каб не было блізка каля гэтай абымшэлай з ніжніх вянкоў хаты Прыпяці, вялікіх зялёных лугоў, за якімі — неаглядны лес, а над лесам — плывучыя светлыя воблакі, што вечна ўглядаюцца ў рачную ваду — мабыць, не вытрымаў бы Сашко, і ў ім нясмела жыла думка: «Уцяку! Пажыву з месяц у дзеда, бабуля там засумуе па мне, а тут і я...»

Але... Чым далей ішоў час, тым болей спакайнеў ён, і аб новым кутку думаў, як аб сваім, даўно знаёмым, абжытым... Праўда, усё яшчэ часта ўспамінаў бабулю... Яна, бабуля, яму снілася... У сне ён бачыў яе там, каля адзінокай хаткі, да якой сіратліва прытулілася груша з чорнай, мёртвай галінай... І бабуля, і яе хатка, здавалася яму ў сне, за далёкімі, белымі гарамі. І заўсёды, калі ён сніў бабулю, ішоў да тых гор, стараўся іх пераадолець, але гэта яму не ўдавалася... Ён прачынаўся сярод ночы, адкрытымі вачамі пазіраў у белую столь, сумаваў і думаў, што белыя горы, якія так часта бачыць у сне,— гэта, мабыць, чаканне новых перамен... Толькі што і калі павінна яшчэ перамяніцца ў яго жыцці, Сашко не ўяўляў. За апошні час ён прывык, падрыхтаваўся да любой нечаканасці, ён прывык давярацца свайму сэрцу, спадзявацца на ўласныя пачуцці, якія не раз моцна падводзілі яго, і ўсё ж цяпер нічога іншага не заставалася, як прыслухоўвацца да свайго ўнутранага голасу. Аддаўшыся на волю сваім пачуццям, Сашко гатовы быў да ўсяго, нікому і нічаму цяпер не здзіўляўся, успрымаў хоць бяду сваю, хоць удачу, як само сабой зразумелае...

У дзеда Рамана жылося яму быццам спакойна. Ён хадзіў у школу, завёў сабе новых сяброў, з якімі, ледзь толькі паспяваў паесці і парабіць урокі, бег на вуліцу ці на поплаў да Прыпяці, і ганяў мяч, гуляў у «чыжыкікатаргонкі» або ў «гарадкі».

Пад вечар, калі першы прыцемак ахінае наваколле, да іх, да хлапчукоў, прыходзіць дзед Раман, які паспеў папарацца, парабіць па гаспадарцы, а цяпер выйшаў глянуць, дзе ён, Сашко.

Дзед садзіцца на старое трухлявае шула, што ляжыць без патрэбы каля варот, слязлівымі мутнымі вачамі пазірае на яго, на Сашка, на дзяцей.

Летам у сяло прыязджаюць на адпачынак ці ў адведкі да бацькоў, родзічаў маладыя людзі. І яму, Сашку, цікава назіраць, як дзед Раман, заўважыўшы каго з чамаданам у руцэ і адразу не пазнаўшы, устае, пытаецца: «Да каго, дзетка, ідзеш? Чый будзеш?» Добра ўгледзеўшыся ў таго, каго ён спыняе, дзед перш усміхнецца, а затым ледзь не плача.

Суняўшы хуценька слёзы, дзед спрабуе зноў усміхнуцца, кранае рослага хлапца, які ставіць свой чамадан на зямлю і гатовы слухаць дзедавы размовы.

— Бацька твой, Дзяніс Ціхонавіч, гонкі яшчэ — ага... І чарку яшчэ ўзяць можа, а я вось не магу, ныркі жыць не даюць, а ён як малады...

Дзед смяецца шчарбатым ротам, выцірае даланёй з вачэй слёзы.

— Адногадкі мы з тваім радзіцелем. Другі раз сяджу ось тут на шулі і падумаю: цяжка нам жылося, тры вайны пяражылі, але і спомніць ёсць што: давалі мы, калі былі маладыя, звону, ох, як давалі...

Хлапец хутка развітваецца, і дзед садзіцца на ранейшае месца, закурвае. А ў яго, у Сашка, не спыняецца гульня ў «гарадкі». Ён бярэ ў рукі кій, цэліцца, а адным вокам зіркае на дзеда: не, дзед не зводзіць з яго вачэй.

— Слабая яшчэ ў цябе, унучак, рука,— дзед устае, падыходзіць бліжэй да яго, бярэ кій у рукі.

— Выпаралі ж сабе апоўзіну! Гэты дрын закінуць трэба, каб яго ніхто не бачыў: ён жа не абструганы, не апрацаваны, стрэмку пад скуру ці пазногаць загоніць хто — пакалечыцца, тады ні ўрокаў не парабіць, ні ў вашы гулі не пагуляць.

Растапырыўшы шырока ногі, дзед закачвае як ні да самага локця рукавы сарочкі, просіць, каб ён, Сашко, паставіў біты. Хлапчукі ўсміхаюцца, даюць дзеду дарогу. Калі біты пастаўлены, дзед зажмурвае левае вока, замахваецца раз-другі, але кій з рук так і не выпускае, уздыхае:

— Дзе мне за вамі ўгнацца, вочы ўжо не тыя, не свецяць, як трэба. Давай ты, Ляксандра, толькі не спяшайся, не гарачыся, а цэлься, цэлься.

Чамусьці дзед стаў называць яго не Сашком, як бабуля, а Ляксандрам. І ён, Сашко, доўга не мог прывыкнуць да гэтага свайго «новага» імя, і калі іншы раз дзед клікаў яго, то ён нават і не адзываўся — не мог адразу даўмецца, што не каго-небудзь, а яго клічуць...

Ён, Сашко-Ляксандра, трымае кій у руках і амаль не дыхае: трэба не асарамаціцца перад дзедам... Трохі нахіліўся, як ні ўсім целам падаўся ўперад, злёгку падзьмуў на чуб, які ўпаў на лоб і закрыў адно вока... Кій паляцеў, але краем зачапіў біту. «Ладна,— супакоіў ён сам сябе,— хоць не прамазаў, папаў».

Навыперадкі хлапчукі кінуліся зноў ставіць біты, але дзедаў голас спыніў іх. Сашко здзівіўся: «Няўжо яшчэ цэліцца пачне?» Ды не, дзед уважліва агледзеў кій, біты, прамовіў:

— Закіньце іх, я вам зраблю другія, а то шчэ скалечыце сабе рукі.

Сашко пазірае на дзеда і ў душы вельмі ўдзячны яму: «Усё ён убачыць...» І адчувае, як сэрца яго поўніцца дабрынёй, пяшчотай.

— Сёння, каманда касапузая, разбягайся, позна ўжо, а то бацькі апяражуць лазінаю, зранку ж, мабыць, як спёрліся з дому, то і не стыкаліся,— дзед не затрымаў позірка ні на ім, Сашку, ні на кім з хлапчукоў.— А заўтра...

І недагаварыў, павярнуўся, пайшоў у двор:

— Да заўтра дажыць трэ, а калі дажывом, то ўбачыце сваімі вачамі.

І тут жа кліча:

— Ляксандра, марш у хату, ногі толькі памый, а то яны ў цябе, як капаніцы, парэпаліся ад гразі, бусел хутка рэпу пасее...

За дзень ён набегаўся, і толькі тут, у дзедавым двары, адчуў, што ў яго баліць галава, а ўсярэдзіне зрабілася горача, да горла падкаціўся даўкі моташны камяк: мабыць, ён перагрэўся на жнівеньскім сонцы.

А на дварэ ўжо добра звечарэла. У Сашка разбалелася, закружылася галава, і ён, трохі павячэраўшы разам з дзедам, кладзецца на пасцель. Вочы хутка заплюшчыліся, думкі пакідаюць яго, і ён быццам некуды плыве-

падае, засынае... Скрозь сон адчувае, як у раскрытае акно лёгкі ветрык даносіць пахі спелай агародніны, сухога, прывезенага з лугу сена, кветак, якія растуць пад вокнамі і цвітуць цэлае лета.

Ён яшчэ добра не заснуў і чуе, як, стараючыся менш стукаць кавенькай аб падлогу, да яго пасцелі падыходзіць дзед, стаіць, цяжка дыхае, сам сабе шэпча:

— Не захварэць бы мне, не злегці... З кім, калі злягу, унук астанецца?

Халоднай рукой дзед бярэцца за яго лоб, ціхенька пытаецца:

— Нездаровіцца мо табе, Ляксандра? Жар у цябе.

Але ён не падае голасу, усё глыбей і глыбей некуды правальваецца, і ноч, спакойная, з вільготным слабым ветрыкам, атульвае яго.

## 4

Вокны пакоя, у якім ён спіць, усходнія, і кожны дзень, як толькі пачынае ўзыходзіць сонца, яго касыя праменні ласкава асвятляюць столь, потым сцяну, падлогу і як быццам рассыпаюцца па хаце. Сашко яшчэ спіць, але адчувае, як праменні лашчаць твар. Ён адкрывае вочы.

Прыслухоўваецца, чуе, як дзед стукае-грукае ў павеці малаткамі, гэблікамі, лучковай пілой. «На золку, мабыць, падняўся — і за сваю работу»,— дзівіцца ён, саскоквае з пасцелі, апранаецца.

— Прачнуўся, Ляксандра? — пытаецца дзед.— А я тут вось задумаў...

Сашко прывык бачыць, як дзед выстругвае-робіць то прыклад для стрэльбы, то рамкі для фотаздымкаў, то дугі, канапы-крэслы, сані... Кожную рэч, якую ён прыдумляе, робіць доўга... А калі закончыць, то яму, Сашку, не верыцца, што дзед умее так рабіць: калі гэта дуга або сані, то прыгожая, як цацка, вачэй не адвясці...

Робіць-выстругвае дзед не толькі для сябе — для ўсіх, хто яго папросіць. Больш за ўсё ён з ахвотай выконвае заказы адзінокіх жанок.

— Ці ж бабскі гэта клопат? — кажа ён.— Дзерава любіць мужчынскую руку.

Затое, калі хто з вясковых мужыкоў просіць зрабіць

дугу, крэсла або сані, дзед сярдзіта паглядзіць некуды ўбок, закурыць, нервова засмокча папяросу, але курыва не супакойвае яго, і ён, стараючыся быць лагодным, гаворыць:

— Лайдак ты, хоць і дарослы мужык, а лайдак. Вазьмі закасай вышэй рукавы — і рабі, што табе трэба. А калі не будзе выходзіць — прыйдзі да мяне, я пакажу і раскажу.

Той, каго ўшчувае дзед, вінавата апусціць голаў, прамовіць:

— Не, дзед Раман, струг і сякеру я ўмею трымаць, але як я ні старайся, а так, як ты, не зраблю...

Дзед пабуркоча, для выгляду палаецца, але зробіць усё, што яго просяць. І за сваю работу грошы не бярэ, яго радуе тое, што людзі ідуць да яго, не забываюць, цэняць яго ўмельства і, прымаючы з яго рук «заказ», прыцмокваюць языкамі, ласкава гладзяць адпаліраваную да бляску рэч...

Дзедавай работы драўляныя лыжкі, барыльчыкі-кадобчыкі, дзежачкі, дугі, сані багата ёсць у каго ў сяле. Ні зносу, здаецца, ім няма, ні старасці. І як толькі дзед пойдзе калі ў лес або на луг, то абавязкова сустрэнецца з кім-небудзь з мужчын-вяскоўцаў, і той, закурыўшы разам з дзедам, пацікавіцца:

— Дзерава ўсё для сваіх цацак, Раман Халімонавіч, шукаеш?

І з беражлівай, святочнай радасцю нечакана ўбачаны чалавек возьме ды як быццам і зусім выпадкова спомніць:

— А самацюжкі, што ты, Раман Халімонавіч, майму разбойніку залетась яшчэ зрабіў, служаць, ага, на ўсіх, хто падрастае ў мяне, хопіць іх — добрыя, словам, самацюжкі.

Ён курыць, слухае пра тое, што яму кажуць, і на яго худым, хваравітым твары з прыкіпелай абветранасцю спакойным, строгім святлом засвецяцца вочы — дабрата, душэўная шчырасць, з якой размаўляе з ім чалавек, кранаюць яго за сэрца, выклікаюць давер да яго, жаданне болей пабыць і пагаварыць з ім.

— А што,— пытаецца дзед,— у цябе, як ты кажаш, етых разбойнікаў, як пальцаў на руках?

— Дак не знаю, што ў мяне за жонка,— смяецца

Хведак Кондрык, нізкарослы, смуглатвары сусед,— не паспеў, здаецца, дакрануцца да яе, а яна ўжо... На том жа тыдні чацвёртага хлопца радзіла... Яшчэ адна дзевачка ў мяне — цяпер пяцёра ўсіх...

Кондрык хутка развітваецца, спяшаецца некуды на далёкія лугі, і дзед, праводзячы яго доўгім позіркам, думае: «Куды ж ето варта — Хведар мой сусед, а я бы ў іншым свеце жыву, не знаю, што ў чалавека такая падзея...»

Калі вярнуўся з лесу і ўбачыў Сашка, сказаў:

— Нядобра выходзіць, унук, у дзядзькі Хведара такая радасць, а мы ж суседзі, і не зналі...

Мо два тыдні не вылазіў дзед з павеці. Сашко прымяраўся позіркам да дошак з рознымі дзірачкамі-карункамі па баках і не разумеў, што такое на гэты раз прыдумаў дзед. Зразумеў, калі ўсё было зроблена: калыску на колах для суседавага немаўляці змайстраваў.

Прыйшоў Кондрык да іх у двор, убачыў калыску, заззяў увесь ад радасці.

— Ну, дзядуля, ну і чалавек ты мой дарагі...

Дзед ходзіць вакол калыскі, кажа:

— Канечне, ты ў лаўцы мог бы ўкупіць такую рэч. У лаўцы яна пад арэх ці мо пад дуб была б распісана-вымулявана. А я не люблю мазаць-тынкаваць дрэва, бо наша палескае дзерава само па сабе, прыродную красату мае... І хопіць табе гэтай калыскі на ўсіх, каго родзіць яшчэ табе твая Надзя.

Кондрык слухае дзеда, лезе ў кішэню, дастае сіненькую паперку — дваццаць пяць рублёў.

— На магарыч вазьмі, дзед Раман, ты ж не адзін дзень рабіў калыску і задарма аддаеш?

Грошай дзед не ўзяў, і доўга крыўдзіўся.

— Што за народ? Што за народ! І як толькі язык паварочваецца? — паходжваў ад нервовага ўзрушэння дзед туд-сюд па двары, часта пыхкаў папяросай, спыняў позірк на варштаце, на якім ляжала абгабляваная да бляску дошка. І хоць дзедавы вочы ў гэтыя хвіліны шырока перад сабой глядзяць, але яны быццам нічога і не бачаць...

— Ляксандра! — крычыць ён раптам на ўвесь двор, бы ён, Сашко, глухі.— Хопіць табе круціцца ў мяне пад рукамі, пара, мой унучак, табе за розум брацца...

Дзед падыходзіць да варштата, абгабляваную дошку

адкладвае ўбок, бярэ ў рукі струг, падымае яго да вачэй, ажно вочы зажмурвае — глядзіць, ці не ступілася лязо, ці трэба яго, тое лязо, падвастрыць або падбіць, каб струг не шаркаў дарма па верху дошкі, ці, наадварот, наладзіць яго ніжэй, а то стружкі тоўстыя, як трэскі, пасыплюцца.

— Ось падыдзі, паглядзі! — клікае дзед яго.— Тут усё проста — усяго на міліметр ніжэй ці вышэй пасаджана лязо, а ўжо работа не тая, рукамі гэта хутка адчуеш...

Дзед важна і строга пазірае на яго, як бы ацэньвае позіркам: разумее ён тое, аб чым яму кажуць, альбо не?

— Ты, Ляксандра, не маленькі,— паўтарае дзед,— чацвёрты клас во-во здасі, а ўмееш толькі мячык ля Прыпяці качаць нагамі, у «гарадкі» гуляць... Гуляй сабе, але што будзе, як не стане мяне? Зломіцца чаранок у нажы — і пабяжыш па сялу, каб хто зрабіў...

Перш дзед даручыў Сашку чысціць дошкі — работа няхітрая, і ён лёгка ўпраўляецца з ёю. Дзед гляне на яго, гаворыць:

— Во-во, даўно б так, а то вязы сабе зломіш, ганяючы да немачы той мяч.

Сашко слухае дзеда і раз-пораз зіркае на вуліцу: во-во павінен паявіцца Федзька, з якім дамовіўся яшчэ ўчора пасля ўрокаў да Прыпяці бегчы. Так і ёсць, лёгкі на памін Федзька, ён жыве хаты праз дзве ад іх, і не паспеў, мабыць, добра пад'есці, а ўжо з мячом у руках тут, у дзедавай павеці, запыханы, бы за ім гнаўся хто.

— Сашко, пабеглі ў Астроўкі, учора я там маладых дзятлаў наглянуў у дупле ў асіне, паглядзім, а пасля ў футбол пагуляем, хлопцы там нас чакацьмуць.

— Нікуды Ляксандра не пойдзе,— глянуў дзед сурова і строга на Федзьку,— ці ты не бачыш — заняты ён.

Федзька, незадаволена шморгнуўшы носам, выскоквае з павеці на вуліцу, свішча ў пальцы, некуды бяжыць. І тут дзед убачыў, што па вуліцы ідзе Арсень Пурхалаў, Федзькаў бацька. Дзед крычыць яму:

— Арсенько, вазьмі сваё дзіця ў рукі. Я не хачу, каб твой Хведар унука мне разбасячваў.

Арсень прыпыняецца, слухае тое, што гаворыць яму дзед, але ні слова ў адказ і ідзе сваёй дарогай. А дзед доўга не можа супакоіцца:

— Бацькі мне называюцца... Распусту гадуюць... Дзеткі ў іх... Кату хваста завязаць не ўмеюць...

Дзед замаўкае, пазірае на яго, на Сашка.

— Барані цябе бог, унучак, але ведай: не хачу я, каб ты няўмекам і лядачым рос... Жыццё чалавеку пражыць — не поле перайсці, у жыцці чалавеку багата чаго трэба знаць і ўмець, бо інакш прападзе ён, як піць даць, прападзе...

Работа спорыцца, Сашко забывае пра таварышаў, якія, мабыць, плешчуцца ў Прыпяці або ганяюць дзе каля рэчкі мяч. Без аддыху габлюе-чысціць вузенькія кароткія дошкі. Раз-пораз глядзіць на дзеда, які корпаецца-выбірае з кучы сухія крывуліны-дзеравіны, карані.

— Прыкла́д Павел Малюк папрасіў зрабіць, матар'ял ось падбіраю,— злавіўшы на сабе яго позірк, тлумачыць дзед.— У мяне ёсць трохі срэбра, дак думаю, цяпер яно адляжала сваё — на прыкла́д пойдзе.

І адразу пачынае пра іншае.

— З дошак, якія ты, унучак, чысціш, зробім кій, біты. Гуляйце сабе ў «гарадкі». Сорам жа браць у рукі тую сукаватую ламачыну, якой вы цяперака гуляеце...

Дні праз два кій і біты гатовы. Хлапчукі прыходзяць у павець, бяруць у рукі, перадаюць адзін аднаму, дзівяцца, а пасля пачынаюць разглядаць усё, што бачаць у павеці.

Дзедава павець для хлапчукоў — як музей. Упершыню яны тут. Ходзяць ціха, асцярожна, мацаюць дугі, сані, прыкла́д для стрэльбы, кажуць:

— Зроблена, як на заводзе ці фабрыцы. Няўжо гэта можна рукамі?

— Хм-м,— ухмыляецца дзед,— багата вы разумееце пра завод. Ды калі хочаце знаць, то я ось скажу вам: там калі майструецца мэбля, то крэсла ад крэсла не адрозніш, усё пад адзін капыл падганяецца... Я б за такі тавар і капейкі ломанай не даў бы... Трэба ўсё рабіць так, каб людзям не грэх паказаць...

Хлапчукі хутка пакідаюць павець, і Сашко праводзіць іх за вароты. Яны гавораць яму:

— Добра табе, Сашко, з такім дзедам.

Яго аднагодкі за апошняе лета падраслі, падрос і ён сам, Сашко, і разумее: яны ведаюць, што гавораць. Але яму здаецца, што яны шкадуюць яго, бо ў яго адзін дзед, а ў іх бацькі, маці. І ад болю, нейкай невядомай

крыўды сціскалася сэрца: у гэты момант ён згадваў бабулю: «Як яна там, ці жывая яшчэ?» І адчуваў, як яму вельмі хочацца адведаць яе. Ён даўно збіраўся спытаць у дзеда дазволу на гэта, але баяўся, думаў, што дзед не пусціць яго аднаго.

Правёўшы хлапчукоў з двара на вуліцу, вяртаецца назад у павець. Дзед сядзіць на складзеных акуратнай шуркай дошках і бухае цяжкім грудным кашлем. Ад таго кашлю твар у яго чырванее, слязяцца вочы.

— Прывязаўся праклятушчы,— калі адпускае кашаль, свабодна ўздыхае дзед.— Нядоўга, мабыць, Ляксандра, буду я таптаць зямельку. Дык ось што надумаў: стол з крэсламі і кніжнай шафай змайстраваць для цябе. У цябе ж унь колькі класаў наперадзе, а ўрокаў рабіць няма на чым ладным. Заўтра пойдзем у лес, мо дзе на старых селішчах сухую грушу ці яблыню зрэжам, з такое дзеравіны мэблі на твой век хопіць, ніякі шашаль яе не сточыць.

## 5

На старыя селішчы выправіліся яны рана-раненька, бо дарога няблізкая, і хаця б ім управіцца за дзень. Яшчэ сонца не паказалася над Прыпяццю, а з таго боку, адкуль яно павінна паказацца, ледзь прыкметнае зарыва ў небе. А ў рацэ ў гэты ранні час цені ад прыбярэжных ракіт, лазняку. У лугах, што каля ракі, яго з дзедам, здаецца яму, акружае нешта таемнае, чароўнае, ад чаго ў грудзях нараджаецца неспакойны, шчымлівы страх. Але вось нізавы ветрык, што не-не ды і падзьме ад ракі, кране-калыхне траву на лузе, і трава ледзь засеребрыцца кропелькамі расы — і Сашко ўжо адчувае: страху як і не было. І толькі сэрца ўздрыгвае радасна, мабыць, ад таго, што яму адкрылася прыгажосць, дасюль нябачаная. І гэтая прыгажосць, думае ён, належыць зараз толькі ім дваім: яму і дзеду.

— У Каляду пойдзем,— ціха гаворыць дзед, але Сашку здаецца, што дзед як ні крыкнуў, бо ён быў заняты сваімі думкамі і дзедаў голас прагучаў так нечакана.— На Міронавым хутары сад, як лес — там і цяпер садавіны кожны год нарасце-наспее, хоць вазамі вазі... Але багата дрэў і ўсохла... Саду догляд трэба, а гэты даўно нічый....

Сашко слухае дзеда краем вуха. Усё пазірае на раку, лугі, на лес, і яму думаецца, што там, дзе жыве бабуля, у якой даўно-даўно не быў, такая ж самая бліскучая, з плывучымі ценямі рака. І такія ж бясконцыя лугі. Там, у тых лугах, што каля бабулінай вёскі, хлапчукі і дзяўчынкі надвячоркам гулялі ў хованкі: вакол ніцыя, густыя лазовыя і вярбовыя кусты, копы сена, і хавацца ёсць дзе... Цэлымі вечарамі ён бегаў, насіўся па лузе, размахваючы, як крыламі, рукамі. Ад хуткага бегу зямля, здаецца, дрыжала пад нагамі, сэрца з грудзей як ні вырывалася, а ў скронях часта-часта стукала, як малаточкамі, кроў... Захапляючая, з доўгай бегатнёй, ад якой, здавалася, вось-вось сэрца выскачыць з грудзей, з поўзаннем на каленях і на жываце гульня, што перапынялі бацькі: яны, бацькі, прыходзілі на луг, калі цямнела, бралі сваіх дзяцей за рукі і вялі дахаты. А за ім, Сашком, прыходзіла бабуля. Убачыўшы яго, яна пачынала сварыцца:

— А мамачкі мае, а на каго ты падобны! Умурзаўся, як цыганьчаня... Сілы маёй не хапае на цябе: шкрабімый яго дзень у дзень, а ён усё адно... Чарцяня чарцянём, няма каму апеқазаць цябе папругай...

Вяла яго дадому і ціха плакала:

— Ты не раўняйся з усімі, ва ўсіх бацькі, а я ў цябе адна, і дзе мне адзежы на цябе набрацца?

Перад самаю хатай яна прыпынялася.

— Рыштант ты, як твой бацько, той дамоўкі не знае, так і ты...

І пужала яго:

— Аслабаню я свае рукі ад цябе, унучак, усе мае жылы ты парваў. Аддам цябе дзеду Раману, той не я — хутко выб'е дур з твае галавы...

«Як цяпер ты, бабуля, там адна... І пасварыцца табе няма на каго, адна ў хаце...»

Ледзь стрымаўся, каб не заплакаць, згадаўшы бабулю, але тут зноў пачуў дзедаў голас:

— Ну ось, дабраліся.

Ён глянуў уперад і ўбачыў, што да вялікага старога саду з аднаго боку падступіўся лес, а з другога — Прыпяць і лугі. У садзе растуць яблыні, грушы, слівы, вішні, ш з самага яго берага — кусты маліны, парэчкі, ружы. Тыя дрэвы, у якіх лісце, бы ў арабіны, дзед называе шаўкавіцаю. Хоць шаўкавіца і высокая, і ствол у яе таў-

ставаты, усё адно як ў яблыні ці грушы, але растуць на ёй чорна-чырвоныя, бы ажыны, ягады. І смак у шаўкавічных ягад аднолькавы з ажынамі: горкасалодкі...

Зямля ў садзе зацвярдзелая, затравелая.

— Запусціць такі сад! — ні то яму, ні то сабе са скрухай кажа дзед.— Вазьмі вырасці яго... Пакукуеш, покуль ураджаю паспытаеш... Добра хоць, што не пакарчавалі... Людзі ўвосень абтрусяць-забяруць, што паспее...

У адным кутку саду дрэвы без лісця, з чорнымі сухімі галінамі, кара на гэтых дрэвах патрэскалася, аблузваецца. І хоць яны прыйшлі па гэтыя сухія ствалы, дзед як бы і не рады, што недарма прыйшлі і ім ёсць работа, і будзе з чаго майстраваць мэблю:

— Калі тут зямлю не ўзрыхліць ды не ўгноіць, то хутко ўвесь сад зачахне. А тут жа грушы меськія, па добраму кулаку, спеюць, а ўкусіш, то самі ў роце растаюць, на базары такіх мала, а калі хто і прадае, то цану добрую набівае, і ўсё адно людзі аж б'юцца ў чэргах...

Дзед спыніцца каля дрэва, стане, задумаецца на якую хвіліну-другую, затым падыме ўверх голаў, нагне рукамі дзе ніжэйшую галіну, глядзіць, ці багата сёлета завязі.

— Грушы добрыя,— кажа ён,— а яблыкі пусценькія — завязі мала, а дзе і ёсць, то дробненькія, як мак, бы ў дзічкі.

Высокая сухая груша, якую яны пачалі неўзабаве спілоўваць, цвёрдая, здаецца, як камень. Піла не хоча браць яе, зубы хутка тупяцца, і яны вымушаны перапыняць работу. Дзед дастае з кішэні падпілак, садзіцца на зямлю і на каленях вострыць пілу, а навастрыўшы, драўляным асялком з вузкім выразам разводзіць зубы ўправа-ўлева.

— Во, цяпер нідзе не дзенецца, як міленькая рэзацьме,— устае дзед, пазірае на адпаліраванае палатно пілы, якая, мабыць, служыць яму не першы год.

Цяпер піла ходзіць у іхніх руках весялей, і з-пад яе зубоў то з аднаго, то з другога боку тонкім струменем сыплецца на зямлю белае пахучае пілавінне...

Калі дрэва павалілі на зямлю, пачалі абразаць сукі. Ён, Сашко, не разумее, чаму дзед не абсякае тыя сукі сякераю: было б намнога хутчэй. Дзед не пазірае на яго, сочыць, каб піла, калі закончылі з сукамі і адразалі

шчык, не пайшла крыва, убок, баіцца, каб у спешцы не сапсавалі палена, якому, па яго словах, цаны няма.

— Сучкі гэтыя,— памаўчаўшы, кажа дзед,— калі сekануць сякерaю, трэснуць-паламацца могуць, сучкі, яны нават слабага ўдару баяцца, а на іх жа ўся апора ў дзераве... І прыгажосць у іх якая — паглядзі во: яшчэ нічога не рабіў, а на зрэзе, там, дзе быў сук, тое месца гарыць-чырванее, як медны пятак... Ніякімі роспісамі і падробкамі пад арэх ці дуб такога не даб'ешся... Дзерава, як і чалавек,— ад прыроды прыгожае...

Калючае галлё скідалі ў кучу, а гатовае, пакуль яшчэ не акоранае і не абчэсанае дзерава, парэзалі на роўныя доўгія кавалкі, склалі ў адно месца.

— Заўтра папрашу каго з калгасных шохвераў — прывязуць,— кажа дзед і пазірае на сонца.— Аднак і закешкаліся мы з табой, Ляксандра, абедаць пара, пайшлі дамоў.

Па дарозе дзед кажа яму:

— Хто што пакідае дзецям у спадчыну... Я не багацей, унучак, у ашчадкасе ў мяне рахунку няма... Усю жытку мае рукі паілі і кармілі мяне... Етымі самымі рукамі, унучак, хачу зрабіць табе мэблю... Паспрабуй сёння купіць крэслы-канапы-шафы ў магазіне... Не адна тысяча спатрэбіцца... А я сам зраблю, і мая мэбля не горш магазіннай глядзецьмецца і служыць будзе... Мо некалі спомніш мяне...

Дзед добра ўгасіўся і накульгвае на хворую нагу, часта спыняецца, робіць кароткія перадышкі, садзіцца, гладзіць нездаровую нагу рукамі, расцірае яе, бы выганяе з яе боль. Затым устае, апіраючыся на кавеньку, якую ніколі не выпускае з рук, і яны ідуць далей міма берагоў Прыпяці. Над ракой у гэты час кружаць чайкі і працяжна, нават быццам неяк трывожна, ускрыкваюць, бы папярэджваюць яго і дзеда аб нейкай бядзе. Ад гэтага ўскрыку Сашко ледзь-ледзь уздрыгвае, падымае вочы вышэй, узіраецца ўдалячынь...

Сашко пазірае на раку, залітую сонцам, на дзеда, які памалу ідзе наперадзе яго.

Дзедавы размовы, наказы, звароты да яго, дзедава жыццё па прыкметах, яго захапленне сваёй работай спачатку здзіўлялі і нават раздражнялі Сашка, але чым далей жылі яны, тым болей ён разумеў сэнс будзённай дзедавай справы і з павагай ставіўся да ўсяго, што казаў

яму дзед і чаму вучыў яго. Яму, Сашку, здавалася, што ён як бы сталеў, станавіўся дарослым, бо ён хутка многаму навучыўся, але яшчэ болей прымушаў сябе ўмець і рабіць — часта праз сілу.

Ён думае пра дзеда і быццам не адчувае, што халодны вецер павявае ад ракі. Яму здаецца, што сонца сагрэла вецер і вецер быццам пацішэў, стала трохі спакайней, і ад таго як бы лягчэй ісці, вальней дыхаецца.

— Давай прыбавім кроку,— выводзіць яго з задуменнасці дзедаў голас,— глядзі, як чайкі затрывожыліся: яны такія неспакойныя заўсёды, калі чуюць навальніцу.

Заспяшаліся. З-за лесу высунуўся край чарнільнасіняй хмары, якая плыве ў іхні бок.

## 6

На двары ціха нехта ходзіць. «Хто б гэта?» — думае Сашко.

— У нас у двары, дзядуля, топчацца хтосьці пад вокнамі.

— Скуль ты ўзяў? — прыпыняецца дзед, узіраецца, напружвае зрок, але на вочы ён слабы, нічога не бачыць, здымае з галавы кепку, выцірае ёю ўспацелы твар.— Здалося табе, Ляксандра, мабыць.

— Не здалося, я ўжо добра бачу, жанчына, вунь ужо каля варот стаіць.

— Хм-м, хто ж гэта? Мо каму зноў што прыспічыла зрабіць, да мяне сцежку ўсе знаюць.

Да хаты яны ўсё бліжэй і бліжэй. Сашко пільна-пільна ўзіраецца ў жанчыну і, калі бліжэй яны падыходзяць, пазнае ў ёй бабулю.

Бабуля ў бардовым, са складкамі-гармонікамі, андараку, які, помніць ён, яна ні разу раней не апранала, хавала ў старым куфры і берагла, як сама казала, к смерці, якая, думала бабуля, павінна была прыйсці апошняй зімой, але не прыйшла, і апранулася бабуля, назло смерці, ва ўсё новае і выправілася ў дарогу, каб праведаць яго, яе ўнука.

— Выцягнуўся! Пабольшаў! — загаварыла яна і паківала галавой.— А твар у цябе белы, унучак, як спалатнелы. Ці не захварэў ты?

У яго і праўда разбалелася галава, мабыць, ад таго,

што зранку на сонцы, і ён, калі ўвайшлі ў хату, адразу распрануўся, лёг у ложак.

Ад хмар, якія хутка завалаклі ўсё неба, у хаце зрабілася цёмна, а на дварэ першыя кроплі дажджу ўпалі ў сівы дарожны пыл.

— Дождж з громам будзе,— кажа дзед і пачынае збіраць на стол, запрашае і яго, Сашка, сесці паабедаць, але яму есці не хочацца, у галаве нейкі шум, у вушах звініць. Да пасцелі, на якую прылёг ён, падыходзіць бабуля, папраўляе на ім коўдру, хрысціць яго і шэпча незразумелыя словы.

Сон яго не бярэ, але ён ляжыць з заплюшчанымі вачамі. Спрабуе прымусіць сябе раскрыць вочы і праз маленькія шчылінкі веек пазірае на бабулю, на дзеда, на хату.

— Няўпраўка, мабыць, у цябе, сват, з гэтым чарцянём мурзатым? — чуе ён, як бабуля пачынае гаворку з дзедам.— Ці ж то мужчынская работа — даглядаць дзіця, варыць яму есці, мыць-шыць-латаць?

— Чарцянём ён быў год назад,— адказвае дзед,— а цяперака Сашко, можна сказаць, мужчына, вырас, розуму набраўся.

Дзед закурвае, часта смокча папяросу — адчувае, што не так сабе прыйшла бабуля.

— Ён у мяне цяперака першы памочнік,— не змаўкае дзед.— Таму-сяму навучыў яго, цяга ў яго ёсць на дзерава, увесь дзень каля мяне трэцца, і я ось што скажу: калі пад маім наглядам ён пабудзе, то майстравым чалавекам вырасце.

— Запрог ты яго і не глядзіш, што ён яшчэ дзіця,— накідваецца бабуля на дзеда.— У такую духату цэлы дзень на сонцы трымаць хлапчака, ты ж глянь: ён збялеў увесь, упаў у пасцель і яда яму ў рот не палезла.

Рэдкая, сівая дзедава бародка як бы распушылася, дзед скасіў свае слязістыя вочы на бабулю.

— Не пайму я цябе, свахно... То прасіла, каб забраў і ўгаманіў, а цяпер во ўжо другую песню запела... А дзіця? Пра дзіця думаць трэба! У яго ж душа яшчэ зусім кволая...

— Прасіла, прасіла,— ціха злуецца бабуля,— забяру и ад цябе яго, і ўсё. От бы і сёння забрала, каб не дождж, ліха матары яго, як на пропасць...

Хвалюецца дзед, бачыць: не пераканаць яму бабулю,

раз рашыла яна, то ўжо нічога не зробіш. Але ён усё адно спадзяецца, што яна раптам перадумае, закурвае другую папяросу, гаворыць:

— Ось устане Ляксандра, я скажу яму, чаго ты прыйшла — хай сам рашае, ён не маленькі...

Падымаецца бабуля, падыходзіць да пасцелі, дзе ляжыць ён, кладзе сваю сухую, з сінімі жыламі-венамі руку яму на лоб, кажа:

— Дзякуй богу, а то я ўжо места сабе трапіць не магла, думала, насмажыла яго за дзень і дзе-небудзь дапаў да копанкі, у якой вада, як лёд, і прастыў.

## 7

Назаўтра бабуля ўзяла яго за руку і павяла ў сваю вёску.

Ён ішоў услед за бабуляй і азіраўся. Дзед стаяў каля хаты ў варотах і ўсё пазіраў у іхні бок. Ён курыў і кашляў, і той кашаль чуваць было яму, Сашку.

— Зусім здзяцініўся твой дзед,— гаворыць бабуля, чуючы, як грудны, унутраны кашаль душыць дзеда.— Сам ледзьве ногі цягне, а яшчэ нос гогірам: «Не аддам унука...» Хоць бы сам сябе дагледзеў як-небудзь, а то...

Сашко слухае бабуліну «споведзь», думае: «Не разабраць, хто болей здзяцініўся — бабуля ці дзед... То прагнала мяне, а тут прыйшла і з крыкам забірае... А дзед! То лаяўся, гразіўся лазінаю аперазаць, а цяпер вунь стаіць у варотах як укопаны, не вяртаецца ў хату, усё не зводзіць вачэй з яго, Сашка, і з бабулі...»

— Вяртайся, унучак, хутчэй,— даганяе іх ахрыплы дзедаў голас.— К твайму вяртанню я ўжо стол, табурэткі, канапу зраблю...

Дарога вывела іх за вёску. Сашко азіраецца: дзед стаіць на адным месцы і не зварухнецца. Ён, мабыць, ужо і не бачыць іх, бо вочы ў яго слабыя, а адышлі яны далёка...

Толькі пад вечар увайшлі яны ў бабуліну хату. Ад доўгай дарогі бабуля стамілася, села на ганку і доўга аддыхвалася. А калі аддыхалася, моўчкі пайшла ў хату, дзверы за сабою не зачыніла, і ён бачыць, як яна застаўляе ў печ чыгункі, запальвае маленькія цёсачкі, што ляжаць і сушацца для распалу каля камінка...

Як толькі вячэра была гатова, бабуля паклікала яго

ў хату, пасадзіла за стол і села сама. Ён прагаладаўся і з апетытам еў.

— Ты ў мяне адзіны ўнучак... Ты ў мяне харошы...

Яна, прыкмеціў Сашко, баіцца сказаць што-небудзь не так, каб не пакрыўдзіць яго, усё падлівае яму з чыгунка ў міску курыны булён і, дакранаючыся да яго сваёй дрыжачай, з сухенькімі пальцамі рукой, як бы гаворыць, што вось і добра ёй з ім, што вось і сагрэлася яе душа...

Хутка ў хаце сцямнела, і бабуля, прыбраўшы са стала, паслала яму пасцель, пачакала, калі ён распранецца і ляжа. Ён памалу засынаў, як бы адплываў у густую ад летніх пахаў цішыню. Калі яго вочы пачалі закрывацца, бабуля папраўіла коўдру, пайшла класціся і сама...

Але праз гадзіну-другую нейкая трывожная думка адагнала ад яго сон, прымусіла прачнуцца, падняць ад сну галаву, прыслухацца. Бабуля спіць. Ціха ў хаце. «А як там дзед? Пад восень я зноў вярнуся да яго. Усю зіму буду з ім, пакуль у школу хадзіцьму і пакуль зноў лета не настане»,— заспакойваецца Сашко, адчуваючы, што вочы зліпаюцца і ніяк немагчыма прагнаць ад сябе сон.

## Каму расказаць

Млявай, зняможанай хадою Юлен пратупаў паўз вокны, нават не спыніўся, не паглядзеў на гарод, пад яблыні, дзе раней гулі пчолы. Адпіхнуў весніцы, не гледзячы пад ногі, падаўся за соткі, на поплаў. Ішоў і пахістваўся, бы ад ветру, у яго пабляклых ужо вачах стаяў туман, які не праходзіў, засланяў наваколле.

— Юлен, ці табе ў вушах заклало? — пачуў голас жонкі, ды не зразумеў, чаго крычыць, што ёй трэба. І як ішоў, так і ішоў, не запыніўся.

— Цяля глянь там, каб не вышмаргнулася з прывязі,— зноў дагнаў яго жончын голас.

Нарэшце даходзіць сэнс таго, што ад яго хоча жонка. Павёў вачыма туды, сюды: ага, вунь бычок, уклаўся пад карчом лазы, ад заедзі схаваўся, пашы тут хапае, за ранак напасвіўся, бокі аж пакруглелі.

І тут ён ачомаўся трохі, правёў рукою па схуднелым твары, глянуў сабе пад ногі, утаропіўся ў дол, дзе цвіла дзяцеліна і жагнуўся: у траве валяліся пчолы...

«Паглядзіце, добрыя людзі! Свет дагары нагамі пераварочваецца... І каму пра гэта расказаць?.. І што гэта за немач, за напасць такая... У садзе ўсе вуллі апусцелі...»

Ён стаяў, пазіраў перад сабою. «Лета ж... Усё расце, зелянее... Самы меданос, а тут... Каб Валодзь быў побач, а то ж...»

У той дзень, калі сын з сям'ёй пераехаў, яго не было дома: касавіца ж пачалася, хадзіў глядзець траву, што даў яму калгас у Прасяных лугах...

Вярнуўся, а Валодзі ўжо няма. І адразу адчуў сябе нядобра. І ці то ад перажывання, ці яшчэ ад чаго — злёг. Жонка пазірала, як пакутуе ён, крадком плакала: «Што ён сабе ў галаву ўзяў?..» І пытала: «Мо схадзіць Валодзю пазваць?» Але злосць на сына тады яшчэ не прайшла, і ён адказаў: «Раз так зрабіў — не трэба...»

Юлен пазіраў на канапу, на якой любіў сядзець сын, на пакой, дзе ён хадзіў, на сцены, што давалі яму спакой і цяпло, і адчуваў, як душу сціскаюць пакутлівыя, балючыя сутаргі...

На дзесяты дзень яму палепшала. Толькі кашаль не прайшоў, не даваў дыхаць, і жонка крычала, каб кідаў курыць, бо тое курыва да дабра не давядзе. Але ён ведаў: не з-за курыва аслаб. І баяўся, што зноў зляжа.

Добра, што цяпер лета, клопатаў па горла, а ў рабоце ён забывае пра ўсё...

«Пчолы... Няўжо мор напаў?..»

І зноў думае пра Валодзю. Сын, здаецца яму, у гэтай справе болей за яго ведае: усё, дзе што пра пчол друкуюць-пішуць, ён чытае...

Юлен думаў пра сына, пра Валодзю, і адчуваў, што думкі выклікаюць у грудзях боль. Гэты боль не слабее з таго самага часу, калі ён прыйшоў дадому і не застаў сына, а жонка са слязамі на вачах сказала: «З'ехаў, у Паўлаўку з'ехаў...» Сэрца ў яго тады так і ёкнула, ён сціснуў зубы і прамаўчаў.

— Пайду і скажу яму! — услых прамовіў Юлен.

Пабачыць бы, як сустрэне гэты яго расказ сын, пачуць бы, што ён скажа! Не са злосці, вядома, што бацькавай хаты адцураўся,— ён хоча пабачыць, як сын уздыхне, апусціць долу вочы...

— Скажу! — зноў паўтарыў ён і таропка пайшоў па лузе. Картовая шапка-шасціклінка з'ехала на патыліцу, ён успацеў, расчырванеўся.

Паўлаўка блізка — праз лужок, міма возера, далей лесам, полем... «Ах ты, госпадзі! Птушкай, здаецца, паляцеў бы, каб хутчэй, хутчэй убачыць сына, расказаць яму пра свой боль у грудзях, пра мёртвых пчол... Але... Гады не тыя, калі можна бежкі... Трэба спакойна, спакойна... Трэба прыйсці да сына спакойным, не паказаць яму нават, што хварэў... А пра пчол расказаць...»

Гады два назад, калі раптам ні з таго ні з сяго пчолы захварэлі, Валодзя першы ўбачыў іхнюю хваробу. Не адышоў ад вуллёў, пакуль не зразумеў, што там за ліха з пчоламі. А калі зразумеў, яго, Юлена, паклікаў: «Бацька, ідзі сюды, вось што я табе скажу...»

Ён і не пачуў, як яго дагнала жонка, Мар'я, невысокая, у дамашніх, у якіх заўсёды пораецца, ботах, на галаве ў яе белая хустка, завязаная тонкім вузлом пад барадой. Хустка насунута на лоб: жонка баіцца пчол, і калі праходзіць міма вулля, то прабягае хутка, каб пчала не села і не ўкусіла, закрывае твар хусткай, рукамі.

— Юлен, ты сёння сам не свой — сланяесся з аднаго места ў другое, тут столькі работы, не знаеш, за што барзджэй ухапіцца, а ты як непрыкаяны.

— На пчол, Мар'ё, мабыць, мор напаў, падохлі, усе вуллі ў садку апусцелі.

— Цьфу ты,— плюнула жонка,— знайшоў перажываць за што.

Ён маўчаў, думаў: «Радуешся, што смела хадзіцьмеш, не ўджаляць цябе болей пчолкі».

— Ты б унё, Юлен, не паходжваў тута, а йшоў у хлявушніку курам седало зрабіў, то ж унадзіўся тхор, ужэ двух нясушок звёў, калі не зробіш...

— Вярнуся і зраблю, работы там — сякераю раз цюкнуць.

Не слухае сярдзіты голас жонкі, ногі самі нясуць за поле, да хвойніку. Ля самага лесу возера. Яно паявілася тут пасля вайны. Дзе цяпер вада, раней была глыбокая ўпадзіна, скрозь усыпаная каменнямі-валунамі, якія здалёк былі падобны на чараду белых авечак, што разбегліся па траве і пасуцца.

Сабралі-звезлі каменні, затапілі ўпадзіну вадой. Ля возера, якое паявілася на месцы ўпадзіны, летам заўсёды тлумна. Здаецца, дзень і ноч дурэюць-плешчуцца ў вадзе дзеці, мужчыны прыходзяць сюды з вудамі, з горада на сваіх машынах прыязджаюць на выхадныя.

Юлен спыняецца ля возера, пазірае, як калышацца ў ім вада, ціха накочваецца на бераг, ліжа пясок, шліфуе дробныя каменьчыкі, якімі ўсыпаны бераг. Непадалёк — маладыя ніцыя вербы, цень ад якіх падае на ваду. На іх, на тых вербах, аднойчы сеў рой. Ён, Юлен, прыбег з корабам, набраў у вядзерца з возера вады і пачаў пырскаць крапілам на жывы пчаліны клубок, ад якога аж увагнулася галіна. Пчолы адразу прыціхлі. Ён зразае нажом галіну, асцярожна кладзе ў кораб.

Абвязаў кораб хусткаю, узяў за доўгую канапляную вочапку і ціха ступае, нясе кораб з пчоламі дадому. Хоча клікнуць Валодзю, які прыйшоў сюды з ім. Трэба, каб сын вядро з крапілам не забыў. Але дзе ж ён? Узіраецца, лоб яго моршчыцца, вочы звужваюцца. І толькі цяпер ён заўважае ярка-блакітнае неба, зялёную траву, лісце вярбы, якое трымціць-калышацца, возера заліта сонцам, і вада ў ім іскрыцца да таго, што аж у вачах баліць.

Па возеры паважна плывуць лебедзі. Белыя, з доўгімі выгнутымі шыямі, здалёку яны падобны на караблі. Юлен бачыць, што Валодзя затаіўся і не зводзіць з іх вачэй. А пасля памалу ўваходзіць у ваду, хоча падплыць да птушак з боку трыснягу, каб не спужаць іх. Юлен

ставіць кораб на зямлю, падбягае, бярэ сына на рукі, падымае на плечы. Зверху яму, сыну, лепш відаць, але ён ёрзае нагамі, наравіць вылузацца і палезці ў ваду. Яму гэта ўдаецца, ён вырываецца з яго рук і нястрымна імчыць да вады... Лебедзі, заўважыўшы чалавека, лапочуць крыламі, падымаюцца над возерам, знікаюць за трыснягамі...

Валодзя вяртаецца, ён ледзь не плача, што не змог паглядзець на птушак зблізку. Юлен прысядае наўколенцы...

І цяпер, праз дваццаць гадоў, што прайшлі з таго часу, Юлен жыва ўяўляе настойлівыя сынавы вочы...

За возерам, у лесе, на дубах стаяць тры яго вуллі, і ён зараз рашыў праверыць, ці хоць там не загінулі пчолы. Ад тых жа вуллёў і Паўлаўка блізка, хоць бы краем вока на сына глянуць, на ўнука...

Яго трывожаць думкі, ён спяшаецца, пераходзіць на хуткі крок. Бачыць, як са шляху сюды, да возера, заварочвае блакітны легкавік. Над дарогай, дзе ён бяжыць, узнімаецца слуп белага, бы пудра, спякотнага пылу. Пыл плыве ў паветры, паволі асядае на траву. «Свята места пуста не бывае... Наўкуплялі машын і як ні кожны дзень едуць... Ніхто не забараняе — прыязджайце... Але ж там, дзе паходзяць гарадскія кампаніі — трава не хоча расці, мазуты з машын напускаюць, вытаўкуць зямлю, бы авечкі на кашарах, хоць ток рабі...»

Легкавік спыніўся ля самага лесу. Два рослыя дзецюкі выйшлі з яго, адкрылі вечка багажніка, выцягнулі гумавую лодку, панеслі да возера, пачалі надзімаць аўтамабільнай помпай. Дзверцы ў машыне расчынены нахлашч, на заднім сядзенні — дзяўчына. Ён быў ад машыны ўжо блізка і бачыў дзяўчыну добра: у яе фарбаваныя ў бела-залацісты колер валасы, маленькі, але прыгожы нос, цёмныя вялікія вочы. Яна здалася яму прыгожай і прывабнай, але яму было агідна глядзець на цыгарэту, якую дзяўчына смактала тоненькімі губамі.

Яго ўзяла цікавасць: што ж будзе далей? І ён быццам забыўся, куды і чаго спяшаўся, назіраў за гэтымі, што прыехалі на аўтамабілі.

— Гэй вы, шалапуты, галля вам мала? — накінуўся на дзецюкоў, калі ўбачыў, што тыя сабраліся секчы невысокую бярозу на ножкі-распоркі, на якіх, мабыць, думалі прыстроіць саганок.

— Гэтых бярозак, дзядзька, цэлы лес вунь, а вы як ашпараны крычыце.

— Пагаманіце яшчэ мне — і вам тут хутка цесна будзе, пайду пазаву ўчастковага, ён на вас управу знойдзе.

Дзецюкі прыціхлі, забаяліся лезці на ражон, мабыць, цвяроза разважылі: «Зачапі гэтага карча старога, крыку наробіць, народ збярэцца, а сюды ж заязджаць нельга, знак стаіць».

— Выберам з галля распоркі,— пастараўся заспакоіць яго той, што трымаў у руках маленькую дарожную сякеру,— толькі вы сціхніце, гвалт не паднімайце, а то яшчэ падумаюць, быццам вас хто за каршэнь схапіў.

Юлен пайшоў, глыбакадумна пазіраючы пад ногі. Пачуў услед: «Ляснік не ляснік, але ж, мабыць, добрая скнара — рэпанага ствала яму шкода».

Трохі аддаліўшыся, нечакана павярнуўся: пад дубком, дзе спыніўся легкавік, ужо раскладвалі агонь, падвешвалі саганок, ля якога круцілася дзяўчына. «У сяле людзям продыху няма ад клопатаў, вечна работы па самую макаўку... А гэтыя вось вераб'ям дулі даюць, на балалайцы трэнькаюць... І што горад робіць з чалавека?!»

Сцежка, якую вытаптаў статак, вяла яго ў разгаты бярэзнік, адразу за якім на грудах-пагорках пачынаўся суцэльны хвойнік.

Не заглыбіўшыся ў бярэзнік, яшчэ раз павярнуў галаў назад, акінуў беглым позіркам сяло, возера, поле, што каля возера, на якім бялелі качаны капусты.

Напаследак звярнуў увагу на дубок. Вясёлай кампаніі там не ўбачыў. «Вунь дзе вы ўжо, у лодцы... Агонь расклалі, а самі ў ваду... От распуста пайшла... Тут жа лес пад самым вокам, а сушняку вакол параскідана... Загарыцца, і хаўкнуць не паспееш...»

Ішоў і задзіраў уверх галаў, бы мераў позіркам, ці высока выгнала хвойкі за лета. Здаецца, на адным месцы яны, ані не падняліся, не павысачэлі. А мо гэта толькі здаецца яму? Каб змераў чым, прыкінуў, то ўбачыў бы: гоніць хвойкі ўверх. Яму думаецца, што дрэўцы хутчэй бы раслі, каб узяць ды пацерабіць трохі іх. А то галлё як ні ад зямлі пачынаецца, гушчарэча такая, што сонцу і не прабіцца. А без сонца хіба будуць расці хвойкі, хіба будуць налівацца смолкамі?

Пазіраў задумліва на зямлю, пад ногі: «Сухмень...

Груды голыя: ні сыраежкі табе не падняць, ні лісіцы... Мо каб дождж ды прамачыла б зямлю...»

У сярэдзіне бору лес старэйшы, тут, відно, выбарачна пілуюць. Радаваўся, калі ўбачыў, што свежаспілаваныя пні акораныя, шчыкі і галлё складзены ў высокія, бы копы сена, зялёныя лаўжы. І толькі на самай сярэдзіне прагалку нехта, мабыць, украдкі ад лесніка, прыязджаў сюды позна вечарам ці ноччу на падводзе: ствол забраў, а шчык з галлём так і пакінуў, спяшаўся, каб не злавілі.

Ён і не заўважыў, калі перайшоў брод, які перасох за лета, толькі пад цяністаю альхою засталося трохі вады — цёмнай, гнілой, смярдзючай. Вясною ж, калі ён паспрабаваў дабрацца сюды на падводзе за сухастоем на дровы, то так і не праехаў: вада за колы заступала, каню даставала як ні па чэрава, і дзе тады ўехаць было, загрузнуць мог. А цяпер хоць бокам каціся цераз брод, во што значыць лета без добрага дажджу.

Пачуў, як спераду затарахцеў матацыкл. «Каго тут чорт носіць? Мо ляснік аб'язджае кварталы? Ці скмеціў ён, што нехта прыспаў яго ў апошнюю ноч? Сасонку таго, цю-цю, памінай як звалі... Шукай цяпер ветру ў полі...»

Памыліўся ён, не ляснік ехаў, калгасны брыгадзір, Васіль Мархель. Цэнтр калгаса не ў іхняй вёсцы, у другой, ад іх гэта і не так блізка, і Васіль парадкуе ў брыгадзе і людзьмі, і справамі. Калі каму трэба аўтамашына або конь, каб прывезці дроў ці сена, то да яго, да Мархеля, ідуць прасіць. Ён, Мархель, перш чым даць дазвол на транспарт, загляне ў свой сшытак-дзённік, які заўсёды пры ім, за халяваю бота. Паглядзіць, праверыць, ці той, хто да яго прыйшоў, не лайдачыць, а з лайдаком брыгадзір і гаварыць не стане. За калгас, брыгаду Васіль душу пакладзе, калі спатрэбіцца, здаецца, днюе і начуе на полі, на ферме. Ды, думаецца Юлену, залішне гарачы ён. Часам без дай прычыны можа накрычаць на чалавека, а не кожны даруе яму гарачку. Вунь так здарылася і з яго сынам, з Валодзем...

На Васілю каска-шлем, акуляры, на плячах брызентавая накідка, кірзавыя боты густа запылены.

— Здароўце былі, дзядзька Юлен! Да сваіх вуллёў, мабыць, дыбаеце?

— Бяда, Васіль, у мяне, пчолы пагінулі, хачу ось паглядзець, мо і ў лесе ля маіх калод ціха.

Мархель ссоўвае з вачэй на каску вялікія матацыклетныя акуляры.

— Ці варта гараваць з-за казявак? Пчала не карова, у гаспадарцы без яе можна... Ды ці вельмі багата вы мёду елі? На цукар, мабыць, грошы пераводзілі, кармілі пчолак, а яны паляноўваліся.

— Хваціла ў мяне мёду, і ты, Васіль, не раз ласаваўся верасовымі сотамі, мядовым кваском, ці забыў ужо?

Юлен зірнуў Мархелю ў вочы, хацеў убачыць у іх спачуванне, але не ўбачыў. Васіль толькі махнуў рукою ў адказ, прамовіў:

— Забыў... Уборка пачалася, а вы...

Завёў матацыкл, насунуў на вочы акуляры, газануў, бы віхор, сарваўся з месца, панёсся. Ад'ехаў метраў сто, развярнуўся, пад'ехаў да Юлена, заглушыў матацыкл:

— Ты, дзядзька Юлен, сказаў бы свайму Валодзю, каб вяртаўся, я б пасадзіў яго на новую машыну, на днях даюць у брыгаду.

Васіль топчацца на месцы.

— Не вернецца, мабыць, ён, пакрыўдзіў ты яго, Васіль.

— Во свет настаў, на шафёра крыкнуць нельга!

— Калі па дзелу, то чаму ж, а ты...

Мархель падкаціў і прысланіў матацыкл да блізкай ад дарогі хвоі, дастаў з кішэні папяросы, прапанаваў яму, але Юлен адмовіўся, не хацелася яму зараз курыць, на душы моташна.

— Скажы Валодзю, што я гатовы прасіць у яго прабачэння.

— Перадаць я перадам твае словы, але ці паслухае?

Мархель падабрэў, ціха папытаўся:

— Пра пчол не жартуеце, дзядзька, праўду кажаце?

— Прыйдзі, сваімі вачамі ўбачыш — заціхлі мае калоды, бы зімою, а цяпер жа лета, кветкі цвітуць, самы медазбор.

Памаўчалі.

— Хто яго ведае, ад чаго гэта. Мо якая хвароба прыліпла, гады два назад было так, але тады я цвёрда на нагах стаяў, ды і сын памог, а цяпер...

Зірнуў на Васіля, раззлаваўся: «Пра хлеб клапоцішся — добра, а каму забаліць галава пра пчол?»

Юлен не падняў болей вачэй ні на лес, ні на неба. І гаварыць болей не захацеў з Мархелем. Якая карысць

з іхняй гаворкі? Пагаворыць — і Мархель тут жа забудзе. Ён у сваіх клопатах зашываецца...

Збочыў з вузкай, каляіністай дарогі. Адсюль ужо блізенька да палянкі, дзе ў акружэнні сасонніку тры старыя дубы — невысокія, але таўшчэзныя. На кожным з дубоў Юлен паставіў калодачныя вуллі. А чаму б ім там не стаяць? Поблізу верас, лугі, сенажаці...

Спыняўся, услухоўваўся, прыглядаўся. Не, не відно, не чутно пчол. «Няўжо і тут...»

У лесе ціха, дрэвы ўвагрэліся ад спякоты. Кратаў рукамі дзе за бліжэйшы ствол, бы правяраў, ці жывы ён, ці не памёр ад смагі. Азіраўся назад, за дрэвамі яму бачыўся-стаяў у вачах Мархель з вішнёвымі, бы намазанымі бураковым сокам, шчокамі, вузкімі шчылінамі маленькіх вочак. «Хм, без каровы ён не пражыве, а без пчалы... Пагляджу я, як грэчка на лясных дзялянках, калі там пчолкі не пашчыруюць, уродзіць...»

Лес неўзабаве парадзеў, бы расступіўся, і адкрылася невялікая, зарослая высокай травой-мяцёлкамі паляна. Як ні подбегам наблізіўся да дубоў, задраў галаў. «Няўжо то ў маіх вачах мігценне? — працёр ён кулакамі вочы.— Не, тут сем'і ацалелі, вунь пчолы вылятаюць...»

Паспакайнеў, прыглядзеўся лепш: адны пчолы, склаўшы крыльцы, запаўзалі ў вуллей, другія, выпаўзаючы, распраўлялі іх.

«З гэтых сем'яў адрояцца ў канцы лета маладыя, трэ толькі не праваронiць. А як адрояцца, забяру і пасялю ў калодах ля хаты, там жа ў мяне лепшыя калоды»,— вырашыў ён і пачаў выбірацца з лесу.

На ўскрайку лесу Юлен садзіцца на засохлую, цёплую траву. Перад вачамі праплывае ўвесь сённяшні ранак: мёртвыя пчолы, крык жонкі, каб не сланяўся без работы, боль у грудзях... Клопатна, цяжка на душы. «З сынам, здаецца, вечнасць не бачыўся, а ўсяго ж два тыдні як ён з'ехаў...»

З блізкага поля пахне свежым хлебам. Устае, ідзе да поля. Ад жытнёвых каласоў у вачах адно мігценне. Ён праводзіць даланёй па твары, выцірае пот. І зноў глядзіць, глядзіць на бясконцае жытнёвае поле: па каласах прабягаюць лёгкія хвалі, сцяблы ледзь-ледзь пакалыхваюцца. «Урадзіла сяголета жыта, сцяблы высокія, пругкія, каласы, бы кіяхі, зерне, як той воск...»

З другога канца поля ў яго бок ідзе камбайн. Трохі

праехаўшы, камбайн спыняецца. Юлен падыходзіць, вітаецца з камбайнерам — маладым рыжаватым хлопцам з запацелым, запыленым тварам. Камбайнер мерае яго доўгім позіркам, нехаця ўступае ў гаворку, бо ў машыне ўзнікла непаладка, а тут пагода, кожная мінута дарагая. Юлен паспрабаваў заспакоіць хлопца:

— Чаго табе перажываць? Такое жыто, радавацца трэ.

Затым спытаўся, ці ведае ён, дзе жыве яго сын, Валодзя. Хлопец адказаў, што ведае, добра ведае, і паказаў:

— Бачыце вунь двухпавярховыя цагляныя асабнякі? У першым з іх, калі ісці адсюль, жыве ваш сын.

Вось і першы двухпавярховы дом, у якім, як сказаў яму камбайнер, жыве яго сын, «У вёсцы цяпер, бы ў горадзе, і хаты ось з белай цэглы будуюць, дарожкі каля хат з асфальту... Як па мне, то, здаецца, ні за якія грошы не перабраўся сюды, а сыну закарцела... То ж ні гарода свайго пад акном, ні саду, вулля не паставіш... Не, такія харомы для гарадскіх, а таму, хто прывык да зямлі, у іх, у гэтых харомах, мабыць, не вельмі... Маладым, праўда, падабаецца, мабыць, у чарзе стаяць, каб атрымаць каменныя пакоі...»

У двары ля дома насупраць увахода на лавачцы сядзіць старая. Падзеньдобрыўся з ёю, спытаў:

— Валодзя, шохвер, тут жыве?

Старая заварушылася:

— Тута, тута, нямаш толькі яго цяперака, на рабоці, зранку з'ехаў і не стыкаўся.

Паглядзела на яго, пацікавілася:

— Ён мо сын ваш?

— Угадалі, бабко, сын, ага.

— Нейдзі во на дварэ бегае Коля — унучак ваш, вот жа толькі на вачах быў, збег нейдзі, носіцца, не суніімаецца...

Уступаць у гаворку са старой Юлен не стаў, бо ведаў, што яна пачне пра што-небудзь распытваць, і на яе тысячу «чаму?» хіба лёгка будзе адказваць? Толькі забаліць душа, заные сэрца...

Юлен пайшоў да дзіцячай пляцоўкі і адразу ж згледзеў унука, Колю. Той сядзеў у гушалцы, што пасярэдзіне двара, паціху калыхаўся, забаўляўся сабе. Тоўстыя ножкі яго ні на хвіліну не спыняліся, ён увесь час калыхаў імі, стараўся памацней разгайдаць гушалку.

— Колік, унучак мой дарагі! Ах ты, жэўжык белагаловы!

Юлен быў вельмі рады, што ўбачыў унука. Коля саскочыў з гушалкі на зямлю, павёў вочкамі ў яго бок, але не падышоў, і Юлену стала крыўдна, што родны ўнук як бы і не прызнаў яго.

Калі сын з нявесткай жылі ў яго, то ўнук вельмі радаваў яго, і Юлен мог расчуліцца да слёз, калі седзячы ў яго на каленях, Коля раптам пытаўся, пабачыўшы праз акно стрыножанага каня, што пасвіўся за соткамі на лузе.

— Гэта хто?

— Конь.

— А ён умее гаварыць?

— Не, ён іржэ, вось так: іг-гы-гы-гы...

І які шчаслівы быў Юлен, калі ўнук пачынаў нешта разумець, весела ўсміхаўся.

Толькі не падабалася Юлену, што ўнук іншы раз упарціцца, не слухае яго. Убачыць ён, як Коля, седзячы на скрыпучай канапе, без усялякай прычыны калыша нагамі, і скажа:

— Ты, хлопча, не можаш і хвіліны спакойна пасядзець.

І паціху, каб неяк прысмірыць унука, палохае яго:

— Калі будзеш увесь час нагамі матляць, то ўночы старцы прысняцца.

— А вось і не прысняцца! — крутнуўшы белай галоўкай, скаліць унук зубкі.— Ты стары, і нічога не разумееш, вось.

Юлен не крыўдзіўся на Колю, толькі сказаў яму:

— Хто цябе навучыў так з дарослымі размаўляць? Хіба так можна?

— Я болей не буду,— апускаў унук уніз вочкі, цішэў, падыходзіў да яго і лашчыўся. Юлену тады рабілася так добра, так хораша на сэрцы, ён гладзіў Колю па галаве, казаў:

— Падрос ты, унучак, за гэтае лета, са штонікаў, якія летась куплялі, вырас, малыя яны табе, трэба новыя...

І вось за нейкія два тыдні, здаецца Юлену, Коля як бы і забыў пра яго, пра свайго дзеда.

— Дзе мама з татам? — пытаецца, каб разгаварыць унука, Юлен.

— На лабоці,— расплываецца ва ўсмешцы Коля і падбягае да яго.

Юлен садзіцца наўколенцы, заглядвае ўнуку ў вочкі, хоча пабачыць, ці сумаваў ён па ім, па свайму дзеду.

— Мо пойдзем, унучак, да мяне? Я ж збіраюся пчолы паглядзець, мядку вазьму...

Сказаў і ўздрыгнуў. «Што гэта [redacted] гавару? Усе ж вуллі, апроч трох калод у лесе, апусцелі...»

Не заўважыў, як паявілася ў двары Ліда, нявестка. Убачыла сына, Колю, і давай сварыцца:

— Ты паглядзі на сябе, на каго ты стаў пахожы? Я ж цябе раніцай апранула ў чыстае, а ты як парасё, мо дзе па гразі качаўся?

І тут Ліда згледзела яго, Юлена, устрывожылася:

— Чаго вы, тато, да нас? Мо маці захварэла?

— Здаровая маці, яшчэ ганчэй за ўсіх бегае.

— А я спалохалася, падумала... Мы тут з Валодзем закруціліся, то ніяк не маглі праведаць, збіраліся на гэтым тыдні...

Ціхім, вінаватым голасам Ліда просіць зайсці яго ў кватэру, гаворыць:

— Мы на другім паверсе жывём, два пакоі ў нас...

Гаворыць і ўсё пазірае на яго, на Юлена, як бы чакае, што ён пачне яе падтрымліваць. А ён як вады ў рот набраў — слухаў і маўчаў.

І калі падняліся на другі паверх, зайшлі ў кватэру, Ліда ўсё гаварыла яму:

— А чаму нам тут не жыць? Пра дровы думаць не трэба — на кухні газ, ацяпленне — паравое... Прыйшлі з работы — памыліся, пераапрануліся, павячэралі, селі каля тэлевізара, глядзім кіно...

Юлен незадаволена пазірае на нявестку, не вельмі разумее яе і думае, што гаворыць яна адно, а на душы ў яе, мабыць, другое. І пытаецца:

— На якія ж вы трасцы паспелі і тэлевізар, і мэблю так хутка прыдбаць?

— Усё ў крэдыт, а крэдыт калгас выплочвае, гады за два выплацім, не сядзім жа мы тут без работы — Валодзя на самазвале, а я на ферме цялят даглядаю.

Слухае нявестку, і ў яго затуманеных вачах, што аслаблі за час хваробы, паяўляецца нейкі страх, а ў душу закрадваецца глухая трывога. З сумам слухае нявестку, пазірае на яе і думае: «Спёрліся з селішча... Хіба ў на-

шым сяле такое работы нямаш? У нас жа свой садок, пчолы...»

Задумаў пра пчол, разгубіўся. «Якія цяпер у мяне пчолы? Тры вуллі ацалела...»

— Бяда, Лідко, у мяне, пчолы пагінулі,— сказаў ціха, нясмела, гэтыя словы адгукаліся болем усярэдзіне.

Ліда не стала даймаць яго роспытамі, занялася хатнімі клопатамі. І ён стараўся не вельмі назаляць ёй. Толькі пацікавіўся:

— І як вы тут без свае кароўкі? Коля ж, унучак, ён так любіць свежае малачко.

— Вы, тато, хочаце, каб за адзін дзень усё.

Ён не пачуў адказу, задумаўся: «Бацька мой калісь казаў: з'едуць дзеці з селішча — перастануць вясціся пчолы... І як вярнуць сына дадому? Падумаеш — з брыгадзірам пасварыўся... Пасварыўся — і памірыся. Не, гонару завельмі... Хату бацькаву пакінуў, у суседні калгас перабег, кватэру раскошную атрымаў...»

Асмеліўся спытаць:

— Мо, Лідко, вернецеся дадому, да нас? На каго ж, як я адыду са старою, хату пакідаць? Хата ж добрая, і хадзяйства ў нас...

Глядзеў на нявестку, а сам нібы размаўляў з сынам, як бы стараўся дазнацца, што робіцца ў таго на сэрцы... «Дарослы мужык,— разважае ён.— Галава сям'і, з семнаццаці год свой хлеб есць... Ніколі не лайдачыў, не хітрыў, у бутэльку не заглядвае, хіба толькі на святы... Грошы, праўда, любіць... На машыну таму і пайшоў, што шохверам плоцяць добра... І жонку ў цялятніцы прыстроіў, каб зарабляла... Мо легкавік сабе купляць надумаў?.. І ці не з-за таго з Мархелем пасварыўся, што той доўга на дабітай ламацы трымаў, разагнацца не даваў?.. А тут во на новай... Не вернецца ён...»

Ён быццам упаў у дрымоту, перад яго вачамі ўсё стаіць Валодзя...

Пазірае праз акно на вуліцу, вочы яго мокра блішчаць, мокрымі становяцца і шчокі. «Акурат як мая Мар'я расчуліўся...» І каб не бачыла нявестка, рукавом сарочкі выцірае вочы і шчокі. Яго твар стаў спакойным і сумным, на ім — цішыня і мудрасць...

— Мархель прасіў, каб я перагаварыў з Валодзем, сказаў — на ладную машыну пасадзіць,— стараецца гаварыць, але голас усё адно дрыжыць.

— Чула мая душа, што ён папросіць,— гаворыць нявестка і хавае ад яго свой твар.— Але цяпер я нічога не ведаю... Самі скажыце Валодзю...

Сядзіць у кватэры доўга. А сына ўсё няма. «Не, пара мне... не даждацца сына, мо ў яго якая няўпраўка, то і да вечара не заявіцца... Скажа яму Ліда, што я быў і гаварыў пра пчолы, то тут жа прыбяжыць... Дома я з ім пагавару як трэба...» — думае Юлен.

Ён устае, ідзе на кухню, дзе Ліда завіхаецца ля газавай пліты:

— Нямаш часу расседжвацца, паклыпаю памалу, клопату вечна не абярэшся, а я баўлюся ўвесь дзень, дасць мне старая ў бокі.

Нявестка не пускала, але ён не застаўся, сказаў, што болей не можа чакаць.

Ліда праводзіла яго за сяло:

— Вы, тата, не перажывайце, адных вас не пакінем.

— Я нічого, Лідко, і не думаю, глядзіце, жывіце сабе мірам, вам добра — і нам са старою, гледзячы на вас, добра.

У яго зноў закруцілася на вачах сляза, і тое заўважыла Ліда.

— Ну што гэта вы, тата...

Яна, мабыць, здагадваецца, што сваім ад'ездам пакрыўдзілі бацькоў. Пазірае на яго, на Юлена, хвіліну вагаецца, а затым імкліва падыходзіць, цалуе яго, Юлена, у шчаку. Гэты пацалунак сказаў яму вельмі багата: у ім ён адчуў і удзячнасць, што наведаў іх, сына з нявесткай, і просьбу дараваць ім, і прызнанне ў шчырасці, павазе, любові... Ён не мог зірнуць на сябе ў гэтыя хвіліны, але і так разумеў: выгляд у яго разгублены... А на душы палегчала, пацяплела...

Не заўважыў, калі мінаваў жытнёвае поле, на якім рабіў кругі камбайн. Не прыкмеціў, як увайшоў у лес, у якім не так душна, як на адкрытым месцы і дыхалася тут вальней.

Не пераставаў думаць пра сына. «Добра, што хоць поблізу... Не-не ды і завярну калі... Пчалапасекі, як саўсім занядужаю, на яго перапішу, хай даглядае, разводзіць... Ён любіць пчол...»

Сонца скіравала за поўдзень. «Цяпер хоць не паказвайся Мар'і на вочы, пачне даймаць: дзень звёў, а хадзяйства я адна глядзі, яму і не наўме... Напаіць карову, на-

карміць свінча, сыпнуць проса курам нядоўга... Паспрабуй сына дахаты вярні, пчолак ажыві... Дык ёй і не заікайся... А ўсю жытку з мядком... Як толькі заявяцца госці — барзджэй квасок мядовы на стол... Яно і вядома: пчалапасекі цяпер мала хто трымае, работы каля вуллёў хапае, і не абы-якой работы — за пчоламі догляд і догляд трэба... Не ўсе ўмеюць разводзіць пчолы, а мядок любяць усе...»

Вяртаўся дадому праз возера. Тыя, што прыехалі раніцай на аўтамабілі, мабыць, абедалі. Яны сядзелі ў цяні дуба на разасланых газетах, гаманілі. Агонь, на якім варылі сабе абед, затух, але не зусім: слабы дымок чадзіў, падымаўся ўгору.

Дзецюкі пазналі яго, запрасілі:

— Давай, дзядзька, да нас, пагаворым.

Услед за словамі да яго далятае шумны смех. «Клюнулі, мабыць, ужо, языкі развязалі...»

— Ідзі, ідзі да нас, дзядуля, я хачу выпіць з табой,— тонкім голасам пазвала дзяўчына.

Не звярнуў увагі і на гэта. І толькі калі аддаліўся трохі ад вясёлай кампаніі, павярнуўся, сказаў, каб пачулі:

— Агонь заліце вадой — карані паперапальваецца, дуб усхне.

— Не хвалюйся, дзядзечка, будзе поўны ажур, зробім усё, цэлы дуб астанецца, мы паклапоцімся ўжо.

Выбух рогату праследуе, падганяе яго. «Добрыя, мабыць, маладыя людзі, а з'ехалі з дому — і волю пачулі, распусціліся...»

Калі прыйшоў дадому, то дзверы ў сенцы былі расчынены, па сенцах хадзілі куры, яны залезлі ў цэбар, у якім тоўчанае цеста для парасяці. «Кыш... Халеры на вас няма... І куды Мар'я запрапасцілася?.. На мяне крычыць, а сама, мабыць, у суседзяў байкі слухае...»

«Спёка трохі стухла... Пакасіць можна... Хаця дзе там пакосіш — трава на корані высахла... Касі і грабі зразу...»

Бярэ ў павеці касу і ідзе на поплаў.

— Во, хоць к захаду сонца сыскаўса, я ўсё аббегала, шукаю яго.

Юлен перастаў касіць, павярнуўся на голас: размахваючы рукамі, жонка прастуе да яго.

— Людзі абышлі гэты вытаўчаны скацінай паплавок,

а ты косіш? Тут жа хвошч адзін, хіба карова ўесь такое сена?

— Не стане есці — не прападзе, на падсцёл пойдзе.

Дастае з кішэні брус, вострыць касу. Жонка сварыцца на яго, а ён бы і не чуе яе сярдзітага голасу: навастрыў, паплюваў на далоні, замахнуўся, пачаў новы пракос.

Махнуў раз, другі — спыніўся, задумаўся: зноў сына згадаў... Затым глянуў пад ногі, нагнуўся. «І тут мёртвыя пчолы... Прыляцелі, думалі пашчыраваць — не паспелі... Смерць вас тут спасцігла... Бач, адны хацелі ўзляцець, расправілі крыльцы, ды так і засталіся навечна...»

Косіць ціха, ступае асцярожна, пільна прыглядаецца да долу: ён баіцца наступіць і на мёртвую пчалу.

## Сыны

Салавеіха памерла апоўдні. Яе муж, стары Салавей, ці па-вясковаму проста дзед Кузьма, якраз выстругваў пад паветкаю дубовыя клёпкі. Старая іхняя бочка, у якой на кожную зіму салілі гуркі з капустаю, рассыпалася. І дзед пачаў рабіць новую. Лета ўвабралася ў сілу, і сонца прыпякала з самага ранку. Салавей часта спыняў работу, каб перадыхнуць, выцерці пот з твару, плячэй. Высокі, хударлявы, з выцвілымі, строгімі вачамі, маршчыністым ілбом, на які спадалі густыя, белыя ад сівізны валасы, з сівымі вусамі, што завостранымі кончыкамі апусціліся ўніз, Салавей адчуваў яшчэ сілу ў руках, дарма што яму мінуў сёмы дзесятак. На яго плячах трымалася, лічы, уся гаспадарка. Жонка яго апошнія гады хварэла і нават карову падаіць не магла. Усё рабіў ён сам. Рэзаў і калоў дровы, касіў, сеяў соткі і сам убіраў іх. І апроч таго яшчэ бандарыў, плёў з сасновае дранкі кашалі, рабіў з вярбы кошыкі. Змалку прывык ён да ўсяе гэтае работы і ніколі не цураўся яе, рабіў ахвотна кожнаму, хто яго папросіць, кошык, кашэль ці бочку.

Зрэдку яго з жонкай наведвалі сыны. Іх у Салаўя пяць. Адзін у адзін, стройныя, высокія, дужыя, такія, якім быў і ён сам у маладосці.

Калі сыны раслі, яму з жонкай было не да сябе. Трэба было ўпраўляцца і на рабоце, і дома. Але павырасталі сыны, як здалося, вельмі хутка, і апусцеў яго дом: разляцеліся сыны хто куды, па ўсім белым свеце, жывуць далёка ад бацькоў, толькі пішуць зрэдку, а самі прыязджаюць яшчэ больш рэдка. Сыны высылалі ў пісьмах свае здымкі, па якіх Салавей з жонкай з цяжкасцю пазнавалі родных дзяцей: гады, што непрыкметна праляцелі, мянялі іх твары, позіркі, усё аблічча. І часам, атрымаўшы пісьмо са здымкам ад каго з сыноў, Салавей доўга ўглядаўся ў сваю крывінку, адзначаў, як узмужнеў і пасталеў яго серадольшы ці самы меншы сын.

Старэйшы іх сын служыў на флоце. Служыў недзе на Ціхім акіяне. А як адслужыўся, дадому не паехаў, застаўся жыць ва Уладзівастоку, па-ранейшаму плавае — у гандлёвым флоце ён.

Другі сын — урач. Той у Маскве працуе.

Ну, а серадольшы — трактарыст. Некалі паехаў асвойваць цаліну, там і застаўся, ажаніўся і жыве са сваёй сям'ёй.

Чацвёрты сын — шахцёр. У Данбасе каторы год.

А самы меншы — шафёр-выпрабавальнік. Гэты ў Мінску. І добра, што хоць адзін блізка ад дому, хоць і гэтае «блізка» не такое блізкае, але балазе да Мінска ад іхняе вёскі хапае і аўтобусаў, і чыгуначная станцыя, адкуль ідуць цягнікі на Мінск, таксама побач з сялом.

Сонца стала ў зеніце і быццам застыла на адным месцы: прыпарваць пачало так, што Салавей не мог уседзець пад паветкай, кінуў да вечара, калі спадзе гарачыня, сваю работу і пайшоў у хату.

Выпіў у сенцах халоднай вады і пазваў жонку:

— Кацярыно, ці не трэба табе чаго, бо калі не трэба, то я тут, у сенях, паляжу трохі.

Жонка не азвалася. Але гэта не здзівіла і не насцярожыла адразу старога Салаўя. Ён прывык, што жонка днём засынае на якую гадзіну, і баяўся парушыць яе спакой: хворага чалавека і гадзіна сну добра лечыць.

Салавей прылёг на канапу, закрыў вочы, стаў драмаць, але яго быццам нешта ўкалола, і ён падняўся, зноў стаў зваць жонку:

— Кацярыно, ты спіш?

І на гэты раз жонка не падала голасу. Салавей басымі нагамі прайшоў па сенях, увайшоў у хату, зазірнуў у пакой, дзе ляжала жонка. Яму падалося адразу, што жонка, пачуўшы яго крокі, адкрыла вочы, але гаварыць нічога не стала, чакала, што скажа ён. Так здавалася хвіліну-другую. Але пасля Салавей заўважыў, што жончыны вочы быццам знерухомелі, і глядзяць яны не на яго, а ў столь, быццам там было нешта такое, ад чаго цяжка адарвацца позіркам.

Ён падышоў бліжэй, стаў ля самага ложка і зусім ясна ўбачыў: жончыны вочы быццам зацягнула тонкай плёнкай слюды. Ён узяўся за яе руку: жонка ўжо не дыхала, хаця ў шырока адкрытых вачах, здалося яму, яшчэ цеплілася святло. Мабыць, Кацярына глядзела праз акно на сонца, і ў апошні раз убачыла яркія прамені, у гарачым водбліску якіх прайшлі яе апошнія гадзіны...

Ён стаяў каля ложка доўга і, калі зразумеў, што яна ўжо болей не ачнецца, не пакліча яго, закрыў ёй вейкі.

Салавей прывык ужо да думкі, што жонка памрэ, бо яе каторы год мучыла грудная жаба. Ён ездзіў з ёй неаднойчы ў Мінск, да меншага сына, і сын вадзіў маці да сталічных дактароў. Толькі дактары нічога зрабіць не маглі, казалі, што хвароба запушчаная, ды і ўзрост.

Саўладаўшы трохі з сабою, ён ціха прамовіў: «Вось ты, Кацярынко, і аджыла сваё, аднаго мяне пакінула, і як я цяпер без цябе жыцьму? І пагаманіць у хаце не будзе з кім».

Пасля ён апрануў свой чорны касцюм, абуў чаравікі і пайшоў да суседак, колішніх сяброўак яго жонкі, Сахвеі і Мальвіны.

Сахвея і Мальвіна, дазнаўшыся, што памерла Салавеіха, хуценька сабраліся і пайшлі на Салаўёў двор, каб праводзіць сваю сяброўку ў апошнюю дарогу.

Сам стары Салавей пайшоў на пошту. Трэба было адбіць пяці сынам тэлеграмы, што памерла маці, каб прыехалі на пахаванне.

Пошта знаходзілася ў суседняй вёсцы. Гэта зусім блізенька. Праз поле і лясок. Салавей ішоў вузкай сцежкай няспешна, нізка апусціўшы густа пабеленую сівізной галаву: сум і журба ў гэтыя хвіліны завалодалі ўсімі яго думкамі. Ён думаў пра тое, якое кароткае чалавечае жыццё. Быццам зусім нядаўна ён пажаніўся са сваёй Кацярынай. І быццам нядаўна нарадзіўся ў іх першы сын... Але не! Каля пяцідзесяці гадоў аддзяляюць яго ад тых шчаслівых дзён. І сыны яго дарослыя людзі: меншаму дваццаць пяць, старэйшаму за сорак мінула.

За пяцьдзесят сумесных гадоў у яго з Кацярынай усяго хапала: радасці і бяды. І чаго было болей? Мабыць, усё-такі бяды. Бо радасці чалавек вельмі доўга чакае, а бяда, яна сама заўсёды ў хату просіцца.

Ідзе стары Салавей праз лес, поле, азіраецца навокал, думае, што, калі жыла Кацярына, ён не раз прыходзіў на гэтае месца касіць сена. У адным баку поля — вёска, куды ідзе зараз Салавей, а на другі бок поля — невялікае балота з лужком.

Гэтае балота кругом абступіла густая лаза, а побач — лужок, трава на лужку ў пояс расце. І як толькі

выспявалі травы, кожнае лета Салавей браў касу і ішоў сюды, да балота з лужком.

Уставаў ён рана-раненька. Яшчэ і статак у поле не выганялі — ціха наўкруг, нішто не шалахнецца, толькі птушкі недзе за рэчкаю прачынаюцца і ўпаўголасу спяваюць. Салавей ідзе ўзмежкам, пакідаючы за сабою росны зялёны след. А раса зранку густая, кроплі на траве буйныя, як слёзы бліШчаць. Па расе відно — спёка прычакаецца, увесь дзень сонца смаліць будзе. І ён прыспешвае крок — да санцапёку хоча ўкасіць трохі.

Зняўшы з пляча касу і ўваткнуўшы яе кассём у зямлю, ён крадком набліжаецца да лазы, спыняецца, рукамі расхінае кусты, прасоўвае ўперад галаву: пасярод балацявіны журавель з жураўліхай, іхні вывадак. Салавей з ненатольнай цікаўнасцю назірае за імі і думае: цяпер, улетку, жураўлі не такія, як увосень, калі яны лягуць на крыло і падаюць з вышыні свой жалобна-сумны голас. Цяпер, здаецца Салаўю, жураўлі нейкія дамашнія. І гаспадарлівыя, бы чалавек. Бач вунь, як жураўліха вучыць сваіх дзяцей лавіць рыбак, а потым размаўляюць хіба адзін з адным так, як размаўляе Салавей са сваёй жонкай тады, калі ў іх усё добра і абое яны ў настроі.

Пазірае на жураўлёў і, здаецца, зайздросціць ім, што ў іх усё так складна-ладна, усё проста і добра: вывелі дзяцей, навучаць іх таму-сяму — і, калі прыйдзе восень, у шлях-дарогу, на поўдзень. А ў чалавека не так. У чалавека ўсё складана, усё не проста. Вунь у яго з Кацярынай гадуюцца сыны. Падымі кожнага на ногі, вырасці, выпестуй — тут не адно лета — гады трэба...

Але доўга ля жураўлёў ён не затрымліваецца: неба на ўсходзе пачынае палымнець ружовым колерам — падымаецца сонца. А да ўсходу, пакуль ападзе раса, добра касіць, касу трэба меней мянташыць. І зноў нагінкамі, асцярожна ступаючы, каб не наступіць на які сухі лазовы пруток і не спужаць жураўлёў, Салавей адыходзіць ад кустоў, спяшаецца да месца, дзе ўваткнута касавільнам у зямлю яго каса.

Халоднымі пацеркамі расы зіхаціць трава. Салавей цягне пракос з аднаго канца балацявіны ў другі, мянташыць касу сухім жоўтым пясочкам, які дастае жменяй з кішэні, вяртаецца цёмнай паласой пракосу назад, закошваецца ў другі раз, трэці... Касіць нялёгка, бо

трава густая, сарочка на плячах хутка цямнее, пакрываецца потам.

Калі ён вяртаецца дадому, жонка ўжо ўвіхаецца па гаспадарцы, сыны таксама паўставалі і гуляюць на двары, у садзе. Салавей расказвае жонцы пра жураўлёў. Жонка крыўдзіцца: «Узяў бы мяне калі з сабою, ніколі ж не бачыла гэтае птушкі зблізку». Ён адказвае: «Добра, заўтра пабуджу». Назаўтра ж, падняўшыся на золку, каб зноў ісці касіць, Салавей гляне на жонку, якая яшчэ спіць, і шкада яму будзіць яе, і ён зноў кіруецца на луг адзін.

Косіць і пра жонку думае. Быццам нядаўна ён бегаў кожны вечар у Васількі — суседнюю вёску. Прыйдзе з работы, бывала, вечарам, спаласнецца халоднаю вадою, пераапранецца, схопіць што з яды — і за парог. Маці скажа наўздагон:

— Ці ж дзявок, сыне, у нашым сяле не хапае?

Канечне, і ў сваёй вёсцы былі прыгожыя дзяўчаты. Але як убачыў аднойчы Кузьма Кацярыну — і забыўся пра ўсё, яна і толькі яна адна снілася яму. І што ён мог сказаць маці? Што губы ў Кацярыны салодкія, бы тыя суніцы, а пацалуеш іх — і сам увесь гарыш, кроў у скронях стукае, хмель галаву кружыць.

Першы раз пакахаў Кузьма. Першы і апошні. Бо Кацярына стала яго жонкай. І ён ніколі не шкадаваў, што звязаў свой лёс з Кацярынай. Бо яго жонка з добрай душой, шчырая, уважлівая да яго, рабацяшчая. Яна быццам двухжыльная была: і работу паспявала зрабіць, і сыноў гадавала.

І што сыны параслі здаровыя, павывучваліся, набылі прафесіі, якія захацелі, лічыць стары Салавей, у тое жонка ўклала ўсю сваю душу. А гадаваць іх ой як нялёгка ёй давялося! Усю вайну хавалася па лесе, а скончылася вайна — зноў жа адны цяжкасці. Добра, што ён жывы з фронту вярнуўся.

Ён яшчэ помніць, як улетку сорак пятага сышоў з поезда і праз гэтае поле, лужок, сцежкаю, якою ідзе зараз на пошту, не ішоў, а бег бягом да сяла. Ён напісаў яшчэ з часці, што хутка прыедзе, і яго чакалі. Яшчэ здалёку ён убачыў сваіх: жонку, якая трымала меншага сына на руках, а большы стаяў побач. Ён зняў пілотку з галавы і стаў махаць, а яны ўсё стаяць і стаяць...

Калі прыйшлі дадому, жонка пасадзіла яго за стол,

прынесла аднекуль з калідора запыленую бутэльку, якую выцерла ручніком і з якой наліла яму ў шклянку, сказала:

— На лекі хаваю... Да дактароў нам далёка, а калі хлопцы прастудзяцца, то кампрэсамі ратую...

Ён слухаў, не зводзіў з яе вачэй, бачыў, якая яна нешчаслівая, і, як выпіў чарку, пачаў расказваць, што незадоўга да канца апошніх баёў яго параніла ў левую руку. Рана аказалася не такой і страшнай, але нарывала, усю руку паліла пякучым агнём, і яго адправілі ў шпіталь. Як толькі прывезлі ў шпіталь, расказваў ён жонцы, санінструктар адразу паказаў яго ўрачу — зусім яшчэ маладой жанчыне. Яна, урач, мабыць, пераробіла за дзень вельмі многа работы, бо выглядала стомленай, амаль не размаўляла. Але як толькі яна глянула на яго сваімі цёмнымі вачыма і сказала, што яму зараз жа зробяць укол і замарозяць руку, каб прарэзаць скуру і выпусціць гной, ён заўважыў, што ўрачыха так падобна на Кацярыну... У яе і гаворка, здавалася, такая ж ціхая, і непаспешлівая, як у Кацярыны...

Яму зрабілі два ўколы, а ён нават не войкнуў і не ўзгрыгнуў, хаця і было балюча: ён увесь час пазіраў на ўрачыху, думаў пра жонку і мо ад таго лягчэй пераносіў аперацыю.

Затым, пасля шпіталя, ён вярнуўся ў свой полк. Вайна ўжо скончылася, полк стаяў у прыгарадзе Берліна, чакаючы папаўнення. У майскія дні сорак пятага ён са сваімі таварышамі ў апошні раз сфатаграфаваўся. На памяць. І дзіўнае пачуццё тады валодала ім: ён услухоўваўся ў звонкую цішыню і не верыў, што зачахлёныя гарматы змоўклі назаўсёды. Назаўсёды? І доўга ён прывыкаў да думкі, што мір нарэшце настаў.

Ён хадзіў па тэрыторыі палка, размаўляў з такімі ж, як і сам, франтавікамі, якіх чакалі дома сем'і. Многія з іх былі з Беларусі, і яны пасля дэмабілізацыі разам дабіраліся дадому.

Але вайна летам сорак пятага яшчэ не зусім скончылася. Многія з яго франтавых таварышаў з Берліна адправіліся на Далёкі Усход: заставалася яшчэ Японія. Ён туды не паехаў, бо пад самым Берлінам яго параніла ў левую руку і рана як след не паспела загаіцца.

Толькі і тут, у вёсцы, у першы пасляваенны год як бы яшчэ праходзіла лінія фронту: на палях яшчэ заставалі-

ся бомбавыя варонкі, процітанкавыя канавы, валяліся падбітая тэхніка, міны, снарады.

І Салавей стаў загойваць раны на зямлі, сеяў, араў, ураджай убіраў. А трохі пасля, калі перастала балець рука, пабудаваў новую чатырохсценку.

Ноччу, калі спалі дзеці, жонка гладзіла яго па шчацэ.

— Цяжка цяпер табе, Кузьма? — гаварыла Кацярына і суцяшала.— Нічога, хутка падрастуць сыны — помач добрая будзе. Бач вунь, як Валодзька падняўся за апошняе лета.

Ён адказаў жонцы:

— А ты ў мяне, Кацярыно, добрая і разумная, а таму мне з табой і добра жыць. І ўцалеў, мне здаецца, таму, што вельмі сумаваў па табе і па сынах, чакаў і верыў, што яшчэ жыцьмем разам.

Прачнуўшыся раніцай, ішоў у павець, браўся за якую-небудзь работу: за час вайны двор быў запушчаны, да ўсяго трэба было прыкласці рукі, каб навесці хоць нейкі парадак.

Тут жа паяўлялася і жонка: збірала ў павеці на распал у печы сухія трэскі. Ён узіраўся ў яе гладкі, без адзінай зморшчынкі, твар, думаў: «Ёй хутка сорак... Але паглядзіш на яе — і не скажаш, што ёй столькі, зберагла сябе, і цяпер — дачакалася з фронту яго, поўная да яго пяшчотных пачуццяў, гатовая занава пражыць усё, што пражыла з ім у першыя пасля замужжа гады».

У гэты час у хаце нешта моцна стукнула аб падлогу — мабыць, папрачыналіся сыны, пачалі ганяцца адзін за адным па хаце, і паперавarочвалі табурэткі.

— Не спіцца ім, як начніцы тыя — на зары ўсхопяцца і носяцца як чэрці смаленыя,— жончын твар пасур'ёзнеў, яна борздзенька падхапілася, знікла з яго вачэй, і адтуль, з хаты, чутно было, як яна сварыцца на дзяцей. Хутка на двор выбег старэйшы — Валодзька.

— Ідзі сюды, сынок,— ціха пазваў ён і яшчэ здалёк пачаў узірацца ў сынавы вочы.

Валодзька спыніўся непадалёк, але наблізіцца не адважваўся, і Салавей ніяк не мог адарваць свайго позірку ад сына, стараўся ўбачыць на сынавым твары прыкметы таго пачуцця, што зблізіла б іх. Толькі Валодзька заставаўся яму чужым: за час вайны ён зусім забыў яго...

Яму балюча ўглядацца ў гэты родны, схуднелы тва-

рык, і са слязамі, якія былі закруціліся на вачах, ён ціха паўтарае:

— Ну што ты, сынок, я ж твой бацька, я так па табе сумаваў, а ты...

Слёзы свае Салавей стрымаў, і яго вочы засталіся сухімі, і толькі штосьці трывожнае было ў яго позірку... Ён вельмі хацеў, каб сын адчуў, зразумеў тое, што рабілася ў яго на душы... Ды нягледзячы ні на што, Валодзька заставаўся халодным... і тады ён сам падышоў да сына, прысеў на калені, прыхінуў сынаву галаву да сябе, пацалаваў у шчаку, прамовіў:

— Не, я не крыўдую на цябе, сынок,— ты не вінаваты... Я разумею — ты не вінаваты.

...Пошча была адкрыта, і Салавей пераступіў цераз парог, падышоў да акенца, за якім маладая жанчына перапісвала нейкія паперы. Жанчыну Салавей добра ведаў, яна з іхняе вёскі, завуць усе вясковыя Палінай Іванаўнай, а пажылыя — Поляй.

— Вы да мяне? — пераводзячы позірк са сваіх папер на яго, запытала Паліна.

— Тэлеграму адбіць трэба.

І, зрабіўшы кароткую паўзу ў голасе, Салавей дабавіў:

— Тэрміновую.

— Што ж у вас такога тэрміновага? — пацікавілася Паліна і працягнула руку, каб узяць з яго рук напісаны няроўнымі радкамі лісток.

Паліна прачытала, і лісток у яе руках затрымцеў, задрыжаў голас:

— А куды ж адправіць?

Ён назваў пяць розных гарадоў, у якіх жылі яго сыны і ў якія павінна былі хутка паляцець тэлеграмы з адным і тым жа тэкстам.

Перш прыехаў сын з Мінска, за ім сыны з Данецка і Масквы, з цаліны. Доўга чакалі старэйшага — з Уладзівастока. Сыны папрыязджалі адны, без жонак.

Маці, прыбраная суседкамі Сахвеяй і Мальвінай, ляжала ў большым пакоі на канапе ля акна. Сынам, мабыць, адразу і не паверылася, што маці мёртвая, бо смерць амаль не змяніла яе твару, хіба толькі цела ад хваробы і старасці стала маленькім і сухім.

Да іх у дом найшло багата людзей — са свайго сяла, з суседняга. Найболей гэта былі старыя, яго, Салаўя з

Кацярынай, аднагодкі. Жанкі, калі ўваходзілі ў пакой, дзе ляжала мёртвая Салаўёва жонка, з разгубленым выглядам спыняліся ў парозе, хто-ніхто з іх па старой звычцы хрысціўся, гаварыў розныя суцяшальныя словы. Але Салавей бы не чуў тых слоў. Разам з сынамі ён стаяў каля самай канапы, дзе ляжала іхняя маці. Сыны не плакалі, сваё гора пераносілі моўчкі, але, добра бачыў тое Салавей, у душы кожны пакутаваў, перажываў. Мабыць, кожны з сыноў у гэтыя хвіліны шкадаваў, што апошнім часам рэдка наведваўся дадому і даўно бачыў сваю маці жывую... Шкадаваў, што цяпер не ўдасца пагаварыць з ёю, пачуць яе ласкавае слова, ад якога, як ад добрых лекаў, заўсёды рабілася спакойна.

Сыны стаялі каля маці і маўкліва аплаквалі яе, тоячы адзін ад аднаго сваё гора, свае ўспаміны аб дзяцінстве, у якім маці займала асобнае месца. Кожны з іх, дзе б далёка не знаходзіўся ад роднага дому, бярог у сваім сэрцы мацярынскую любоў, ад усведамлення якой смялей і лепш адчуваў сябе ў жыцці. Кожны з іх раптам адчуў, што пагасла святло, вакол якога саграваласяне толькі дзяцінства, а ўсё свядомае жыццё.

Пастаяўшы гадзіну-другую каля маці са сваімі сынамі, стары Салавей перахрысціўся, адышоў убок, паззаў сыноў:

— Дамавіну трэба зрабіць.

Мужчыны, што папрыходзілі праводзіць у апошні час сваю суседку, калі ўбачылі, як выходзіць з хаты стары Салавей, падаліся ўслед за ім.

Сыны ўспомнілі, што гэта не горад, дзе дамавіну можна купіць у пахавальным бюро, і пайшлі з бацькам і мужчынамі пад паветку, каб памагчы ім. Салавей даставаў дошкі, падаваў іх суседзям-мужчынам, што ўзяліся рабіць дамавіну, мералі іх, дошкі, доўгай металічнай лінейкай, праводзілі алоўкам няроўную лінію ў тым месцы, дзе трэба было адрэзаць.

За работай на нейкі момант яны як бы і забыліся на тое, што ў хаце нябожчыца. Мужчыны пачалі распытваць Салаўёвых сыноў пра тое, як ім жывецца, ці не сумуюць яны па дамоўцы, і яшчэ шмат пра што: вясковым людзям прыезджы чалавек заўсёды цікавы, тым болей калі гэты чалавек свой, са свайго сяла, які багата паездзіў, пабачыў свету і з якім можна гаварыць адкрыта, не саромеючыся розных пытанняў.

— Усюды жыццё аднолькавае,— пачаў серадольшы. той, што на цаліне жыве.— Дах над галавой ёсць, за каўнер не цячэ, сям'я ёсць, дзеці — з імі не засумуеш...

Увесь час, пакуль сын гаварыў. Салавей уважліва разглядаў яго. І тут ён унутрана сціснуўся: непрывычна было бачыць свайго сярэдняга лысым... Багата чаго сцёрлася ў памяці старога Салаўя, але сынава пышная чупрына, яго валасы, так падобныя на лён...

Ён часта, калі вяртаўся позна вечарам з работы, садзіўся пад яблыню ў садзе, і да яго тут жа падбягаў Валодзя, аб чым-небудзь пытаўся ці расказваў... Ён слухаў сына, запускаў руку ў яго чупрыну, церабіў яму валасы... І цяпер, пры адной думцы пра тое не такое ўжо і далёкае мінулае, у Салаўя зашчымела ў грудзях. Узіраўся то ў аднаго сына, то ў другога, то ў трэцяга... І адзначаў, што адзін з іх болей падобны на маці, другі на яго, на бацьку... Трэці тварам удаўся ў маці, а вочы як у яго, шэрыя...

— Падумаць толькі — пяцёра гадавалі вы нас, бацька з маці,— сказаў, як здзівіўся самы малодшы і паглядзеў на яго, на Салаўя.— Трэба было ўсіх накарміць, напаіць, апрануць, сказаць добрае слова... Самі распісацца толкам не ўмелі, а нас вучылі, у людзі вывелі...

Слухаў Салавей другога сына, думаў: «Толік увесь у маці — і характарам, і розумам.. Кацярына, калі жывая была, радавалася, што ён вучыцца...»

І тут жа перавёў позірк на Колю: «Гэты яшчэ не апярыўся як след, калі пачаў бегаць на рэчку, на Прыпяць... А як школу скончыў, матросам на буксірны параход прыстроіўся, век зроду да арміі дома не стыкаўся — буксіры праз усё лета то па Прыпяці, то па Дняпры, па Сажу ходзяць... А калі ў армію бралі — сам на флот папрасіўся. І цяпер во без вады не можа, плавае».

Думаючы пра сыноў, пазіраючы на катарага з іх, Салавей усё болей і болей аддаваўся ўспамінам... Але разпораз ён глядзеў у бок хаты, яго позірк быццам натыкаўся на расчыненыя дзверы, з-за якіх раней заўсёды чуў жончын голас...

К вечару дамавіна была гатова. Мужчыны абабілі яе паркалём, выразалі на крыжыку, зробленым з дуба, прозвішча і імя нябожчыцы, гады яе жыцця.

Дамавіна пахла свежай смалой, сасновымі стружка-

мі, якіх насыпалася па ўсёй паветцы з-пад гэбліка, калі мужчыны чысцілі дошкі.

Дамавіну з вечкам уняслі ў хату. Мальвіна з Сахвеяй і бабкі-суседкі, што папрыходзілі, увесь час стаялі каля труны, маўкліва і ледзь бачна варушылі губамі. Як тольکі дамавіну ўняслі ў хату, жанчыны хутка паслалі ў ёй пасцель, і мужчыны асцярожна перанеслі Кацярыну з канапы ў дамавіну. Стары Салавей сказаў:

— Адпачывай сабе цяпер, Кацярынко, няхай пухам табе будзе зямля, і няхай добра табе спіцца на том свеці.

Назаўтра апоўдні да іхняй хаты пад'ехала падвода, мужчыны вынеслі дамавіну з хаты, паклалі на падводу і пайшлі за падводай у бок могілак. Павыходзілі са сваіх хат проста апранутыя людзі: жанчыны, старыя, дзеці. Жанчыны прыкладвалі да вачэй хусцінкі, выцíралі слёзы...

Калі прыйшлі на могілкі, Салавей заўважыў, як многа знаёмых імён напісана на крыжыках, высечана на бляшаных таблічках і зялёных гранітных надмагільніках.

Раней ён неяк не задумваўся, а цяпер вось прыйшоў сюды, пабачыў усё, і само сабою падумалася: людзі яго пакалення адыходзяць і адыходзяць па аднаму. Мо і яго час ужо недалёкі...

Але гэтая думка не спалохала: людзі яго ўзросту смерці не баяцца і ведаюць, што да старога чалавека яна можа прыйсці ў любы дзень...

Калі вярталіся з могілак, пачалася навальніца. Стары Салавей і яго сыны ўбачылі, як на чорным небе ўспыхнула маланка, працяла неба зверху да самага нізу, да зямлі, сінім агнём асвятліла дуб, што адзінока стаіць ля вёскі. Пасля маланка зноў вярнулася ад зямлі на неба і там згінула. Лінуў дождж, густы і спорны. За дажджавой імглою не стала відаць ні дуба, ні вёскі. Салавей са сваімі сынамі і ўсе, хто былі на могілках, заспяшаліся дадому...

Ідучы, Салавей увесь час пазіраў то на меншага сына, то на сярэдняга, на старэйшага... Ён думаў, што вось яны прыйдуць дадому, і яму, бацьку, трэба пагаварыць з кожным пра тое, як жыць далей...

# Востраў у моры

## 1

У хаце зараз нікога няма, і яна падыходзіць да вялікага доўгага люстра, што ў зале, парааправанаецца, пільна ўзіраецца. «Для цябе, Валька, прырода-маці нічога не пашкадавала, твар — як у Венеры Мілоскай»,— згадала словы Аляксея. Засаромелася яго слоў: «Табе ўсюды хочацца бачыць прыгожае, я — самая звычайная...»

Уваходзіць маці, блізарука жмурыцца, вымае заслонку, дастае з печы чыгункі.

— Прачнулася, доча, снедай бяры, усе паелі і разбегліся хто куды.

— Во я, соня, сплю бы пшанічку прадаўшы,— засмяялася.— У вас, мама, тут такая цішыня.

— Спі, спі, доча, калі спіцца, набірайся здароўечка, колькі ў цябе таго адпачынку?

Выйшла ў калідор, умылася халоднай, як з крыніцы, вадой і адчула, што санлівасць і млявасць як рукой зняло. Захацелася што-небудзь рабіць, некуды ісці, з кім-небудзь гаварыць, толькі не заставацца дома. Калі яна застаецца адна, ёй робіцца сумна... І ад чаго б гэта? Здаецца ж, усё добра.

— Табе мо, доча, нездаровіцца? Вочы ў цябе невясёлыя, бы плачуць.

— Выдумляеш, мама, нічога ў мяне не баліць, думаю вось, калі б я засталася жыць у вёсцы, што было б са мною?

— Што было б? Колькі тваіх таварышак засталося дома — жывуць, сем'і займелі, дзеткі ў іх растуць...

Твар яе моршчыцца.

— Паспею, мама, з дзецьмі, тут мудрасці не трэба.

Думае: «Сказаць не сказаць ёй пра Аляксея? Памаўчу, прыедзе — сама ўбачыць».

— Ну, што ты, доча мая, нічога не ясі,— пераводзіць маці гаворку на іншае.— Ці ж нашы харчы нясмачныя? Я ж як устала, то давай барзджэй бабку пякці, ты раней так любіла яе, а зараз толькі калупнула.

— Ты, маці, гляджу я, гатовая ўсё, што ў цябе ёсць, на стол выставіць, абы-хто на парог... Раніцай з мяне шклянкі чаю з бутэрбродамі хапае...

Выйшла на двор, адчула, як закалола ў вочы — сонца, хоць яшчэ да паўдня і далёка, разгарэлася, зрабілася ярка-белым, такім звычайна яно і бывае ў сярэдзіне жніўня, калі ціхія пагодлівыя дні і на небе ні хмурынкі.

Не церпіцца выглянуць на вуліцу, туды, дзе аўтобусны прыпынак: «Я тут забаўляюся, а ён мо прыехаў і стаіць там, гадае, у які бок падацца... Хаця... Хто ў вёсцы не ведае, дзе жыве Якаў Грэбень? Спытай толькі...»

На веснічках — блакітная паштовая скрынка. Кожнай раніцы яна перш загляне, ці няма пісьма. Не, у скрынцы толькі «Известия», раённая газета... Сумняваецца: «Мо паштальён забыў укінуць пісьмо? Прыйшоў ліст на яе імя, а паштальён і не ведае, што яна зараз тут, у бацькоў, на адпачынак прыехала? Глупства...»

І зараз яна правярае скрынку. Зноў адны газеты. Узяла разгарнула іх: «Мо пісьмо ўклалі ўсярэдзіну?» Не, нічога няма...

Думае, хвалюецца: «Каторы дзень чакаю... Няўжо ён не здагадваецца, што перажываю?»

Адчыняе веснічкі, выходзіць на вуліцу. Сёння яна яшчэ не была на тым месцы, дзе робіць апошні прыпынак і разварочваецца рэйсавы аўтобус. Добра, што там ёсць лаўка, на якой можна сядзець і рабіць выгляд, быццам ты проста адпачываеш. Яна ўжо трэці дзень прыходзіць сюды і садзіцца на лавачку... Але павінен жа ён прыехаць, павінен. «Не паспееш азірнуцца, а тут і я... Прыпяць блізка ад тваёй вёскі? Цудоўна, а то ў нашай сталіцы пераляцеўш і вады добрай не ўбачыш...»

Убачыла, што на прыпынку паявіўся аўтобус, з яго расчыненых дзвярэй хто выскокваў, а хто ціха сасупаў на зямлю. Заспяшалася...

## 2

Прыпынак хутка апусцеў, ды Аляксей і на гэты раз не прыехаў. Маўкліва сядзела на лавачцы, разважала, што магло яго затрымаць, дамовіліся ж...

Азіралася, быццам не верыла, што яго няма... Ён стаяў у вачах... Уяўленне хвалявала думкі — добрыя, прыгожыя, светлыя, як воблакі на жнівеньскім небе... Яна і сама не чакала, што так усё складзецца. Аднойчы яна вярталася з работы ў свой інтэрнат. Лінуў дождж, а на дварэ восень: сыра, холадна. Побач з прыпынкам, дзе

яна чакала тралейбус — мастацкі салон. Афішы запрашалі наведаць выстаўку. Тралейбуса доўга не было, яна намерзлася, аж пасінела ўся, і рашыла зайсці ў салон.

Калі яшчэ вучылася ў інстытуце, не прапускала, здаецца, ніводнай выстаўкі, што наладжваліся ў мастацкім музеі. Выйшла гэта само сабою: мастацкі музей — па дарозе ў вучэбны корпус.

Аднойчы, калі вярталася ў студэнцкі інтэрнат пасля лекцый, заўважыла каля касы музея чаргу і не вытрымала, завярнула — закарцела самой заглянуць у памяшканне з шэра-зялёнымі мармуровымі калонамі і статуямі перад уваходам.

Па доўгіх, вузкіх залах музея невялікімі групкамі праходжваліся паўз сцены хлопцы і дзяўчаты — мабыць, то былі студэнты. Яны ажыўлена перамаўляліся, уважліва ўглядаліся ў карціны, што віселі ўздоўж сцяны на тонкіх, бы ніткі, ільняных матузках. Студэнты спрачаліся, вярталіся назад, зноў пазіралі на палатно, ад якога толькі былі адышлі, і ўпаўголасу гаварылі, гаварылі...

У работах, якія яна тады ўбачыла, здавалася ёй, пераважаў жоўты колер — мабыць, таму, што на дварэ восень, пара жоўтага лістападу. Яна падоўгу стаяла каля кожнага палатна, і пачуццё восені ў ёй не слабела — тут, на выстаўцы, яна ўпершыню зразумела, як па-рознаму можна ўбачыць і паказаць колеры адной і той жа пары года...

Яна часцей і часцей стала наведваць мастацкі музей, выстаўкі, што часта наладжваліся ў салоне Саюза мастакоў. На кожнай выстаўцы хапала сырых, рамесніцкіх работ. Але і былі карціны, якія ачароўвалі, міма якіх не пройдзеш. Гадзінамі, здаецца, магла яна любавацца таленавіта выпісаным пейзажам ці партрэтам, і яе адольвала думка, якая заўсёды завалодвае ёю, калі яна ўбачыць такое — думка аб спрадвечнай прыгажосці прыроды, аб кароткасці жыцця чалавека, які талентам сваім бачыць і адкрывае тое прыгожае.

У салоне было нешматлюдна. Ля карцін, развешаных уздоўж сцен, стаялі людзі. Яна як бы забывалася, што на выстаўцы, узіралася ў твары наведвальнікаў і старалася зразумець: хто яны — сапраўдныя аматары жывапісу. Праўда, ёй тут жа надакучыў гэты маўклівы занятак, і яна пайшла, хутка апынулася ў бакавой зале, дзе стоўпіліся каля карандашных малюнкаў некалькі чалавек. Яе

ўбачанае асабліва не ўразіла, а некаторыя работы яна проста не разумела: тое, што хацеў паказаць мастак, не зусім было ясным і зразумелым...

Яна ўжо сабралася ісці, калі побач з ёй спыніўся высокі, з кароткай рыжай барадой хлопец, строгі і сур'ёзны, і, відаць, старэйшы за яе гадоў на пяць.

— Ну, і што вы скажаце пра ўсе пра гэта? — бесцырымонна спытаў ён.

Ёй паказалася, што ён навязваецца, а гэта яе крыўдавала, і каб не ўступаць з ім у гаворку, толькі пацiснула ў адказ плячыма.

— Я, ведаеце, дылетант.

Ён прапанаваў ёй прайсціся яшчэ раз па зале і паглядзець разам з ім. На дварэ па-ранейшаму не сціхаў дождж, і яна згадзілася. І, прызналася сама сабе, засталася недарма: хлопец, яна даведалася, што завуць яго Аляксеем, аказаўся далікатным, ён мастак, і ёй было цікава з ім.

— Паглядзіце, як паказвае нам мастак гэтага маладога чалавека — у яго быццам не ногі, а мыліцы, постаць сутулена... У жывапісе адна трапная дэталь можа сказаць так многа, але яе трэба знайсці.

Адносіны ў іх склаліся простыя, сяброўскія, гатовыя перарасці ў нешта большае, і ўжо на другі дзень знаёмства яны перайшлі на «ты», смела гаварылі ў вочы пра тое, што думалі, паджартоўвалі над слабасцямі і недахопамі, калі заўважалі іх адно ў аднаго, падоўгу спрачаліся.

Пасля ён запрасіў яе ў майстэрню. Паказваў уласныя работы, напісаныя нядаўна і раней. Спытаў:

— Як? З тых я, каго называюць художнікамі — ад слова «худо», ці...

Ёй было прыемна, што пазнаёмілася з простым, гаваркім, цікавым маладым чалавекам, твар у якога загарэлы, акуратна стрыжаная барада надавала яму інтэлігентны выгляд. Толькі ёй не спадабалася, што ён самазахапляецца, чакае ад яе пахвалы. Яна рашыла, што лепш будзе, калі яна скажа праўду, тое, якія пачуцці выклікаюць яго работы.

— Ты, Аляксей, не абыякавы да прыроды, я вырасла ў вёсцы, мне радасна, што па тваіх карцінах я пазнаю і нашы заліўныя лугі, і палескія лясы, кранутыя восенню...

Тут яна замоўкла, убачыла, што ён як бы вывучае яе.

На нейкі момант зніякавела, не ведала, як паводзіць сябе, але хутка справілася з разгубленасцю:

— Толькі ты, па-мойму, злоўжываеш аднастайнасцю, усюды ў цябе героі з блакітнымі вачамі, пераважае шэры колер. Цяпер восень, залатая пара, з'ездзі ў лес, паглядзі...

— Ты не такая правінцыялка, як падалося спачатку! Я рад, калі мяне крытыкуюць — крытыка мяне злуе, але і наводзіць на думкі...

Яна радавалася, што кранула яго за жывое: «Ён умее глядзець праўдзе ў вочы, а гэта для яго важна...»

— Заўтра выхадны, вазьмі, што трэба, каб зрабіць некалькі эцюдаў, і калі маэстра не супраць, то буду яго суправаджаць за горад... Лепш да мора падацца, туды электрычкі часта ходзяць.

Ці атрымаецца заўтра,— хацеў ён адмовіцца,— у мяне іншае запланавана, з выстаўкома папрасілі адну работу ў спешным парадку зрабіць, за яе паабяцалі добра заплаціць.

Яна настойвала, і ён перадумаў.

— Не, я не супраць, але ж слова даў, што зраблю... Ды і твая праўда — сядзіш у гэтым каменным мяшку, часу не трапляеш, каб на жывы свет паглядзець, а гэта пагібель для мастака... Ды не паехаць з табой — грэх... Згода, адным словам, еду...

З гары, на якую яны падняліся, добра відаць мора, востраў, што густа парос ракітамі, вербалозам. Далёка, на супрацьлеглым беразе мора, узвышаецца шматпавярховая гасцініца, ярка асветленая шчодрым для асенняй пары сонцам.

— Тут і расстаўляй свае прычындалы, паглядзі, на чым спыніцца вока,— яна стаяла, пазірала то ў адзін бок, то ў другі, здзіўлена ўскліквала:

— І ты не хацеў яшчэ выбірацца са сваёй бярлогі!

Вочы ў яе блішчалі маладым бляскам, шчокі запунсавеліся... Яна не заўважыла, як ён падышоў да яе, абняў, глянуў у вочы, хацеў пацалаваць. Лёгка адпіхнула яго: «Не трэба...»

Ён спрытна і хутка ўмацаваў эцюднік, расклаў-падрыхтаваў цюбікі з фарбай, узяўся за пэндзаль... Яна пазірала і задавала сабе дзіўнае пытанне: чаму яна адчувае сябе з гэтым яшчэ ўчора незнаёмым чалавекам лёгка і проста?..

Адразу ў яго не атрымлівалася, ён выціраў старым дзіравым ручніком, які прыхапіў з сабой, пэндзаль, стаяў, разважаў, потым пачынаў усё нанава... Падумала, а раптам яна перашкаджае, бо ён, здавалася, болей пазіраў у яе бок, а не на эцюднік... Потым, калі захапіўся работай, яна непрыкметна адышла, пакінула яго аднаго.

Брыла па лесе, пазірала сабе пад ногі: цяпер грыбная пара, можа, і трапіць якую сыраежку. Але доўга на вочы нічога не пападалася, адно жоўтае лісце. Яно і зразумела: тут, каля горада, у гэтым лясочку людзей, бы мурашоў, грыбовікаў болей, чым грыбоў, зямля тут вытаптаная, убітая да таго, што, здаецца, няма ніводнага лапіку, дзе б не пахадзіў чалавек. І ўсё ж ёй пашэнціла: пад бярозай, з якой асыпаўся на зямлю жоўты ліст, яна заўважыла стары баравік. «Дзе стары — там павінны быць і маладыя» — гэта яна ведала, вырасла ж у вёсцы, ёй не трэба расказваць, якія месцы любіць баравік, лісічка або падасінавік.

Нагнулася, адграбла ад грыба рукамі лісце, абрадавалася — пад лісцем расла цэлая чарада баравікоў: адзін у адзін, маладыя, з карычневымі шапачкамі, на кароткіх тоўстых ножках-карэньчыках...

Колькі праблукала па лесе — невядома, мабыць, доўга. Заспяшалася на горку, да Аляксея. З эцюднікам за плячыма ён праходжваўся ўзад-уперад, чакаў яе.

— Пакажы, пахваліся, што ты тут паспеў,— ёй і праўда вельмі хацелася глянуць на яго работу, але ён толькі пачырванеў, пачаў аднеквацца...

Эцюд, зроблены каля мора, Аляксей перанёс на палатно. Па яго задуме, з эцюда магла атрымацца карціна... Ён працаваў і не паказваў ёй таго, што рабіў, казаў, каб пачакала.

— Не выходзіць у мяне... Не адчуваецца восені,— нерваваўся ён, пазіраў на яе, быццам яна магла яму нешта падказаць, параіць.

— Не хапае чагосьці. Толькі чаго? Мо дымкі-туману, якая надала б усяму наваколлю казачнасць, таемнасць? А мо трэба звузіць цені і даць болей святла? У той жа дзень хапала сонца...

Калі аднойчы яна зайшла да яго ў майстэрню, ён, заўважыла, як перамяніўся, весела падміргнуў ёй: «Здаецца, усё...» Пасля гэтых слоў сеў на канапу і пачаў глядзець на яе ўважліва і напружана, як глядзела яна, ста-

раючыся зразумець, з чаго б яму весяліцца. Маўчанне было кароткім.

— Падыдзі, ацані.— Ён устаў, падышоў і знерухомеў каля мальберта, дзе на палатне яшчэ не паспелі высахнуць фарбы.

Глянула і — як анямела: перад ёю быў той самы востраў у моры, які бачыла, калі ездзіла з ім, Аляксеем, на электрычцы за горад. Над востравам сцелецца дрогкі туман, ракіты і вербалознік нахіліўся над вадой, у якую скідаюць апошнія лісты... Вада ў моры струменіцца-блішчыць у сонечных праменнях... Побач з востравам, на вадзе — яхта з высока ўзнятым ветразем. Яхта лёгка імчыць па паверхні вады, відаць, як ад яе веерам разбягаюцца-коцяцца да берага хвалі... Тут усё было, дыхала, ад кантрасту святла і ценю карціна здавалася крыху ўрачыстай... Ад радасці Валя стала сама не свая:

— Цудоўна, Лёша, проста цудоўна...

Гаварыла і хвалявалася, у яе не хапала слоў, каб дакладна выказаць тое, што адчувала, гледзячы на карціну...

На выстаўцы Аляксееў пейзаж заўважылі. У газетных справаздачах мастацтвазнаўцы адзначылі, што «малады мастак прадстае ў новым святле... раскрыліся магчымасці яго таленту...».

Яго работа захапіла, зацікавіла яе. Яна працуе інжынерам у канструктарскім бюро, і цяпер не магла дачакацца, калі скончыцца рабочы дзень: хацелася хутчэй убачыць Аляксея, гаварыць з ім, назіраць, як ён непаспешліва і засяроджана пачынае новую работу...

Яна заўважыла, што к яе прыходу ён цяпер стаў лепш апранацца і сваю маленькую рыжую бародку заўсёды прычэсваў. Яна падумала, што ён саромеецца яе і таму стараецца быць перад ёю акуратным. Дзіўна, але яна і сама, калі збіралася да яго, апраналася як найлепш, забягала ў цырульню, не хацелася паказвацца яму на вочы якой папала — усё ж такі ён мастак, і яе знешні выгляд, мабыць, многа для яго значыць.

Яго майстэрня знаходзіцца на шостым паверсе, ліфта няма, і пакуль яна падымецца, то запыхаецца, зачырванеюцца шчокі, і такая вось запыханая, чырванашчокая яна і прадстае перад ім.

Ён заўсёды, калі яна прыходзіць, каля мальберта. Гадзінамі, днямі, здаецца, не выходзіла б яна з майстэрні,

пазірала б і пазірала, як на палатно ён кладзе штрых за штрыхом... Аляксей, калі заставаліся сам-насам, хацеў апынуцца побач з ёю, хацеў абняць яе, пацалаваць. Але яна ўвесь час стрымлівала яго, не хацела, каб знаёмства з ім закончылася банальна... Ён губляўся ў такія хвіліны, але аднойчы адважыўся і сказаў, што ў яе «мілы, мілы твар» і яму вельмі хочацца «напісаць яе на палатне...».

Яна пачакала, калі ён выгаварыцца, скарыстае ўсе свае аргументы, ледзь усміхнулася, прамовіла:

— Ты перабольшваеш — твар у мяне звычайны...

— Не, гэта зусім не так! Фігура ў цябе цудоўная, а твар мілы-мілы...

— Добра, я пачну пазіраваць табе, ты напішаш партрэт, а потым што?

— Усё залежыць ад таго, як атрымаецца. Выйдзе жывая, рэальная карціна, то трапіць на выстаўку.

— А калі я не хачу, каб на мяне глядзелі? Я не артыстка... Калі і стану пазіраваць, то толькі для аднаго цябе, проста, па-таварыску... А каб на мяне глядзелі... Не, не хачу...

Аляксей быў збіты з панталыку яе нечаканай логікай: замаўчаў і толькі праз якую хвіліну знайшоўся, што гаварыць.

— Я не падумаў, прабач.— Словы яго прагучалі ціха і шчыра, і ёй было прыемна, што ён разумее яе.— Але я прывык пісаць партрэт з натуры... Яшчэ ў інстытуце нам пазіравала маладая жанчына...

Яму падалося, што яна не зусім зразумела яго, і ён пачаў горача, з перарывістым дыханнем, тлумачыць ёй вядомыя кожнаму ісціны. Ён гаварыў, што вобраз, увасоблены на палатне, жыве самастойна, доўга. Старэе і памірае мастак, што напісаў карціну, старэюць дамы, машыны, і толькі не старэе твор мастацтва, у якім паказана жыццё праўдзіва, усхвалявана, пранікліва.

Яна згадзілася яму пазіраваць для партрэта. Пісаў яе партрэт ён доўга, і яна вельмі стамілася — даводзілася гадзінамі сядзець і пазіраваць перад сабой, не дазваляючы сабе ні паварушыцца, ні загаварыць... Але партрэт яму не ўдаўся. Яна зразумела, што ён не шукаў знешняга падабенства, імкнуўся заглянуць у душу, паказаць свет духоўнага... Спроба не ўдалася...

Аляксей перажываў няўдачу, яна тое бачыла і адчувала. Але не магла зразумець, не магла вытлумачыць са-

бе, чаму поспехі ў яго чаргуюцца з няўдачамі? Здаецца, ён аднолькава старанна працаваў і над партрэтам, і над пейзажам, а вось жа...

## 3

У каторы раз яны паехалі за горад. Не да мора, а ў іншы бок, далёка ад Мінска, каля якога ў выхадныя процьма народу. Аляксею ў такія дні каля мора не ўдавалася дзе-небудзь схавацца ад людзей, ад надакучлівых разяў, якія спыняліся ў яго за спіной, гэта яго раздражняла, ён цямнеў тварам, нерваваўся, у яго нічога не атрымлівалася, і ён браў на плечы эцюднік і ішоў куды вочы глядзяць...

Той раз у іх былі два выхадныя, і яны паехалі аж за Барысаў. Сышлі з аўтобуса і трапілі на вузкую сцяжынку, якая прывяла іх у сасновы лес, што абрываўся каля возера Палік. Месца там — лепшага, здаецца, не прыдумаеш: хвойнік, за ім — бярозавы гай, далей — возера, спакойнае, цёплае, парослае з берага высокім чаротам, што пакалыхваўся ад маленькага ветру і трывожна-сумна шапацеў...

Аляксей мяняў другі ліст кардону ў эцюдніку, але эскізы не атрымліваліся, і ён апусціў рукі.

— Не магу, не клеіцца, мабыць, я трапіў у нейкую чорную паласу.

У тыя хвіліны ёй было шкада яго: спахмурнелы, маўклівы, твар шэры, а вочы пабліскваюць калючымі агеньчыкамі... Яна пазірала на яго маўкліва, быццам хацела заглянуць у самае яго сэрца.

Ён таксама ўважліва і неяк па-асабліваму пазіраў сёння на яе. Пазіраў, хваляваўся, перажываў і адчуваў, як чыста прафесійнае, тое, што было ў ім да яе і што ішло як ад мастака, паступова, амаль непрыкметна ўступала месца іншаму, чалавечаму, глыбока асабістаму... Вось абняць бы яе, заглянуць у вочы — і сказаць: «Валя, я не магу болей утойваць, што ў мяне на сэрцы... Я не магу без цябе...»

Глянуў на яе — твар яе быў спакойны, але, падалося яму, сёння яна залішне строгая і напружаная, і ён не асмеліўся загаварыць з ёю.

Пайшлі берагам возера. Хацела загаварыць з ім, але ўбачыла ў яго вачах такі сум, што не асмелілася.

Пачулі, як недзе побач хтосьці моцна стукнуў — адразу і не разабраць чым: сякерай ці малатком. Міжволі папшлі на той стук і апынуліся на невялікай паляне, пасярод якой на каленях стаяў мужчына. Ён быў дужа заняты і захоплены работай і доўга не заўважаў іх. Валя паспела ўбачыць, што мужчына высякае на мурмуровай пліце імёны, а пасярэдзіне пліты — сілуэты людзей... Імёны ішлі адно за адным, утваралі доўгі слупок...

Валасы ў мужчыны, што серабрыліся рэдкай сівізной, упалі на лоб, але яны былі кароткія, не закрывалі вачэй. Па маршчыністым, няголеным твары яго сцякалі кропелькі поту. Сівізна не рабіла яго старым, але, мабыць, дні два ён не галіўся, і гэта адразу прыбаўляла яму дзесятак гадоў.

Не асмельваючыся падаць голасу, Аляксей кашлянуў, і мужчына знерухомеў з паднятым у правай руцэ малатком, павярнуў галаву.

— Дзень добры! — павіталіся яны.

Мужчына павёў плячыма ў іхні бок: у яго вачах Валя заўважыла разгубленасць, якую яму ўтаіць не ўдалося. Ён паклаў на зямлю малаток, сеў на краёчак помніка. Валя, калі наблізілася, адразу ўбачыла, што гэта помнік-абеліск, бо на ім ужо бранзавелі словы«Вечная слава» і былі высечаны гады апошняй вайны.

— Турысты вы, мабыць, ад сваіх адбіліся? — ён гаварыў ціха, але рэзка.

— Не, мы...— пачаў Аляксей і асекся.

— Мы прыехалі на эцюды,— адказала яна і яшчэ дадала: —Месцы тут у вас ціхія, прыгожыя, хоць кіно здымай.

— Што праўда, то не грэх,— яна не зразумела, ці то незнаёмец падтрымлівае яе, ці ў яго словах іншы, затоены сэнс.

— А [redacted] вось...— у мужчыны быў сумны выгляд,— помнік усім сялом рашылі паставіць, а я майстар па такой справе... Тут брацкая магіла... Партызаны тут, нашы землякі... Я іх добра ведаў, дасюль нават некаторыя як жывыя ў вачах стаяць...

Яго позірк быў скіраваны трохі ўперад, пад сосны — там Валя ўбачыла брацкую магілу, абсажаную па баках чырвонымі астрамі.

— Летам сорак трэцяга яны ўсе, хто тут, пад соснамі, апошні раз глянулі на сонца,— працягваў мужчына,— мы

тады пайшлі на прарыў. Я жывым вырваўся з пекла, а яны не...

Валя зірнула на яго больш пільна: вусны як ні дрыжаць, рукі бездапаможна апушчаны, у вачах сум і боль,

— Далёка адсюль спыніліся? — яго голас, паказалася Валі, усё яшчэ гучыць журботна.

— Там, бліжэй да возера.

Ён захацеў глянуць на Аляксееву работу, і яны пайшлі да эцюдніка.

Уважліва пазірае на эскізы. Сонца, якое прабілася скрозь галлё сасонніку, упала-спынілася на незакончаным пейзажы, што быў замацаваны да эцюдніка. Сонечныя промні, здаецца Валі, скажаюць эскіз. Але гэта, мабыць, не засмуціла мужчыну. Разглядаючы, ён нават змяніўся ў твары. Ён разглядаў то адзін эскіз, то другі, то браў іх у абедзве рукі і параўноўваў...

Потым ён глыбока ўздыхае:

— Рука ў цябе яшчэ набірае сілу... Але майстэрства адчуваецца... Старайся, хлопец, і ніколі не крыві душой... Мастацтва, яно, браце, любіць чысціню помыслу і яснасць думкі...

Толькі цяпер Валя звярнула ўвагу, што на адно вока мужчына як бы не бачыць: правы зрэнак нерухомы, толькі міргае вейка... Пытацца пра тое, дзе ён страціў вока, было няёмка. Але мужчына хутка загаварыў сам:

— Я мог стаць мастаком... Калі вучыўся ў школе, то ўсе казалі, што ў мяне ёсць здольнасці... Я любіў пісаць палі, воблакі над палямі, адзінокую ў полі сасну, стог сена ў лузе, маладога стрыгунка, які пусціўся ў першы ў сваім жыцці галоп...

Ён гаварыў і пазіраў на возера, па якім далёка ад берага ныралі дзікія качкі, відаць былі толькі хвасты над вадой,— мабыць, яны лавілі маленькіх рыбак.

— Меркаваў пасля школы ехаць вучыцца ў мастацкі інстытут, а тут вайна... У армію не ўзялі — падлетак... У лес пайшоў, сюды, на Палік... Ні разведчыкам я не быў, ні на ўзрыў чыгункі не хадзіў — у партызанскай кузні мяхі раздуваў, рамантаваў зброю...

Замоўк ён раптоўна, і Аляксей памкнуўся спытаць:

— Толькі не зразумела...

— Не, вока я не ў час вайны страціў, і тут няма ніякага апраўдання...

Думае, горка ўсміхаецца:

— Агонь і ваду прайшоў, уцалеў, радавацца б толькі... Трэба было ехаць на вучобу, а я... Мой таварыш, з якім партызанілі ў адным атрадзе, папярэджваў мяне, каб я не даваў сабе паслабкі, каб не самазадавальняўся зробленым... Ён сам у інстытут паступіў, настаўнікам стаў... Наказваў мне, каб не гнаўся за рублём... Мастаку заўсёды тысяча прапаноў, над якімі галаву асабліва ламаць не трэба, а капейку можна зарабіць... Не паслухаўся яго, майго добрага таварыша-выкладчыка... Паспрабаваў раз — зарабіў няблага... І засмактала мяне, як дрыгва тапельца... Думаў, што змагу яшчэ вярнуцца да мальберта, змагу пісаць, вучыцца... У мяне быццам выходзіла ўсё: я адчуваў колер, умеў выбіраць каларыт, кампанаваў... Пісаў і рваў на часткі тое, што напішу, бо творы атрымліваліся застылыя, бы нежывыя, не твары, а маскі...

У душы ў Валі ўсё пратэставала, ёй здавалася, што ён здзекуецца над сабой.

— Вы... Вы дарма так... Не маеце права так гаварыць... Я толькі зірнула на тое, што вы робіце там, на абеліску... Гэта высакародна... Канечне, вам нялёгка, вы не сталі мастаком, як хацелі, але...

Ён не перабіў яе. Пазіраў на сосны, маўчаў. Валі здавалася, што ён успамінае, як тады, калі вырываліся з варожага кальца, у гэтым лесе вылі міны, ірваліся снарады, страшна высвіствалі, ідучы рэкашэтамі, кулі. Мінныя асколкі, снарады і кулі ўпіваліся ў дрэвы, шчапалі іх, адбіваліся галіны, якія мёртва павісалі на тоненькай, маладой кары... Раны на дрэвах даўно зараслі, зарубцаваліся, а яго душэўная рана не зажывае, крывавіць...

Хутка мужчына пакінуў іх, пайшоў да помніка. На развітанне сказаў:

— Хоць тым, што я раблю зараз, апраўдаюся трохі перад памяццю сяброў, якія верылі, што я напішу не адно палатно.

Ён знік за соснамі, і Валя заўважыла, што Аляксей доўга пазіраў у той бок, думаў... Ёй здавалася, што ён глядзіць удалячынь і па-новаму бачыць гэты лес, возера, луг, кожную травінку ў лузе...

— Цяпер я ведаю, як трэба пісаць,— Аляксей наблізіўся да эцюдніка,— пісаць трэба проста, але так, каб работа хвалявала... Каб у кожнай рабоце ажывала гераічнае мінулае.

Валі паказалася, што яго голас прагучаў крышачку суха, казённа, але выказаў ён тое, што было ў яго на душы...

Аляксей працаваў і працаваў. Яго рука, здавалася, не спынялася ні на хвіліну. Пакладзе два-тры штрышкі, адыдзе ад эцюдніка, прымерыцца вокам, ці правільна скампанаваў, ці той выбраў колер. Твар у яго спакойны, упэўнены...

Пачаты ля Паліка эскіз дапісваў дома. Яна прыходзіла ў майстэрню, старалася зашыцца дзе ў які куточак, каб не перашкаджаць яму, і назірала. Ён то пакладзе мазок, то падыдзе да акна, стаіць моўчкі, думае. А пасля як ні падбягае да мальберта, пачынае з азартам пісаць... Затым, калі вечарэла і пісаць станавілася цяжэй, бо электрычнае святло скажае колер, яны пакідалі яго цесную майстэрню, выходзілі на вуліцу. Валя была з ім пяшчотная, ласкавая: яна бачыла, якім напружаным жыццём жыве Аляксей, і ведала, што яму так неабходна яе душэўнасць...

Калі карціна была закончана, ён папрасіў яе глянуць. Сам маўчаў, губы яго ўсміхаліся, вочы вывучалі.

Яна то падыходзіла да палатна, то адыходзіла, аддалялася, круціла галавою і так, і гэтак. Яна пазнавала той самы лес каля возера Палік, партызана, які прыйшоў на месца былых баёў. Ёй асабліва спадабаўся твар мужчыны, напісаны Аляксеем па памяці, але выпісаны з пачуццём і цеплынёй — сумна-журботны, праніклівы, адухоўлены...

— Па-мойму, Аляксей, гэта твая самая вялікая ўдача!

Ён наблізіўся да яе, абняў, пацалаваў, і яна прыхінулася да яго.

— Я не забуду, Валя, леташнюю восень, калі сустрэў цябе,— ціха прамовіў ён.

— І я, Алёшка...

Яна не помніць, колькі яны ў той вечар прасядзелі. Пілі чай з арэхавым тортам, за якім ён збегаў у магазін, што побач з майстэрняй. Ён гаварыў бясконца:

— Ты для мяне, Валя, не толькі сяброўка, ты — маё натхненне...

Яна чырванела, саромелася гучных слоў і, каб перавесці гаворку на што іншае, пыталася, што ён збіраецца рабіць з апошняй карцінай, назвы якой яшчэ не прыдумаў.

Ён задумаўся, і такі, задуменны, здаваўся ёй стомленым, але шчаслівым.

— У нас, у мастакоў, дарога адна, яе не мінаваць — на выстаўку, а там, калі пашанцуе, то пакажу закупачнай камісіі, магчыма, уключаць у латарэйны розыгрыш... У камісіі, праўда, свой падыход — хоць чыя работа і вартая, але калі ён з маладых, то знойдуць тысячу «але», каб не заўважыць, абысці маўчаннем... Маладога, хто толькі пачынае, хоць што і вартае ён прапануе, могуць затрымаць... Кансерватары, чакаюць, калі прэса скажа сваё слова...

Ён гаварыў, а яна думала, што ў яго ўсё не так, не так будзе. Прынясе на выстаўком работу, пакажа, і там анямеюць ад здзіўлення... Хіба не так здарылася з яго пейзажам «Востраў у моры»? Тады, памятае яна, на выстаўку, якая мелася адкрыцца да юбілею нейкага свята, работ ужо не прымалі. І слухаць ніхто не захацеў Аляксея, калі ён прынёс загорнутую ў белую паперу раму. Яна была з ім і пачала спрачацца, і тады арганізатары выстаўкі папрасілі разгарнуць, паказаць палатно... А хіба гэтая, другая яго работа, слабей за першую? І дарма ён думае, што ў камісіях — кансерватары. Ёсць людзі і са сваім поглядам, якія не баяцца парушыць каноны, што ўсталяваліся.

Калі ў іх іншы раз і пачыналася гаворка пра выстаўкомы, пра камісіі, то такая гаворка заўсёды была гарачая, пераходзіла ў спрэчку. Яна, праўда, старалася, каб ён лішне не нерваваўся — для сапраўднай творчасці, думала яна, спакой патрэбен як паветра. Але стрымаць яго было цяжка, амаль немагчыма, і прычынай яго раздражнення магло стаць самае непрыкметнае і нязначнае — дыскусія пра форму і змест у жывапісе ў часопісе «Мастацтва», якую ж, канечне, члены выстаўкома прачыталі і ведалі, як ведалі дзяды і бабкі «отчэ наш».

— Яны хапаюцца за гэтыя выказванні, як за ісціну ў апошняй інстанцыі... А спрэчка аб змесце і форме старая і даўняя, як і белы свет... Вядома, форма іграе сваю самастойную ролю, але ў вядомых межах... А ў камісіі ж другі раз, калі паказаць партрэт ці пейзаж са скрыўленымі, знарок паламанымі лініямі, незвычайна радуюцца: «Свежа, па-новаму...» А мне трыста гадоў не трэба

такога новага, бо што з таго, калі форма арыгінальная, а зместу кот наплакаў...

Валі не падабалася, што Аляксей, калі спрачаўся, ускіпаў і кіпеў доўга. І каб яго астудзіць, яна ўсміхалася, казала:

—Ты ні разу не быў на Палессі? Паехалі гэтым летам... У жніўні ў мяне адпачынак. Там, дзе жывуць мае бацькі, такі лес! А Прыпяць! Вось дзе табе работы хопіць, а ты мне — «змест», «форма»...

Аляксей замаўкаў, слухаў, злёгку пачэсваў рыжую бародку, і вочы яго ажывалі, твар святлеў.

— Канечне, Валёк, паеду, толькі ж наперадзе цэлая зіма...

Сонца ўжо стаяла як ні над старой ліпай, што каля іхняй хаты. Яно пякло, сляпіла, а Валя ўсё сядзела на аўтобусным прыпынку, чакала Аляксея, які павінен быў прыехаць, але не прыехаў.

Мабыць, ад сонечнай спякоты ў яе разбалелася галава. Яна бачыла, што з шашы на абед папрыганялі кароў. З двароў выходзілі сонныя ад духаты людзі, лена расчынялі вароты, пускалі кароў у двары, пакрыквалі на іх, злёгку ўдаралі, падганяючы, па гладкім, што аж ільсніўся, крыжы. Але слоў Валя не разбірала, усе гукі даходзілі да яе як бы аднекуль здалёку, быццам бы скрозь ваду... Яна зразумела, што сёння не дачакаецца Аляксея, і пайшла, бы ў забыцці, дахаты... Калі б ён аказаўся побач... Не дахаты яна тады б выбрала дарогу, а за поле, да Прыпяці, дзе даўно вядомы і аббеганы ўсе сцежкі, дзе вільготны вецер не раз лашчыў твар, церабіў расплеценыя косы... І пакінула б яе сэрца гэтая шчымлівая трывога, якая нагарнулася на яе, мабыць, ад невядомасці, што там з ім?..

## 4

Ён прыехаў назаўтра раніцай. Яна стаяла пад яблыняй, бліжэй да плота, і калі пачула аўтобус, пачала ўзірацца... Самым апошнім сышоў ён. Паставіў на зямлю два чамаданы, зверху якіх паклаў загорнутыя і перавязаныя шпагатам эцюднік, чыстыя аркушы кардону. Хацелася вопрамеццю кінуцца да прыпынку, але яна

прыдушыла ў сабе хваляванне, спакойна расчыніла фортку...

Дома расседжвацца яму не дала. Памагла распакаваць эцюднік, кардон, за руку — і да Прыпяці. Ішлі міма шырокага і доўгага жытняга поля, што адным краем падыходзіць да ракі. Вузкай, выбітай і няроўнай сцежкай пачалі падымацца на гару, што каля самай Прыпяці. Гара крутая, і падымацца цяжка. Добра, што па баках сцежкі расце бярэзнік, за які можна ўхапіцца рукамі і падцягнуцца. З-пад ног, уніз гары, скочваліся каменьчыкі і ссохлыя грудкі зямлі.

На самай вяршыні гары яны спыніліся, агледзеліся вакол, і Валя ўбачыла, што адсюль, з вышыні, жывы свет як бы расшырыўся перад імі, трывожыў сваёй далёкасцю і неабдымнасцю. І гэтая трывога, адчувала Валя, як бы адступала, змянялася шчымлівым, дасюль невядомым неспакоем.

— Ух ты, прыгожа як! — не стрымалася яна, адкінула назад пасму валасоў.— Паглядзі, Лёша.

Там, унізе гары, кацілася светлая ад сонца вада, у глыбокіх вірах яна кружылася, булькала, звінела. Панад самай ракою, над лугамі і полем шырока разліваўся нябесны блакіт. Ля ракі і за ракою было прасторна, хацелася прайсці па гэтай прасторы і так ісці доўга, не ведаючы, куды і для чаго ідзеш, здзіўляючыся і радуючыся добраму настрою, што хвалямі нагортваецца на сэрца.

## Вяртанне Бадзея

Густы і белы туман слаўся па-над самай зямлёй, і ў непрагляднай туманнай смузе схаваўся бярэзнік. І сцежку, па якой ідзе Бадзей, амаль не відаць, яна бы растапілася ў гэтым тумане, бы абрывалася за якія два крокі ўперадзе. Яму даводзілася ісці як ні навобмацак, даводзілася працягваць рукі перад сабой, бы невідушчаму, каб не зачапіцца тварам за галіну прыдарожнай альхі ці бярэзіны. І хоць яго ногі не адзін раз мералі гэтую вузкую, скапычаную ласямі, здратаваную дзікімі кабанамі сцежку, ён не-не ды і тыцнецца галавой аб нізка навіслую галіну. Халодная раса, якой укрытаабсыпана пажоўклае лісце дрэў, з шумам ападае на рукі, на твар, і Бадзей уздрыгвае, бы спужаны, ціхенька лаецца сабе пад нос: «Сядзеў бы от лепш, то не ж, папёрся... Трэба ж... Такі туман, што свайго носа не відаць...»

Ён быў рад і не рад туману. Рад, бо ніхто яго не ўбачыць, не спыніць, не загаворыць з ім. А гаворкі з кожным з вяскоўцаў ён не вельмі жадаў, бо ведаў, што тая гаворка толькі і сапсуе яму настрой. І ён стараўся ўвесь час прыбавіць кроку, каб да часу, пакуль пакажацца сонца і рассеецца туман, што хавае яго, каб да таго часу паспець да сваёй сястры, да Матруны, скочыць у хату. Але той жа туман не даваў яму разагнацца. Бо толькі ён заспяшаецца, як халодная, расяная галіна сеkане па твары, па вачах, і ён спыняецца, ставіць на зямлю маленькі і лёгкі, аблузаны з усіх бакоў чамаданчык, здымае з галавы форменную марскую фуражку, выцірае ёю з твару кропелькі расы, ціхенька буркоча-лаецца...

І хаця прайшоў не так і багата, палавіну нядоўгай дарогі, але ў яго такое адчуванне, быццам ён ідзе ўсю ноч і ўвесь ранак. І да вёскі, да якой ужо рукой падаць, пачынае здавацца яму, яшчэ няблізка... Каб не пяколкая раса на галінах прыдарожных дрэў і не туман, разумее ён, то адолеў бы дарогу і не ўгадаў калі... А так дрыжы, калаціся на асеннім холадзе, і не вельмі паспяшаешся, а то яшчэ на які корч ці пень успорашся, сінякоў сабе насадзіш, тады на людзі хоць не паказвайся. Ніхто не паверыць яму, што выцяўся аб пень ці калоду, якіх на гэтай сцежцы на кожным кроку. Пачнуцца кпіны, смяшкі... Дзеці і тыя на яго пальцам паказваюць: «Гля-

дзіце, глядзіце, Бадзей прыехаў!» Бы ён які архаравец! Хіба ён каму паганае зрабіў? Абакраў каго ці нядобрым словам абазваў? Ніхто такога не прыгадае, а сваімі мурзатымі пальцамі тыкаюць у яго, бы ён снежны чалавек... Не па душы, мабыць, ім, што ён дасюль не прыкіпеў да вёскі. Ён яшчэ не корч стары, каб сядзець на месцы, свету паглядзець-пабачыць хочацца... А яны адно ведаюць: Бадзей ды Бадзей... Па імені ніхто ніколі не назаве, быццам забыліся, што ў яго ёсць звычайнае, людскае імя. Малы і стары ведаюць адно — «Бадзей». І ці не таму ўсе з асалодай называюць яго Бадзеем, што для іх гэта не прозвішча, а мянушка?

Разважаючы з самім сабой, не заўважыў, як апынуўся на краі вёскі. Сонца паспела выкаціцца з-за лесу, памалу падымалася над хатамі. Яно разагнала-рассеяла туман, сушыла расу, і ўсё наваколле бы наблізілася, акружыла Бадзея, які ў нерашучасці застыў на месцы, маленькімі чорнымі вочкамі, што заўсёды прыжмурваліся і хітра ўсміхаліся, пазіраў на вёску, бы не пазнаваў яе.

Адразу ўбачыў на сотках сястру, Матруну. Яна не разгіналася, падкопвала капаніцай карчы бульбы, выбірала з халоднай, настылай за ноч зямлі клубні і кідала іх у кашалі, што стаялі, нахіленыя адным берагам да яе, крыху ўперадзе. Дакапаўшыся да кашалёў, Матруна ўторквае ў зямлю капаніцу, адносіць кашалі далей, на някопанае, вяртаецца назад, слініць рукі, каб не слізгалі па коўзкім дзержаку капаніцы, нагінаецца зноў.

Калі ён падышоў да яе, яна не паверыла сваім вачам.

— Лёшык, авой мамачкі мае, прыехаў.

Яна выпускае з рук капаніцу, сыходзіць з загона ў разору, дзе спыніўся ён, пазірае на яго доўга-доўга, худы, бяскроўны твар яе ўвачавідкі чырванее, свеціцца радасцю. Твар яе ў гэтыя першыя хвіліны сустрэчы бы ўсміхаецца, беглым позіркам яна мерае-аглядвае брата з галавы да ног. Іх позіркі перакрыжоўваюцца, і яна адводзіць свае вочы ўбок, баючыся, каб ён не падумаў, што яна стараецца дазнацца адразу, з якімі думкамі і помысламі прыехаў ён на гэты раз.

— Чаго ж мы стаім, пайшлі ў хату, ты ж з дарогі, галодненькі...

Матруна жыве адна. Некалі, перад вайною, сваталі

яе. З далёкага сяла трапляўся жаніх. Ужо была дамовілася Матруна з ім згуляць вяселле, але ці то з хлопцам яе што здарылася, ці ён проста пажартаваў з дзяўчыны — ніхто таго не ведае і сказаць не можа. У суботні дзень да Матруніных бацькоў сабраліся госці, пачалі выпіваць і чакаць, калі прыедзе малады і павязе Матруну ў сваю хату. Чакалі да ранку, да абеду наступнага дня, да вечара... Ад сораму Матруна збегла з хаты за рэчку, упала пад стогам сена, загаласіла: «І нашто ты мяне, мамачко, на свет радзіла?..»

Пачулі яе плач дружкі-сяброўкі, прыбеглі, пачалі суцяшаць: «Хто ведае, Матрунко, што з Хведарам? Мо захварэў? Заўтрэ ж пойдом да яго, хібе ж так можно рабіць? Захварэў, то прышлі каго, накажы, а то смешкі строіць...»

Ні назаўтра, ні на паслязаўтра ніхто не пайшоў праведаць, чаму Хведар, Матрунін жаніх, не прыехаў за сваёй маладою. Ды і калі б хто праведаў, то хіба што можна было змяніць?..

Вайна асіраціла Матруну. Бацькі яе загінулі. Дзе і як загінулі — яна таго не ведае. Бо іх забралі немцы і павезлі... І калі Бадзей, брат, цяпер ужо дарослы чалавек, жыў у далёкім горадзе, то Матруне вельмі часта сніўся адзін і той жа сон. Сон ажываў кожны раз, калі яна згадвала брата, і на душы станавілася неспакойна... Ёй бачыцца той дзень... Яна вярнулася з Мазыра пад вечар. У горад яе выправіла маці, каб васковыя свечкі, зробленыя бацькам яшчэ з даваеннага воску, і дзве нізачкі сушаных грыбоў-жаўтлякоў вымяняла на соль. Ёй тады пашэнціла: дадому яна нясла цэлых дзве шклянкі солі... Перад вёскай спынілася — ад доўгай дарогі стомлена гулі ногі. Яна прысела, уяўляла, як зарадуецца маці, калі ўбачыць у яе руках соль. І тут яе бы хто ўкалоў, яна хуценька ўстала, адчула, як трывога, пакуль яшчэ глухая і далёкая, ахапіла яе. У той трывозе шчымліва застукала сэрца: толькі цяпер яна ўбачыла, што вёска быццам вымерла, нават сабакі заціхлі... Колькі ў яе хапіла сілы, пабегла... Бегла, а з кішэні пінжачка сыпалася на зямлю соль...

Калі дабегла да хаты і ўбачыла насцеж расчыненыя дзверы, выбітыя вокны, страшная здагадка апаліла свядомасць... Хацелася закрычаць, заплакаць, але не стала голасу і слёзы як высахлі... Прысела на парог, абшчапе-

рыла рукамі галаву: «Мамко, татко, дзе вы ўсе падзеліся, дзе ж наш Лёшка?» І тут ёй здалося, быццам пад печчу нехта ўсхліпвае. Насцярожылася, пачала ўслухоўвацца: сапраўды. Стала на каленях перад дзіркай-лазам у падпечак і пачала клікаць. Узрадавалася, калі ўбачыла перапужанага, заплаканага Лёшку, свайго маленькага брацікa...

Не паспела супакоіць брата, як да іх зайшоў крывы Мірон, што жыў па суседству. Прыкрывуляў ён памалу, убачыў, што Матруна сядзіць на покуце і абдымае брата, душыцца слязамі, сказаў:

— Бяжыце, покуль не позна, дзеткі, у лес, а то вернуцца немцы і вас забяруць, яны ж усіх, хто не паспеў схавацца, пабралі і павезлі...

Пасля вайны яна ўвесь свой клопат, усю сваю душу ўкладвала ў тое, каб памагчы вырасці і стаць чалавекам брату. Пра замужжа яна і думаць не магла, бо аўдавелі і тыя яе сяброўкі-суседкі, што абзавяліся сем'ямі да вайны. Багата ў каго з іх не паварочаліся мужыкі з вайны. І Матруна не вельмі наракала на свой лёс — што ж ты зробіш, калі праклятая вайна ўсё пераблытала, перакроіла...

Як толькі Аляксей, брат, скончыў дзесяцігодку, Матруна выправіла яго на вучобу ў горад, у вучылішча, на муляра-тынкоўшчыка захацелася яму вывучыцца. Лёшкавы аднакласнікі паступалі ў інстытуты, акадэміі, збіраліся стаць настаўнікамі, урачамі, аграномамі, і Матруне як бы і крыўдна станавілася за брата — хіба ён горш за ўсіх вучыўся? Але брату нічога не сказала, прамаўчала: раз надумаў — хай вучыцца...

Толькі праз паўгода ці трохі болей з таго вучылішча ёй прыслалі паперку, у якой друкаванымі словамі пісалася, што яе брат кінуў вучобу, некуды збег, бы ў ваду кануў. Па яе шчоках пацяклі няпрошаныя слёзы: «Браточак мой, і чаму я, дурная мая галава, пусціла цябе аднаго ў белы свет?..»

Тады не спалася ёй начамі. Як пачуе, што ў суседа, у Паўліка Маланнінага, забрэша сабака,— навострыць слых, не варухнецца: а раптам, думалася, Аляксей прыехаў? Не, мабыць, сабака так сабе гаўкаў... А яна да самага ранку не магла заснуць і адчувала, як у душы варушылася горыч, ад якой сціскала скроні... У трывозе, надзеі і чаканні паплылі дзень за днём...

Услед за той жа паперкай, што прыйшла з вучылішча, заявіўся да Матруны ўчастковы па прозвішчу Малуха, пра якога ў вёсцы казалі, што «ён б'е з-за вуха».

Малуха пацікавіўся, ці не быў яе брацік дома, і яна адказала, што не.

— Глядзі ў мяне, Матруна, калі маніш, то дарма табе гэта не пройдзе, я не дапушчу, каб на маім участку беспарадкі тварыліся.

Яна клялася, бажылася, але ўчастковы ўсё адно ёй не паверыў. Заглянуў у падпечак, дзе зімой начавалі куры, аблазіў цёмны і сыры склеп, з якога вечна пахла бульбай, ператрусіў усё сена ў стажку каля хлява, але таго, каго шукаў, не знайшоў. Раззлаваны, расчырванелы Малуха яшчэ раз прыгразіў:

— Калі дзе схавала, то...

Яна рассмяялася:

— Чалавек жа не іголка...

А затым перапужалася, падумала: «Раз шукае Лёшку міліцыя, то, мусіць, упароў нешта, надалабень, наламаў недзе дроў». Асцярожна папытала:

— Ён правінаваціўся як?

— Людзі ж там галавой за яго адказваюць, а ён сабраў латкі-манаткі — і памінай як звалі, мяне тармусяць, пытаюць, а што я скажу?

Пазвала ўчастковага ў хату, дала яму паабедаць, чарку знайшла, і, выпіўшы, міліцыянер не пераставаў яе ўшчуваць...

Неўзабаве пасля візіту ўчастковага Матруна атрымала ад Бадзея пісьмо. Здалёку, з Растоўскай вобласці пісаў ёй брат. Хваліўся, быццам на шахтах уладкаваўся. «Зараблю грошай — прыеду, купім лесу, пабудуемся, а той курэнь, у якім ты цяпер жывеш, з зямлёй зраўняем...»

Як ні ўсёй вёсцы чытала Матруна тое пісьмо — хай ведаюць, што не гулі гуляе яе брат. І суседу, Паўліку Маланнінаму, зубаскалу гэтаму, які балабоніў, быццам Бадзей сабакам сена косіць, паказала Матруна пісьмо:

— Во пабач сам, то ж ён у самых шахтах, пад зямлёю робіць.

Яна і смяялася, і плакала, і, каб трохі супакоіцца, суняць слёзы, знарок кашляла, пастуквала сябе пры гэтым у грудзі, быццам не ў час, не да месца напаў на яе гэты кашаль.

Сусед, пазіраючы на яе, ні то сур'ёзна, ні то падсмейваўся:

— Чакай, па вясне заявіцца твой браценя, поўны кош грошай прывязе, не толькі табе на хату хопіць, а і я ў позыку папрашуся, а то ў мяне век зроду капейка не вядзецца, як вада святая...

Угадаў Паўлік. Вясною, як толькі людзі адсеяліся, сыскаўся Бадзей. Худы, аж свіціцца, здаецца, наскрозь, ад ветру ледзь не валіцца. Адзежа на ім пакамечаная, заношаная. А ў руках пашэрпаны чамадан. Раскрыла той чамадан Матруна, а ў ім старыя парваныя шкарпэткі ды маленькі кавалак мыла.

— Абакралі мяне,— не пазіраючы ў вочы, апраўдваўся Бадзей.— Заснуў я ў поездзе, ну і...

Слухае гэтую хлусню Матруна — і слёзы самі сабой пасыпаліся з вачэй: яна не крыўдуе на брата, што ён праўды не кажа. Шкада яго: «Мабыць жа, галадаў з дня ў дзень, калі на ім адна скура ды косці...»

Пазірае на брата Матруна і быццам вачам сваїм не верыць, што перад ёю Аляксей, самы родны і дарагі ёй чалавек.

Сабрала ўсе грошы, якія былі ў хаце, і ў магазін пайшла. Трэба ж абуць-адзець брацiка, не паказвацца ж яму на вёсцы ў тым, у чым прыехаў.

Папрасіла, каб ёй паказалі самы лепшы касцюм. І чаравікі самыя модныя і прыгожыя. Хай думаюць, што не з пустымі рукамі вярнуўся Бадзей...

Сустрэў яе з клункамі-пакупкамі ў руках сусед, Паўлік Маланнін. Ён перш недаўменна глянуў на яе, затым скрывіўся, кашлянуў у кулак, каб схаваць усмешку.

— Не казаў я табе? Цэлы чумайдан грошай прывёз твой Бадзей, ага, і сам сыты які, пуза, як барабан, адзежа на ім аж трашчыць.

Зарагатаў, прагаварыў:

— Здаровага бугая поіш-корміш, апошнюю капейку, мабыць, вышкрабла, каб латуны гэтыя ўкупіць яму, а сама пасціш.

— Мелеш, Паўле, што на язык пападзе, хіба я за свае грошы? — зманіла і адчула, як самой стала нядобра.— Ён жа зарабіў, на шахтах па шэсць сот за месяц плоцяць.

— Плоцяць, а як жэ, толькі таму, хто робіць, а не лынды б'е... Хм-м, шэсць сот... Вазьмі зарабі такія гро-

шы — ад мазалёў на руках жывога месца не астанецца, а ў Бадзея...

Яе разабралі злосць, крыўда, хацелася нагаварыць абы-чаго, каб прытрымаў язык за зубамі, калі ён у яго так свярбіць. Але ж праўду, праўду ён кажа... І, не вытаматавіўшы ні слова, пайшла прэч як ні падбежкі. Яе дагнялі Паўлікавы словы:

— Старайся, старайся абуць-адзець яго, памочніка з яго ўсё адно не даждацца, як ціць даць, не даждацца. От пакруціцца дзень-два ён у новых уборах — і моўзне, як ціць даць, моўзне...

Каля месяца жыў у сястры Бадзей, якога хлапчукі толькі і звалі: Бадзей ды Бадзей, быццам гэта не прозвішча, а мянушка...

Хлапчукі хлапчукамі, у іх у галаве адзін вецер, ім усё забаўкі, а чалавек нервуецца, злуецца, месца сабе не знаходзіць... Ды каб жа адны дзеці, а то ж і дарослыя, як маленькія. Пераняді тую мянушку і з языка не спускаюць, толькі і называюць Бадзеем Лысым, хоць ты з хаты не вылазь...

— Паеду я, Матруно, надаело... Кожны зялёны смаркач язык мне паказвае,— засабіраўся Бадзей у невядомую дарогу.

— Не сланяўся б, як непрыкаяны, па сяле, то...

— Не для таго я дзесяць з лішнім гадоў мазгі сушыў...

Не пераставіла брата Матруна. Паклала яму ў чамадан чыстую бялізну, засекла і зварыла на дарогу пеўня, правадзіла на шлях са слязамі...

З таго часу затаіла Матруна ў душы надзею: калі возьме і пабудуе новы дом? Можа, брату не хочацца жыць у цеснай маленькай хатцы? Мо ён жаніцца надумаў, а як ты ажэнішся, калі і самому нельга павярнуцца ў гэтай каморы? Вядома, тады пацясніцца давядзецца, але ж затое не адна будзе ў хаце, а то і пагаварыць няма з кім...

Завяла Матруна чараду свіней: выкарміць парася — і прадасць. І даяркай пачала рабіць у калгасе — а як жа, грошай багата трэба, а даяркам плоцяць добра...

Не залежваліся яе грошыкі: то падводчыкам ці шафёрам заплоціць, што лес перавязлі, то зноў жа — трэба наймаць каго, каб пачасаць-акарыць бярвенні, то за

зруб, за кроквы, за дах... І ледзь не кожны дзень паўлітру купляй. Без паўлітры мужыкі за стол не сядуць...

Чатыры гады прамільгнулі як адзін дзень. Здаецца, яшчэ ўчора яна праводзіла на шлях брата, а ўжо новая хата ўзіраецца ў той бок вялікімі, кожнае ў сем шырокіх шыбак, вокнамі.

У новую хату Матруна прыдбала бліскучую мэблю, купіла тэлевізар, правяла газ. Але сама туды і нагой не ступала. Жыла па-ранейшаму ў старой. Паўлік, сусед, убачыць, як ранкам яна запаліць у печы, падбяжыць пад самыя дзверы, гвалт падымае:

— Ці не звар'яцела ты, жонко? Такую хароміну паставіла, а сама з нары не вылазіш! Каму, скажы, ты беражэш свае новыя сцены? Бадзею? Чакай яго пасля дожджыку ў чацвер.

— Каму берагу — мой клопат, да цябе начаваць не прашуся.

— Дак жэ са свету ты мяне зжывеш, спаліш, як піць даць, спаліш. Выйдзі паглядзі — іскры з коміна, як з паравоза, сыплюцца, хіба ў цябе тут печ — разваліна адна, яе, калі б на добры лад, даўно перакласці трэба.

Паўлік крычыць на яе, аж пабялеў ад злосці і крыку.

— Напішу ў раён пажарнаму, хай прыедзе пагля дзіць, трэба гэтую тваю нару зачапіць трактарам і па паленцу раскідаць, каб не сабрала, дровы з яе до-обрыя будуць, а то згарыць маё селішча, як піць даць, згарыць, і войкнуць не паспееш.

Матруна пужаецца: «Ён можа ўсё зрабіць, грамацей, ведае куды, калі якая трасца, званіць». І просіць-перапрошвае:

— Не пішы, Паўле, заб'ю я сягоння тут дзверы, у новую перабяруся...

Праз дзень-другі гэтая размова паміж Матрунай і суседам пачынаецца зноў. Не хочацца ёй ніяк перабірацца, пакуль брат не прыехаў. І яна, каб астудзіць трохі суседа, пачынае хітрыць:

— Лёгка табе сказаць — перабярыся. А ў етой, як ты кажаш, нары я колькі пражыла і ніколі не хварэла. А ну ж, як перабяруся ды злягу?

Паўліку надакучае пераліваць цэлы ранак з пустога ў парожняе, усё адно, бачыць ён, яму Матруну не перагаварыць, а сварыцца не вельмі і хочацца: суседзі ж яны. І ён замаўкае, адно ціха злуецца, каб не чула Матруна:

— Спрахні ты, цябе толькі зачапі...

Доўга чакала Матруна Бадзея. І вось дачакалася, прыехаў, нарэшце.

— На рэфрыжэратары, на маразільных траўлерах плаваў,— тлумачыў, калі ўвайшлі ў новую хату, Бадзей сястры.— Вечна далёка ад берага, рыба ловіцца, і дзе тут вырвешся...

Казаў гэта Бадзей Матруне, знарок няспешна здымаў з галавы форменную шапку-фуражку з бліскучым брылём і якарам на кукардзе, доўга не вешаў яе, трымаў у руках, затым пачаў расшпільваць верхнія гузікі сарочкі, каб відаць было матроскую цяльняшку. Яму паказалася, быццам сястра, згледзеўшы на ім матроскае адзенне, паверыла, што ён і сапраўды рабіў на караблі, плаваў па морах, бачыў вялікую ваду. Ды чаму б ёй не паверыць, адкуль яна здагадаецца, што ён на тое мора і глядзеў толькі з берага, а акіян і ў сне не сніў? Хіба ёй хто раскажа, што ён бегаў, як той бобік, па марскім вакзале ў Клайпедзе, дзе ўладкаваўся насільшчыкам? Падыдзе да прычала карабель, а ён з нумарной бляхай на грудзях коціць паперадзе сябе тачку-цялежку, чакае, калі яго хто пакліча... Нічога ў гэтым смешнага няма. Работа як работа. Але ж паспрабуй каму скажы, што збег з дому, каб насільшчыкам прыстроіцца, праходу не дадуць...

Кароткім позіркам Бадзей глянуў на хату, маўкліва прайшоўся сюд-туд па пакоях. На яго твары Матруна не заўважыла ні радасці, ні здзіўлення: можна было падумаць, што ён ужо быў у гэтым новым доме не раз і не два і тут яму ўсё вядомае і ўбачанае. І Матруне стала трохі крыўдна, што брат не ацаніў таго, як яна пастаралася для яго. Столькі ж клопату, работы паклала, а ён бы і не прыкмеціў ніякіх перамен. Бы і пры ім стаяў гэты дом. Не дом, а харомы. Пяць пакояў у ім, і ўсе асобныя. А хіба дарма ёй мэблю далі? А газ? Усё, як у гарадскіх кватэрах...

Ды Матруна схавала сваю крыўду. Радавалася, што брат жывы-здаровы прыехаў. У глыбіні душы яна спадзявалася, што ён пасур'ёзнеў і, нарэшце, утаймуе. Вось жа якія пакоі для яго пабудавала. Бяры сабе жонку ды жыві, дзетак раджай. І сабе, і ёй, Матруне, будзе добра. Усё ж не адна, як сыч, у хаце...

Адчыніліся дзверы — і на парозе паявіўся сусед, Паўлік Маланнін.

— Пачуў я, Матруно, гаворку ў тваёй новай хаці дай бачу: першы раз запаліла ты печ тут, а не ў каморы старой. Панюхоў: салам смажаным пахне, падумоў — госці ў цябе, і не прагадаў, як піць даць, не прагадаў.

— Праходзь, садзіса, чарку вазьмі з Лёшыком.

— Ага, трэба замачыць братоў прыезд, і наваселле заадно адзначым, новую хату абмыем, а то вуглы парассыхаюцца...

Выпілі моўчкі, пачалі закусваць. Матруна ўвесь час даставала з печы, брала ў кладоўцы што-небудзь са страў і ставіла на стол, які заставіла хутка так, што і кавалка хлеба не было дзе пакласці.

— Хопіць бегаць, прысядзь, паешь з намі, хіба гэтае усё з'ясі? Роту салдат накарміць можна, а ты усё смажыш, пячэш,— сказаў Паўлік, які ўвесь час пазіраў на Бадзея. Відно было, што ён збіраецца гаварыць з ім, але адразу не рашаецца. І толькі пасля, калі патроху выпілі, ён звярнуўся да Аляксея:

— Хопіць мо, Ляксей, валачыцца па свету, хіба ў нас у калгасе работы сабе не знойдзеш? Ды і сястру пашкадаваў бы, яна ні дня, ні ночы не знала, пакуль будавалася, і ўсё ж для цябе.

Бадзей звузіў свае вільготныя вочкі, паклаў відэлец на стол, паглядзеў у акно, і відно было, што ў думках ён зараз недзе далёка-далёка, мо там, у Клайпедзе, на беразе мора.

— Ты думаеш, Павел, там, дзе я быў, вельмі соладка, думаеш, там абаранкі на дрэвах растуць? Месяцамі зямлі не бачыў,— маніў Бадзей, і не разабраць было, ці то чырванее ён ад хлусні, ці ад выпітага.— Бывала, як зашлёпаем пад якую-небудзь Афрыку, і ловім там... Месяцамі зямлі не бачыў... Затое я класным спецыялістам стаў,— хлусіў і, здаецца, зараз сам верыў у сваю хлусню Бадзей,— ніхто лепей за мяне не мог разабрацца ў халадзільных устаноўках. Ты то хоць разумееш, што такое рыбалавецкае судна без халадзільнай ўстаноўкі? Нуль без палачкі...

— Во, брат, цябе сам бог мне паслаў,— ухапіўся за апошнія Бадзеевы словы Паўлік.— То я ж сабе халадзільнік купіў, самы дарагі і ёмісты, а ён, халера, калі ўключаецца, то як страляюць з гарматы, а як выключаецца, то быццам хто прыносіць у хату добры бярэмак дроў і бухае з усяго маху на падлогу. Ноччу іншы раз так пе-

рапужаешся ад той кананады, што ў халодны пот кідае... Я з хаты ў сенцы перацягнуў яго, але усё адно... Жонка, бывае, спрасонку схопіцца ды як загалосіць, што ў мяне аж мурашкі па скуры запоўзаюць, здаецца, нябожчыка хаваюць... Во, брат, якую падлу за свае грошы прыдбаў... Калі нічога не зрабіць, то ў магілу загоніць мяне той халадзільнік, як піць даць, загоніць...

Прыцэліўшыся адным вокам у Бадзея, Паўлік ледзь не плача, гэта ўжо гарэлка робіць у ім сваё, і ўсё чэпіцца:

— Як ты думаеш, можна яго адрамантаваць?

— Сёння я табе нічога не скажу, а заўтра прыйду гляну, стаміўся я сёння, ды і выпілі мы, сунеш не туды, куды трэба, руку — так стукне, што чэрці з вачэй пасыплюцца.

— То хіба я сказаў, што сягонні, заўтра, канечне, заўтра, толькі ты не забудзь...

Паклаўшы брата спаць, Матруна дастала з шафы грошы і пайшла ў магазін. Учора яна бачыла, як прывязлі мужчынскія гіпюравыя сарочкі. Трэба купіць Аляксею.

— У яго ж залатыя рукі,— хваліла, выбіраючы сарочку, Матруна Бадзея.— Ён бы даўно прыехаў дадому, але ж начальства не адпускала: як жа яны без яго, на караблі ён адзін майстар па халадзільніках.

— Калі так,— пачуўшы яе,— загаварыў старшыня калгаса, магутны і плячысты мужчына з чырвоным абветраным тварам, які заскочыў у магазін купіць папяросы,— мы цяпер яго прывяжам, такія спецыялісты ў нас на дарозе не валяюцца.

Старшыня засунуў у кішэню мехавой курткі папяросы, глянуў на ручны гадзіннік, пайшоў. Рэзка спыніўся, успомніўшы, што яшчэ ёсць нешта сказаць Матруне:

— І хай не думае пра аплату, не горш плаціцьмем, як і на караблі плацілі яму.

Матруна прамаўчала. Не гаварыць жа ёй, што Бадзей прыехаў у адной матроскай цяльняшцы, ліхім панжачку ды з чамаданам з аблупленымі бакамі, у якім пуста, вецер адзін...

Назаўтра, ледзь вывіднела, Паўлік прыбег за Бадзеем, які яшчэ качаўся ў пасцелі і доўга не мог прадраць вочы.

— Табе што не спіцца?

— Паглядзеў бы я, як бы ты спаў, маючы такую заразу, як мой халадзільнік... Другі месяц ён у мяне, і другі месяц я не сплю...

Хочаш не хочаш, а ўставаць Бадзею давялося.

— Спаўняй сваё слова,— не даў яму доўга чухацца Паўлік,— абяцаў жа халадзільнік адрамантаваць?

— У мяне ніякага інструменту пад рукой,— пачаў выкручвацца Бадзей,— а голымі рукамі рамантаваць я не ўмею.

— Пасаціжы я знайду... Ды ты асабліва за інструмент не перажывай, у мяне да халеры ўсяго, я ж гаспадар...

Нехаця пасунуўся Бадзей услед за суседам. Развінціў халадзільнік, разабраў, што разбіралася, а як збіраць пачаў, то тут і паказаў сябе: ані не клеілася ў яго... Прыбегла Матруна, пабачыла, як брат то пацее, то чырванее, і ўсё зразумела... Схапіла за руку ды дадому. Паўлік аж заекатаў над разабраным халадзільнікам:

— Што мне цяпер рабіць з гэтымі запчасткамі? От дурань, от галава два вухі, паверыў Бадзею, як піць даць, паверыў...

Пра тое, як Паўлу Бадзей «адрамантаваў» халадзільнік, хутка ведала ўся вёска. Ні той і ні другі не паказваліся на людзі, ведалі: засмяюць...

Вінавата хаваючы вочы, горбячыся, бы стары, Бадзей месца сабе не знаходзіў у новай сястрыной хаце. Але канчаткова ледзь не даканаў ён Мартуну, калі аднойчы раніцай устаў ні свет ні зара, апрануўся, застыў, знерухомеў каля акна ў большым пакоі.

Матруна, як толькі ўбачыла брата, пачула яго настрой, ледзь не анямела: «Навастрыўся, мабыць, ужо... Што цяпер будзе?»

Аляксей загаварыў адразу, і ўвесь час, пакуль гаварыў, спахмурнела моршчыў лоб:

— Ну што мне рабіць, сястро?

Яна сядзіць насупраць брата на стуле, слухае яго, міжволі ківае галавой, старанна разгладжвае складкі на сукенцы і адчувае, як слёзы да горла падступілі. Але трымалася, прагнымі вачыма ўзіралася ў брата, думала: «Худы ж які... Як ільдзінка, што на сонцы свіціцца... Хоць бы з гадок пажыў у мяне, паправіўся трохі...»

Аляксей таксама вачэй з яе не зводзіць: адчуваў, мабыць, што робіцца ў яе на душы. А яна як ні кіпіць, вось-вось расплачацца, закрычыць, загалосіць...

І тут, бачыць Матруна, маршчыны на лбе ў брата пачалі разгладжвацца, вочы засвятлеліся, распусціліся ва

ўсмешцы губы, і ён перш зняў з сябе матроскую фуражку, затым пінжак.

— Няўжо застанешся?

Спытала і адчула, як лёгка стала на сэрцы: у гэты момант яна ўся свяцілася радасцю і шчасцем.

Аляксей, калі яна трохі супакоілася, сказаў:

— Сходзіш да старшыні... Скажаш — на любую работу пайду.

Даўно чакала ад брата гэтых слоў і вось дачакалася. Ад радасці забылася, што ёй трэба нешта сказаць, і ўвесь час усміхалася.

І толькі зараз, пільна ўзіраючыся ў брата, які стаяў побач, убачыла на яго скронях сівыя валасы, заківала галавою.

— Ох, Аляксей, Аляксей! Якая ж у чалавека жытка без свайго кутка, без сям'і?

## Ліст у адказ

Сёння палатны ўрач агледзеў яго і сказаў, што нага зраслася няправільна, можа быць фальшывы сустаў. Ён не стаў дапытвацца, хоць і не разумеў, што гэта такое — фальшывы сустаў. Раз патрэбна аперацыя — рабіце. Толькі хутчэй дайце вырвацца адсюль, памажыце стаць на ногі, каб можна было прайсціся без кійкоў і мыліц...

Ён, Віктар, верыць урачам, спадзяецца на іх...

Прывык пераносіць, цярпець боль і пакуты, што выпалі на яго долю. Прывык да бальніцы, да палаты, у якой ляжыць трэці месяц...

Як толькі развідняе, у палату ўваходзіць сястра — для яго, Віктара, Любоў Філімонаўна, для старэйшых проста Філімонаўна. У доўгім белым халаце, на галаве — не шапачка, як у іншых сясцёр і нянек, а трохвугольная касынка, завязаная маленькім вузлом ззаду на шыі. У руках у Любові Філімонаўны шпрыц іголкай уверх.

Хоць ён і не навічок у бальніцы, але яму кожны раз цікава назіраць, як хворыя адносяцца да ўколаў. Адны зусім спакойна, амаль маўкліва, не крывяцца і не моршчацца, але, праўда, і не радуюцца, пазіраюць у столь ці ўважліва слухаюць, як сястра трэ намочаным у спірт кавалачкам ваты руку або ягадзіцу, падымае да вачэй шпрыц, выпускае пухіркі паветра, затым рэзка ўзмахвае, уводзіць іголку ў цела... Другія, убачыўшы сястру са шпрыцам, вачавідкі мяняюцца, робяцца мітуслівымі, уздрыгваюць, пачынаюць гаварыць пра што папала... Трэція, наадварот, замаўкаюць, становяцца ціхімі і нерухомымі... І Віктара вельмі здзіўляе тое, што адзін чалавек, на першы погляд шчуплы, нямоглы, вельмі спакойна пераносіць боль, а другі, хоць і рослы, дужы, але як толькі да яго набліжаецца сястра, нібы палохаецца...

— Хто гатовы? — пытанне тычыцца ўсіх, але кожны марудзіць, быццам нешта выгадвае, чакае, калі сястра пройдзе міма яго. Асабліва баяцца ўколаў навічкі, тыя, хто ў палаце нядаўна. І па прывычцы Любоў Філімонаўна падыходзіць перш да «ветэранаў» — суседа па ложку Грышкі, а потым да яго, Віктара.

Віктар пазірае, як Грышка скідае з сябе коўдру, ціха гаворыць:

— Пашкадуйце, сястрычка, сядзець жа не будзе на

чым, калі папраўлюся, у мяне ж азадак, як рэшата, скалолі да таго, што на адных, здаецца, баляўках.

— Не трэба было да нас трапляць.— Голас у сястры суровы, і Грышка разумее, што дарма просіць, яму не выкруціцца, не адгаварыцца, бо ўсё, што назначана ўрачом, Любоў Філімонаўна зробіць...

Пасля сястра падыходзіць да яго, ён паспявае разгледзець яе твар: яшчэ вільготны пасля ўмывання, ён здаецца шэрым і нездаровым, а вочы, заўсёды жывыя, усмешлівыя, сёння чамусьці пустыя, са шкляным халодным бляскам.

— Цяжкая ноч была? — Ён адчувае, як там, дзе ўкалола сястра, пячэ — ажно хочацца пагладзіць рукой ці зрабіць масаж...

— Усё, усё, размагніцься, зараз пройдзе,— сястра зразумела, што яму хочацца пагаварыць з ёй, каб заглушыць гэты востры, які працінае ўсё цела, боль, і стараецца заспакоіць, і ён удзячны ёй за гэта.

Сястра на хвіліну садзіцца на краёчку яго пасцелі.

— У цябе ўсё будзе добра, к восені заскачаш...

Яна заўважае на тумбачцы канверт, з якога відаць загорнуты ліст. Ёй цікава, мабыць, спытаць, хто яму напісаў, але яна спахопліваецца, ідзе да дзвярэй: хутка ранішняя пяцімінутка, урачэбны абход, а яшчэ не ўсё зроблена...

Ён бярэ з тумбачкі канверт, адчувае, як трымціць у пальцах ліст. Каторы раз ён перачытвае ліст і кожны раз спыняецца на словах: «...папраўляйся, я чакаю цябе...» Можна падумаць, што з ім нічога страшнага не здарылася, а так сабе, катар, які не сёння-заўтра пройдзе. І быццам толькі ўчора яны расталіся: «...Ніякіх перамен, усё па-ранейшаму...» Не, ён не чакаў ад яе гэтага холаду, гэтай крыўднай стрыманасці. Думаў пра яе інакш. Няўжо яна вадзіла яго за нос?

На душы робіцца горка... Да ўсяго ён прывык за апошнія месяцы: болю, пакуты, бяссонных начэй... А як прывыкнуць да гэтага пісьма?..

Калі заканчваецца ранішні ўрачэбны абход, у палаце яны застаюцца ўдвух з Грышкам. Усе, хто на нагах, пасля абходу пакідаюць палату, падаюцца ў прасторнае фае. Цяпер пачатак лета — сырога, дажджлівага. Сярэдзіна чэрвеня, а яшчэ цвіце чаромха: высакосны, халодны год. Пачаўся ён для Віктара крута, з бальнічнага ложка...

З вясны яшчэ не цяплела як след. Людзі не скідаюць з сябе плашчы. Да іх у палату прыходзяць адведваць сваіх, і Віктар кожны дзень бачыць пасінелыя ад гэтых чаромхавых халадоў твары...

Зараз ён напаўляжыць, паклаўшы падушку пад спіну. Яго ложак каля самага акна, і ён, прачыніўшы раму, пазірае на двор. Сёння першы дзень, калі з раніцы няма дажджу, і ў бальнічны сквер высыпалі з прапахлых лекамі бальнічных карпусоў хворыя. Ходзяць невялікімі кампаніямі, парамі: за час, што ляжаць тут, паспяваюць завесці сяброў, з якімі, мабыць, не перастануць дружыць, калі выпішуцца.

Па адзенню, паходцы, выразу твару Віктар пазнае, хто з якога аддзялення. Тыя, што ў новенькіх халатах, усміхаюцца — з тэрапеўтычнага. Яны — самыя «лёгкія». Такія не залежваюцца, тыдзень, самае большае два — і дадому. А тыя, што ў доўгіх сініх балахонах — з уралогіі. Яны не такія вясёлыя і хуткія на ногі. Гэтым да выпіскі няблізка... Пасярэдзіне алеі ідзе малады, як і ён, Віктар, хлопец. Яго вядзе за руку нянька: у хлопца туга забінтаваны вочы, праз бінты выступае ружовымі плямамі-пятакамі кроў. Гэты з хірургічнага. Кожны раз, калі Віктар бачыць хлопца з забінтаванымі вачыма, яму робіцца страшна і балюча, у грудзях халаднее. Ён, Віктар, не можа ўстаць з ложка без дапамогі, але хоць глядзіць на белы свет, бачыць, як зеленеюць лісты на дрэвах, як цвіце чаромха і ходзіць сонца па небе... А гэты з бінтамі на вачах жыве як уначы, вакол яго толькі гукі. І, мабыць, боль... Ці надоўга? Кожны спадзяецца, што паправіцца. Без веры паправіцца цяжка...

Ён сціскае кулакі, пазірае на рукі: у правай усё яшчэ трымае ліст ад яе...

Уваходзіць Любоў Філімонаўна. У руках яе бінты, бутэлечка з маззю Вішнеўскага, нажніцы. Ідзе да яго... І ад першых яе дотыкаў да засохлых, прыкарэлых да цела бінтоў, яго кідае то ў жар, то ў холад. Уколы для яго не такія страшныя, як перавязкі. Укол для яго звычайная рэч. А калі сястра здзірае з параненага месца бінт, то ўсё цела быццам хто гарачым ражном працінае. Каб не застагнаць, да крыві кусае губы, пачынае лічыць... У вачах скачуць-мільгацяць жоўтыя кропкі... Ён зноў успамінае пра ліст: «...Прабач, што дасюль не наведалася...»

Уяўляе яе светлавалосую, з вяснянкамі на твары, белазубую, у доўгай, па апошняй модзе, сукенцы... Як ён ёй верыў! Як іравўся да яе! Ледзь толькі канчалася змена, і ён, наспех пераапрануўшыся, бег са свайго рамонтна-механічнага цэха, дзе працаваў начальнікам участка, бег на аўтобусны прыпынак... Хацелася хутчэй пабачыць яе, хацелася пачуць яе голас, паглядзець у яе вялікія разумныя вочы...

Няўжо яны ўсе такія — пераменлівыя?..

Сястра хутка зрабіла перавязку, боль паволі сціхае. Ён адчуў, што сёння ў палаце вельмі душна. Яму становіцца млосна ад гэтай духаты, і ён кліча няньку, каб падала каляску: надумаў выехаць на двор...

Колы ў калясцы слаба напампаваны, і гэты «тарантас» не вельмі слухаецца яго: увесь час перадок заносіць то ўправа, то ўлева, не прывык ён да такога транспарту, не ўмее кіраваць ім... Але трэба вучыцца... Спалохаўся, калі ўрач, першы раз аглядзеўшы яго, спытаў: «Вы мужны? Мацуйцеся, інжынер... Жыццё мы вам адваявалі, а вось ногі...» Вочы ў палатнага ўрача сталі сумнымі, твар спахмурнеў, ён, бы правінаваціўшыся, пераміnаўся з нагі на нагу, заглядваў у гісторыю хваробы. «Словам, пакуль, хлопец,— сказаў яшчэ ўрач,— будзеш на калясцы катацца... А там паглядзім... На жаль, мы, медыкі, не ўсё ведаем і можам...»

Удзячны ўрачу за праўду. Ён не з тых, каму больш даспадобы салодкая хлусня, а не горкая праўда. Ведаючы праўду, ён не стаў жыць ілюзіямі, спадзеўкамі на нейкае дзіва ці цуд... Дзівос не бывае. Гэта ён зразумеў, трапіўшы ў бальніцу. За сябе, за сваё жыццё, калі здарылася бяда, трэба ўмець змагацца. Трэба сабраць усю волю ў кулак, усю энергію і сілу, якія яшчэ засталіся ў ім, і прымусіць ногі слухацца, хадзіць...

Нядаўна Віктар прачытаў у часопісе, што адзін маскоўскі ўрач, які скокнуў на лыжах з трампліна, зламаў сабе пазваночнік. Усе, літаральна ўсе ўрачы ў адзін голас казалі, што ён больш ніколі не будзе хадзіць... І якой нечаканасцю было для ўрачоў, калі праз тры гады яны ўбачылі свайго пацыента-калегу, што ішоў па вуліцы проста з кіёчкам у руцэ. Не, ніякага цуду тут не адбылося. Усе тры гады ўрач займаўся фізкультурай, як мог, дабіраўся да плавальных басейнаў і гадзінамі плаваў... І ён, Віктар, надзвычай рады, што гэты часопіс трапіў

яму ў рукі. Цяпер ён ведае, што трэба рабіць, каб выратаваць свае ногі...

Спыняецца ў зацішку ад ветру пад старой, тоўстай, з сухімі трухлявымі і выдупленымі сукамі, ліпай. Сюды, у глухі куточак скверу, заходзяць мала, і ён упершыню за апошні час застаецца сам-насам са сваімі горкімі думкамі... Як гэта проста — устаць, пакінуць каляску і пайсці. І ён пайшоў бы. Прымусіў бы сябе сілай устаць. Важна зрабіць першы крок. Але гэты фальшывы сустаў... Віктар думае, што каб не такое пісьмо ад яе, то яго косці зрасталіся б хутчэй...

Адсюль, з бальнічнага двара, дзе цяпер ён сядзіць на калясцы і абдумвае тое, што адбылося-здарылася з ім, відаць круты пагорак. Гэта зусім блізка ад хірургічнага корпуса. Пагорак знізу вымыты ліўневымі дажджамі, парослыя леташняй парыжэлай травой, праз якую густа прабілася маладая сяголетняя зяляніна.

Віктар пазірае на пагорак і ў душы здзіўляецца таму, што бачыць. Над самым краем пагорка, там, дзе зямлю вымыла і пазносіла вадой, з добры дзесятак дэкаратыўных дрэўцаў — маладых, невысокіх, пасаджаных тут, мабыць, гадоў пяць-сем назад. Карані ў дрэўцаў агаліліся, ствалы ад ветру нагнуліся і, здаецца, вось-вось прыніКнуць да зямлі. «Якія яны ўпартыя,— думае ён,— супраціўляюцца з усіх сіл... Вецер ломіць і гне іх, зямля асыпаецца з-пад каранёў, а яны як могуць чапляюцца за жыццё... Як і чалавек...»

Вецер сёння ціхі, з поўдня, цёплы, і ён не заўважыў, як прыдрамнуў. Усяго хвілін на пяць — не болей. Прахапіўся — і ўбачыў непадалёк на лавачцы Грышку, свайго суседа па ложку. Побач з ім — яго жонка: маладзейшая за свайго мужа гадоў на пяць, мілавідная, строгая і негаваркая. Яна прыходзіць кожны дзень. У накінутым на плечы халаце сядзе каля Грышкавага ложка, скажа адно-два словы — і маўчыць. Віктар пазірае на яе і думае, што яна па-сапраўднаму кахае свайго мужа: хоць яна і маўчыць, але глыбока ў вачах у яе затаіўся сум, яна, здаецца, пакутуе, і тыя яе пакуты, думаецца Віктару, адклікаюцца балючым рэхам у яе грудзях, і невядома, колькі так будзе працягвацца, бо да папраўкі Грышку няблізка...

Сядзіць у палаце каля Грышкі жонка нядоўга. Яна памагае яму апранацца, бо сам ён не можа, у яго нешта

з нервамі, дрыжаць рукі і ногі, і ён доўга не можа зашпіліцца... Няўпэўненай, дрыготкай паходкай Грышка выходзіць з палаты, жонка за ім. У любую хвіліну яна гатова падхапіць яго, калі ён не ўстаіць, страціць раўнавагу... Праводзячы іх вачыма за дзверы, Віктар думаў, што яго суседу па ложку ўсё ж лягчэй: ён на нагах і каля яго жонка. Але сястра, Любоў Філімонаўна, на вуха раз шапнула яму, што ў яго, Віктара, справы куды лепшыя, бо маладыя косці рана ці позна зрастуцца, на жывой касці мяса нарасце...

Сёння Грышкава жонка зноў побач з мужам, на лавачцы, якая непадалёк ад старой ліпы, дзе сядзіць цяпер Віктар. На лавачцы яны не заседжваюцца. Жонка памагае Грышку ўстаць, бярэ яго пад рукі, дае мыліцы, і яны кіруюцца да кароткай, усяго з сямі сходцаў, лесвіцы, па якой усе спускаюцца ў бальнічны сквер, калі прыходзяць з горада.

Грышка доўга стаіць перад лесвіцай, не асмельваецца ступіць. Хоць ён і абапіраецца на мыліцы, яго хістае. Жонка падбадзёрвае яго, ціха гаворыць, мабыць, свае звычайныя добрыя словы. Яна варушыць губамі, усё нешта гаворыць і гаворыць свайму Грышку, які як прырос да аднаго месца. Жонка, мабыць, заўважае, што за імі назірае ён, Віктар, пачынае хвалявацца, расшпільвае і зашпільвае на кофце бэзавага колеру адзін і той жа гузік.

— Лёгка вучыць іншых, улезла б ты ў маю скуру,— далятае да Віктара Грышкаў голас.

Сусед па ложку стаіць цяпер да Віктара спіной, твару яго не відаць, але Віктар уяўляе, які ён напружаны. У Грышкі заўсёды, калі паяўляецца жонка, мяняецца настрой: ён становіцца ціхім, але раздражнёным. Ён, здаецца Віктару, стараецца зрабіць так, каб ёй стала балюча, злуе ад таго, што ён вось тут, хворы, а яна здаровая... Але хіба ў чым яна вінавата? Яна, здаецца Віктару, гатова сама захварэць, абы памагчы яму выкараскацца адсюль, гатова на любую ахвяру дзеля чалавека, з якім звязала свой лёс... Кожны дзень, прыйшоўшы, яна правярае, ці ў чыстым ён, ці свежая на яго пасцелі бялізна. Раз ці два на тыдзень яна водзіць яго ў бальнічную душавую, Віктару здаецца, што не кожная маці так можа клапаціцца пра свайго сына. Але яна, здаецца Віктару, залішне стараецца. Не малое дзіця Грышка, як-

небудзь мог і сам тое-сёе зрабіць. Хоць бы навёў парадак у сябе на тумбачцы, на якой побач са шклянкай з варэннем — разгорнутая кніга. Дык не, і пальцам не паварушыць, чакае, калі з'явіцца жонка... Віктару не раз хацелася крыкнуць на Грышку, трохі прысароміць яго, калі той пачынаў злавацца на жонку, якая круцілася каля яго бы заведзеная. «Перастань з яе здзекавацца,— хочацца сказаць яму,— хіба ты не бачыш, як яна марнее з-за цябе? Кроку без яе не ступіш, а голас падымаеш... Яна ж кахае цябе...»

Але кожны раз, калі ён збіраўся сказаць што-небудзь рэзкае, згадваў пісьмо, атрыманае ад той, якую пакахаў. Думаў: калі б і яна так часта наведвала яго, ён, мабыць, пісаў бы ёй сумныя адказы, скардзіўся на свой няшчасны лёс. У бальніцы ён не раз думаў пра сябе, пра сваё жыццё, і яму рабілася крыўдна, што так усё склалася... Яму было шкада самога сябе... Праўда, ён стараўся гнаць прэч такія думкі, не хацеў распускаць нюні, расслабляцца... Без душэўнага тормазу, без сілы волі з бяды, у якую ён трапіў, так проста не выкараскацца... Яму цяжка іншы раз стрымліваць сябе, каб не нагаварыць чаго лішняга і рэзкага няні, сястры, урачу, бо ў глыбіні душы рос горкі камяк, да якога прымешваліся злосць, трывога і страх. Вялікім напружаннем волі Віктар супраціўляўся, пачынаў думаць пра яе пісьмо, уяўляць яе, успамінаць яе паводзіны ў апошнія дні. То яна была вясёлай і радаснай, то ўвачавідкі станавілася задумлівай і сумнай. У ёй з'яўлялася нешта недаступнае, што рабіла яе загадкавай, строгай і далёкай. З таго часу ён пачаў раўнаваць яе. Да каго і да чаго? Ён і сам не ведаў...

Зараз ён пазірае, як Грышка ставіць мыліцы на першы прыступак лесвіцы, напружваецца, доўга не рашаецца зрушыць з месца, і чуваць, як жонка настойліва, але неназойліва падбадзёрвае яго:

— Ну чаго ты дрыжыш? Гэта ж так проста: перасіль свой страх — і ўсё...

Пакутлівым рыўком Грышка прымушае сябе зрабіць адзін крок — і ён на прыступцы. Стаіць і ўсміхаецца, пазірае на жонку. А яна быццам нічога не бачыць, не чуе, не разумее. Не зводзіць са свайго Грышкі вачэй, і Віктар нават адсюль, з-пад ліпы, бачыць, як вочы ў яе заблішчалі слязамі.

— Ну вось... пачатак ёсць... Ты будзеш хадзіць, будзеш, павер мне... Галоўнае, каб ты не баяўся... Чаго табе дрыжаць — я побач, рукі ў мяне дужыя,— у яе голасе радасць, трывога, яна і плача, і смяецца адначасова, і ледзь не задыхаецца ад нечаканага пачуцця. Яе слёзы ўзрушваюць Грышку: ён гатовы вытрымаць любое выпрабаванне, але толькі не жончыны слёзы. Калі яна плача, ён адчувае сябе бязвольным, слабым, вінаватым. Але, на шчасце, жонка хутка авалодала сабой, памагае мужу перастаўляць мыліцы вышэй, на другі прыступак.

Віктар слухае, як жонка ледзь не моліць, каб Грышка смялей вучыўся хадзіць, і адчувае, што яму становіцца добра ад гэтага яе настойлівага голасу. Ён уважліва сочыць за тым, як таварыш па няшчасцю пераадольвае сябе, і гэта захоплівае яго, ён забывае пра холад, не заўважае, што твар у яго пасінеў, а па хворых нагах як бы запоўзалі мурашкі.

— ...Ты сёння ў мяне проста малайчына,— ледзь не затанцавала жонка, калі Грышка апынуўся на другой прыступцы.— Мы ўтром насы ўрачам-прарокам, мы ім дакажам...

Віктар слухае голас Грышкавай жонкі, а ў вачах стаіць яна: то строгая, то ўсмешлівая, асляпляльна-свежая, вузенькія, вышчыканыя пінцэтам бровы часта, без усялякай прычыны кратаюцца, тонкія, сцягнутыя ў адну нітку губы не варухнуцца, а вялікія вочы не могуць спыніцца ні на чым, перабягаюць з прадмета на прадмет...

Пасля работы ён сустракаў яе ў Цэнтральным парку. Ён любіў прагулкі з ёй, і ледзь яны аказваліся ўдваіх, то тады ж, здавалася яму, вакол іх узнікаў уласны, асаблівы свет, у якім яны адны, і ніхто ім болей не патрэбен. Ён пачынаў глядзець на ўсё яе вачыма, і тое «ўсё» станавілася цікавым, крышачку таемным.

Яны заходзілі ў самы глухі куток парку, дзе было ціха, доўгія цені ад дрэваў клаліся на зямлю. У тым куточку заўсёды малалюдна. Толькі па асфальтавай сцежцы хадзілі па адным, па два мужчыны-пенсіянеры, якія рабілі па сцежцы круг за кругам, мабыць, думаў Віктар, то сардэчнікі, для якіх гэтыя кругі па парку — самыя лепшыя лекі...

Побач быў цір, і адтуль даносіліся прыглушаныя

гукі — стралкі, як і карцёжнікі, калі дападуць да сваёй «гульні», то не выйдуць з ціра, пакуль не стомяць вочы.

Трохі далей за цірам паволі круцілася «чортава», ці, як называюць яго інакш — панарамнае кола. Кабіны, прылепленыя да кола, днём заўсёды амаль свабодныя, толькі там-сям сядзяць пары, бацькі з дзецьмі. Кабіны тыя, афарбаваныя ў белы колер, падымаюцца ўгару, апускаюцца, мільгаюць, здавалася Віктару, як мільгае крыло чайкі пры палёце.

— Пракоцімся? — жартаўліва пытае ён, пазіраючы на кола, і яна згаджаецца.

Падымаюцца ўверх ціха, амаль непрыкметна. Чуваць, як парыпваюць ад натугі ці тросы, ці якая нязмазаная вось. Нарэшце яны ўжо каля самых верхавін бяроз, таполяў і сосен, якія растуць у парку. Адтуль, з вышыні, добра відаць, што голле на дрэвах рэдкае, лісце не ярка-зялёнае, а як бы прыпудранае сіваватым пылам... Яны бачаць увесь парк, які здаецца такім маленькім і цесным. Парк з усіх бакоў акружаны высокімі шматпавярховымі дамамі, вуліцамі, па якіх, здаецца, не імчаць, а поўзаюць, паволі размінаючыся, аўтамабілі... А вось бліснула вада. Гэта возера. Яго берагі як бы аблеплены кропкамі. «Кропкі» — людзі. Летам на возеры з раніцы да позняга загараюць, купаюцца... За возерам — поле, вёсачка з малымі, прысадзістымі дамамі. Горад пачаў абходзіць вёсачку з абодвух бакоў, як бы ўзяў яе ў абцугі і гэтым самым даў зразумець яе жыхарам, што не доўга засталося ім раскашаваць у прыватным сектары, дзе свае сады, агароды, бо не сёння-заўтра іх знясуць, перасяляць, а на гэтым самым месцы паставяць каменныя гмахі...

Яму здавалася, што адтуль, з вышыні, можна не толькі лепш разгледзець парк, дрэвы, дамы, вуліцы, а і сваё жыццё. І ён імкнуўся зразумець тое, што адбываецца з ім. Ён як бы пазіраў на яе з гэтай вышыні, хацеў зразумець яе... Ён, мабыць, задумваўся, душэўнае напружанне расло...

Калі кола спынілася і яны сышлі на зямлю, ён убачыў, што яе хістае. У яе, мабыць, кружылася галава, бо яна яшчэ ніколі не падымалася так высока. Ён узяў яе пад руку, хацеў падтрымаць.

— Не, усё добра,— пастаралася заспакоіць яго.

Ён пазірае на яе і заўважае, што ад невялікага хва-

лявання яна як бы папрыгажэла... Чакае, што яна скажа. А яна маўчыць. Яна амаль заўсёды маўчала, і нічога не абяцала яму. Яна толькі неяк дзіўна пазірала на яго...

Памалу ён забывае яе пісьмо. Яму зрабілі трэцюю аперацыю, і пасля аперацыі косць у назе болей не патрэсквае, як раней, значыць, нага зрастаецца. Сястра, Любоў Філімонаўна, гаворыць яму:

— Скажы дзякуй палатнаму ўрачу — рукі ў яго залатыя, добра цябе склеіў, выйдзеш ад нас, то і не падумаюць, што ў бальніцы быў.

У палаце ён не залежваецца. Садзіцца на каляску, якую чамусьці ўсе называюць «лунаходам», і выязджае ў бальнічны сквер. На дварэ ўсё яшчэ холадна. Кажуць, што гэта чаромхавыя халады і яны адыдуць, калі адцвіце чаромха, якая сяголета, здаецца, цвіце вельмі доўга.

Дакочвае рукамі «лунаход» да старой ліпы, спыняецца. Тут зацішак, не так холадна, яго тут ніхто не заўважае, бо ліпа і густыя кусты з тонкімі і кароткімі, як у брусьнічніку, лістамі закрываюць яго. Затое яму добра відно ўсё, што робіцца ў скверы.

Кожны, амаль кожны дзень жонка прыводзіць Грышку да лесвіцы і вучыць яго падымаць ногі на прыступкі, вучыць хадзіць. Цяпер яго сусед адольвае ўжо тры прыступкі. Цэлых тры! Праўда, у яго ўсё яшчэ дрыжаць ногі, ківаецца галава. Але, здаецца Віктару, упэўненасці ў Грышкавай хадзе трохі прыбавілася. Цяпер ён можа сам апрануцца, без дапамогі выбірaецца на двор, садзіцца на лавачку, што каля іхняга корпуса, і чакае сваю жонку, якая прыходзіць акуратна, з дня ў дзень, як на работу...

Сёння падобна на тое, што Грышка сабраўся пабіць уласны рэкорд — наважыўся адолець і чацвёртую прыступку. На першыя тры, хоць і не без напружання, ён забраўся хутка. А перад чацвёртай спыніўся, задумаўся, пачаў азірацца па баках, утаропіўся вачамі ў дол — і ні з месца.

— Не спяшайся. І дыхай спакойна. Ага, вось так. А цяпер давай,— жонка стаяла з працягнутымі рукамі спераду Грышкі, клікала яго да сябе, усміхалася шырока і светла, і тая ўсмешка гаварыла, каб ён, яе муж, нічога не баяўся, бо побач жа яна, яго надзея і апора...

Пазірае Віктар на Грышку і думае: ці расходзіцца ён? Ці перастануць дрыжаць у яго рукі і ногі? Калі ёсць хоць самая малая надзея, то абавязкова закіне мыліцы. Бо ён адчувае ўвагу і пяшчоту да сябе, якія так патрэбны чалавеку, калі яму цяжка... Жончына ўвага, дабрата робяць тое, што не могуць зрабіць дактары,— Грышка пачаў хадзіць, з кожным днём расходжваецца болей і болей...

Ён трохі задумаўся, але ўсё адно заўважыў тое, як Грышка спрабуе адолець сёння і чацвёртую прыступку. Моцна апіраючыся на мыліцы, ён пераставіў адну нагу, памкнуўся быў падцягнуцца вышэй усім целам. І калі заставалася зусім нямнога, страціў раўнавагу, мыліцы выслізнулі з яго рук, ён не ўстояў, упаў, выцягнуўшы рукі ўперад. Віктар убачыў, як спалатнеў у Грышкавай жонкі твар: спачатку ён пабялеў, затым пажаўцеў, на ім ніводнай жывой крывінкі. Яна тут жа кінулася да мужа, каб памагчы яму ўстаць.

— Не трэба! Ідзі адсюль, я не хачу тваёй міласціны, не хачу цябе бачыць.

Жонка так і застыла на адным месцы, а Грышка прыўзняўся, спрабаваў устаць сам, але гэта ў яго не выходзіла, і ён сеў на прыступку. Жонка памкнулася выцерці яму насоўкай рукі, якія ён запэцкаў у пясок, але ён так крыкнуў на яе, што яна бы астаўбунела ад яго слоў.

— Не лезь да мяне! Я ненавіджу цябе, бо ты прыходзіш сюды, каб пашкадаваць мяне, а я не хачу, каб мяне шкадавалі, не хачу...

Яна пайшла, а Грышка яшчэ доўга заставаўся сядзець, пакуль не ўбачыла яго няня і не памагла яму...

Ноччу Віктар прачнуўся, пачуўшы, што нехта ціха, у падушку, плача-ўсхліпвае. Прыслухаўся: плакаў Грышка. І Віктар падумаў: зусім сталі слабымі і нікудышнымі нервы ў Грышкі, хвароба падтачыла іх, а тут яшчэ ні з таго ні з сяго пасварыўся з жонкай, якая ўсю сваю жаночую любоў і пяшчоту аддае яму, робіць усё, што можа, каб суцішыць яго пакуты.

Ён хацеў загаварыць, сказаць якое добрае слова, каб супакоіць суседа. Але ў палаце спалі, і ён пабаяўся, што разбудзіць усіх. Ды і ці памогуць яго ўгаворы Грышку? Мо і добра, што паплача, яго слёзы горкія, салёныя, але ад іх яму павінна стаць лягчэй...

Да самай раніцы Віктару не ўдалося заснуць. З адкрытымі вачамі ён ляжаў на ложку і спрабаваў разабрацца ў тым, што адбылося за апошні дзень. Пра пісьмо, якое адразу так узрушыла яго, ён як бы забыўся зусім. Ён думаў пра Грышку і яго жонку: ці памірацца яны?

Ні заўтра, ні паслязаўтра яна не прыйшла. Грышка сам з цяжкасцю апранаецца, выходзіць з палаты, дабіраецца да лесвіцы ў скверы, спрабуе падымацца па прыступках. Яму ўдаецца адолець усяго дзве прыступкі... Ён вяртаецца на лавачку, што каля хірургічнага корпуса, адпачывае і зноў набліжаецца да лесвіцы. Але ў яго хапіла смеласці і сілы зноў толькі на другую прыступку... «Які чалавек моцны, але які ён і слабы,— думае, седзячы на калясцы і пазіраючы на Грышку, Віктар,— без падтрымкі, без пяшчоты і ўвагі, мабыць, не толькі хворы, а і любы чалавек становіцца бязвольным, слабым...»

Мінула яшчэ два тыдні. Віктар ужо з дзвюма кавенькамі ў руках паціху мог кульгаць па бальнічным двары. Доўга хадзіць ён не мог, бо кружылася галава і не трымалі ногі. Асабліва стамлялася правая, якую ўрачы-артапеды аперыравалі тры разы. Правай нагі ў яго «хапала» ўсяго на якіх-небудзь метраў дзвесце. А затым калена падгіналася, і яму як ні на руках, даводзілася дабірацца да бліжэйшай лавачкі. Садзіўся — і адчуваў, як балюча ныюць адвыклыя ад хады ногі, а на душу нагортваўся пякучы адчай: «Няўжо не расхаджуся, не акрыяю?»

І тут заўважыў Грышку. Ён зноў падымаўся па лесвіцы. Каля яго, чуць усміхаючыся, стаяла жонка. І Грышка, здаецца, сёння не падобны сам на сябе: упэўнены, засяроджаны, смелы, яго амаль не хістае. Вось ён адолеў ужо тры прыступкі, пераступіў на чацвёртую, пачаў падымацца на пятую...

— Ну, Грышка, ну яшчэ трошкі — і мы на самай вяршыні...

Сёння ўпершыню Грышка адолеў усю лесвіцу. І, здаецца, не столькі радаваўся ён, як радавалася за яго жонка: з яе твару доўга не сыходзіць мілая ўсмешка. Зараз Грышкава жонка не такая, якой была ў той, апошні раз, калі Грышка пасварыўся з ёю. Тады яна была ціхая, вялая, бледнатварая, а цяпер трошкі загарэлая, з бліску-

чымі вачыма, усмешлівая... Такімі радаснымі і шчаслівымі Віктар бачыць іх упершыню... Ён спакойна ўзіраецца ў іх, услухоўваецца, пра што яны гавораць... І ён, Віктар, адчувае, як перастаюць ныць яго ногі. Яму хочацца падняцца і ісці. І ён падымаецца і ідзе, не аглядваючыся назад, на свайго суседа па ложку. Робіць першы крок, другі... Ногі трымаюць. І правае калена не падвіхаецца...

Вярнуўшыся ў палату, Віктар дастае ручку, паперу, садзіцца на ложак бліжэй да тумбачкі, з якой прыбірае ўсё лішняе. Ён нарэшце адважыўся адказаць на яе пісьмо. На пісьмы трэба адказваць, а ён дасюль маўчыць, не ведаў раней, што напісаць ёй. Цяпер ён ведае, што напіша.

«...Тое, што я зараз раблю, мабыць, усхвалюе цябе, але я абавязаны сказаць табе словы, якія кіпяць у мяне на душы. Ты можаш сказаць, быццам яны, гэтыя словы неразумныя і нікому не патрэбныя, ды я спадзяюся, што ты хоць на кропельку зразумееш мяне...

Я ніколі не прызнаваўся табе ў каханні, бо ніколі да канца не разумеў цябе, тваіх адносін да мяне: ты заўсёды ўмела хаваць ад мяне свой настрой, а твае вялікія прыгожыя вочы нічога не гаварылі. І сёння, развітваючыся з табой, магчыма, назусім, я хачу сказаць, як бывае цяжка чалавеку, калі ў сваім горы ён застаецца адзін, забыты самымі блізкімі сябрамі... Але мне ўсё ж пашчасціла. Тут, у бальніцы, я ўбачыў, як умеюць кахаць... Скажу больш: тое чужое каханне саграваладмяне, яно як бы адводзіла ад мяне ўсе горкія думкі, давала веру...

Не падумай, быццам мною валодала нешта падобнае на страх. Я нічога не баюся, хаця, прызнаюся табе, іншы раз роспач ірвала маю душу на часткі...

Цяпер, здаецца, усё ззаду: і бяссонныя ночы, і надакучлівыя чаромхавыя халады, якія так доўга не давалі вылазіць з душнай палаты. Ты не падумай, быццам я пішу табе са злосці або каб балюча ўкалоць цябе. Помсціць, хаця б і ўскосна, я не хачу. І не хачу, каб ты калінебудзь перажыла тое, што перажыў за гэтыя месяцы я...

На тваіх плячах цвярозая галава, і, спадзяюся, у цябе хопіць розуму болей не трывожыць мяне. Не бойся — я не сап'юся і не загіну. Перажыў адно гора, перажыву

як-небудзь і наш з табою разлад... Як складзецца маё далейшае жыццё — не загадваю і ніякіх планаў у мяне пакуль што няма. Адзінае, што магу табе на развітанне сказаць — пабыўшы тут, у бальніцы, я па-другому стаў глядзець на гэты белы свет...»

Закончыўшы пісаць, ён запускае пальцы ў валасы, перачытвае, але ні слова не папраўляе, доўга думае і, нарэшце, кладзе ліст у канверт, заклейвае.

Яшчэ праз тыдзень Віктар хадзіў ужо не з дзвюма, а з адной кавенькай. Цяпер ён амаль увесь час гуляе ў бальнічным скверы. У палату заглядвае толькі тады, калі трэба на працэдуры. А то выйдзе ў сквер і па асфальтавай дарожцы робіць кругі. Сцежка доўгая. Першыя дні адзін круг ён зрабіў за добрыя паўгадзіны. Але з кожным днём дарога на дзве-тры хвіліны як бы карацела: усё, словам, ідзе да выпіскі.

Нахадзіўшыся да стомы, Віктар садзіцца на свабодную лавачку і дзівіцца Грышкавай настойлівасці: ён увесь час штурмуе лесвіцу. Ён цяпер адольвае ўсе прыступкі, але яшчэ стамляецца. Увесь час каля яго жонка, якая раз-пораз выцірае з Грышкавага твару кропелькі поту. Віктар пазірае на яе, і яму вельмі хочацца падысці да яе, стаць на калені, узяць яе за руку, пацалаваць і сказаць, як яна дапамагла не толькі свайму мужу, а і яму... Але ён саромеецца зрабіць так, бо яшчэ ні разу ў сваім жыцці не цалаваў жанчыне руку. Ён застаецца сядзець на лавачцы, пазірае зачараванымі вачыма на Грышку і яго жонку, радуецца чужому шчасцю, як свайму.

## Верасовыя сцежкі

Параска ўстала завідна, хуценька апранулася, выглянула ў акно. На дварэ пасвятлела. Ноччу, відно, прымарозіла трохі, бо вада ў разоры пад акном замерзла і пакрылася тонкім і бліскучым, бы слюда, ільдом. «Зіма не сёння-заўтра ляжа»,— падумала і, накінуўшы на плечы ватоўку, узяла даёнку, сабралася ісці даіць карову.

Хоць яшчэ і ранавата, але па вуліцы ўжо ходзяць людзі, гамоняць. Пачынаецца звычайны вясковы дзень. На дварэ пачатак лістапада, позняя восень. У такі час на вёсцы не вельмі і шмат работы, бо з палёў усё ўбрана і звезена ў свірны, гумны, бульба закапана ў капцы. У такі час вяскоўцы турбуюцца толькі пра адно — прывезці дахаты з далёкіх лугоў сена, пазатыкаць мохам дзіркі ў вуглах у хляве, награбці сухой апалай ігліцы на падсцёл, уцяпліць прызбы хаты, каб не прамярзалі ў вялікія маразы...

У Парасі ўсё, што трэба зрабіць восенню каля хаты, зроблена. Надоечы прыязджаў з Рэчыцы яе сын, Коля, і за колькі дзён паспеў управіцца з усім: накалоў на зіму дроў, абклаў гноем і паперавязваў саломаю ў садзе дрэвы, падрамантаваў вароты ў хляве, навазіў з лесу ігліцы і дубовага лісця.

Яна жыве адна. Год назад перабралася ў новую хату, якую паставіла побач са старой. Старая хатка струхлела за добрых дваццаць гадоў, зімою пачалі прамярзаць вуглы, і цяпло ніколечкі не трымалася. Пайшла ў праўленне і папрасіла лесу. Старшыня, які прыехаў у іхнюю вёску год назад і пачаў кіраваць калгасам, узяў у рукі заяву, у якой яна прасіла праўленне, каб ёй выдзелілі страявы лес, уважліва прачытаў і здзівіўся:

— Хіба вы не ведаеце, што мы будуем чатырохпавярховы дом з усімі выгодамі? І пра ветэранаў мы не забудзем, не маем права забыць тых, хто падымаў калгас, хто рукамі сваімі выпеставаў яго... Словам, на аднапакаёвую можаце разлічваць...

Ведала пра той дом Параска, чула ад многіх. І сама нядаўна бачыла, дзе ён будуецца. Іхняя вёска за апошнія гады вельмі змянілася: калі хто не прыязджаў гадоў пяць, то цяпер і не пазнаў бы. Дамоў новых паявілася столькі, што, здаецца, і не злічыць. І самае дзіўнае

тое, што вёска як бы рушыла да таго месца, дзе раней было балота. Асушылі тое балота, а на тарфяніках парабілі палі, гароды. І возера там вялікае зрабілі, вадой яго затапілі. Вось і пацягнула людзей бліжэй да вады, бо там і качак, і гусей разводзь колькі хочаш.

Каля возера пабудавалі калгасную пілараму, млын, гаражы, майстэрні — усім добра, калі вада пад рукой.

Там жа, непадалёк ад возера, будуецца зараз і чатырохпавярховы дом, пра які сказаў ёй старшыня. Жыць у цагляным-мураваным доме было б мо і добра, спакойна, бо вада ў хаце будзе, і паравое ацяпленне — клапаціцца пра дровы не трэба. Але яна прывыкла да месца, на якім звекавала. Ці многа ёй трэба? Пражыла б на пенсію — без сотак, без каровы, без саду. Ды як падумае, што давядзецца сядзець без работы, то на душы робіцца холадна. І адмовілася ад старшынёвай прапановы, сказала, што на кватэры ў тым доме шмат хто спадзяецца, а яна як-небудзь пабудуе сабе, грошы на будоўлю ў яе ёсць.

Тое, што яна не захацела перасяляцца ў цагляны калгасны дом, здзівіла старшыню, але адгаворваць ён яе не стаў, бо, мабыць, зразумеў, як ёй будзе ў цагляных сценах сумна і адзінока, а каля свайго ж дома гарод, сад, гаспадарка — клопату хапае... І паабяцаў, што лес ёй выдзеляць, памогуць транспартам, каб прывезці...

Пілаваць лес прыехаў сын, які да таго часу адслужыў у арміі і стаў працаваць у Рэчыцы на нафтапромыслах.

Коля, сын, яе адзіная радасць. Высокі, з бела-залацістай чупрынай, шэра-зялёнымі вачамі.

Кожны раз, калі яна ўбачыць сына, думае пра яго бацьку і свайго мужа — Андрэя: «Гасподзі, каб ён жыў, як бы ён цяпер радаваўся... Знешне Коля — выліты Андрэй... І такі ж, як Андрэй, добры, уважлівы, спакойны, чулы...»

Апошні раз Коля быў дома месяц назад. Прыехаў і сказаў:

— Сёння я да бацькі хадзіў,— гэтак сын гаворыць, калі наведвае партызанскія магілкі, дзе пахаваны Андрэй,— магілу яго трэба падладзіць, бо дажджы размылі... І агароджу другую трэба... Я ўжо заказаў, робяць у горадзе...

Сын ёй так кажа, а яна пазірае на яго і бы не чуе яго голасу: усё ёй бачыцца перажытае ў вайну...

Былое, даўнішняе разварушыла душу, і яна, не дайшоўшы да хлява, як бы і забыўшыся на тое, чаго і куды спяшалася, стаяла пасярод двара з даёнкай у руках: «Адна цяпер я... Коля хоць і не забывае мяне, але ж і прыязджае толькі ў госці, ведама ж, работа, свабодная часіна выпадае рэдка...»

Магла быць і не адна. І Параска жыва ўявіла тое пасляваеннае лета...

Яна з сынам перабралася з зямлянкі ў толькі пабудаваную чатырохсценку з трыма акенцамі. У новай іхняй хаце не было ні падлогі, ні печы. І наняць каго зляпіць печ і паслаць падлогу Параска доўга не магла — пасля вайны ў вёсцы амаль не было мужчын.

«Пайду мо з Мацвеем дамоўлюся?» — рашыла. Мацвей вярнуўся ў суседнюю вёску праз год пасля вайны са шпіталя. У шпіталі яму адрэзалі правую нагу вышэй калена, і доўга ён вучыўся хадзіць нанава. Сярэдняга росту, дужы, шыракаплечы, іншы раз ён паяўляўся каля калгаснага клуба, размаўляў аб чым-небудзь з людзьмі. Каля магазіна неяк і ўбачыла яго Параска. Убачыла, падышла, павіталася за руку і адразу па-свойску з ім загаварыла:

— Добрэ, што вярнуўса, Мацвейко, твая маці не нарадуецца...

І заўсхліпвала:

— А я адна... Не даждаўся мой Андрэй етаго дня...

Мацвей не прамовіў ні слова: глядзеў некуды ўбок, як бы правінаваціўся ў чым перад ёю... А яна церабіла ў руках беражок хусткі, быццам разгладжвала той беражок, губы свае яна таксама быццам разгладжвала, пакусвала іх, здавалася, хацела сказаць яшчэ нешта, ды не асмельвалася...

Хоць і без нагі быў Мацвей, але без работы не сядзеў: рабіў усё, што ўмеў, і памагаў усім, хто да яго звяртаўся — рукі служылі яму спраўна.

Вельмі часта Мацвей праходзіў міма дома Парaскі, вітаўся з ёй, але ніколі не спыняўся, не размаўляў.

Калі Мацвей ішоў, яго драўляная нага рыпела і стукала, бы палка аб палку, і ў Парасkі сціскалася сэрца ад гэтай кульгавай, нязграбнай паходкі.

Аднаго разу Параска ўсё ж загаварыла з ім, калі ён апынуўся каля яе хаты.

— Зайшоў бы, Мацвей, у госці, пагаманіў бы.

Мацвей спыніўся, прыжмурыў адно вока, зразумеў: недарма спыніла яго Параска, сказаць хоча штосьці. Толькі вось не можа адразу, хітруе, пачынае здалёку.

— Ты штосьці сказала?

Параска ведала, што Мацвей усю вайну ў артылерыі быў, аглушыла яго трохі, вось ён і недачувае.

Селі на лаўку каля плота, і Мацвей глянуў на свой трафейны гадзіннік з сярэбраным ланцужком, які насіў у кішэні нагавіц.

— Спяшаешся куды? — спытала Параска.

— Часу ў мяне цяпер не вельмі, Матруне вокны канчаю ўстаўляць, потым збіраюся каля свайго дома тое-сёе зрабіць...

— А я вунь без печы сяджу, без падлогі, на вуліцы, на кастры вару ўсё, а прыйдзе зіма, то не знаю, што рабіцьму.

— Падлогу паслаць я магу,— адказаў ёй Мацвей,— і печ не такая мудрая навука, хоць дасюля ні разу шчэ не ляпіў печы...

Да канца таго лета не вылазіў Мацвей з яе двара. Сам выразаў і абчасаў легары і штандары, выкаваў у калгаснай кузні перамычку для печы, дастаў для коміна дзверцы і юшку, накапаў і прывёз падводаю з Лысай гары гліны...

Параска прывыкла да яго, было з кім перакінуцца словам. Кожны дзень, як развідняла, яна чакала Мацвея, гатавала яму снедаць.

І калі Мацвей ужо заканчваў рабіць падлогу, да Парасні як бы зусім выпадкова зайшла старая Хвядора, Мацвеева маці. Папытала ў Параскі пра тое ды пра гэта, а затым сказала:

— Гляджу я на цябе, жонко, дай думаю: ці не збіраесса ты векаваць адна?

— А тут думай не думай, цётко Хвядоро, але, мабыць, нічога не перайначыш.

Хвядора глянула на яе з дакорам.

— Ох, Параско, Параско! Дак што ж ето за жытка — адна ды адна... Не пайму я цябе... Хай то ўжо мой Мацвей гаруе адзін, дак ён жэ хворы, вайной скалечаны.

— Ну што вы, цётко, кажаце, вам радавацца трэ за

9*

сына — жывы ж, работу во якую шчэ робіць, за яго любая пойдзе, колькі салдатак у нашым сяле...

Сказала — і самой стала нядобра ад той няшчырасці, якая прагучала ў яе словах, бо зусім іншае тады было ў яе ў думках: Андрэя, мужа свайго, згадала... Тады, у першыя пасляваенныя гады, яна ніяк не магла змірыцца з думкаю, што яго няма... І мо таму, калі старая Хвядора загаварыла пра тое, каб яна выходзіла замуж за Мацвея, і слухаць не захацела...

Затым, калі яна сустракалася дзе з Мацвеем на вуліцы, запавольвала крок, ціхенька віталася з ім, маўчала і як бы хавала ад яго свае вочы. Ёй здавалася, што між ім і ёй адбылося нешта нядобрае, і ў гэтым вінавата яна адна. У такія хвіліны твар яе імгненна бляднеў, у вачах застывалі страх і спагада. Яна хуценька ішла ў свой бок, і Мацвей не паспяваў загаварыць з ёю...

Нехта бразнуў вядром, беручы ля калонкі ваду, і Параска схамянулася, правяла рукой па твары, папravіла на галаве хустку, пайшла ў хлеў.

Падаіла карову, укінула ёй у яслі сена на ўвесь дзень, вярнулася ў хату, пачала збірацца ў дарогу. Учора Коля прыслаў пісьмо. Напісаў, што ў яго ўсё добра, што яна, маці, няхай глядзіць сябе, і пра яго не вельмі турбуецца. І ў самым канцы, як бы між іншым, напісаў, што на рабоце трохі зачапіла руку і яго паклалі ў бальніцу.

Прачытала сынава пісьмо, і сэрца заныла, сціснулася. Падумалася, што Коля не хоча, каб яна нервавалася, і ўсёй праўды не напісаў. «А што, калі ён застанецца калекам?» — прамільгнула ў галаве нядобрая думка, і яна адчула, як ад гэтай здагадкі схаладнела ўсярэдзіне, у галаву ўдарыла кроў. «Не, трэ самой паехаць, паглядзець: мо там за ім догляд трэба?»

Але перш чым ехаць, Параска пайшла ў магазін і паказала пісьмо Аўдзееваму Івану — загадчыку магазіна, паважанаму на сяле чалавеку. Той прачытаў пісьмо і кажа:

— Твой сын на вышцы працуе, з металам мае справу, а з металам жартачкі паганыя.

Яна раз-пораз стала папраўляць хустку на галаве, у вачах заблішчалі слёзы. Пабачыўшы, што ні з таго ні з

сяго жанчына стала сама не свая, Іван стаў супакойваць Параску:

— Толькі не перажывайце, можа, там нічога такога і няма, а паехаць трэба.

Выйшла з магазіна, а ў вушах Іванавы словы звіняць: «...з металам жартачкі паганыя...» Тады ўжо вечар наплываў на вёску, і калі яна ступіла ў хату, то чырвоныя водбліскі першай зары асвятлілі вокны. Яна села на пасцель, абшчапіла рукамі галаву: «Сыночак мой родны, адзін ты, як і я...»

Дастала з паліцы торбачку, паклала туды слоік масла, свежага, толькі ўчора адціснутага тварагу, літровы слоік смятаны, нізачку жоўтых баравікоў.

Апранула плюшавую жакетку, узялася за клямку, але нечага затрымалася ля дзвярэй, азірнулася на хату, як бы прыгадваючы, ці не забылася пра што.

Убачыла ля акна кросны. Сын, як прыязджае, усё гаворыць, каб яна закідвала кросны, бо ў вёсцы даўно амаль ніхто не тчэ, ды і яе работа нікому не трэба — у магазінах цяпер і дываны якія хочаш, і коўдры на выбар. Але ткаць Параска любіць, з самае маладосці яна тчэ, за гэтай работай яна забывае пра сваё адзіноцтва, ажывае, святлее душой. Кожнай зімой яна паспявае выткаць тры-чатыры посцілкі. За яе саматканымі коўдрамі прыязджалі з Мазыра, з краязнаўчага музея, сказалі — трэба на выстаўку...

Перш чым выправіцца на шлях, забегла да суседкі Вулляны і дамовілася з той, каб яна паглядзела і напаіла карову, і як толькі дамовілася, тут жа цераз соткі пакіравалася на Мазырскі шлях, на аўтобус.

Дарога да шляху не вельмі далёкая — кіламетраў пяць.

Ісці трэба праз брод, вада ў якім вымерзла, цераз парадзелы за апошнія гады сасняк, дзе густа расце верас. Сярод верасу многа сцежак, якімі ходзяць з іхняе вёскі да шляху.

Адразу, як увайшла ў лес, на душы ў яе зрабілася хораша і светла, як гэта і бывае ў чалавека, які пазбыўся дамашняга клопату, мітусні.

Спяшалася, і ад хуткай хады сэрца ў яе пачало біцца часта-часта. Мусіла спыняцца, каб перавесці дых, і, спыніўшыся, як сама ў сябе пыталася: «Ды што ж гэта такое? Ісці няможна...»

Азіралася вакол, затрымлівала позірк на дрэвах, на палянах, і адчувала, што ўсярэдзіне ў яе быццам нешта сціскаецца. Вось так кожны раз, калі яна праходзіць сюдою, запавольвае крок, задумваецца: кругом жа, куды ні глянь, партызанскі лес... У гэтым лесе яна развіталася з мужам, з Андрэем... Развіталася назаўсёды...

Лета 1943 года... Над лесам чорнымі груганамі кружаць нямецкія самалёты. Ляцяць яны нізка, ледзь не чапляюць калёсамі за лазовыя кусты, у якіх стаіліся людзі. Людзі прыціскаюцца да зямлі, баяцца павярнуцца, бо нямецкія лётчыкі страляюць з кулямётаў па ўсяму, што было жывым і рухалася...

Параска той парою хавалася ў лесе з двума дзецьмі: Колем і Ганулькай, якую знайшла яна ў Астроўках пад тоўстым камлюкаватым дубам.

Ганульцы не было і года. Параска адразу, як пачула здалёку плач, падбегла і пазнала: Насціна дачка, з іхняй вёскі яна, муж яе, Васіль, на фронце. Відаць, жанчына ўздумала збегаць у вёску, каб дастаць дзіцяці малака. Але нейкая неспадзяванка затрымала яе: мо напаролася на карнікаў, якія шнырылі па лесе?

Дзяўчынка, калі падышла да яе Параска, адразу ж сціхла. Па тварыку поўзалі мурашкі, і дзіця не здолела іх прагнаць, Параска, пазіраючы на пасінелы, змораны тварык, на чырвоныя ад плачу і слёз вочы, сама не стрымалася...

Плакала яна доўга і ніяк не магла суцішыцца... А калі трохі супакоілася, скінула з сябе споднюю, з даматканага палатна, сарочку, парвала яе на лаёнкі, перапавіла ў сухое дзяўчынку, узяла яе на рукі і пайшла.

Ішла, трымала на руках немаўлятка і, быццам суцяшаючы, дакраналася сваімі губамі да шчакі дзіцяці, зусім лёгка, ледзь-ледзь. І раптам яна адчула, што дзяўчынка як бы адказвае ёй — лашчыцца сваёй шчочкай да яе. Божа, і колькі ў тым слабым руху Парасцы паказалася даверлівага, жаласлівага! І тут яна зноў не стрымалася, зайшлася ў горкім плачы...

Коля, які за апошнія дні натаміўся, не прасіўся на рукі, а толькі ўсё пытаў у яе:

— А дзе Ганульчына маці?

Што яна магла адказаць сыну? Адно разумела — з Насцяй здарылася бяда. Сыну ж сказала:

— Мабыць, заблудзілася недзе...

Нарэшце, калі выплакала свае слёзы, супакоілася, як бы працверазела, зразумела, як ёй цяпер будзе цяжка з двума дзецьмі. З Колем, з сынам, менш клопату: ён на нагах, а вось Ганулька... Дзяўчынка, мабыць, прастудзілася, бо яе шчокі і лоб былі гарачыя, пакрыліся кропелькамі поту. Малачка б ёй, але дзе цяпер яго ўзяць? Вёскі як вымерлі, кароў немцы ў людзей даўно пазабіралі, мо хіба дзе хутар які ацалеў і там на што-небудзь з харчоў разжыцца можна.

Сонца зыркала на захадзе малінавым святлом. Яна хацела паспець на Лявіцкія хутары завідна, бо непакоілася, што поначы саб'ецца з дарогі, заблудзіцца. І спяшалася за сонцам, прыціскала да сябе дзяўчынку...

Хутар на Лявіцкім полі каля самага лесу. Акружылі яго маладыя дубы, хвоі, светлыя бярозавыя астравы. Хутар удалечыні ад дарог, і гэта давала надзею, што немцаў там не будзе. Каб жа так...

Яшчэ здалёку яна ўбачыла раскрытыя насцеж вароты ў двор Мірона-хутараніна, які жыў тут са сваёй сям'ёй да вайны. «Каб вы перадохлі ўсе — і сюды нячысць гэтую нанясло»,— са злосцю вылаялася Параска, калі згледзела салдат у шэра-зялёных фрэнчах, якія шнырылі на двары каля Міронавай хаты. І ціха, непрыкметна, каб іх не заўважылі, павярнула назад, у гушчыню лесу.

Не паспела яна добра адысціся, заглыбіцца ў лес, як пачуўся трэск матацыкла. Кінулася з дзецьмі да вываратня, прытаілася, стала чакаць, пакуль праедуць матацыклісты. Але, як на ліха, гітлераўцы спыніліся. Ці то з матацыклам здарылася што і ён заглух, ці проста падазроным паказаўся ім гэты вываратень, але немцы спыніліся зусім блізка.

— Гэй, хто тут, ану выходзь, а то гранату кінем! — закрычаў, з цяжкасцю вымаўляючы нашы словы, фрыц, якога Параска толькі чула, а бачыць не бачыла.

Растрывожылася Ганулька, паспрабавала падаць свой аслабелы голас. Параска ўшчыкнула з пня моху і прыкрыла дзяўчынцы раток, строга глянула на Колю: «Сядзі і не варушыся, а то нам канец».

Відаць, матацыклісты спяшаліся, а мо і пабаяліся, бо за кожным кустом фрыцам мроіліся партызаны, селі на матацыкл, развярнуліся і пайгралі ў другі бок, да Чэртня.

Матацыкл аддаляўся, трэск рухавіка паволі цішэў, а

Параска, ні жывая ні мёртвая, усё яшчэ сядзела на зямлі, не магла паварушыцца: ад страху ногі як адняліся, язык бы адзеравянеў, і яна не магла вымавіць ні слова, адно зірнула перш на Колю, затым на Ганульку, і чорная думка апякла свядомасць: «На валаску ад смерці...» Адчула, што ёй як бы няма чым дыхаць, бы хто сціснуў горла, і яна вось-вось задыхнецца. Пачала рукамі расціраць скроні.

Узяла на рукі Ганульку, позіркам як загадала сыну, каб не адставаў, і хутчэй, хутчэй у глыбіню лесу, дзе панаваў ужо вячэрні змрок.

Пад нагамі гулка, як заўсёды, калі наступае вечар і ў лесе становіцца цішэй, трашчала сухое галлё, і ад таго трэску Параска ўздрыгвала, часта рабіла перадышкі, каб супакоіць напятыя да болю нервы.

То тут то там былі відны вялікія, круглыя, чорныя плямы — сляды нядаўняга вогнішча, на якім учора, а мо і сёння людзі пяклі ў попеле бульбу, смажылі казлякі, сушыліся...

Але чым далей у лес, то ўсё бліжэй бралася ноч, і хутка ўжо за колькі крокаў ад сябе амаль не відаць было ні дрэва, ні кустоў, ні слядоў вогнішча. І толькі недзе з блізкага ад лесу балота даносіўся ціхі перазвон. Параска ўслухоўвалася ў прыглушаныя гукі і думала, што гэта са званком на шыі ходзіць па лесе карова. Але чыя карова? Мо яе гаспадары недзе побач? То чаму не здымуць званок — пачуюць жа немцы.

Калі сцямнела зусім, Параска спынілася, азірнулася вакол — хацелася тут жа ўпасці на зямлю, заснуць, забыцца.

Але перш чым прысесці, сцішылася, паўслухоўвалася — карова як бы пачула іх, супакоілася, званок на яе шыі не бразгаў. А мо ніякай каровы і не было? Мо ёй, Парасцы, усё тое памроілася?

Усё тое лета яна спала з дзецьмі дзе папала ў лесе. Харчаваліся калі спечанай на кастры бульбай, калі размочаным у лясным ручаі сухарыкам, ягадамі, грыбамі.

А потым ім вельмі пашэнціла. На невялічкай, акружанай з усіх бакоў лазою балацявіне аднойчы раніцай яна ўбачыла, як пасвіцца карова, якая, відаць, даўно збегла са сваімі гаспадарамі з вёскі. Карова мірна скубла вільготную ад ранішняй расы траву, на яе шыі ціха пазвоньваў зроблены з меднай конаўкі званок.

Параска пакінула за лазовым карчом Колю з Ганулькай, а сама з карцом падышла да каровы, пачала маніць яе:

— Лыска, Лыска.

Карова была даўно нядоеная, вымя яе адзеравянела, набракла малаком. Параска перш зняла з шыі званок, які мог наклікаць бяду, затым пачала здойваць адразу на зямлю, а пасля ў карэц.

Увесь астатак лета яна была з малаком. Лыска прывыкла да яе, і куды ішлі яны, услед за імі і карова. Свежае, з-пад каровы, малачко хутка вярнула Ганульцы сілу, і дзяўчынка стала папраўляцца, расці.

Насцю Параска праз усё лета так і не сустрэла. І каго яна ні пытала са знаёмых, што хаваліся, як і яна, у лесе, ніхто не ведаў, дзе Насця. Можна было толькі здагадвацца: яе ці забілі, ці пагналі ў Германію.

І пасля, калі скончылася вайна, не вярнулася Насця ў вёску — загінула бясследна.

Два з паловай гады споўнілася Ганульцы, калі вярнуўся з фронту яе бацька. Васіль не ведаў, як аддзякаваць Парасцы за дачку, а яна, аддаючы дзяўчынку, заплакала: прывыкла да яе, сагрэла сваім сэрцам. І ў той момант, калі аддавала дзяўчынку, усё разам як бы накацілася на яе: блакаднае лета, начлегі і страхі ў лесе, які ратаваў і хаваў іх, голад, гібель мужа...

І цяпер, праз трыццаць гадоў, калі яна ідзе верасовымі сцежкамі, у яе вушах стаіць плач Ганулькі, які пачула яна ў лесе ў сорак трэцім. Той плач часта будзіць яе сярэдначы, яна прахопліваецца, задумваецца і перажывае незабытае мінулае занава...

У Рэчыцу прыехала к абеду. Прайшоўшы праз базар вузенькаю вулкай, Параска спусцілася ўніз да Дняпра, дзе знаходзілася бальніца, пра якую напісаў ёй Коля ў пісьме. Ля бальніцы мітусіліся людзі, больш жанчыны. Пад'язджалі і ад'язджалі легкавушкі з чырвонымі крыжамі.

Параска спыніла маладзенькую бялявую дзяўчыну, апранутую ў белы халат. Дзяўчына некуды спяшалася, ішла як ні подбегам, але тут жа спынілася, калі да яе звярнулася Параска і паказала канверт з адрасам.

— Правільна, цётка, сюды вы папалі, тут ваш сын ляжыць, вунь у тым корпусе,— паказала дзяўчына на шматпавярховы дом з шырокімі вокнамі,— я і палату,

у якой ён ляжыць, ведаю, гэта на трэцім паверсе, яе вокны сюды, на бальнічны сквер выходзяць.

Параска абрадавалася і памкнулася хутчэй ісці, падняцца на трэці паверх. Але дзяўчына суняла яе:

— Толькі зараз вас не прапусцяць у палату, ціхі час цяпер. Прыходзьце праз дзве гадзіны.

Сказала і пабегла, а Параска пастаяла трохі, падумала і ўсё роўна пайшла да дзвярэй бальніцы. Дзверы аказаліся замкнутымі, і праз шкло відна таблічка, на якой напісана: «Ціхі час».

Адышла ад бальніцы ў бок рэчкі і адчула голад. Дзіва: ад самага ранку сёння і макавай расінкі не брала ў рот, а сонца павярнула ўжо на захад.

Выбліснула сонца, асвятліла бераг рэчкі, жоўтае кляновае лісце, што ўслала зямлю, лавачкі, якіх панастаўлена каля берага Дняпра. Яна выбрала зацішнае месца, дзе хадзіла менш людзей, села на лавачку, развязала сетку і пачала есці.

Дзень выдаўся цёплы, сонечны, над Дняпром кружылі гаманлівымі чародамі чайкі. Слухаючы іх вясёлыя ўскрыкі, назіраючы за тым, як белакрылыя птушкі пралятаюць то над самай вадой, то мкнуць крута ўгору, Параска чамусьці захвалявалася. «Во такі ж самы дзень быў і тады, улетку сорак трэцяга... Над Чэртнем, які блізка ад іхняга сяла, кружылі чайкі... Той ранак чайкі былі асабліва неспакойныя, яны як бы чулі бяду і папярэджвалі...»

Параска тады ішла да калодзежа па ваду, пазірала ў бок рэчкі і думала, чаго так расхадзіліся чайкі. Набрала вады, паставіла вядро на зямлю, пачала ўслухоўвацца і пачула нейкі гул — няясны, далёкі. Гул усё бліжэў і бліжэў... Схапіла вядро — і бягом у хату. Дома тады былі ўсе: маці, бацька, меншыя яе сястрычкі, сын... Не было толькі мужа і двух братоў, якія партызанілі...

— Што з табою, донька, на табе твару няма,— убачыла на парозе яе маці. А яна як анямела, а пасля падбегла да сына, заплакала:

— Хутчэй у лес, немцы...

Не паспелі яны ў лес, ніхто ў той дзень не паспеў схавацца: карнікі акружылі вёску.

Фашысты сагналі людзей у цэнтр сяла, дзе да вайны размяшчалася калгасная малочная ферма. Пад'ехала

легкавая машына, і з яе вылез мардаты, таўстазады фрыц. На носе ў мардатага віселі бліскучыя акуляры, за шкельцамі якіх часта міргалі маленькія вочкі з вогненна-рыжымі вейкамі. Немец загаварыў па-свойму, і афіцэр, што ішоў услед за ім, стаў перакладаць:

— Кто ест большэвік і кто ест парцізанскі сем'я — выходзь.

Ні адзін чалавек не варухнуўся. Фрыц загаварыў зноў, і зноў перакладчык патрабаваў:

— Еслі нікто не будзе указаць, кто ест большэвік і парцізанскі сям'я — всех немедля расстреляйт.

У вёсцы тым часам хаваліся сем'і райцэнтраўскіх камуністаў, з якіх адны былі на фронце, а другія ў лесе, сярод партызан. Пра тое ведаў у вёсцы і стары і малы. Але ўсе маўчалі. Доўга маўчалі. Таўстазады раскрычаўся, нервова хадзіў уздоўж жывой людской сцяны, лаяўся. І вось тады з натоўпу выйшаў Сёмка Бязручка, Сёмка-заіка, які гаварыць добра не навучыўся, хоць і пражыў на гэтым свеце каля сарака гадоў.

— Пан начальнік, я ўсё сказу,— стаў угінацца перад немцамі Сёмка.— Яны думаюць,— указаў Сёмка рукой на людзей,— сто ім партызаны памогуць. Ага, чорта лысага. Бачыце, сто за сіла ў нямецкай арміі, колькі ў іх танкаў ды самалётаў...

Перакладчык хутка перакладваў тое, што казаў Сёмка. Таўстазады слухаў уважліва, раз-пораз папраўляў на носе акуляры. Сёмка назваў многіх, хто быў звязаны з партызанамі.

Адных, на каго ўказаў Сёмка, на вачах ва ўсіх пакідалі жывымі ў калодзеж, што ў садзе ў бабкі Мар'і, а другіх, сярод іх была і Параска з сынам, маці з бацькам, з сёстрамі, павялі пад канвоем у райцэнтр.

У райцэнтры, куды іх прывялі ў той жа дзень, яе выклікалі і прапанавалі:

— Мы цябе з сынам адпусцім, ідзі і скажы свайму мужу, каб угаварыў партызан скласці зброю. Зробіш так — адпусцім усіх, не — расстраляем.

Тым жа днём яна з сынам выправілася ў лес.

Не помніць, як апынулася з Колем за райцэнтрам, каля вёсачкі з некалькіх двароў. Бывала, праходзіла ці праязджала яна сюдою і да вайны і бачыла, як каля самае вёскі на лугах зелянела мора травы, і вецер хвалямі па тым моры хадзіў. А цяпер яна пазірала то ў адзін

канец лугу, то ў другі, і быццам нічога не заўважала, увесь час глядзела ў бок лесу, казала сыну:

— Хутчэй, мой сыночак, хутчэй...

Як ні бегла і крадком азіралася назад: ёй здавалася, што немцы перадумалі, дагоняць, вернуць назад, за калючы дрот, дзе ходзяць аўтаматчыкі з аўчаркамі, якія шчэрацца на людзей...

Быў гарачы летні дзень, і пот залівaў ёй вочы, часам яна амаль не бачыла сына, які ішоў трохі спераду яе. На нейкае імгненне сын як бы некуды адплываў, знікаў з вачэй. Прыпынялася, выцірала рукою пот, аддыхвалася і зноў бачыла сына...

Андрэя адшукала на наступны дзень, і муж проста не паверыў, што яна вырвалася з фашысцкіх лап.

Ён, калі ўбачыў яе, абняў, прыхінуў да сябе, пацалаваў у шчаку. Ад яго дыхнула папяросным дымам, і ад пяшчотнага дотыку яго рук да яе гарачай, потнай спіны ёй зрабілася лёгка і добра, яна як бы трапіла на свежы ветрык, які лашчыў ёй твар, сушыў мокрую спіну.

— Дарагія вы мае, чаго я за гэтыя суткі ні перадумаў!

Андрэй тут жа ўзяў на рукі зморанага, растрывожанага сына, доўга не выпускаў яго з рук, і на вачах у мужа, бачыла Параска, кіпелі гарачыя слёзы...

Супакоіўшыся, Андрэй сказаў:

— Тым, каго немцы схапілі,— не памагчы, а вось Сёмку, юдаву душу, пад зямлёю трэба знайсці...

Памаўчаўшы, Андрэй яшчэ дадаў:

— Сёмку людзі ніколі не даруюць...

У блакаднае лета сорак трэцяга Андрэй загінуў. А вясною сорак чацвёртага іх вызвалілі...

Аднаго разу Параска паехала ў Пінск адведаць родзічаў. Прыехала і зайшла ў магазін купіць родзічавым дзецям гасцінца.

Зрабіўшы пакупкі, збіралася пакінуць магазін, але за прылаўкам, дзе прадавалі мяса, каўбасы, убачыла невысокага мужчыну ў акулярах, і ніяк не магла адвясці ад яго позірку: нейкім унутраным пачуццём яна пачула, што бачыла, ведае яго. Толькі чаму, чаму, пазіраючы на яго, у яе душы расце трывога? Няўжо яна памыляецца? А мо і праўда часам сустракаюцца людзі, пра якіх гавораць, што яны, «як дзве кроплі вады»? Ды не, яна не памыляецца, за прылаўкам — Сёмка Бязручка.

Праўда, Сёмка пастарэў, твар у яго зморшчыўся, стаў падобным на спечаны яблык.

На душы ў яе закіпела, і свой гнеў яна ледзь стрымлівала.

— Ах ты, гад падкалодны! Ты яшчэ дасюль па зямлі ходзіш?

Ад неспадзяванкі Сёмка разгубіўся, выпусціў з рук нож, якім рэзаў каўбасу, зрэнкі яго вачэй за акулярамі расшырыліся: Параску ён пазнаў адразу. Ды і дзе тут не пазнаеш: раслі, гадаваліся ў адной вёсцы...

Пазірала на Бязручку, думала: «Не, Сёмка, тое што ты зрабіў, не забыць, не даравапь і праз сто гадоў».

Яна заявіла ў міліцыю, і Сёмку судзілі ў іхнім сяле...

Параска схамянулася, паглядзела вакол сябе, як бы вярнула сябе з мінулага ў сённяшні, рэальны свет. Падумала, што ціхі час, мабыць, скончыўся, борздзенька ўстала, пайшла да бальніцы.

Наведвальнікаў пускалі, і яна, накінуўшы на плюшавую жакетку халат, які падала ёй вахцёрка, паднялася на трэці паверх, доўга хадзіла па калідоры, перш чым знайшла сына. У палаце, куды яна неўзабаве ўвайшла, ложкі стаялі ўздоўж сцяны, па два ў адзін рад. Тыя, хто ляжаў тут, гаманілі, але калі ўбачылі яе, адразу прымоўклі, недаўменна пазіралі на яе, як бы пыталіся: да каго яна?

Сынаў ложак стаяў паблізу ад акна. Упрытык да ложка — невялікая белая тумбачка, на якой ляжаць кніжкі. Сын сядзеў, курыў перад расчыненым акном. Заўважыўшы яе, на момант разгубіўся, выпусціў з рота дым, наспех прытушыў аб попельніцу, што стаяла на тумбачцы, папяросу.

— Маці,— здзіўлена прамовіў Коля.

— Я, сынок.

Падышла да ложка, сын устаў, хутка прынёс з калідора табурэтку, запрасіў сесці. Прысела і паспела заўважыць, што правая сынава даланя ў бінтах.

— Ты чаго прыехала? — перамагаючы ў сабе хваляванне, папытаўся Коля.

— Як чаго? Да цябе прыехала,— смела адказала яна, і тут жа прыціхла, спужалася свайго голасу, ціхенька спытала:

— Што з табою, сынок?

— Палец на правай руцэ адсекла.

— Як жэ так, сынок? — На яе вачах паказаліся слёзы.

— Паспяшыў трохі, ну і...

Пасля яны выйшлі на двор, гулялі ў бальнічным скверы. І тут, на дворы, яна пільна ўгледзелася ў сына і бы ўпершыню заўважыла, што днём яго твар здаецца зусім дзіцячым, а шэра-зялёныя, як у Андрэя, вочы, жывыя, вясёлыя, і губы, калі ён усміхаецца, пачынаюць дрыжаць, і ярка паблісхваюць белыя прыгожыя зубы...

Былі на двары доўга, і Параска расказвала сыну пра вёску, пра вясковыя навіны і падзеі. Коля ўвесь час быў спакойны, і яго спакой перадаўся ёй.

У двары яны і расталіся. Развітваючыся, сын сказаў:

— Калі выпішуць — пастараюся на які дзень вырвацца дадому. Агароджа на бацькаву магілу гатова, я ўжо і з машынай дагаварыўся быў, каб прывезці, а тут во з рукой...

Коля ўздыхнуў, а ў Парасکі на вочы набеглі слёзы.

— Папраўляйся хутчэй, мой сыночак, а я цябе ждацьму.

Яна пацалавалася з сынам, заспяшалася: ёй сёння яшчэ трэба паспець вярнуцца дадому.

# Гогір

## 1

Начамі Максіма не бярэ сон, і ён устае сярэдначы з пасцелі, закурвае, садзіцца каля акна, за якім летняя цемра, кашляе, уздыхае, ідзе ў сенцы напіцца вады, вяртаецца да пасцелі, зноў кладзецца, але да самага світання так і ляжыць, ні на хвіліну не самкнуўшы вачэй.

Максіму за шэсцьдзесят. Жыве ён на ўскрайку сяла, каля ўзлеску. Хата ў яго невялікая, старая, крытая шыферам. Жонка Вулляна доўга хварэла на сэрца і некалькі гадоў назад памерла, пражыўшы з ім без малога сорак гадоў. З Вуллянай Максім нарадзіў і выгадаваў сына, Хведара, які даўно з'ехаў з сяла і жыве ў Данбасе, на шахтах працуе. Да яго, да бацькі, Хведар не прыязджае. І пісьмы амаль не піша, а толькі грашовыя пераводы шле. Раззлаваўся Максім, сам напісаў сыну: «...Калі ў цябе грошы лішнія, то лепш на кніжку складвай, спатрэбяцца... Бацьку роднага забыў, думаеш рублямі адбаярыцца...»

Але і пасля гэтага пісьма ніводнага разу не прыехаў сын да яго, дадому, і Максім часам думаў, што ў яго як і ні было сына, што ён, бацька, дапусціў, мабыць, недзе прамашку, не так, як трэба, выхоўваў Хведара... Ад гэтай думкі нядобра рабілася на сэрцы ў Максіма, горка і крыўдна было яму за сваё крэўнае дзіцятка...

Так і жыве Максім адзінока. Характарам ён добры, справядлівы, ніколі і нізавошта не пакрывіць душою. І за гэта яго паважаюць. Лёшка Саўлюк, сусед, пачаў падсмейвацца над Максімам: «Стары, а вечна нос гогірам носіць...» Лёшка сказаў, а нехта падхапіў: «Гогір». І невядома, з якога часу Максіма за вочы сталі называць Гогірам...

Цэлымі днямі Максім прападае дзе-небудзь каля берага рэчкі. Колькі ўжо гадоў ён грамадскі рыбінспектар. Вясковыя мужыкі не раз палохалі яго, але ён не з баязлівых — нават і не думаў хавацца ад каго б там ні было. І няма, здаецца, больш смелага ды непадкупнага чалавека, чым Максім на рацэ. Каго ні зловіць з сеткай ці павуком, ніколі не даруе: штрафуе, перадае справу ў таварыскі або народны суд, прасіся не прасіся. Хто-ніхто

хацеў яго падкаравуліць, «цёмную» ўстроіць, але прыкінуў: усё-такі Максім, хоць ён і косткай у горле, свой чалавек, дарма, што і крутога нораву, пры ім усё-такі жыць яшчэ можна. То, глядзіш, сенакос падаспее, і Максім на лузе, вось тады і не спі, дзейнічай... А то галава Максімава, параненая на фронце, раптам разбаліцца, і тыдзень-другі Максім качаецца ў пасцелі, і зноў хлопцам воля вольная.

Болей за ўсіх адчувае на сабе круты Максімаў характар Лёшка Саўлюк — сусед, несусветны п'яніца. Нап'ецца Лёшка — і давай конікі выкідваць, за жонкай вакол хаты бегае, крычыць:

— Я табе пакажу, ты ў мяне запомніш... Яшчэ як запомніш...

Жонку біць Лёшка і не думаў, яму абы цырк устроіць, людзей пасмяшыць. І той, хто ўбачыць, як, спатыкаючыся, Саўлюк даганяе жонку, падсмейваецца:

— Хутчэй, хутчэй, Вольга, а то Лёшка во-во за каўнер спаймае.

І тут выходзіць з хаты Максім, і яго голас адразу астужае Саўлюка:

— Кінь прыдурвацца, бо апоўзінай перацягну, не знацьмеш, куды ўцякаць.

— Не маеце права,— трусіць кулаком у Максімаў бок Саўлюк.— Не пацярплю, каб хто ўмешваўся ў мае сямейныя справы... Я тут гаспадар, мне і разбірацца, што ды да чаго...

А пабачыўшы ўжо людзей, якія збіраюцца ля хаты, Саўлюк крычыць:

— У міліцыю пайду... Яна на цябе ўправу знойдзе, зноў паедзеш туды, дзе быў...

Вунь ён пра што. І хоць даўно тое было, але ж помніць, сабака.

...На ферме тады працаваў Максім. Цялят даглядаў. К вясне ішло, а сена ў калгасе скончылася. Каровам секлі бярозавае вецце і тым ратавалі іх ад голаду, а цяляты не бралі ў рот бярэзнік. Вось тады Максім і прапанаваў загадчыку фермы:

— У Паўлаўцы вунь яшчэ колькі стагоў, і на гэтае лета застануцца... У іх заўсёды сена ўдосталь, у іх сенакосы не нашы...

Загадчык фермы свой мужык, са свайго сяла, мала-

дзейшы трохі за Максіма, і калі зразумеў, куды хіліць Максім, замахаў рукамі.

— Ты што, Апанасавіч? Сесці сам захацеў і мяне надумаў запраторыць? У мяне дзеці ў школу ходзяць — ты падумаў пра гэта ці не?

— А калі ніякага выйсця няма? Падохнуць цяляты...

Загадчык фермы задумаўся:

— Добра, рабі сабе як хочаш, але я нічога пра гэта не ведаю...

Максім угаварыў яшчэ двух даглядчыкаў, і за ноч трыма падводамі яны перавезлі два стагі. Але ж два стагі не іголка, столькі сена не схаваеш, як бы не хаваў. Вартаўнік з Паўлаўкі назаўтра раненька быў у іх на ферме... Усю віну ўзяў на сябе Максім, і яму далі два гады... Нядоўга, праўда, прасядзеў — старшыня калгаса ды і раённае начальства заступіліся: маладняк жа ад голаду ратаваў...

І хоць пад злую руку Лёшка Саўлюк называе Максіма «ўркачом», у Максіма на душы халаднее: «От жа і людзі...»

Назаўтра раніцай абодва, Максім і Саўлюк, заходзяць у кабінет да старшыні калгаса — немаладога ўжо, высокага, худога, з хваравітым тварам.

— Надакучылі, Саўлюк, твае выбрыкі,— старшыня сядзіць за доўгім сталом, голас у яго спакойны, але суровы.— Ох і чалавек ты мой дарагі... Што нам рабіць з табой? Як у дзіцячым садзе — няньчымся, а ты адным вухам слухаеш, праз другое вылятае... Вось заява ад тваёй жонкі — не можа яна болей трываць...

Зазірнуўшы яшчэ раз у ліст, у якім Саўлюкова жонка просіць калгаснае праўленне прыструніць яе непуцёвага мужыка, прыстрашыць яго, паўшчуваць на яго, старшыня гаворыць:

— Распусціўся зусім... Ніхто, канечне, не даваў табе права над жонкай насміхацца... Гэта зусім нягожа. Але ж ты во і Максіма Апанасавіча ні за што ні пра што крыўдзіш. Што ты яму нейкія грахі прыпісваеш, ты ж, галава твая садовая, добра знаеш — апраўдалі Максіма Апанасавіча...

Старшыня пакруціў туд-сюд галавою, уздыхнуў і сказаў:

— Не, трэба папраўдзе накіраваць цябе, Саўлюк, на прымусовае лячэнне... Даўно трэба было гэта зрабіць,

але ж мы верылі, што ты возьмеш сябе ў рукі, а цяпер хопіць, канец нашаму цярпенню прыйшоў, і прасі не прасі — адправім...

Саўлюк у адно імгненне перамяніўся ў твары, залыпаў шэрымі вачымі, спахмурнеў:

— Максім Апанасавіч, таварыш старшыня! Даруйце, прашу вас, паверце — усё, з гэтага дня ні кроплі ў рот... Толькі... Старшыня, дазвольце мне вярнуцца ў сваю брыгаду, да цесляроў?

Сказаўшы «добра, паглядзім», старшыня пачакаў, калі Саўлюк выйшаў з кабінета, звярнуўся да яго, да Максіма.

— Не толькі, Апанасавіч, я цябе з-за Саўлюка выклікаў... Ёсць гаворка да цябе — калі хочаш, то работу дадзім... Не спяшайся, канечне, падумай... У вартаўнікі ідзі, а то каго ні паставім — ад браканьераў на сажалках адбою няма: ці лайдакі да гэтага ў вартаўнікі пападаліся, ці соні або выпівохі, а тут работа такая, сам разумееш — кожны дзень трэба пільнаваць, а туды, дзе пахне чаркай, і не глядзець...

— Дык хіба вы не ведаеце, я ж і так...— паспрабаваў растлумачыць старшыні Максім, але старшыня не даў яму дагаварыць:

— Ведаю, ведаю... Вось і добра, твой, Апанасавіч, вопыт нам вельмі патрэбны — навёў парадак на рэчцы, навядзі і на калгасных сажалках...

## 2

На работу ён выпраўляецца, калі пачынае вечарэць. Абувае літыя гумовікі, апранае брызентавы плашч, перавешвае цераз плячо аднастволку шаснаццатага калібра, кліча сабаку, які спіць у будцы пад хатай, паклаўшы галаву на пярэднія лапы:

— Жулік, хопіць бокі адлежваць, айда на службу, гультай.

Жулік бы і не спаў — падхапіўся, закруціўся вакол Максіма, завіляў хвастом, наставіў вушы, глянуў на свайго гаспадара мудра-спакойным позіркам.

— Давай, давай, Жулік, паспяшаемся, дапоўначы нам трэба быць на месцы,— пагладзіў Максім сабаку па галя-

ве, хоць і ведаў, што Жулік да ласкі ды пяшчоты не прывык.

Краем агарода, узмежкамі Максім выбраўся да лесу, за якім поле, а за тым полем рэчка, зноў лес, які абрываецца каля самых сажалак. Ад вёскі гэта вярсты чатыры будзе. Можна было б і не ісці пешкі, бо побач шлях, па якім машыны адна за адною імчаць, прагаласуй толькі — любы шафёр падкінуў бы. Але ж калі ўбачаць, што ён вартуе сажалкі, пачнуць набівацца ў сябры, прасіць дазволу налавіць хоць на адну юшку. А хіба рыба яго, уласная? То-та ж... Старшыня, калі прасіў, каб ён вартаваў, сказаў яму: «Калі ты, Апанасавіч, рады ніякай не дасі, то і не знаю, што рабіць...» Вось і выходзіць, што праўду сказаў.

Ды і не толькі Максім не ідзе на шлях, каб даехаць да сажалак на машыне, што шафёры пачнуць прасіць ды ўгаворваць яго — за гэтыя чатыры вярсты ад хаты да вартаўнічага будана ля сажалак яму трэба шмат аб чым падумаць...

Спераду яго бяжыць Жулік. Максім глядзіць на сабаку і думае, што ён добры і старанны працаўнік. І паслухмяны які: толькі крыкні на яго — і ён замаўчыць, пакліч — і ён тут жа. А як хутка прывык да гэтай работы — вартаваць сажалкі! Ён тут умее ўсё і разбіраецца ва ўсім, як і трэба — быццам бы змалку, даўно прывучылі і намуштравалі яго да гэтага занятку...

Жулік, здавалася Максіму, і дня не мог пражыць без таго, каб не ісці з ім нанач на сажалкі. Было, што адзін дзень Максіму нядобра зрабілася, і ён не змог выйсці на работу, то Жулік звечара пачаў скуголіць пад акном, апусціў галаву, бегаў па двары туд-сюд, ніяк не мог знайсці сабе месца: усё адно як захварэў...

Над рэчкай і полем з'яўляецца туман, які, здавалася, падхоплівала струменямі паветра, цягнула над вадой, каціла па-над полем. Улетку заўсёды так бывае вечарам пасля спякотнага дня: гэта, магчыма, зямля, натомленая гарачынёй, заспакойваецца прахалодай. У такі час нават і рака бы цішэе — плыве роўна, спакойна, і не чуваць, як плешча ў вадзе рыба.

Максім падыходзіць да берага ракі, здымае з пляча стрэльбу, садзіцца, закурвае, задумваецца і як бы вяртаецца ў думках да сённяшняга ранку.

Даўно да яго не заглядвала ў хату Вольга — Лёшкі

Саўлюка жонка. Сарамацілася ўсё — калі і ўбачыць дзе, то апусціць нізка галаву, павітаецца і хутчэй прабягае міма. Зразумела, канечне,— з-за мужыка яна людзей цураецца, з ім, з Максімам, не пагаварыла як след ніколі.

А тут прыбегла і з парога ў слёзы:

— Не магу я болей, дзядзька Максім...

Вольга высокая, строгая, з буйнымі рысамі твару. І гаспадыня яна добрая. З-за такога гора-мужыка, як яе Лёшка, Вользе даводзіцца ўсё самой цягнуць. Яна робіць даяркай у калгасе, а ў даярак свабоднага часу мала, але Вольга і на рабоце спраўляецца, і дома. Мець карову, два кабаны, плойму курэй, качак, некалькі вуллёў, агарод — тут аднаму, здаецца, хоць разарвіся. А Вольга адна кругом... Праўда, дзеці падраслі ўжо...

— Дык што так рана? — стараючыся быць спакойным, спытаў Максім.

Вольга глянула на яго сваімі чырвонымі, слязлівымі вачамі.

— Зноў Лёшка адчыбучыў што-небудзь?

— Учора ж пагнаў тавар, заснуў, а худоба ў жыто ўлезла, вытаўкла... Цяпер адным штрафам не абыдзецца — і з гэтай работы папруць...

Вольга села на канапу, што стаяла ля акна, і заплакала.

— З'еду я адсюль, у Старое Сяло з'еду — там калгас кватэру адразу дае, а даяркі і там трэба...

Не вытрымаў Максім — пайшоў, з Саўлюком пагаварыць у апошні раз захацеў. Не паслухае, то ўсё, няньчыцца з ім болей не варта, канец усяму цярпенню... Пакляўся ж тады ў кабінеце ў старшыні, пры ім, пры Максіме, пакляўся...

— У-ух, баба-яга, касцяная нага! Расквакалася, бы жаба ў рэчцы.— Саўлюк нервова ходзіць па хаце, злосна бліскае вачамі то на жонку, то на яго, на Максіма.— Паскардзіцца паспела, заступніка знайшла...

— Калі, Ляксей, ты рачкі перастанеш поўзаць? Бач, яму яшчэ і не падабаецца, што жонка не маўчыць... Ды тут, здаецца мне, і паленам будзь і то, бадай што, не сцерпіш...

Гаворыць гэта Максім са злосцю, але яму шкода Саўлюка, крыўдна за яго, як было б крыўдна за роднага сына, калі той рабіў бы во так жа, як робіць Саўлюк. Хіба

можна спакойна глядзець на ўсё тое, што вытварае дзень у дзень Саўлюк?

— Ох, Ляксей! Ляксей! Раней ты чалавек чалавекам быў... Ты ж майстар добры — вунь які дом сабе паставіў, вуллёў нарабіў, пчол колькі ў цябе... І людзі раней да цябе дарогу не забывалі: «Ляксей Мікалаевіч, вокны парабі... Ляксей Мікалаевіч, ганак зрубі...» А цяпер? Даскакаўся — з цесляроў ды ў пастухі... Сорам адзін за цябе, Ляксей, талент у цябе ёсць, а ты губіш яго... Эх ты, гора горкае.

Нядобра зрабілася ў Максіма на душы, горка і крыўдна было яму пазіраць на прыціхлага, разгубленага Саўлюка, які адно соп носам, раз-пораз пыхкаў папяросай і цяжка маўчаў.

— Ах ты, божачка мой! — уздыхнуў Максім.— Мардуешся?

Саўлюк не адказаў.

— Гэта добра — памардуйся, папакутуй,— зноў загаварыў Максім.— Ды пра жонку з дзецьмі падумай, а то пакінуць яны цябе, закіснеш адзін...

«І ад чаго чалавек запіў? — пытаецца сам у сябе Максім, седзячы зараз на беразе рэчкі.— Ды і як не запіць было? Паробіць каму рамы на вокны, зрубіць ганак, накрые дах — завуць у хату і за стол садзяць, частуюць... Вось і прывык... А рукі ж Саўлюковы залатыя — цаны ім няма...»

Забрахаў, порстка і радасна выбягаючы з лесу, Жулік, і Максім прытушвае папяросу, устае, спяшаецца — пара быць на месцы, а ён расседзеўся, забыўся, здаецца, куды ішоў.

## 3

Звечара на сажалках ціха. Толькі чуваць, як шапацяць высокімі сухімі сцябламі-мяцёлкамі чароты, ды нізка над вадой пралятаюць, хутка вяслуючы крыламі ў паветры, качкі.

Не заўважыўшы нічога падазронага, Максім кіруецца да невялікага драўлянага буданчыка, збірае сухое галлё, раскладвае агонь. Затым бярэ чайнік, ідзе да рэчкі, набірае вады і вяртаецца да агню.

Прыладзіўшы, каб хутчэй закіпеў, чайнік, Максім варушыць цяпельца, падкідвае ў агонь сухія ламачыны.

Падзьмуў слабы ветрык — і дым адхіліла да вады, туды ж загнула і жоўты грэбень полымя. Ямчэй ўсеўшыся, Максім працягвае да агню рукі — хоць і лета, але ноччу зябка і сыра. Да таго ж рукі, асабліва правая, якой Максім прытрымлівае на плячы стрэльбу, замлелі, і каля цяпла боль, што вострымі іголкамі-мурашкамі нізаў у далоні і пальцах, памалу адпускае, праходзіць...

Над лесам на хвіліну выплыў-паказаўся бледна-сіні месяц, закрануў, здаецца, за вяршыню вострай хвоі і быццам сарваўся — яго тут жа закрылі воблакі, што плылі і плылі на начным небе. І адразу ж, як не стала відаць месяца, пацямнела вада ў сажалках і рэчцы, і цені дрэў, што паявіліся былі пры месяцавым святле, увачавідкі зніклі.

Максім наліў сабе чаю, які пахнуў дымам, піў невялікімі глыткамі з фарфоравага кубка і ўвесь час думаў пра Лёшку Саўлюка...

Дапіўшы чай, Максім прылёг, пачаў услухоўвацца ў начныя шолахі. Было чуваць, як плешча, гуляючы ў вадзе, рыба, як злосна гудуць, пралятаючы блізка каля агню, чорныя рагатыя жукі. А затым раптам пранізліва закрычала ў лесе жаўна, і Жулік уздыбіўся, настрыў вушы.

— Ты чаго? — паглядзеў Максім на сабаку, які так нечакана занепакоіўся, адбег ад агню, забрахаў, вярнуўся назад, зірнуў яму, Максіму, у вочы, і гэтым позіркам як бы папярэджваў.

Максім ведае — хітры браканьер звечара не палезе ў ваду, ён разумее, што вартаўнік у такі час яшчэ на нагах, і таму «нязваны госць» чакае, калі наступіць другая палова ночы. Вось тады, калі згасне на небе зара, сплыве некуды ясны месяц, браканьер і спадзяецца на ўдачу, бо вартаўнік, мабыць, зморany бяссоннай ноччу, зваліўся з ног і дае храпака ў будане...

Але ж і цяпер во, звечара, Жулік нейкі трывожны. І, узяўшы стрэльбу, заліўшы вадою агонь, Максім пайшоў берагам сажалкі.

Здавалася, цішэй, чым было цяпер, і быць ужо не магло. Але не слыхам, а душою Максім зразумеў — цішыня гэтая падманлівая, бо не так сабе непакоіцца Жулік. І толькі так Максім падумаў, душа яго тут жа напоўнілася недаверам, трывогай, чаканнем нейкага ліха, бяды...

— Ну што, Жулік, страшна? — прашаптаў у цемень Максім.— Смялей, смялей, Жулік, ці нам з табою баяцца?..

Непадалёк ад таго месца, дзе Максім затаіўся з Жулікам, зданню выдае чалавечая фігура. Нехта зайшоў у ваду, нешта там хутка і спрытна робіць.

«Вось я і апёкся,— падумаў Максім,— і звечара ў мяне сёння госці».

Наблізіўшыся, Максім схаваўся за карчом лазы, шапнуў Жуліку «ляжаць!». Пачаў узірацца: лавілі сеткай, ды сетка, мабыць, зачапілася за падводную траву, і рыбак паціху лаяўся, з усёй сілы цягнуў сетку да берага, але яна доўга не паддавалася.

Калі добра прыгледзеўся, Максім пазнаў: са свайго сяла рыбак, калгасны трактарыст Іван Гуд.

— Узяць яго, Жулік! — ціха камандуе са схованкі Максім, і сабака, брэшучы, скача ў ваду.

Гуда сабака не вельмі напужаў, і спакойным голасам Іван кажа:

— Дзядзька Максім, памані свайго ваўкадава, патрымай, а то я не ручаюся за сябе, калі ён пападзе мне ў рукі.

— А ты паспрабуй, паспрабуй хоць наблізіцца да яго,— смяецца Максім, але тут жа і супакойвае сабаку.— Ка мне, Жулік!

— І не сядзіцца ж вам,— вылезшы з вады і закурыўшы, гаворыць Гуд і тут жа вяртаецца назад, ступае ў ваду, выцягвае на бераг сетку, у якой жывым срэбрам бліщчаць карпы, ляшчы.

— Рыбы дзве вазьмі, а астатнія ў ваду, хай яшчэ пагуляюць да восені, калі пачнецца адлоў,— спакойна кажа Максім.

Іван стаіць блізка, і Максім бачыць, як ён нервуецца.

— Вам шкода гэтых плотак, дзядзька Максім? Тут іх і будзе з які мяшэчак — не болей. Ды хіба хто палічыў у гэтай сажалцы рыбу?

— Ладна, ты не на базары і не таргуйся — сажалка не мая, а калгасная, і рыба калгасная.

— А я хіба не калгаснік?

— Ідзі ў кантору, выпішы — і, калі ласка, на халадзільнік, там зважаць столькі, колькі захочаш.

— Паглядзіце вы на яго, які чэсны,— са злосцю

смяецца Іван,— ды не было яшчэ ні разу таго, каб я ды ў сваім калгасе рыбу купляў, калі яна во тут, пад рукой.

— Сказана табе — рыбу ў ваду, а сетку тут пакінеш, я ў кантору заўтра яе аднясу,— Максім стараецца быць спакойным, але ў яго ад хвалявання дрыжаць рукі, дрыжыць голас.

— А калі я не паслухаю, забяру сілком і рыбу і сетку? — працягвае смяяцца нахабна Іван.

— Не даводзь, Іване, да гарачкі мяне, а то зараз жа памаршыруеш у сяло пад вартай! — Максім выставіў наперад аднастволку, як бы сказаў гэтым, што цяпер яму не да жартаў.

— Добра, хай будзе па-твойму, дзядзька Максім, але запомні: прыйдзе каза да ваза... Папросіш яшчэ, каб дроў з лесу прывёз, я табе прыпомню ўсё...

Максім сам вытрусіў жывую рыбу з сеткі ў сажалку, зматаў, звязаў сетку, перакінуў цераз плячо, сказаў Івану, які стаяў на беразе, усё яшчэ гразіўся, лаяўся, пасылаў на яго, на Максіма, праклёны.

— Хай-то хто-ніхто з гарадскіх к нам едуць во з такімі прычындаламі,— кіўнуў Максім галавою на сетку,— то ім жа, мабыць, сніцца, што ў нас на вярбе грушы растуць. Хіба яны бачаць, як мы гадуем гэтую рыбу? Але ж ты, Іван, свой чалавек, аб чым ты макатром сваім думаеш?

Іван гняўліва маўчаў, пазіраў на Максіма і не верыў, мабыць, што так сур'ёзна ўліп: «Строгі, гад! У яго не вельмі разгуляешся. Але з нашым братам, мабыць, інакш і нельга...»

Выправіўшы Івана дадому, Максім робіць колькі кругоў вакол сажалак, вяртаецца да будана, але ў будан не заходзіць, узіраецца ў перадранішнюю шэрань, закурвае.

«Бач, яшчэ і просіцца, каб дакладную не пісаў... Сораму людскога баіцца... І што за людзі пайшлі? Чужога дабра ім не шкода — прыйшоў у лес ці да сажалкі, то давай волю рукам: палі, сячы, крадзь... Звер, здаецца, і той ад такіх уцякае, за вярсту аббягае, як хваробу якую... Такім, як Гуд, ніякі закон не ўказ... Жывуць адным днём, абы паболей уварваць...»

Максім робіць зацяжку, садзіцца на парог будкі, сварыцца на Жуліка.

— Праспалі мы з табой... Каб трохі раней убачылі, то і не падпусцілі б Івана Гуда да сажалкі... А так ідзі цяпер у кантору, пішы паперу... І чалавек на мяне цяпер воўкам глядзецьме... Эх, Жулік, Жулік, нажылі мы сабе пасаду...

Не заўважыў, як падкралася раніца. Знікла, бы ўпала на дно рэчкі і сажалак, шэрань, туманы, што белым лёгкім дымам слаліся над зямлёй і над вадой, некуды адплылі, і лес бы прыблізіўся, было відаць кожнае дрэва ў ім. Над сажалкай і над рэчкаю залапаталі крыламі качкі — зляцелі з гнёздаў завідна і адправіліся на пошукі корму.

Узяўшы стрэльбу, Максім адыходзіць ад будана, збіраецца яшчэ раз абысці вакол сажалак. Ідзе і азіраецца — травы за ноч пакрыліся расой і хіляцца долу, кветкі як бы прывялі. І ўсюды, куды ні глянь: на лісцях бяроз, алешніку, на папаратніку — кроплі расы, якія загараюцца, свецяцца тысячамі рознакаляровых іскрынак.

## 4

На ўскраі вёскі, ля рачнога прычала, Максім убачыў цеплаход, да якога ад берага па сходцах ішлі людзі. Цяпер, улетку, па рацэ дзень і ноч ходзяць пасажырскія судны. І людзям гэта вельмі зручна — па рацэ можна вельмі хутка даплыць у абласны, у раённы цэнтр...

Ад прыстані ў яго бок ідзе маладая высокая жанчына. Згледзела яго, Максіма, спынілася, як бы раздумвала — падыходзіць ці не. Усё-такі наважылася, падышла. Гэта была Вольга, Саўлюкова жонка.

— Ты што, куды-небудзь збіралася ды перадумала? — спытаў Максім, зірнуў на Вольгу і ўбачыў яе заплаканы твар.

— Лёшка вунь едзе, пакідае мяне... Прачнуўся ж сярэдначы, узяў запалкі і на двор, і давай на прызбе агонь раскладваць — кажа, чай кіпяціць буду... Белая гарачка, мабыць, схапіла яго...— Сказала Вольга і не стрымалася, вочы яе ўраз павільгатнелі.

— Як жа я адна? Двое дзяцей у мяне, паспрабуй даглядзь іх...

— Не трэба, Вольга, не трэба, вазьмі сябе ў рукі,— ледзь чутна загаварыў Максім і не быў упэўнены, што гаворыць тыя словы, якія хацела б цяпер пачуць ад яго Вольга.— Усё будзе добра... Вылечыцца твой Лёшка, вернецца чалавекам — нідзе не дзенецца... А пакуль ён будзе лячыцца — я ж не за гарамі, памагацьму...

Падышоў бліжэй да прычала, убачыў на верхняй палубе цеплахода, што адплываў у бок райцэнтра, Лёшку Саўлюка.

— Куды гэта ты? — як бы нічога не ведаючы, калі ступіў на палубу, спытаў Максім.

Саўлюк не адказаў.

Максім хацеў загаварыць з ім, ды Лёшка адварочваўся, хаваў вочы. Саўлюка Максім, здаецца, ледзь пазнаў — валасы на галаве раскудлачаны, твар апухлы, пачырванелы, а ў вачах спалох, страх, і ў іх, у вачах, маўклівая просьба дараваць... І зразумеў, глянуўшы цяпер на Саўлюка, Максім: хоць і буяніць іншы раз Лёшка, а на самай справе чалавек ён мяккі, добры, і толькі калі выпівае, то рабіўся сам не свой...

— Лячыся, Ляксей,— ціха прамовіў Максім.— Вылечышся — вяртайся, мы ўсе цябе чакаць будзем... А больш за ўсіх цябе дзеці твае чакаць будуць, помні гэта,— Максім непрыкметна змахнуў з вачэй слязу, павярнуўся, выбраўся з людскога гурту, марудліва пайшоў берагам рэчкі.

## 5

З таго часу, як адправілі Лёшку Саўлюка на лячэнне, прыклеіўся да Максіма Лёшкаў сын — адзінаццацігадовы Пятрусь. Вольга з дачкой цэлы дзень на ферме, а хлопец застаецца дома адзін, не ведае, куды прыткнуцца. Убачыў Максім тое, што бадзяецца Петрусёк без якога-небудзь занятку, і цёпла, са спагадаю прапанаваў:

— Давай, Пятрок, са мною на сажалкі, там не засумуеш...

Пятрусь згадзіўся, і Вольга не адгаворвала сына, а Максіму сказала:

— З вачэй яго не спускайце, а то яшчэ збяжыць ды заблудзіцца.

— У мяне не збяжыць.

Адказаў так Максім Вользе, а сам падумаў: «Хто, калі не я, дагледзіць цяпер хлапчука...»

І Максіму зноў становіцца крыўдна і балюча за Лёшку Саўлюка, за тое, што ў Лёшкі выйшла такое няскладнае жыццё... І ў тым няскладным Лёшкавым жыцці, здаецца Максіму, мо ёсць і яго, Максімава віна? Мо што ён не тое і не так казаў Лёшку, калі часам гаварыў з ім? Залішне мяккі, здаецца, быў... А трэба было, мабыць, больш строгасці ды сур'ёзнасці... Э-эх, ды што цяпер ні гавары...

Як толькі наступае вечар, Пятрусь перабяжыць гародам да Максіма, гаворыць:

— Я гатовы.

— Ах ты памочнік мой залаты! — радуецца Максім, апранаецца, бярэ стрэльбу, кліча Жуліка, і яны кіруюцца ў бок сажалак...

— Піша вам бацька? — калі адыходзяць ад сяла, пытаецца ў Петруся Максім, хоць і ведае, што нядаўна Вольга ездзіла да Лёшкі, бачыла яго, гаварыла з ім, вярнулася з той паездкі радасная. «Брыгадзірам ён там у брыгадзе цесляроў... Перамяніўся... Мо і сапраўды цяпер адумаецца?..»

Слухаў Максім Вольгу і вушам сваім, здаецца, не верыў: «Во Лёшка, во гад печаны — умее быць чалавекам! І будзе ім! Талент у яго вялікі — як возьме сякеру ў рукі, дык сякера спявае...»

Пятрусь Максіму пра бацьку нічога не гаворыць — апускае нізка галаву і ні слова. Максім разумее: сарамаціцца за свайго бацьку хлопчык...

Пазірае Максім на маўклівага Петруся і думае: «Добры казак у Лёшкі Саўлюка расце — паслухмяны, смелы... Ці даўно, здаецца, я такі быў... Агледзецца не паспеў — і вось... За шэсцьдзесят ужо...»

І, думаючы так, Максім стрымана ўсміхаецца, яму хочацца падысці да Петруся, прыгарнуць да сябе, прылашчыць, пагладзіць па галаве так, як гладзяць параненую птушку. Але ён не робіць гэтага, а толькі ціха шэпча: «Расці, Пятрок, вялікі ды дужы... І, галоўнае, чалавекам будзь...»

На сажалках, куды яны хутка прыходзяць, ціха. Ша-

паццаць чараты, свяцяцца-блішчаць у вадзе чырвоным зарывам праменні вячэрняга сонца. Там, дзе да сажалак ушчыльную падступіўся лес, Максім прыпыніўся, здушана закашляў у далоні, знакам папрасіў Петруся маўчаць — каля чаротаў, стоячы па чэрава ў вадзе, насцярожана ўслухоўваўся, падняўшы галаву, лось. Не так часта даводзіцца бачыць гэтага прыгожага звера зблізку — і Максім стаяў, бы зачараваны...

Лось быў вялікі, гладкі, шкура на ім блішчала, дыхаў звер часта і глыбока, напружана. Ніжняя ласёва губа адвісла, вочы, мабыць, прытомлены, раз-пораз заплюшчваюцца-расплюшчваюцца, але вушы навостраны, слухаюць-ловяць кожны шолах. Вось яны, вушы, уздрыгнулі — насцярожыўся звер. «Пачуў, мабыць, мяне з Петраком,— падумаў Максім,— бач, застыў на месцы як укопаны...»

«Хоць у нашых краях і забарона ёсць на лася,— далей думае сабе Максім,— але ўсё адно за ласямі ганяюцца са стрэльбамі, не баяцца, здаецца, ніякай забароны. Быццам зайца ганяюць... Мо таму і вось гэты такі напалоханы, больш на слых ды на свае хуткія ногі спадзяецца... І калі мы навучымся быць гаспадарамі ў доме, у якім жывём?..»

— Першы раз бачыш лася? — шэптам спытаўся Максім у Петруся, але звер пачуў і гэты шэпт, пачаў выходзіць з вады на бераг і, азіраючыся па баках, трушком падаўся ў лес.

— Расці хутчэй, Пятрок, розуму набірайся, сілы, мяне мо заменіш, а то такія, як Іван Гуд, усё на свеце звядуць...

Абышоўшы з Петрусём некалькі разоў вакол сажалак і нічога, што насцярожвала б, не заўважыўшы, Максім вяртаецца да будана і на старым вогнішчы, дзе ляжаць чорныя галавешкі, распальвае цяпло...

Калі напіліся гарачага чаю, Пятрусь запазяхаў, заплюшчыў вочы і тут жа, каля агню, заснуў. Максім асцярожна перанёс яго ў будан, накрыў коўдрай, прагаварыў: «Спі, Пятрок, спі, у нас з табой усё пакуль ціха-ліха...»

Разварушыўшы агонь і падкінуўшы дроў, Максім прысеў на нізкі дубовы пень, задумаўся.

«Жыццё немалое пражыў я, ніколі за лёгкай пажывай не гнаўся, супраць сумлення не ішоў. Да вайны яшчэ ў калгасе пачаў рабіць... За маю работу добрыя людзі мне дзякуй гавораць... Толькі вось адзінага сына не змог, як трэба, выхаваць... Дзе гэта чуў хто, каб родны сын да бацькавага дома дарогу забываў?.. Хто ў гэтым вінаваты? Маё пакаленне далёка да вайны калгасы ставіла на ногі, вайну вунь якую мы вытрымалі і перамаглі... Вялікае жыццё прайшло на маіх вачах... А што цяпер робіцца?.. Аб чым думаюць Іван Гуд ды тыя, што начамі сноўдаюць з сеткамі ці толавымі шашкамі каля рэчак і сажалак? На якую трасцу ў мужыка галава на шыі? Вунь хоць бы і Лёшка Саўлюк — ніхто з яго радні не піў, а ён адбіўся ад рук, дачакаўся, пакуль жаба цыцкі не дала...»

І да самага світання не магло ўлегчыся ў Максімавай душы тое, што хвалявала яго...

# Аблава

Гараваху аблюбавалі ваўкі даўно: месца там далёкае, глухое, у густых, непралазных хмызах — чалавек наведваўся раней туды рэдка. І дзіч там вадзілася розная: ласі, козы, кабаны, зайцы... Зрэдку, з асцярогай, ваўкі не-не ды і заглядвалі ў якую-небудзь няблізкую вёску, рабілі падкоп пад калгасную аўчарню... Авечае мяса старыя, мацёрыя ваўкі не вельмі любілі — тлустае яно, піць ад яго толькі хочацца, ад рэчкі хоць не адыходзь, ад вады жывот баліць. І нападалі яны на аўчарні з-за сваіх дзяцей, якія не маглі без авечага мяса...

Але што ні год, то ў Гаравасе ўсё менш і менш ласёў, кабаноў... А дзікіх коз, галоўнай стравы старых ваўкоў, амаль не стала зусім. Куды толькі яны маглі падзецца? Мабыць, тыя, што зачасцілі апошнім часам сюды на жалезных страшыдлах, якія гырчаць нязвыкла дзіка, не паязярынаму, і чадзяць-смуродзяць на ўвесь лес, перавялі іх? Усе, хто прыязджае ў лес на жалезных страшыдлах, маюць жалезныя палкі, якія бахаюць громам, і нават, здаецца, мацней за гром, бо ад таго бахання ў ваўкоў у вушах закладвае. Ад грому жалезнай палкі не ўцячы ні казе, ні зайцу, ні дзіку... І ваўку не ўцячы. Было ўжо, што малады воўк высунуўся з карчоў сярод белага дня і не паслухаўся маці, якая гырчала на яго: «Не вылазь, пакуль галава цэлая, тваё геройства да дабра не давядзе... Мы дужыя і хітрыя, але таго, хто прыходзіць у лес з жалезнай палкай, нікому з нас не перахітрыць...» І тут ударыў гром. Малады воўк падскочыў уверх, упаў, паваліўся на бок, знерухомеў...

Няўтульна і галадна стала ваўкам у Гаравасе. І з кожным годам іх станавілася тут меней і меней.

Калі ж у Гаравасе пачалі секчы апошнія кварталы лесу, калі выцерабілі хмызы і на іх месцы парабілі палі, дзе ўсё відно як на далоні, апошняя воўчая гайня ледзь выратавалася і пайшла адсюль прэч куды вочы глядзяць...

Сем ваўкоў з апошняй гайні, якія пакінулі Гараваху, усё лета кружылі па лясах, балотах, уцалелых хмызах: як толькі цямнела, выцягнуўшыся ланцужком, гайня, след у след за старым, слабым на вочы, але вострым на нюх і слых важаком, трусілася невядома куды. Усе былі галодныя, ад голаду непрыемна бурчала ў жыва-

тах, ад слабасці кружыліся галовы, і ледзь удавалася не адставаць ад важака, які, задраўшы ўгору морду, бег спераду, прынюхваўся, падымаў-апускаў вушы, міргаў мутнаватымі вачыма: трэба зараней пачуць небяспеку, не прапусціць міма вушэй, калі ўздыхне прыдрамнуўшы заяц або зарохкае дзік — трэція ж суткі і вароны здохлай у роце не было...

Кругом, куды ні разганіся, вёскі, а там і авечкі, козы, свінні, коні... Але стары воўк ведае, што цяпер у людзей не колішнія парадкі: за кожную авечку ці казу можна жыццём паплаціцца... Строгі, ох які строгі стаў чалавек! Здаецца, да чаго ўжо хітры і мацёры стары воўк, але і яму мала калі ўдавалася абдурыць чалавека... Колькі па ім бахала громам жалезная палка — не прыгадаць! Білі па ім і карцеччу, і кулямі... Аднойчы бабахнулі адразу з некалькіх палак, карцеч крамсанула каля самых вачэй, упілася ў бок... Уратавацца ён змог, але бачыць стаў горш. І левы бок, дзе засела карцеч, увесь час ные, баліць... Не, лепш з голаду лапы выцягнуць, чым хадзіць у вёскі...

К канцу ж гэтага лета пашэнціла старому воўку — ён трапіў на конскія могілкі. Раней, бывала, якую здохную падлу вывалакуць куды-небудзь у карчы за сяло, аблупяць скуру, а труп так і пакідаюць. Не вельмі там што такое падла, але ж наедак, ад голаду не завыеш. А цяпер! Падлу пачалі закопваць глыбока ў зямлю, а зверху закідваюць галлём, потым зноў пласт зямлі... Вось на такія могілкі і напароўся стары воўк. Гэта ў невялікім ляску, на ўскраі шырокага і доўгага поля, з другога боку якога вёска. Днём паяўляцца на конскіх могілках небяспечна, і толькі калі добра сцямнее, можна вылезці са схованкі і, не забываючы пра асцярожнасць, прывесці сюды ўсю гайню...

Ціха, амаль нячутна падкрадваюцца ваўкі да конскіх могілак. Прабягуць сотню-дзве метраў, спыняцца, сочаць за важаком, які коса азіраецца на маладых, злосна шчэрыцца — загадвае ўсім прылегчы, затаіцца. І ніхто: ні ваўчыца, ні леташнія ваўкі-аднагодкі не могуць не паслухацца важака, бо воўчыя законы вельмі строгія, і таму, хто асмеліцца парушыць іх, не здабраваць — было, што неслуха ўся гайня разрывала на кавалкі...

Вось і могілкі. Ваўкі чуюць, што пахне тухлым мясам, маладыя пнуцца хутчэй за важака выбегчы напе-

рад, адкапаць падаль. Але важак так скрыгатнуў зубамі, што маладыя тут жа прыціхлі, пачалі смачна аблізвацца. А важак узіраўся ў бок вёскі, якая свяцілася жоўтымі агнямі. Адтуль, з боку вёскі, можна чакаць бяды — забудзеш пра асцярожнасць, не агледзішся як след, і бабахне пад самым носам жалезная палка. Маладыя мо і змогуць уратавацца, яны лёгкія на ногі, а ваўчыца не — воўчая сям'я чакае прыбытку. І ці ж проста ёй, ваўчыцы, будзе ўцякаць, калі жывот у яе вунь які, ледзь не па зямлі цягнецца? Не, важак не павінен забываць пра гэта ні на хвіліну.

У вёсцы паступова гаснуць агні, цішэе гул жалезных страшыдлаў — ноч уваходзіць у сілу... І вось ужо адно чарнеюць удалечыні сілуэты дамоў ды нязлосна брэшуць сабакі, якія ваўкоў не пачулі, бо яны ўсё-такі далекавата.

Узіраўся ў бок вёскі стары воўк і задумваўся: што гэта адбываецца? Замест хат з дрэва сталі паяўляцца шматпавярховыя з белай цэглы. Растуць дамы з цэглы хутка: за апошняе лета вунь колькі іх наляпілі! Выстраіліся тыя дамы бы па шнуру — адзін у адзін, у строгім каменным парадку. І ніяк не адрозніш іх адзін ад аднаго — аднолькавыя вокны, балконы, дзверы, на вуліцах і дварах — чорны асфальт, не тое што каля дамоў з дрэва: там у зялёнай траве двары, дрэвы розныя, вялікія хлявы, у якіх і козы, і авечкі, гусі... А каля гэтых каменных пуста, як вымерла, знікла, некуды сышло ўсё... Дамы з цэглы як бы вытапталі зялёную траву, нарадзілі іншае, незразумелае і непадобнае, якое было раней у вёсцы, жыццё... Менш стала драўляных хат, менш стала зялёнай травы і ўсяго жывога... Затое жалезных страшыдлаў, якія чадзяць і смуродзяць, стала болей — каля кожнага каменнага дома іх па некалькі... І што такое адбываецца ў прыродзе? Не зразумець ім, ваўкам, гэтага...

Стары воўк азірнуўся на гайню, яшчэ раз нюхнуў паветра, але нічога падазронага не пачуў і смела патрусіў на конскія могілкі — за ім і ўся гайня.

Важак хутка адкапаў каня, угрызнуў раз-другі за сцягно: мяса зляжалае, смярдзючае, прысыпанае зямлёй, але куды дзенешся — і такога колькі часу не бачыў... Цяпер не да прысмакаў — выжыць бы...

Голад усё-такі, мабыць, прытупіў у важаку пільнасць, бо праз якую гадзіну, а мо і меней, калі ён добра здаволіўся здохлай канінай, пачуў нейкі шолах. Маладыя і ваўчыца ніяк яшчэ не маглі наталіцца, грызліся між сабой, абхрумствалі косткі — забылі пра ўсё на свеце. А ён, важак, пачуўшы ціхі шолах, сцішыўся, замёр. Шолаху больш не было, але пах... Пахла кіслым, перагарэлай брагай... Так пахне толькі ад тых, хто ходзіць з жалезнай палкай, якая бахае громам...

Яшчэ нічога і нікога не ўбачыўшы, але пачуўшы гэты пах, важак выскачыў з ямы і амаль нячутна падаў голас: трывога, мы ў засадзе... У адно імгненне ўся гайня апынулася ў лесе. Але грому не было, і важак здзівіўся: няўжо кіслы пах яму памроіўся? Пакінуўшы на якую хвіліну гайню ў схованцы, важак падкраўся да конскіх могілак і затаіўся за дрэвам. Не, ён не памыліўся. Той, хто падкаравульваў іх, высока на сасне, здаецца, у драўлянай бочцы з выразанымі дзіркамі для жалезнай палкі, каб можна было бачыць іх, ваўкоў: хоць і ноч, але зорна, месячна, а воўк უначы згледзіць не горш, чым днём.

Высачыў ваўкоў Лёня Пісар — калгасны пастух. Аднойчы ён праганяў ляском, паблізу ад якога конскія могілкі, статак, і ўбачыў, што пад карчамі тут і там валяюцца свежыя косткі. «Адкуль ім узяцца? — прыкінуў Пісар і доўга ніяк не мог даўмецца.— Яшчэ ж тыдзень назад тут ніводнай косткі не было... Ваўкі? Даўно не чуваць пра іх...» А калі здагадаўся, спомніў пра конскія могілкі, якія вось яны, побач, за гэтымі калматымі хвоямі, здзівіўся: «Значыць, не пераваяліся шэрыя... Глядзі ты, пад самым носам у людзей...»

Пільней прыгледзеўся да слядоў і як бы ўсумніўся: «Мо сабакі былі тут? Не, у сабакі кіпцюры кожны сам па сабе, а ў ваўка сабраны, і ў гэтым увесь характар драпежніка — жорсткі, рашучы, узведзены, як спружына...»

Вольнага часу ў Пісара хапае — праз дзень ён пасвіць статак: адзін дзень ён, другі — напарнік. І ўжо назаўтра Пісар прывалок да могілак старую асінавую бочку, усцягнуў яе на сасну: «У бочцы ваўкі не так хутка скмецяць і пачуюць мяне, а я тым часам і прыцэлюся няспешна...»

Рабіў усё гэта Пісар тайком і ад сваіх, і ад людзей — за кожнага забітага ваўка цяпер добра плоцяць, і трэба не прагаварыцца, а то тады хочаш не хочаш, а давядзецца дзяліць здабычу. Тут грошы, можна сказаць, самі ў рукі просяцца.

Спяшаўся Пісар, баяўся, што хто-небудзь апярэдзіць яго. Падрыхтаваў-змазаў двухстволку, зарадзіў патроны...

З хаты выйшаў, калі добра сцямнела, ведаў — ваўкі хітрыя, пакуль не заціхне вёска, не вылезуць з логава.

З ваўкамі ў Пісара даўняе знаёмства. Пастухом ён змалку. Яшчэ калі ў школу бегаў, маці брала яго з сабой у падпаскі. Загоняць куды-небудзь авечак на далёкую пашу, маці пакідае яго аднаго каля чарады, а сама за касу ды на луг — бацькі ў іх няма, ад рака страўніка перад вайной яшчэ памёр, і маці самой трэба думаць і пра сена, і пра дровы... Добра, што ён, Лёнік, падрос, стаў памочнікам, цяляты-ягняты дагледзець мог...

Не паспее маці адысці — а тут, адкуль ні вазьміся, ваўкі. Авечкі ўрассыпную па ўсёй пашы, бляюць, збіваюцца ў гурт каля яго, Пісара, дрыжаць, як бы просяць заступіцца... А як ён мог абараніць іх? Ваўкі разумныя — бачаць, што падпасак з голымі рукамі, і нахабнічаюць, нахабнічаюць... У такія вось мінуты, калі ваўкі нападаюць на здабычу, яны вельмі небяспечныя...

Таямніцы воўчага жыцця адкрыў падпаску Лёніку Пісару сусед — дзядзька Сцяпан, які даглядаў і пасвіў калгасных коней. І ўжо тады яго, хлапчука, уразіла, як паводзіць сябе воўчая зграя. Аднойчы ён пачуў, як плача стары воўк. «Мабыць, хтосьці параніў, а мо і забіў яго сяброўку,— сказаў тады дзядзька Сцяпан».

З дзядзькам Сцяпанам у Гаравасе ён знайшоў воўчае логава. «Калі паявяцца ў ваўкоў дзеці,— паабяцаў дзядзька Сцяпан,— прыйдзем і забяром іх».

Было вельмі страшна, але і цікава: які ён, воўк, калі нікога не заўважае і паводзіць сябе смела? А ён, Пісар, паназірае за ваўкамі, калі паявяцца ў іх дзеці...

Падкрасціся непрыкметна да логава — трэба ўмець. Дзядзька Сцяпан умеў і вучыў яго, Пісара. «У воўка галоўнае слых і нюх, а не зрок, так што заўсёды падбірайся да яго з таго боку, адкуль дзьме вецер...»

Ведаў дзядзька Сцяпан і тое, што воўк, які так дбайна клапоціцца аб сваіх дзецях, ніколі не абараняе іх ад

чалавека і нават ад сабак. Заўважыўшы каля логава чалавека з сабакам, воўк асуджана назірае і не можа пераадолець у сабе страх, каб кінуцца на абарону вывадка...

Знайшоўшы ў Гаравасе логава, яны забралі ўсе пяцёра ваўчанят. Ваўчыца праводзіла іх сумным завываннем як ні да самага сяла.

Чацвёра злоўленых ваўчанят дзядзька Сцяпан здаў у райцэнтр і атрымаў за іх грошы. А пятага пакінуў сабе Пісар. Ох, як не спадабалася маладому воўку, калі яму надзелі ашыйнік і прывязалі на ланцуг. Ён шчэрыўся, круціўся і, здавалася, гатоў быў задушыцца, толькі б не жыць у няволі...

Праз два гады воўк вырас, але ўвесь час у яго вачах быў сум, ён з непаразуменнем пазіраў на Пісара, які падаваў яму мяса.

Дзядзька Сцяпан папярэджваў Пісара: «Глядзі, адвяжацца калі — быць бядзе... Давай лепш яго здадзім — цяпер за яго добрую капейку дадуць...»

Воўк, калі дзядзька Сцяпан гаварыў так, варушыў то адным, то другім вухам: ён слухаў і як бы разумеў, аб чым вядуць людзі размову.

Але аднойчы воўк сарваўся з прывязі. Пісара дома не было, і калі дзядзька Сцяпан убачыў адвязанага воўка і паспрабаваў наблізіцца да яго, каб прывязаць зноў, воўк сярдзіта ашчэрыўся і паказаў свае вострыя іклы.

Пачуўшы волю, воўк выбег на вуліцу і трушком падаўся ў канец сяла — яму не цярпелася хутчэй убачыць сцежкі, па якіх ходзяць яго родзічы...

Калі Пісар вечарам таго ж дня прыйшоў дадому, дзядзька Сцяпан сказаў яму: «Як воўка ні кармі — ён у лес глядзіць... І добра, што збег, а то я так баяўся, каб ён бяды не нарабіў... Шкада толькі, што ты мяне не паслухаў — здалі б, то выручку мелі б...»

Пісар уздыхнуў, у яго вачах паявіўся сум, і дзядзька Сцяпан замаўчаў. «Мабыць, я вінаваты, што не выхаваў воўка,— думаў Пісар.— Горды ён вельмі, не мог змірыцца, што яго, як і сабаку, узялі на прывязь... Надакучыла яму сядзець у будцы, захацелася паглядзець на сонца, на неба, на зорную і месячную ноч адтуль, з лесу, дзе ён нарадзіўся... Што ж, ён сам выбраў свой лёс...»

Калі тое было? Вырас Пісар, стаў бацькам двух дзяцей. І, мабыць, даўно няма воўка, якога ён спрабаваў

прыручыць... Засталіся вось гэтыя самыя апошнія, якіх Пісар выследзіў...

Ноччу, калі ён сядзеў на сасне ў бочцы, не рашыўся стрэліць — пабаяўся, што прамажа. Палохаць жа ваўкоў нельга, бо яны сыдуць далёка, пакінуць наседжанае логава, і тады шукай ветру ў полі.

Хто яго ведае, што прыдумаў бы Пісар, калі б на другі дзень выпадкова не сустрэўся на вуліцы з Колькам-лясніком, Колькам — гразой браканьераў.

Лес — вось ён, пад бокам, і хто не ходзіць у лес? Усе... Вядома, хадзіць ніхто не забараняе. Але ж калі табе трэба сасна альбо асіна на гонту ці частакол, то выпішы ў лясніцтве білет, а не крадзься ноччу на калёсах... Сасна ці асіна — не іголка, яе ад Колькі-лесніка не схаваеш... Хочаш паляваць? Таксама рабі, як усе людзі — там жа, у лясніцтве, вазьмі ліцэнзію... Ды і з ліцэнзіяй не распускай рукі... А забудзеш пра меру — тут жа, адкуль-небудзь з карчоў, як той грыб-баравік, выткне галаў Колька. Спытае пра білет ці ліцэнзію, і калі што не так, спакойна скажа:

— Ну, дарагі таварыш, не думаў — быццам ты чалавек сур'ёзны, а яно вунь як...

Складзе акт, дасць распісацца — усё ў яго па форме. А потым, як снег на галаву, і пасыплюцца на адрас вінаватага паперкі розныя — то выклікаюць на таварыскі суд, то штраф трэба заплаціць...

Пісар таксама пападаўся: раз выпісаў білет на дровы, паехаў у лес на падводзе і не стрымаўся — паваліў дубок: слупкі ў плоце падгнілі, замяніць іх трэба было, а тут вось такі дубок пад рукой... Здаецца, зрабіў усё ціха і каб шыта-крыта было: галлё пахаваў, а ствол парэзаў на кавалкі і паклаў на воз пад самы ніз, а зверху дровамі закідаў... Пад'язджаў да дамоўкі і радаваўся: «Вось, Колька, кожнага за руку не злавіш — лес вялікі...»

І калі ўжо згружаў у сябе дома ў двары, зусім як бы выпадкова завітаў Колька. На душы ў Пісара тады так і схаладнела: «Ну, і гад, як сабака чуе...»

Другі раз па вясне Пісар з дзікай казой у лесе не размінуўся... І каза дарам не прайшла яму — у той жа дзень наведаўся да яго Колька з участковым і спытаў: «Сам прызнаешся ці вобыск рабіць?» Сказаў, як абухам агрэў: «Здаецца ж, ніводная душа не бачыла? Няўжо-

такі выдаў хто? Ох і людзі, маглі б — у лыжцы вады ўтапілі...» Не, тут трэба мець анёлава цярпенне, каб не закрычаць і не затупаць нагамі... Але ж... Спакойна, спакойна трэба, з падыходам, з розумам... Хто не любіць, калі перад ім хвастом віляюць? І Колька-ляснік не святы. Хоць ён — бог і воінскі начальнік у лесе, але ж, як і ўсе, жывы чалавек, з ім, калі пагаварыць, дагаварыцца можна...

І тут Пісар пайшоў напралом — выставіў на стол бутэльку белай, мігам сабраў закусіць. Колька-ляснік з участковым і глядзець у той бок, дзе стол, не хочуць: «Не п'ём, і ўсё тут, служба ў нас...»

Усё-такі распрануў Пісар іх, пасадзіў за стол... А калі асушылі і адну бутэльку, і другую, і трэцюю пачалі, Пісар пусціў слязу.

— Дзеці выраслі, не набрацца ім — папалам сябе рэжу, і калі аштрафуеце за казу, то й не знаю...

Колька-ляснік зарагатаў:

— Ну і ліса ты, Пісар. Хочаш сухім з вады выйсці? Вам толькі дай волю... Ведаю — не Ракфелер ты, але ад штрафу табе не выкруціцца, скажы яшчэ дзякуй, калі ў суд не пададзім...

Ледзь не лопнуў ад злосці Пісар: стараўся ж дагадзіць, пачаставаў як! Не, ні кроплі няма сумлення ў Колькі-лесніка... Ды што ты зробіш — папаўся ён, Пісар, і то, папраўдзе, добра, калі пад суд не аддадуць яго... З судом жартачкі паганыя — ад суда да казённага дома прамая дарога, бо не першы раз ловяць яго... І як тут не дрыжаць перад Колькам-леснікам? Улада ў яго руках — вось ён і сыпле штрафы налева ды направа... Такому вось чалавеку і рашыў расказаць Пісар пра ваўкоў...

— Наш салом, як кажуць узбекі, Мікалаю Антонавічу! — знарок жартаўліва пачаў Пісар, сустрэўшыся з Колькам-леснікам на вуліцы.— Чаго надзьмуўся, як мыш на крупы? Браканьеры спакою не даюць? Не скажы, хлеб у цябе, Антонавіч, не лёгкі...

Колька-ляснік сажмурыў маленькія шэрыя вочы, на яго абветраны твар лёг строгі і халодны цень. «Адчапіся,— хацелася сказаць Кольку,— калі выпіў трохі, то ідзі праспіся, не лезь сляпіцай...»

Ды Пісар ішоў следам, працягваў:

— Пакрыўдзіў ты мяне, Антонавіч, але я добры, зла

на цябе не маю... Не думай, што я па п'янцы... У лазні быў сёння, ну, а пасля лазні і Сувораў гаварыў...

— Вось што, Ляксей, сціхні, і без таго галава баліць.

— Эх, Мікалай Антонавіч, я да цябе як да чалавека, а ты...

Пісар злосна сплюнуў, дастаў з кішэні цыгарэту, прыкурыў, на яго высокім ілбе сабраліся зморшчыны.

— Не за чужыя, за свае п'ю... Учора столькі намёрзся за ноч, накалаціўся, страху колькі перажыў... На ваўкоў учора хадзіў, з-пад самага носа драпанулі... Ды нічога, цяпер яны ад мяне не ўцякуць... А што, Антонавіч, калі хочаш, давай тваіх людзей, аблаву правядзём... Мацёрых ваўкоў выследзіў... Не верыш?

Колька-ляснік шырока ўсміхнуўся, паказаў жоўтыя ад тытуню зубы з чырвонымі мясістымі дзёснамі.

— Ідзі ты беленькіх кветачак нарві! Я табе што — дурань? Ваўкі... Адкуль ім узяцца? — Колька-ляснік і сапраўды не верыў Пісару, думаў, што той проста жартуе, пасміхаецца над ім, штрафаў даўніх забыць ніяк не можа.

— Ды не крычы ты! Я табе праўду кажу...

Так вось з ім, з Колькам-лесніком размаўляць трэба іншы раз. Без страху.

Колька-ляснік крутнуўся, пайшоў. Невысокі, з жывоцікам, ногі тоўстыя, кароценькія, крывыя — незразумела, чаму ўсе баяцца яго?

— Яй-богу, праўду кажу,— дагнаў Кольку Пісар.— Я іх во так, як цябе, бачыў... Дзесяткаў каля двух... На конскія магілкі панадзіліся, пайшлі, калі хочаш, хоць зараз сляды пакажу.

— А ці не перагінаеш ты — каля двух дзесяткаў...

— Ты, Антонавіч, разумны чалавек, і не мне вучыць цябе... Ваўкі цяпер не тыя, што раней... Яны хітрыя, як той злодзей: там, дзе жывуць — не крадуць... Я воўчую натуру добра знаю, ты павер ужо мне. Так што давай людзей — не пашкадуеш. Ды паспяшацца трэба, а то апярэдзіць нас могуць — паляўнічыя ў шапку не спяць.

Колька-ляснік спыніўся, задумаўся — па таму, як сур'ёзна гаварыў Пісар, зразумеў: не маніць ён.

— А што? Даўно аблаў не праводзілі... У гэтую суботу калі збярэмся? Людзей я клікну.

— У суботу дык у суботу, толькі каб цвёрда, здабыча сама да нас ідзе, упускаць не хочацца.

— Ты, Лёня, маё слова ведаеш...

Колька-ляснік заспяшаўся — вечна ён у клопатах, няма калі толкам пагаварыць. А Пісар стаяў на месцы, у грудзях у яго кіпела: «Во, гад печаны... Я да яго з усёй душою... А ён! Чортам пазірае...»

Але хутка на душы адлягло, запал прайшоў, і ў рэшце рэшт Пісар махнуў рукою: «Хто вінаваты? Сам заварыў кашу...»

Той жа дзень Колька-ляснік памчаў у райцэнтр да дырэктара лясгаса. Ён, Колька, даўно думае, з якога боку падысці да дырэктара — вельмі важная гаворка ёсць. Сын Колькаў у райцэнтры на заводзе працуе. Інжынер ён. Каторы год на адной і той жа пасадзе — ніякага росту. І калі не памагчы сыну, думае Колька, то і звякуе на такой пасадзе.

Вядома, дырэктар лясгаса — не вялікая птушка, але ж у яго знаёмствы, сувязі... Калі захоча Рыгор Іванавіч, яго шэф, то закіне слоўца, дзе трэба, і ўсё пераменіцца... Ну, а хто сёння за адно «дзякуй» старацца пачне? Не памажаш — не паедзеш...

Яму пашэнціла: дырэктар якраз быў на месцы, але сакратарка папрасіла Кольку трохі пачакаць у прыёмнай. «З Мінскам гаворыць Рыгор Іванавіч»,— сказала сакратарка, сярэдніх гадоў жанчына, модна апранутая, у акулярах з пазалочанай аправай. Сказала, стуліла губы, замоўкла, унурылася ў паперы, бы і не бачыла яго, Кольку. Рабіць нічога не заставалася — трэба чакаць.

Палез у кішэню за цыгарэтай, але ў вочы кінулася таблічка: «У нас не кураць». І Колька-ляснік прыціх, няспешным позіркам акінуў прыёмную. «Як міністр абставіўся шэф,— падумаў.— Пад дуб усё зроблена. Уздоўж сцен не стульчыкі, а мяккія крэслы... Мэбля з чырвонага дзерава... Таблічкі ўсюды ні то з бронзы, ні то з нержавейкі...»

Дваццаць гадоў Колька-ляснік на сваёй пасадзе. І дырэктар, Рыгор Іванавіч, увесь гэты час нязменна кіруе лясгасам. Зжыліся, звыкліся яны, разумеюць адзін аднаго з паўслова. Але дырэктар заўсёды захоўваў службовую дыстанцыю між сабою і сваімі падначаленымі. З ім, з дырэктарам, усе на «вы», усе баяцца і паважаюць яго, асабліва леснікі, бо бачаць: сваю работу

дырэктар ведае, і кожнага з іх, з леснікоў, шмат чаму навучыў і вучыць — нічога дзіўнага ў гэтым няма, чалавек вучыўся пяць гадоў, а ў такіх, як у яго, у Колькі адна «акадэмія» — жыццё...

Бывалі ў яго, у Колькі, і сутычкі з дырэктарам: заўважыць, што ў яго кварталах пагана пасаджана сасна, і давай крычаць: «Насенне толькі дарма пераводзіце...» То, як на бяду, пры шляху нехта спілаваў тоўсты дуб — і зноў наганяя атрымае ён, Колька... Ды якое жыццё без сварак і сутычак? Няўжо, калі ўбачыш беспарадак, маўчаць?

Праўда, іншы раз дырэктар як бы скарачае службовую дыстанцыю, спускаецца са сваёй вышыні, робіцца менш строгім і важным. Але Колька разумее: напускное гэта, ігра не сваёй ролі. А хто з нас, з людзей, часам не хоча паказаць сябе не тым, кім ён ёсць? Усе мы артысты...

Рыгора Іванавіча клікалі і ў вобласць, і ў рэспубліку — адмовіўся, не захацеў на павышэнне. А што яму трэба? У райцэнтры ён гаспадар, у яго вунь колькі лесу — усе, калі што, бягуць да яго, званяць яму: «Выпішы сасну, дапамажы дошкай, брусам...» Не дзіўна — цяпер на дачы мода пайшла, вось дачнікі і атакуюць лясгас днём і ноччу...

А калі якое начальства з вобласці, рэспублікі ці з Масквы заявіцца? Яму, дырэктару лясгаса, званяць: «Выручай, наладзь таварышам са сталіцы паляванне...» Так што Рыгор Іванавіч вельмі патрэбны чалавек...

На стале ў сакратаркі трэснула ў дынаміку, і пачуўся голас дырэктара: «Сямёнаўна, хто там? Скажыце, каб заходзіў».

Колька-ляснік зразумеў, што клічуць яго, падхапіўся, устаў, пакіраваўся да дубовых дзвярэй з масіўнай бронзавай ручкай.

— Заходзь, заходзь, таварыш Верас,— дырэктар заўсёды называе яго па прозвішчу.— Садзіся.

Рыгор Іванавіч перабіраў на стале паперы. Рукі ў яго вялікія, сукаватыя, шырокія плечы, а вось галава бы не яго — маленькая, з пасівелым чубам.

— Дыхнуць вольна няма калі,— нарэшце скончыў дырэктар перакладваць з месца на месца паперы.— Вечна во так: толькі заявіся на работу — і закруціўся, то званкі, то паперы... Няхай на яго...

Дырэктар махнуў рукою, адкашляўся:

— Лёгкі ты на памін, Верас, сам збіраўся цябе выклікаць...

Колька чакаў. Тое, як пачаў дырэктар, не абяцала нічога добрага.

Так яно і было.

— Прэтэнзіі ў нас да цябе, таварыш Верас. І вельмі сур'ёзныя прэтэнзіі,— дырэктар падняў вочы, ва ўпор глянуў на яго.— Усе лясніцтвы спраўляюцца з нарыхтоўкай венікаў, галінкавага корму, лекавых траў, а ты...

Колька зразумеў, аб чым гаворка, і закіпяціўся сам:

— Не ведаю, хто я такі: ляснік ці нарыхтоўшчык? Намі паганяюць і камандуюць усе, а мы маўчы... Сваю работу зусім занядбалі... Мне вунь маладняк у Мончы пара церабіць, а я венікі цэлае лета вяжу... Смешна сказаць...

Дырэктар выбраў паўзу і перабіў яго:

— Ладна, не хныкай, сам не сляпы... Толькі запомні: ніхто з нас лічбаў не здыме, і калі мы іх не выканаем — не здабраваць нікому...

Зірнуў Колька на дырэктара і не паверыў: Рыгор Іванавіч усміхаўся. А ў маленькіх вочках яго з кароткімі вейкамі добразычлівасць: маўляў, не крыўдуй, што я так... Служба ёсць служба...

І дырэктар прымірэнча махнуў рукою:

— Словам, ты, Антонавіч, не забывай...

У Колькі, праўда, яшчэ не астыла ў грудзях, але ён разумеў, што пара перастроіцца на іншы лад.

— Я да вас, Рыгор Іванавіч, з прапановай... Добрае паляванне наклёўваецца... Ваўкі аб'явіліся...

— Што ты кажаш? — натуральна здзівіўся дырэктар.

— Давайце ў гэтую суботу збяромся ў мяне, пагамонім, а потым па лесе пабегаем.

— Сам выследзіў ваўкоў? Мо гэта лухта?

— Выследзіў не я, калгасны пастух Лёнька Пісар. Мо помніце — летась за казу мы яго штрафанулі?

— Дзе там успомніш усё!

Дырэктар задумаўся.

— Не знаю, як і быць,— дырэктар зноў стаў строгім і важным.— Як прывязаны сядзіш тут.

Рыгор Іванавіч адкінуў галаву назад, спытаў:

— У суботу, гаворыш?

Дырэктар замаўчаў. І Колька як вады ў рот набраў — не перашкаджаў думаць дырэктару. Абстаноўка тут такая — бойся лішняе сказаць...

— У суботу можна,— нарэшце выйшаў з задуменнасці дырэктар.— Са мною чалавек пяць прыедзе.

— А дзе...— раскрыў было рот Колька, каб спытаць, але дырэктар зразумеў яго думку, не даў дагаварыць.

— Там, дзе і заўсёды — у доміку лесніка. Навошта, каб нас бачыла ўся вёска?

— Мо ў мяне дома лепей было б? — хацеў не згадзіцца Колька.— Жонка згатавала б таго-сяго...

— Згатаваць можна і там — падкінь жонку зараней, і да нашага паяўлення яна паспее...

На тым і скончылі. Гаварыць болей не было аб чым, і яны развіталіся.

У суботу, ледзь развіднела, Колька-ляснік стурыў з пасцелі Пісара.

— Збірайся, на аблаву паехалі.

Пісар цёр кулакамі сонныя вочы.

— Хіба сёння субота?

— Угадаў.

— Галава як не мая,— скардзіўся Пісар,— вось бы расолу шкляначку, учора зарплата была...

— Будзе ўдача,— перабіў яго Колька і шматзначна падміргнуў,— то не толькі расолу пакаштуеш, а і яшчэ нечага... Ды спяшайся, спяшайся, часу мала ў нас...

Гадзіны праз дзве яны пад'язджалі на падводзе да доміка лесніка — двухпавярховай драўлянай будыніны, што схавалася ў глыбіні пушчы пад зялёнай навіссю клёнаў, букаў, грабаў і дубоў. І зімой, і ўлетку пад суботу там ці нядзелю паяўляюцца людзі. Звечара зашугае полымя ў каміне, застолле шуміць усю ноч, і толькі к раніцы цішэе ў доміку... Раз'язджаюцца адсюль госці з галаўнымі болямі, з бледнымі тварамі, і рукі ў кожнага дрыжаць да таго, што цыгарэту ўтрымаць не могуць... Але госці задаволеныя, і кожны, хто тут бываў, марыць завітаць яшчэ хоць разочак: «Прыгожа як! А прырода, прырода! Палессе!» І не шкадуюць госці добрых слоў для тых, хто ставіў тут гэты дамок, хто паклапаціўся, каб ім, гасцям, было тут сытна, цёпла, утульна заўсёды, калі б яны ні прыехалі...

А сёння ад гэтага самага доміка мелася пачацца аблава.

— Варушыся, варушыся, Лёня,— звыкла гаспадарыў Колька-ляснік.— Во-во людзі прыедуць... Давай трохі дроў усячы ды нанасі ў хату, а то мне хоць разарвіся...

Жонка Колькава, яшчэ даволі маладая, спрытная, зялёнавокая жанчына, не адыходзіла ад печы: трэба ж сустрэць гасцей як след...

Усё ішло, як і было задумана, і Колька-ляснік радаваўся, што так нечакана падвярнуўся выпадак паказаць сябе начальству. І ўвесь час з удзячнасцю пазіраў на Пісара, які сёння, бы сонная муха: сеў на ганку і ўжо амаль дрэмле. І Колька, як мог, падымаў Пісару настрой:

— Не спі, Лёня, сёння ты ў нас за камандзіра — ад цябе залежыць: пойдзе нам удача ў рукі ці не.

— Пісар яшчэ ніколі свіннёй не быў, раз я сказаў...

Колька нуль увагі на яго словы, бачыць толькі — нездаровіцца сёння Пісару, каб не падвёў хоць, без яго паляванне прападзе... А прайшло б удала паляванне — яго, Кольку, начальства запомніць... Ды і прэмія за ваўкоў не малая...

Час цягнуўся марудна, і Пісар губляў усякае цярпенне: выбягаў на дарогу, услухоўваўся, ці не чуваць матораў, а сам чакаў, чакаў з непакоем, з перасохлым, бы зямля ў засуху, горлам. І не вытрымаў, узмаліўся:

— Наліў бы, Антонавіч, кроплю, не магу я...

Колька вынес адну бутэльку на двор, наліў у шклянку, і Пісар тут жа перакуліў чарку ў рот і адчуў, што ўсярэдзіне бы цёплым сонейкам прыгрэла.

— От дзякуй табе, Антонавіч, цяпер жыць можна.

А Колька незадаволена прабурчаў:

— Болей не прасі, а то карысці з цябе, бы з казла...

Пісар павёў вачыма вакол, замёр, сцішыўся — на яго твар раптам лёг халодны цень.

— Антонавіч, а загоншчыкам я забыў сказаць.

Сказаў, крадком глянуў на Кольку — як бы папрасіў прабачэння.

— Я мігам, на адной назе...

Не паспеў Колька выпусціць абойму слоў, якія на людзях не гавораць — бы ветрам падхапіла Пісара, пад нагамі ў яго гулка затрашчала галлё: так заўсёды і бывае ў лесе, калі хто бяжыць без аглядкі.

Колька застаўся каля дома адзін. Ён абгледзеў усё вакол: палянку, рэчку, што віднелася-блішчала за палянкай, тоўстыя і высокія кляновыя, грабовыя і букавыя дрэвы, якія абступілі домік з усіх бакоў. Госпадзі, як надакучыла яму ўсё гэта! Гадамі адно і тое ж мазоліць вочы, гадамі вечна бадзяйся па лесе, лаві браканьераў...

Не, не, да д'ябла гэтую прыроду, на якую не могуць надзівіцца тыя, што на дзень-два наскочаць сюды, у домік лесніка... Трэба самому на людзі! На прастор жыцця выграбацца трэба, пакуль зусім не пастарэў і не здзічэў... Памагчы б вось сыну ўладкавацца, і за латкі-манаткі — ды з жонкай да яго. Кватэра, праўда, у сына невялікая. А мо і з кватэрай Рыгор Іванавіч паможа?..

Ды хопіць смаркачы пускаць, хопіць сваё сэрца знодзіць... Вось-вось прыедуць сюды, і трэба як след абдумаць усё... Толькі б Пісар не падвёў — п'янчужка гэты... Не спазніўся б ён, а то яму, Кольку, тады хоць скрозь зямлю праваліся... Не дай бог...

Заціх, паўслухоўваўся. Ні машын, ніякіх шолахаў не чуваць пакуль. Ваўкі... Прытаіліся, мабыць, і не здагадваюцца, што іх сёння чакае... Але ж Пісар! Ніхто пра ваўкоў, здаецца, і не чуў, а ён выследзіў...

Колькі ён прабыў на двары адзін? Мо з паўгадзіны, а мо і болей. І калі нарэшце одум пакінуў яго, Колька хацеў увайсці ў дом: жонка ж адна зранку запарваецца каля печы, можа, ёй якая дапамога патрэбна? Але тут на дарозе, між дрэвамі, замільгаў блакітны «рафік» — маленькі аўтобус, які праз мінуту падкаціў да доміка. Скрыпнулі тармазы,ляснулі дзверы аўтобуса — і перад ім, Колькам, стаяў Рыгор Іванавіч.

— Заждаўся, Верас? — павітаўшыся, сказаў Рыгор Іванавіч.— Пакуль сабраліся ўсе...

Расчыніліся дзверы доміка, і на ганку паявілася Колькава жонка — ружовашчокая, са светлай усмешкай на твары і ў вачах: не каго ж-небудзь сутракаць выйшла...

— Ах ты наша дарагая сястрыца-лясніца! — узышоў на ганак Рыгор Іванавіч, пацалаваў Колькавай жонцы руку.— Ну, Верас, і жонка ў цябе! Каб маладзейшы быў — адбіў бы...

Рыгор Іванавіч галасна засмяяўся, па-добраму глянуў на Кольку, як бы супакойваў яго: «Ды ты не хвалюйся, жартую я».

А Рыгор Іванавіч сёння ў настроі. Стаіць побач з Колькавай жонкай, усміхаецца, жмурыць вочы, бы і не заўважае, што Колька сам не свой — то пачырванее, як бурак, то пабялее...

Ад няёмкасці выручыла Колькава жонка. Яна шырока расчыніла ў дом дзверы, запрасіла:

— Заходзьце, госці дарагія, абед чакае вас.

Рыгор Іванавіч прыкінуўся дурнем: мастак ён наконт прыкідона.

— Мы прыехалі на паляванне, а тут во што... Спадзяюся, Верас, ты прыдумаў які-небудзь абмежавальнік, а то хто які калі дабярэцца да бутэлькі, то яго і за вушы не адцягнеш, пакуль не паваліцца...

Выбраліся з аўтобуса і тыя, што прыехалі разам з дырэктарам. Тут быў высокі, смуглявы мужчына, Лось, старшыня заўкома лясгаса. Пазіраў ён на Кольку бы з вышыні, бы са званіцы, і калі смяяўся — белай падковай свяціўся зубасты рот на смуглым твары.

Услед за старшынёй заўкома вылез знаёмы Кольку нізкарослы, чорны, бы цыган, з хваравітым тварам адвакат з раённай юркансультацыі — Шукан, даўні сябар Рыгора Іванавіча: без адваката якая кантора абыдзецца? А лясгас — кантора немалая...

Бойкі, каратканогі чалавек у акулярах — Аляксей Міхайлавіч, начальнік сельгасупраўлення, які, як і Рыгор Іванавіч, на сваёй пасадзе без малога дваццаць гадоў. Мяняюцца старшыні выканкома, іх намеснікі, мяняюцца начальнікі аддзелаў у выканкоме, а ён, начальнік сельгасупраўлення — нязменны. Мо таму і сябруе з ім Рыгор Іванавіч, што бачыць: просты чалавек Аляксей Міхайлавіч, ніколі нідзе не высоўваецца, жыць і ладзіць з людзьмі ўмее, пра высокую кар'еру не думае. Ды яму, мабыць, і лепш на звыклай рабоце: менш клопату, непаразуменняў розных...

Асцярожны, ціхі, з коратка стрыжанай бародкай, круглы, бы мячык,— Вечар, галоўны інжынер лясгаса, правая рука дырэктара. Рыгор Іванавіч цэніць Вечара, хоць ён у лясгасе і без году тыдзень. Чалавек не так даўно скончыў інстытут, ведае пра ўсё передавое і новае ў лесаводстве, а галоўнае, не падседжвае і не піша ананімкі на яго, на дырэктара, як рабілі тое ранейшыя інжынеравы калегі, якіх бясконца мяняў Рыгор Іванавіч, пакуль не дачакаўся гэтага...

Нарэшце пяты — сярэдняга росту, круглатвары, рэзкі на слова, весялун і анекдотчык — Сарока, старшы ляснічы. Аднойчы ўзяў Рыгор Іванавіч Сароку з сабой на такую вось, як сёння, паездку, і не пашкадаваў: незаменімы ён чалавек у кампаніі, умее падсыпаць столькі перцу, што ад смеху жывот затрашчыць...

За сталом весела гаварылі, смяяліся, жартавалі. Тон задаваў старшы ляснічы. Ён, як і ўсе, выпіваў, закусваў і паспяваў выпускаць у мінуту, здавалася, тысячу слоў, падміргваў Колькавай жонцы, шаптаў ёй нешта на вуха, калі яна ставіла на стол міскі з закускай. Колькава жонка сарамліва чырванела, але маўчала, нічога не гаварыла і ўсё бегала ад печы да стала, ад стала да печы — трэба ж, каб госці не бачылі недахвату...

Колька амаль не піў — што ж будзе, калі ўсе назюзюкаюцца? Ды і пра аблаву не каму іншаму, а яму думаць...

Раз-пораз Колька зіркаў у расчыненае акно: ці не паказаўся Пісар? Каб жа не зваліўся ён дзе пад корч ды не заснуў, а то прапала ўсё... Пад мухай сёння Пісар, ад яго чаго хочаш дачакацца можна... Ад гэтых падазрэнняў у Колькавай душы расла, шырылася трывога...

Рыгор Іванавіч запрасіў усіх падняць чаркі, прапанаваў тост... Аляксей Міхайлавіч сядзеў побач з дырэктарам, згаджаўся з тым, што чуў ці не, але рабіў усё гэта далікатна і незалежна.

Юрыст з галоўным інжынерам стараліся падтрымаць размову, якую вёў дырэктар. Яны смяяліся, калі было смешна, аб чымсьці пыталіся ў Рыгора Іванавіча і абодва дзівіліся, што вось ніколі не ездзілі на паляванне, нават стрэльбу трымаць як трэба не ўмелі, а тут паехалі і, аказваецца, не прагадалі... Весела, шумна, сытна за гэтымі сталамі...

Але, мабыць, сумна было б усёй кампаніі без Сарокі, які, калі яшчэ трохі выпіў, стаў бы завадны: яго звонкі голас і смех не спыняўся ні на секунду. Раз-пораз Сарока ўсклікваў: «Няўжо праўда? Ах, каб ты сто год жыў і дзвесце рачкі поўзаў... Ха-ха-ха... Без нажа рэжуць...»

Сарока паспяваў і пасмяяцца, і пасмяшыць, і запярэчыць, там, дзе трэба, не згадзіцца з кім-небудзь, паспрачацца. Але калі спрэчка заходзіла далёка і ў паветры

пачынала пахнуць канфліктам ці сваркай, Сарока хітра і непрыкметна пераводзіў гаворку на іншае або расказваў які-небудзь свежы анекдот. І зноў чуўся яго звонкі і вясёлы голас: «Ідзі ты к ядронай-зялёнай... Каб ты правалійся, а я і не думаў... Каб на цябе качкі... Ха-ха-ха...»

Што і казаць — энергічны чалавек Сарока, без яго застолле не застолле... А паглядзіш — ён самы звычайны, нічога асаблівага ў ім: невысокі лоб, маленькія, але вострыя, як два свярдзёлкі, вочкі, кругленькі жывоцік, аблыселая спераду галава... А язычок! Ніхто не перабрэша яго. Дырэктарава душа не вельмі ляжыць да старшага ляснічага, так і бойся, каб не выведаў ды не падслухаў якую важную ці сакрэтную размову і не разнёс па ўсяму свету. І калі Рыгор Іванавіч церпіць Сароку, то толькі таму, што ён добры спецыяліст, а на паляванні незамянімы, як і ў кампаніі... Усе, хто добра ведае старшага ляснічага, іншы раз дзівяцца: як гэта ўжываецца ў адным чалавеку балбатун, пустазвон і тонкі знаток лесу? Ніхто гэтага не ведае — загадка прыроды.

Рыпнулі дзверы, і на парозе паявіўся Пісар — потны, расчырванелы: відно, што чалавек спяшаўся. Убачыў яго Колька, і з душы бы цяжкі камень упаў, які не даваў дыхнуць вольна...

Пісару паднеслі штрафную, і ён, нават не сеўшы за стол, выпіў, закусіў хлебам і салёным гурком.

— Пара нам, браточкі. Я ўжо і сцяжкі паставіў, загоншчыкаў арганізаваў... Ваўкі пакуль у логаве — я праверыў: слядоў не відаць, значыць, дажыдаюцца нас, міленькія...

Усе пачалі вылазіць з-за стала, апранацца, бралі стрэльбы і выходзілі на двор.

Ваўкі і праўда сёння не пакідалі сваё логава. Важак пачуў нядобрае з самага ранку і пільна сачыў за тым, што адбывалася ў лесе. Як толькі развіднела, праехалі на калёсах трое ў бок доміка, які ў пушчы, непадалёк ад логава. У дваіх, заўважыў стары воўк, пры сабе жалезныя палкі, якія бахаюць громам. А гэта нічога добрага не абяцала... Маладыя і ваўчыца вельмі хочуць есці, грызуцца, спрабуюць адлучыцца, каб знайсці хоць дзе якую леташнюю костку. Але важак так глянуў на іх і страшна гыркнуў, што ніхто не пасмеў і нос выткнуць з логава...

Шкада старому воўку маладых — не ўмеюць яшчэ яны, не прывыклі цярпець. Але болей за ўсё шкада яму ваўчыцу — яна ж даношвае ў сабе яго дзяцей, і ёй галоднай доўга не пратрымацца... Ды што зробіш? На сёння пра конскія могілкі трэба забыць. Чуе, ох як чуе стары воўк, што бяда ўжо крадзецца да іх, яна ўжо зусім блізка. І як тут быць? Воўчы інстынкт падказвае — трэба сядзець ціха, трэба маўчаць і заставацца незаўважнымі... І ваўкі асуджана прытаіліся, верылі ў тое, што страшны лёс міне іх...

Калі адышліся трохі ад доміка, Колька-ляснік пачаў расстаўляць людзей. Ён думаў, што ваўкі сунуцца адразу, калі загоншчыкі выкураць іх з логава, у гушчарэчу. Вось сюды, у самы цэнтр аблавы, ён і паставіў Рыгора Іванавіча з Аляксеем Міхайлавічам. На край лесу выпала ісці старшаму ляснічаму з юрыстам і галоўным інжынерам...

Не забыў Колька і пра яго, пра Пісара. Падышоў, зашаптаў:

— Будзь побач з дырэктарам, ты заслужыў, каб удача цябе не мінула,— і ў каторы раз падміргнуў, маўляў, помні маю дабрату, бач, я з начальствам цябе зводжу.

На тое, што сказаў яму Колька, Пісар і вухам не павёў. Ён бачыў, як Колька скача перад дырэктарам і Аляксеем Міхайлавічам, заглядвае ім у вочы і не знае, што рабіць. «Не такі ўжо ты і суровы, а я думаў, што ты ў лесе, як рыкаючы леў... Аказваецца, і ты бываеш зайцам...»

Пісар ад душы рассмяяўся. Колька ўбачыў, што з Пісарам штосьці адбываецца, і толькі пацiснуў плячыма: «Мусіць, мала выпіў».

— Ды ідзі ты туды, куды табе кажу! — крыкнуў Колька, але Пісар на яго словы нуль увагі. Толькі перастаў смяяцца: «Агідна... А я баяўся яго... Думаў, чалавек ён, а ён вунь перад дырэктарам, як перад воўкам... І я во так жа перад ім, перад Колькам... Ды хіба я не чалавек? Цьфу ты... Ды прападзі яно ўсё пропадам...»

Пісар развярнуўся на дзевяноста градусаў і пайшоў у бок ракі. «Здавольцеся вы, а мне нічога не трэба»,— ад цяжкіх думак Пісару зрабілася нядобра, і ён прыбавіў кроку, каб хутчэй дабегчы да ракі і спаласнуцца.

Колька, заўважыўшы, што Пісар як бы ўцякае ад аблавы, не зразумеў яго, разявіў рот, перапалохаўся, «Мо гэта ён пад манастыр мяне падвёў? Мо тут ваўкамі і не пахла?»

Колька мігам дагнаў Пісара, затрымаў яго.

— Ты што гэта? Конікі строіць надумаў? Ну, хлопча, глядзі ў мяне, так не жартуюць... Пападзешся калі — не прасіся...

Словы лесніка для Пісара як халодны душ.

— Ды не дрыжы ты, не пускай бурбалкі, ідзі на сваё месца, а то праваронііш ваўкоў і плакаць потым будзеш... Праўду сказаў — ваўкі ў логаве...

— Чаму ж ты тады ногі на плечы ды наўцёкі? Ваўкоў спужаўся?

Пісар ведаў — што б ён ні сказаў цяпер, Колька не паверыць. І ён толькі махнуў рукою.

— Адвяжыся...

Не сказаўшы болей ні слова, Пісар падаўся да ракі, а Колька як анямеў, стаяў на месцы, лыпаў вачыма: «Во чалавек — два вухі! Хто б мог падумаць — сам звалок мяне з хаты, а цяпер во якія конікі... Якое дзіўнае і незразумелае стварэнне — чалавек...»

— Ты тады хоць там, ля ракі, не спі ў шапку,— крыкнуў наўздагон Пісару Колька. Гэта ён сказаў хутчэй для адчапнога, бо быў упэўнены: не такія дурныя ваўкі, каб перціся на луг, на адкрытае месца.— Сцеражы іх там, усякае можа здарыцца.

Але Пісар нават не азірнуўся, а ў Колькі і злосць на яго прайшла: «Дзівак, дый годзе... Святога з сябе разыгрывае... Хай хоць на галаве ходзіць... Цацкайся яшчэ з ім...»

У лесе закрычалі, загалёкалі, затрашчалі трашчоткі, зазвінелі званкі, затрубілі ў рог — гэта загоншчыкі пачалі сваю работу. І Колька з усіх ног кінуўся ў лес, туды, дзе былі ўсе паляўнічыя — аблава пачыналася...

Напалоханыя ваўкі не вытрымалі, выскачылі з логава, кінуліся ўрассыпную хто куды. Важак тонка завыў, папярэджваў маладых, каб трымаліся каля яго. Але дзе там! Пачалася такая неразбярыха, што неўгадно, як і самому ратавацца...

Важак з ваўчыцай выбралі хмызы — толькі там, спадзяваўся стары воўк, і можна заблытаць след ды схавацца. Але калі ён наблізіўся з ваўчыцай да хмызоў, то

ўбачыў, як там, куды ні глянь, нешта чырвонае, тое, чаго ваўкі так баяцца — яно, чырвонае, бы жывое, трапечацца, трапечацца сюд-туд... І так страшна, так нядобра зрабілася старому воўку, што ў галаве ў яго зусім памутнела, і ён, нічога не разбіраючы, папёр краем лесу, да ракі, на луг — там, памроілася яму, не відаць тых, што каравуляць іх з жалезнымі палкамі... А за лугам другі лес, у якім мо іх адзіны ратунак...

У тым баку, куды пабеглі маладыя, бабахнулі з жалезнай палкі... Потым яшчэ і яшчэ... І стары воўк сваім звярыным сэрцам адчуў: вось і не стала кагосьці з гайні...

Вельмі разгубіўся важак, на нейкі момант як бы назусім страціў слых, зрок і нюх... Ён толькі раз-пораз азіраўся на ваўчыцу, якая ледзь паспявала за ім: не лёгка ёй з чэравам...

І ўжо калі выбег на край лугу, воўк пачуў, што пахне кіслым, брагай — так толькі пахне ад тых, якія ходзяць з жалезнай палкай... Важак прытармазіў, павярнуў галаву назад: высунуўшы язык, набліжалася ваўчыца. Яна ўжо вось, амаль побач, два ці тры крокі да яе... «Назад, у лес, тут небяспека!» — толькі і паспеў папярэдзіць ён ваўчыцу, але сам не змог зрабіць і кроку — з блізкіх кустоў бабахнула громам. Галаву бы раскалола гарачым клінам, і, падаючы на зямлю, важак пачуў, што бабахнула зноў, і ваўчыца не паспела назад у лес — яе таксама скасіла громам з жалезнай палкі.

Калі ў лесе пацішэла, Пісар зразумеў: усё, скончылася аблава. Ён узяў за лапу воўка, падцягнуў яго да ваўчыцы: «Во і ў смерці вы неразлучныя. Але цяжкі, халера, як цяля. А ваўчыца няйнакш котная — чэрава расперла...»

Хутка каля ракі, дзе быў Пісар, сабраліся і тыя, што разбрыліся па лесе. Колька, калі ўбачыў побач з Пісарам забітых ваўкоў, ад злосці ледзь не лопнуў: «І вязучы ж, трасцы яму ў бок... Хоць калясуй, хоць рэж мяне на сцёнжкі, але ніколі б не падумаў, што ваўкі сунуцца сюды. Як магнітам пацягнула іх да Пісара...»

Ад гэтых думак у Колькі было чорна на душы. Ды ён стараўся не паказаць, што зайздросціць Пісару і ад зайздрасці проста пакутуе. Чатыры ваўкі паклалі, але ні

дырэктар, ні Аляксей Міхайлавіч не застрэлілі ніводнага. А стараўся ж Колька, усю сваю паляўнічую мудрасць скарыстаў, зрабіў усё, каб удача не мінула іх. Ды не ўсемагутны ён, Колька, прыроду-маці яму не перахітрыць і не перамудрыць... Нікому яшчэ не ўдавалася гэта...

— З цябе, Лёня, паўлітра, каму, ядры яго корань, дуля, а табе во, можна сказаць, як манна з неба,— сказаў Колька.

Старшы ляснічы расшпіліў свой паляўнічы мех, выцягнуў бутэльку пшанічнай.

— Пакуль ваш Лёня збегае ў магазін, то давайце вось адкаркуем, усё-ткі мы недарма ногі свае білі, не з пустымі рукамі выйдзем з лесу — чатыры ваўкі адным махам...

А Пісара ўсё не пакідаў настрой, які завалодаў ім, калі пачалася аблава. Ён не мог глядзець у вочы Кольку, людзям, што прыехалі з дырэктарам лясгаса. Яму надакучыў гэты болбацень, старшы ляснічы, надакучыў Колька, які за ўвесь ранак не сказаў ніводнага шчырага слова. І Пісар падумаў — як цяжка, калі побач няма з кім, не таячыся, без усялякай фальшы, пагаварыць.

# Гняздо на дубе

Над зялёным іржышчам, з якога яшчэ не паспелі звесці і саскірдаваць салому, кружыць коршак. Кругі яго павольныя, няспешныя. Здаецца, быццам ён павіс у паветры.

Валодзя добра ведае: нездарма коршак кружыць над полем цэлы ранак. Пасля спорнага дажджу пожня густа парасла маладой травой, дзікім часнаком, а бліжэй да бярэзніку — зайчыкавай капустай. Сюды прыбягае на пашу зайчыха з вывадкам. Зайчыха старая, кемная, хітрая, хуткая на ногі. Толькі пачуе шум, што набліжаецца з вышыні, і вокам міргнуць не паспееш, а яе ўжо няма — схавалася ў бярэзніку. Маладыя ж зайчыкі, пабачыўшы, што маці кінулася на ўцёкі ў схованку, прыкладаюць вушкі, заміраюць на месцы, вільготнымі пыскамі нюхаюць паветра. І тут каменем на аднаго з іх падае коршак. Шум, піск, шырокі ўзмах крылаў — і коршак узнімаецца ў паветра. У яго доўгіх вострых кіпцюрах яшчэ жывое зайчанё. Яно жаласна, як мышка, пішчыць, просіць ратунку... І калі Валодзя бачыць і чуе ўсё гэта, яму становіцца балюча, сэрца яго сціскаецца. Неяк ён з маці пыганяў пасвіць кароў сюды на ржышча і сам злавіў маленькага зайчыка. Тады чамусьці яму не было балюча, хутчэй ён радаваўся, што злавіў жывога звярка. Насіў яго ў шапцы і паказваў усяму сялу. І нават вельмі сумаваў, шкадаваў, калі зайчык трохі падрос і ўцёк у лес... А калі ён бачыць, як падымаецца ў неба коршак са злоўленым зайцам, яму становіцца крыўдна, што ён не можа ратаваць звярка ад пагібелі. Тады Валодзя злуе, кожны раз дае сабе слова, што пойдзе ў лес, знойдзе яго гняздо і спора-раскідае хай сабе і з маладымі птушанятамі ці з яйкамі.

На коршакаў злаваўся не ён адзін, уся вёска. Бо як прыходзіла лета, ад іх не было ніякага ратунку. Ледзь паспее квактуха выйсці з хлява на двор ці на агарод, а тут, адкуль ні вазьміся, і ён, коршак. Схопіць куранё і сігае ў неба.

— Я ведаю, дзе яны водзяцца,— сказаў аднаго разу Валодзя Дорашу, свайму суседу, старэйшаму за яго гады на два. Дораш — гэта яго мянушка, сапраўднае імя — Федзя, а прозвішча — Дарашук. Але ўсе дарослыя і дзеці чамусьці называюць яго скарочана — Дораш.

Мабыць, так ямчэй. І Федзя ні на кога не крыўдуе за гэта: прывык, відаць.

— Гайда разам, жывых паловім,— прапанаваў тады Валодзя Дорашу.— Ніхто не паверыць, што мы самі...

— Смелы ты занадта, глядзі, без вачэй застанешся, коршак не верабей, ён, казаў тата, і на чалавека можа напасці,— абсек яго Дораш.— Хіба ты не ведаеш, што вы гэтая птушка дужая і драпежная? А гняздо робіць высока на дрэвах, дзе ніводнага сучка, ніводнай галінкі, каб можна было ўчапіцца і залезці.

— А мы палкамі саб'ём,— не хацеў згаджацца Валодзя.

— Хм-м... палкамі. Кашы бярозавай ты ўдосталь не наеўся, бо каб наеўся, то не вярзекаў абы-чаго... Падумай толькі — сухой і лёгкай палкай не саб'еш, а цяжкую паспрабуй дакінь, тут сіла дзядзькі Васіля трэба, які, нібы пушынку, поўны мех пад рукою нясе, а ты...

— Па-твойму, няхай коршакі жывуць вольна?

— Я так не казаў і не думаў...

Валодзя змаўкае. З сумам узіраецца ў неба: ці не відаць там коршака? Над пожняй, высока-высока, ледзь прыкметны маленькія чорныя, бы мухі, кропкі. І калі ён заўважае іх, сэрца яго зноў сціскаецца.

— Не хочаш ісці са мною, пайду адзін, я знайду іх і выжыву з нашага лесу, не я буду, калі не зраблю гэтага.

— Добра, давай сходзім. Чаго надзьмуўся, як сыч? — неахвотна згаджаецца Дораш.— Толькі я не палезу на дрэва, не хапала мне калені абдзіраць... Ты лягчэйшы, табе спрытней ускараскацца...

Назаўтра з самага ранку па тэлевізары паказвалі фільм пра дрэсіраванага сабаку, і ні Валодзю, ні Дорашу не вельмі хацелася ісці ў лес, але ж дамовіліся. А выпраўляцца трэба было зараней, каб за дзень паспець звярнуцца туды і назад.

— Думаеш, у Астроўках тваё коршакі селяцца? — хмура кажа Дораш, калі выбраліся з вёскі.— Чакай, убачыш ты іх там, як сваю патыліцу. Гэта нам, людзям, здаецца, што там высокія дубы і асіны, а птушкам яны так сабе, мабыць, чэзлыя дрэўцы.

Абодва задзіраюць угору галовы, пазіраюць на тоўстую з чорнымі сухімі, абымшэлымі сукамі асіну. Адзін

сук выдуплены, і ў дупле пішчаць, не змаўкаюць маладыя дзятлы.

— Калі б коршак мог улезці сюды, то і іх звёў бы са свету,— кажа Валодзя, пазіраючы, як ля дупла з чарвяком у дзюбе затрымаўся стары дзяцел, пакручвае галавой убакі, аглядаецца і імгненна хаваецца ў цёмнай дзірцы.

— У прыродзе ўсё прадумана,— адказвае Дораш словамі, пачутымі, пэўна ж, ад дарослых.— Зглымаў бы даўно коршак дзятлікаў, як слон цукерку праглынуў бы, душа яго ненажэрная, але кіпцюры ў яго кароткія, не дастане...

Дарога, што выпала ім, мала езджаная, сям-там перагароджаная старым трухлявым дрэвам, асінай ці дубам, якія паваліў долу навальнічны вецер. Паперадзе Валодзі мільгае Дораш. Расхінае кусты, ступае асцярожна. Валодзя — за ім услед. Ён не зводзіць вачэй з паваленай асіны. Мабыць, не так даўно ветравей вырваў яе з каранямі, бо не паспела высахнуць і звянуць лісце. Раптам Валодзя згледзеў старое гняздо ды так і замёр на месцы.

— Дораш, пабач, можа, гэта коршакава?

Дораш спыняецца, незразумела пазірае на яго, паціскае плячамі, нібы пытаецца: «Мо табе што прыснілася?»

Не кажучы ні слова, Валодзя вяртаецца назад да паваленай асіны, не зводзіць позірку з гнязда. Крокі за тры ад яго спыняецца. Хвалюецца, хоча паклікаць Дораша і паказаць яму тое, што сам убачыў. Але голас яго прапаў, і ён толькі ледзь чутна прасіпеў: «Здаецца, коршакава».

— Чаго ў цябе лыткі трасуцца? — дагнаў яго і стаў упобачкі Дораш.— Ці не на воўчае логава напароліся мы?

— Ты як аслеп. Вунь жа гняздо — вялікае, чорнае, як коршакава.

Асмялелі, наблізіліся. Дораш крывіць свае тоўстыя губы, на ўвесь голас смяецца, аж прысядае:

— Вырас ты, Валодзька, пад неба, а дурань як трэба. Коршакі на дубах жывуць... А гэта ж асіна... Крумкач тут жыў; павер мне, я ведаю, што кажу. У коршака, як і ў бусла, зда-а-ро-вае-е гняздо, круглае, бы кола з воза.

Валодзя маўчыць, робіць выгляд, што з усім згодзен. Паспрабуй, думае, сказаць цяпер што насуперак, возьме яшчэ ды вернецца назад.

Абодва задзіраюць галовы, заўважаюць вялікую чорную птушку, якая сумна пазірае на дол, дзе зараз яны.

— Не казаў я табе? Паглядзі, крумкач не першы дзень, мабыць, кружыць тут над сваім раскіданым кублом — птушкі, як і людзі, вельмі прывыкаюць да аднаго месца, да роднага селішча, і калі хто забярэ ў іх яйкі ці спора кубло, то на той год яны болей ужо не выводзяцца.

— Ты як па-пісанаму гаворыш. Адно не магу ўзяць у галаву: скуль ты зваліўся такі грамацей?

Дораш робіць выгляд, што крыўдуе, але як старэйшы даруе Валодзю яго невуцтва.

— Дажывеш да маіх год, то і сам болей будзеш ведаць. Ды і ўважлівей трэба глядзець перадачы «У свеце жывёл», там багата чаго карыснага бывае...

Тое, як ён гаворыць пра свае гады, выклікае смех, але Валодзя стрымліваецца: іншы раз ён даў бы зразумець, хто ён, Дораш, такі. Але толькі не зараз, зараз ён усё сцерпіць, змоўчыць: «На два гады старэйшы, а хваляндзей, якіх свет не бачыў». Не, зараз ён як вады ў рот набярэ, а то Дораш успыхне, закрыўдуе і не пойдзе далей, не памогуць ніякія ўгаворы, ён яго добра ведае... Тады яму аднаму да коршакавага гнязда ніколі не дабрацца...

Яны пазіраюць адзін на аднаго, не рашаючыся загаварыць. Валодзя душой адчуў: настаў напружаны момант, і трэба ўсімі праўдамі і няпраўдамі задобрыць Дораша, пакуль ён не павярнуў аглоблі назад.

— Федзя, давай на Мулёры заскочым, там цяпер столькі суніц, уволю наесціся можна, а калі захочам, то і дадому прынясём, кузенькі з бяросты парабіць нядоўга, збіраць будзе ў што.

Дораш устае з зямлі, крывіцца, потым прыкладвае руку да лба, пазірае на неба:

— Сонца на паўдні, а мы на паўдарозе. І злуецца: — Чаго ты мяне паклікаў? Суніцы збіраць? Па трухлявых калодах лазіць?..

Ад доўгай дарогі, утомы і духаты ў Валодзі кружылася галава, звінела ў вушах. Ён ледзь паспяваў за Дорашам, які, амаль не азіраючыся назад, ішоў без пера-

дышкі. Валодзю пачало здавацца, што ён ужо быццам і не перастаўляе ногі, а плыве, плыве, бы ў нейкім тумане, бы ў забыцці і не адчувае пад сабой зямлі. Вакол спявалі-пераклікаліся птушкі, іхнія галасы даносіліся зблізку і здалёку, але яму здавалася, што свет аглух, анямеў, стаў аднастайным, бо і ўсе фарбы зараз, здаецца, не існавалі для яго. Яны быццам размыліся, растварыліся ў лёгкай смузе-дымцы гарачага летняга дня. Хацелася спыніцца, упасці ў прыдарожную траву, ляжаць, не варушыцца, удыхаць пахі траў, кветак, назіраць, як пчолы пералятаюць з кветкі на кветку, слухаць, як гудуць чмялі...

Сарочка на яго спіне ўзмакрэла, і ён зусім скінуў яе, нёс у руках, адбіваўся ёй ад мошак, якія, чым далей паглыбляліся ў лес, у гушчэчу, віліся цэлымі хмарамі.

Калі лес нечакана абарваўся і перад імі адкрыўся луг з неглыбокай павольнай рэчкай, Валодзя не ўцярпеў:

— Давай тут мо перадыхнём, Федзя.

...Пасля купання сілы і праўда як прыбавілася, і яны весялей пакрочылі лясной дарогай, па якой ездзілі толькі калёсамі, бо дрэвы тут падступаліся амаль да самай каляіны, і галлё часта перапыняла гэты вузкі шлях. Неўзабаве дарога ўзяла крута ўгору. Лес станавіўся гусцейшы, птушыны грай здаваўся больш прыкметным і звонкім.

— Каб мне з месца не сысці — тут недзе коршакі жывуць,— кажа Валодзя, абмацваючы вачамі кожнае дрэва.

— Ціха ты, не гарлапань, а то спудзім, падкрадземся і зблізку пабачым,— стрымлівае яго Дораш.

Дуб з коршакавым гняздом яны заўважылі амаль адначасова, зірнулі адзін на аднаго, быццам спыталіся: «Ну, каму лезці?» Валодзя паглядзеў на таварыша сур'ёзна, і гэтым позіркам даў яму зразумець: «Не бойся, я не перадумаў, раз дамовіўся, то...»

Стаіліся, хвіліну-другую не зводзілі позіркаў з гнязда. Не, там ціха, ніякага шуму. Значыць, старога коршака няма, паляцеў некуды. І гэта надало Валодзю смеласці.

Лезці ўсё ж, папраўдзе, і цяжка, і страшна. Цяжка, бо дуб сухі, тоўсты, з аблузанай знізу карой, з адным-адзіным сучком, за які можна ўхапіцца. А страшна, бо

коршак ёсць коршак, няпрошанага госця ў свой дом ён так не пусціць, кіпцюры і дзюба ў яго вострыя...

— Давай, а то позна будзе,— амаль шэпча Дораш.— Старога, здаецца, няма і не чутно, каб ён вяртаўся. Забяром малых, калі яны там ёсць,— і лататы.

Патаптаўшыся на месцы, паразважаўшы, Валодзя раптам рашуча падыходзіць да дуба, падскоквае, абдымае ствол рукамі і нагамі і пачынае памалу ўзбірацца. Першыя метры асабліва цяжкія, бо знізу кары няма, няма за што зачапіцца ні рукамі, ні нагамі: ён часта саслізгвае, да крыві здзірае калені, але сантыметр за сантыметрам падаецца наперад.

Дабраўшыся да першага сука, робіць кароткую перадышку, пазірае ўніз.

— Ты, Федзя, не лаві вараняк, не расседжвайся, не цікуй за мною, не звалюся я — хіба мне першы раз лезці на дрэва? Назбірай сухіх апоўзін і, калі прыляціць коршак, адганяй яго.

З вышыні Дораш здаецца яму маленькім, як прыплюснутым да зямлі, адна галава добра відаць. І голас у яго быццам змяніўся — пацішэлы і не вельмі смелы: перажывае, мабыць, за яго, Валодзю, каб з ім чаго не здарылася, бо тады абодвум не здабраваць.

— Не бойся, не падпушчу і блізка да цябе,— супакойвае яго Дораш.— Палкі збіраць не трэба, іх тут процьма пад нагамі.

Калі да гнязда застаецца зусім блізка, Валодзя зноў глядзіць на зямлю і адчувае, як закружылася галава. Вось-вось ён сарвецца, старчма паляціць уніз, на такім высачэзным дубе ён упершыню.

Тое, што яму становіцца нядобра, мабыць, заўважае Дораш, бо крычыць на ўвесь голас:

— Не пазірай уніз, а то чаго добрага мутарна стане, на вышыні ад непрывычкі гэта з кім не бывае, і мацней, мацней трымайся за галіну.

Напружыўшыся, Валодзя пераадольвае апошні метр, дацягваецца да тонкай галіны, становіцца на яе ціха, асцярожна, нібы той кот, які крадзецца да галубоў, калі яны садзяцца ў іх на двары. Адчуўшы, што галіна ўтрымала яго, ён заглядвае ў гняздо.

— Ёсць там што? — не можа стрымаць сваёй цікаўнасці Дораш.

— Лезь, сам пабачыш! — у яго голасе чуецца здзіўленне, і Дораш, канечне, усё разумее.

Валодзя ямчэй становіцца на галіну, пачынае ўважліва, з радасцю і захапленнем, разглядаць маладых птушанят. Яны таксама заўважылі яго, разявілі свае коратка загнутыя ўніз дзюбкі, просяць корму.

— Мае вы арабейкі! — становіцца яму шкада птушанят.— Дурная мая галава — і не падумаў, што вы папросіце есці!

Каршачкі яшчэ добра не пакрыліся пер'ем, на іх кароткі шараваты пушок, які слаба раздзімае вецер. На зямлі гэтага ветру і не адчуваецца, а тут, на вышыні, ён ходзіць-гуляе, і птушанятам, мабыць, і холадна, і галадна.

— Ты як анямеў! — не церпіцца Дорашу.— Пакажы хутчэй, а то стары коршак прыляціць, тады не будзеш ведаць, у які бок уцякаць.

Задзірысты Дорашаў голас надае Валодзю смеласці, ён смяецца, бярэ ў рукі адно птушаня, паказвае і пытае:

— Як, вялікае?

— Вя-ялі-ікае, маладое, а ўжо з дарослага голуба,— кажа Дораш.— Праз месяц паляціць, пачне вывіжоўваць, каб дзе да квактухі з вывадкам падкрасціся.

Каршачок круціцца ў руках, пазірае ў неба: адтуль, думаецца Валодзю, вось-вось прыляціць з ежай для іх дзяцей бацька альбо маці. А мо каршачок ужо зараз прымерваецца позіркам да неба, хоча ўзляцець і кружыць, кружыць у бязмежным блакіце? Толькі малы ён яшчэ, крыло ў яго слабае... А калі яны зараз забяруць яго і знясуць у сяло — не бачыць яму яснага неба, не бачыць зямлі з вышыні палёў, не лятаць высока і далёка, не выпісваць прыгожыя кругі над палямі... Няхай што хоча, тое і кажа Дораш, а ў яго рука не падымецца спароць гэта гняздо. Ён не стане зжываць са свету птушанят. Хіба яны чым вінаватыя, што так прыдуманы свет, каб яны, коршакі, палявалі на зайцоў і куранят? Не пазводзяць жа яны, урэшце, усяго жывога. А па коршаках зайцы ў іхнім лесе ніколі не перавядуцца. І куранят таксама...

Злазіць з дуба лёгка, толькі трэба мацней трымацца за галіны і сучкі, каб не сарвацца. Нагамі ён упіраецца ў гладкі ствол, прытарможвае да таго часу, пакуль не адчуў, што ступіў на зямлю.

— Не стаў я, Федзя, забіраць коршакаў, не адважыўся на такое...

Не чакаў, а Дораш згадзіўся з ім, падтрымаў.

— Правільна зрабіў, няхай жывуць, усё жывое хоча жыць,— сказаў ён, канечне ж, не сваімі, а чутымі ад дарослых словамі.

У гэты момант над іхнімі галовамі прашумела, і яны паднялі вочы ўгару.

— Ну, браце, каб ты яшчэ на хвіліну затрымаўся на дубе, быць вялікаму бою, пралілася б кроў...— ціха вымаўляе Дораш.

Ім стала трохі страшнавата, яны леглі на зямлю, прыціснуліся адзін да аднаго, пазіраюць угору, і Валодзя шэпча:

— Вя-я-лі-ікі, а крыло, крыло якое — як у самалёта!

— Ну, ты ўжо, браце, перагнуў — з паўметра крыло, не болей...

Дома Валодзя пачаў дапытвацца ў маці, што яна ведае пра коршакаў. Але яна і слухаць яго не захацела:

— Прычапіўся, як смала, са сваімі коршакамі! Толькі б пра іх і балела мая галава! Мала яны ў нас курэй перавялі?!

Болей маці нічога не сказала, і ў глыбіні душы Валодзя пакрыўдзіўся: колькі жыве ў вёсцы, ды так мала ведае пра птушак. Пайшоў у калгасную бібліятэку, у якую даўно запісаўся і бярэ там чытаць «дарослыя» і дзіцячыя кнігі. Доўга поркаўся ў кніжных шафах, але знайшоў тоўсты том у светла-шэрых лубках, у якім апісваецца ўсё пра птушак...

Праз месяц Валодзя з Дорашам убачылі над полем коршакаў. Кружылі яны высока, павольна, размашыста.

— Мабыць, гэта тыя, нашы? — пытаецца Валодзя ў Дораша.— Глянь, як хутка выраслі, мы і падумаць не паспелі.

— Мо і нашы, а мо і не,— адказвае Дораш.— Але, відаць, маладыя, лятаць вучацца.

— І корм сабе шукаюць,— наўмысна перабівае ён Дораша.— Коршакі і мыш за маліну з'ядуць, таму і дзяжураць дзень пры дні над палямі, а вочы ў іх ого-го, мы і ў бінокль таго не ўбачым, што яны вунь з той вышыні.

— Коршак ды мыш стане есці?! — ухмыляецца Дораш.— Ці не казка гэта?

— Яшчэ як стане! — твар у Валодзі ад гарачыні і

хвалявання чырванее.— Багата ты ведаеш: коршакі болей за ўсё кормяцца грызунамі, і тым яны карысныя.

Ён разгортвае газету і паказвае тоўсты том у светла-шэрых лубках, знаходзіць патрэбную старонку і кажа:

— Бяры чытай, а то мелеш языком, а пра што — і сам не ведаеш.

— Дапяў ты мяне, Валодзька, здаюся,— затрымаўшы позірк на адгорнутай старонцы, здзіўлена і з радасцю вымаўляе Дораш.— Мы з табой як у ваду глядзелі, калі не сталі раскідваць коршакавага гнязда...

Хлопцы зноў задзіраюць галовы, захінаюць далонямі вочы ад сонца і бачаць: коршакі ўзняліся яшчэ вышэй, здаюцца зусім маленькімі чорнымі кропкамі.

# Змест

Капыловіч І.
К 20 Два дні ў лютым: Аповесць і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 301 с., іл.
У пер.: 1 р. 20 к.

У новую кнігу Івана Капыловіча ўвайшла аповесць «Бяроза на мяжы», у якой у вострa-канфліктнай форме расказваецца пра лёс вясковай жанчыны.
У апавяданнях аўтар знаёміць нас з людзьмі не простага лёсу, з іх марамі, каханнем, жыццёвымі расчараваннямі і радасцямі.

К $\frac{70303-142}{М 302(05)-81}$ 12—81

ББК 84 Бел 7
Бел 2

Иван Иванович
КАПЫЛОВИЧ
**Два дня в феврале**
*Повесть и рассказы*
Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Г. Б. Нужкова
Мастак М. А. Вецік
Мастацкі рэдактар А. І. Труханава
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар Т. В. Трубач

ІБ № 983
Здадзена ў набор 04.03.81. Падп. да друку 21.09.81. АТ 06821. Фармат 84×108[1]/[32]. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 15,96. Ум. фарб.-адб. 15,96. Ул.-выд. арк. 16,36. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1438. Цана 1 р. 20 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11.
Надрукавана са стэрэатыпаў МВПА імя Я. Коласа, 220005. Мінск, Чырвоная, 23, у друкарні «Пабеда», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11. **Зак. 3017**

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

НАБЫВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ
НОВЫЯ ТВОРЫ
БЕЛАРУСКІХ ПРАЗАІКАЎ

*А. Асіпенка*
НЕПРЫКАЯНЫ МАЛАДЗІК
*Раман*

*Л. Дайнека*
ЗАПОМНІМ СЯБЕ МАЛАДЫМІ
*Раман*

*В. Іпатава*
ДВАЦЦАЦЬ ХВІЛІН З НЕМЕЗІДАЙ
*Аповесць, апавяданні*

*А. Кулакоўскі*
ВАСІЛЬКІ
*Раман*

*Зборнік*
СУЧАСНІК — 81
*Нарысы*